**Леанід Маракоў**

# Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі 1794—1991

Энцыклапедычны даведнік
у трох тамах

Том другі

**Лавіцкі—Ятаўт**

Мінск
2003

УДК 947 «1794—1991» (03)
ББК 63.3 (4 Беи) 2я
М 25

Рэцэнзенты:
*Арсень Ліс, доктар філалагічных навук,*
*Адам Мальдзіс, доктар філалагічных навук,*
*Уладзімір Міхнюк, доктар гістарычных навук,*
*Лідзія Савік, кандыдат філалагічных навук,*
*Янка Саламевіч, кандыдат філалагічных навук,*
*Віталь Скалабан, кандыдат гістарычных навук.*

Аўтар выказвае падзяку супрацоўнікам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя», Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Беларускага Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Літаратурнага музея Янкі Купалы, дырэктару выдавецтва ATHENAEUM Алегу Дзярновічу, «Архіву Найноўшай Гісторыі», іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый.

Гэтае выданне выходзіць у свет дзякуючы падтрымцы «Фонда кніжных праектаў для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы», Амстэрдам / Fund for Central and East European Book Project, Amsterdam.

**Маракоў Леанід**

**М 25** Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794—1991: Энцыклапедычны даведнік: У 3 т. Т. 2. Лавіцкі—Ятаўт. — Мінск, 2003. — 380 с.
ISBN 985-6374-05-7

У трохтомным энцыклапедычным даведніку, які склаў Леанід Маракоў, прыводзяцца біяграфіі або кароткія звесткі пра літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, якіх рэпрэсавалі ўлады царскай Расіі і савецкай дзяржавы, даваенны польскі, фашысцкі і іншыя рэжымы. Пра шмат каго з пакутнікаў расказваецца ўпершыню. Даведнік разлічаны як на спецыялістаў-гуманітарыяў, так і на выкладчыкаў, студэнтаў, краязнаўцаў, самыя шырокія колы чытачоў.

# Спіс скарачэнняў

## Крыніцы і літаратура

*АЗБ — Асветнікі зямлі Беларускай: X — пачатак XX ст.: Энцыклапедычны даведнік*. Мн.: БелЭн, 2001.

*Антысавецкія рухі — Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944—1956. Даведнік* / Пад рэдакцыяй Алега Дзярновіча. Мн.: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999.

*Археалогія і нумізматыка Беларусі — Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя*. Мн.: БелЭн, 1993.

*Беларуская мова — Беларуская мова: Энцыклапедыя*. Мн.: БелЭн, 1994.

*БП — Беларускія пісьменнікі*: *Біябібліяграфічны слоўнік*. У 6 т. Мн.: БелЭн, 1992—1995.

*БЭ — Беларуская энцыклапедыя*. У 18 т. Мн.: БелЭн, 1996—2001.

*Возвращенные имена — Возвращенные имена*: *Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий* / Сост. и авт. предисл. Н.В.Токарев. Мн.: Навука і тэхніка, 1992.

*Вынішчэнне* — М а р а к о ў Леанід. *Вынішчэнне*. Мн.: ЛМФ «Нёман», 2000.

*Гарбінскі БРД* — Г а р б і н с к і Юрась. *Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя*: *Жыццярысы, мартыралогія, успаміны*. Мінск—Мюнхен, 1999.

*Дэмакратычная апазыцыя — Дэмакратычная апазыцыя Беларусі: 1956—1991. Пэрсанажы і кантэкст. Даведнік* / Пад рэдакцыяй Алега Дзярновіча. Мн.: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999.

*ЛіМ* — газета «*Літаратура і мастацтва*».

*МАБ — Мысліцелі і асветнікі Беларусі*: *Энцыклапедычны даведнік*. Мн.: БелЭн, 1995.

*Мальдзіс, На скрыжаванні*… — Мальдзіс А. *На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII—XVIII ст.).* Мн.: Навука і тэхніка, 1980.

*НАРБ, ІКР* — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Індывідуальная картатэка рэпрэсаваных.

*Нацдэмы* — Мяснікоў А. *Нацдэмы: Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага і Язэпа Лёсіка*. Мн.: Беларусь, 1993.

*ПГКБ — Помнікі гісторыі і культуры Беларусі*.

*Саламевіч. Слоўнік псеўданімаў* — Янка Саламевіч. *Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI—XX стст.).* Мн.: Мастацкая літаратура, 1983.

*Сачанка Б. Сняцца сны...* — Сачанка Б. *Сняцца сны аб Беларусі... Літаратурна-крытычныя артыкулы, інтэрв’ю*. Мн.: Мастацкая літаратура, 1990.

*Улащик*. *Введение* — Улащик Н.Н. *Введение в изучение белорусско-литовского летописания.* М.: Наука, 1985.

*Улащик*. *Очерки* — Улащик Н. Н. *Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода*. М.: Наука, 1973.

*ЭГБ — Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.* У 6 т. Мн.: БелЭн, 1993—2001.

*ЭЛіМБел — Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі*. У 5 тамах. Мн.: БелСЭ, 1984—1987.

*BS — Byelorussian statehood: Reader and bibliography* / Edited by Vitaut Kipel and Zora Kipel. New York: Byelorussian Institute of Arts and Sciences, 1988.

*EK — Encyklopedia katolicka*. T. 1—2. Lublin, 1985.

Nowy Korbut — Bibliografia literatury polskiej «Nowy Korbut».

*PSB — Polski słownik biograficzny*. Kraków — Warszawa: Wydawnictwo PAN, 1935—2001.

*SHP — Słownik historyków polskich* / Koncepcja i opracowanie redakcyjne Maria Prosińska-Jackl. Warszawa: Wiedza powszechna, 1994.

## Бібліяграфічныя, палітычныя і геаграфічныя скарачэнні

абл. — абласны (-ая)

АДПУ — Аб’яднанае галоўнае палітычнае ўпраўленне СССР

арт. — артыкул

б. — былы (-ая)

БАН, БелАН — Беларуская Акадэмія Навук (таксама АН БССР, НАН Беларусі), да 1929 Інбелкульт

БАПЦ — Беларуская Аўтакефальная праваслаўная царква

б. г. — без году (выдання)

БДТ — Беларускі дзяржаўны тэатр

БДУ — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт

бел. — беларускі

БелАПП — Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў

БНР — Беларуская Народная Рэспубліка

БПС-Р — Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў

БРГ — Беларуская рэвалюцыйная грамада

БСГ — Беларуская сацыялістычная грамада

БСГА — Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія

БСРГ — Беларуская сялянска-работніцкая грамада

БССР — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка

БХД — Беларуская хрысціянская дэмакратыя

БЦР — Беларуская цэнтральная рада

в. — вёска

в. а. — выконваючы абавязкі

ваяв. — ваяводства

вер. — верасень

ВКЛ — Вялікае Княства Літоўскае

ВКП(б) — Усесаюзная Камуністычная партыя (бальшавікоў)

ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова

вобл. — вобласць

вол. — воласць

ВРК — Ваенна-рэвалюцыйны камітэт

ВСНГ — Вышэйшы савет народнай гаспадаркі

ВЧК (ЧК ) — Усерасійская Надзвычайная Камісія пры Савеце Народных Камісараў па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам

выбр. тв. — выбраныя творы

вып. — выпуск

г. — горад

газ. — газета

губ. — губерня

ГУЛАГ — Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных лагераў

г. п. — гарадскі пасёлак

жн. — жнівень

зах. — заходні

зб. тв. — збор твораў

Інбелкульт — Інстытут беларускай культуры (з 1929 БелАН)

К. — Кіеў

кастр. — кастрычнік

КДБ — Камітэт дзяржаўнай бяспекі

КК — Крымінальны Кодэкс

кн. — кніга

КП(б)Б — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі

КП(б)ЛіБ — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Літвы і Беларусі

КП(б)У — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Украіны

КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі

КПП — Камуністычная партыя Польшчы

КПСС — Камуністычная партыя Савецкага Саюза

крас. — красавік

КСМЗБ — Камуністычны Саюз Моладзі Заходняй Беларусі

ліп. — ліпень

ліст. — лістапад

літ. — літаратура

ЛКП -— Літоўская Камуністычная партыя

ЛКСМБ -— Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі

лют. — люты

М. — Масква

МБПТ — Мінскі Белпедтэхнікум

МВПІ — Мінскі Вышэйшы педінстытут

МДБ — Міністэрства дзяржаўнай бяспекі

МДУ — Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт

МЗС — Міністэрства замежных спраў

Мн. — Мінск, Менск

МУС — Міністэрства ўнутраных спраў

мяст. — мястэчка

нам. — намеснік

НАНБ — Нацыянальная акадэмія навук Беларусі

нар. — нарадзіўся (нарадзілася)

НАРБ — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

Наркамасветы — Народны камісарыят асветы

НГАБ — Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі

НДІ — Навукова-даследчы інстытут

НКВД (НКУС) — Народны камісарыят унутраных спраў

НКДБ — Народны камісарыят дзяржаўнай бяспекі

пав. — павет

паліт. — палітычны

ПАРП — Польская Аб’яднаная Рабочая Партыя

паўдн. — паўднёвы

паўн. — паўночны

Пг. — Петраград

ПНР — Польская Народная Рэспубліка

ППЛ — Папраўча-працоўны лагер

РВС — Рэвалюцыйны ваенны савет

РКП(б) — Расійская Камуністычная Партыя (бальшавікоў)

р-н — раён

РСДРП — Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя

с. — сяло

сак. — сакавік

сапр. — сапраўднае

с.-г. — сельскагаспадарчы (-ая)

СДКПіЛ — Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы

снеж. — снежань

СНК — Савет народных камісараў

СП — Саюз пісьменнікаў

СПб. — Санкт-Пецярбург

ССРБ — гл. БССР

студз. — студзень

ст. — станцыя

СШ — сярэдняя школа

т. — том

ТАСС — Тэлеграфнае агенцтва Савецкага Саюза

ТБШ — Таварыства Беларускай школы

тв. — творы

тыс. — тысяча

УНР — Украінская Народная Рэспубліка

ун-т — універсітэт

усх. — усходні

ф-т — факультэт

ЦК — Цэнтральны Камітэт

час. — часопіс

чэрв. — чэрвень

z. — zeszyt (сшытак)

**ЛАВІЦКІ Мацвей Восіпавіч** [1816, в. Вашкі каля мяст. Гайнаўка Бельскага пав., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 1900, маёнтак Нурчык Сямятыцкага пав., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча], філосаф, асветнік, публіцыст. Вучыўся ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Падчас вучобы напісаў працы «Нарыс духу Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі», «Погляд на хрысціянскі свет», «Варыяцыі», дзе ўздымаў праблемы дыялектыкі, ідэі гуманізму і самакаштоўнасці чалавека. Працаваў лекарам у Коўне і Беластоку. Удзельнічаў у тайных таварыствах. Арыштаваны ў 1840 разам з іншымі членамі студэнцкага «Дэмакратычнага таварыства». У 1841 сасланы ў Сібір. Амніставаны ў 1858. Супрацоўнічаў у час. «Gwiazda», «Pamiętnik naukowo-literacki». Зрабіў значны ўклад у развіццё навукі пра грамадства і мараль. Зыходны пункт яго філасофскай сістэмы — прынцыпы «натуральнага права» і «натуральнай роўнасці». Не прымаў рэвалюцыі кшталту якабінскай дыктатуры. Заклікаў вярнуцца да ідэалаў «чыстага» хрысціянства.

Літ.: *Мохнач Н.Н.* Идейная борьба в Белоруссии в 30—40-е годы XIX в. Мн., 1971; *Яе ж.* От просвещения к революционному демократизму: (Общественно-политическая и философская мысль Белоруссии конца 10-х — начала 50-х годов XIX в.). Мн., 1976; *Яе ж.* Общественно-политическая и этическая мысль Белоруссии начала XIX в. Мн., 1985; *Очерк истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.).* Мн., 1973; *Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период).* Мн., 1977; *АЗБ.*

**ЛАГОДЗІЧ Мікалай** [псеўданім: Пінчук Палескі; нар. 6.12.1928, в. Радаўня Палескага ваяв., цяпер Іванаўскі р-н Брэсцкай вобл.], праваабаронца, паліт. вязень, публіцыст. У 1956 пасяліўся ў Пінску. Працаваў на Пінскім фанерным заводзе, адначасова завочна вучыўся ў тэхнікуме. Тады Л. яшчэ верыў у магчымасць зменаў у СССР праз адкрытую дыскусію, праз публікацыі ў савецкай прэсе. «Практычная дзейнасць камуністычнага рэжыму, інфармацыйная хлусня партыйнай прэсы, уся дыктатарская атмасфера, парушэнні Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека падштурхнулі мяне нагадаць рэжыму пра гэта сваімі артыкуламі. Я пачаў пісаць». На пачатку 1960-х г. Л. накіроўвае свае артыкулы ў маскоўскія газ. «Известия» і «Правда». Іх там не друкавалі. Тады Л. выслаў яшчэ адзін рукапісны тэкст у мінскі карпункт газ. «Правда». Гэты артыкул быў падпісаны псеўданімам «Пінчук Палескі». КДБ пачынае шукаць аўтара. 29.1.1963 па дарозе з працы Л. быў арыштаваны і дастаўлены ў Брэсцкі аддзел КДБ. 11.4.1963 Брэсцкім абл. судом Л. быў асуджаны паводле арт. 67 КК БССР («антысавецкая агітацыя і прапаганда») на тры гады пазбаўлення волі. Тэрмін Л. адбываў у Мардоўскіх лагерах. Пасля вызвалення сутыкнуўся з дыскрымінацыяй, пастаянна меў праблемы з працаўладкаваннем. Яго прыватная перапіска доўгі час была пад наглядам. Рэабілітаваны ў 1992. Жыве ў Пінску. Бярэ актыў-

ны ўдзел у дэмакратычным руху — быў старшынёй Беларускага дэмакратычнага аб'яднання «Ветэран».

Тв.: Мае ўспаміны // *Маю права!* (Бюлетэнь Пінскага рэгіянальнага аддзялення Беларускага Хельсінкскага камітэта). 1998, № 3.

Літ.: Сьнітко Т. Мікалай Лагодзіч // *Дэмакратычная апазыцыя*.

**ЛАДА-ЗАБЛОЦКІ Тадэвуш Гіляравіч** [Заблоцкі-Лада; 27.8.1811, в. Лугінава (Лугінавічы) Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Сенненскі р-н Віцебскай вобл. — жн. 1847, Каўказ], паэт, перакладчык. Пісаў на польскай мове. Скончыў Віцебскую гімназію. У 1831 паступіў у Маскоўскі ун-т; удзельнічаў у тайным студэнцкім згуртаванні. За вершы антыцарскага зместу ў 1833 выключаны з ун-та, высланы на Радзіму; зняволены ў віцебскай турме. З 1837 у выгнанні — спачатку ў Таганрогу, потым (у 1838) адпраўлены салдатам на Каўказ. Даслужыўся да падпаручніка; быў кіраўніком саляных капальняў. Зблізіўся з грузінскімі, азербайджанскімі і расійскімі паэтамі. Пры падтрымцы Ю.Крашэўскага і Р.Падбярэзкага ў 1845 выдаў зборнік «Паэзія». Перакладаў на польскую мову творы зах.-еўрапейскіх аўтараў; пераклаў на французскую мову ўкраінскія народ-

ныя песні («Украінскія песні», Парыж, 1845); на рускую — «Гісторыю Азербайджана» А.Бакіханава. Сваім родным мясцінам прысвяціў паэтычныя творы: паэму «Ваколіцы Віцебска», элегіі «Да Дзвіны», «Даўжанскае возера», «Вілія» і інш. На матэрыялах «Хронікі» М.Стрыйкоўскага напісаў баладу «Ляшка». Маюцца звесткі, што пісаў таксама па-беларуску. На бел. мову творы Л.-З. перакладалі П.Бітэль, У.Мархель, К.Цвірка.

Літ.: *Пачынальнікі*. Мн., 1977; *Хаўстовіч М*. Душа вярталася на бераг Лучосы // *Роднае слова*. 1994, № 10; ЭГБ, т. 4; *Kubacki W.* Malwy na Kaukazis. Warszawa, 1964.

**ЛАЗІНСКІ Сігізмунд** [5.6.1870, в. Барацін каля Навагрудка — 26.3.1932, Пінск], рыма-каталіцкі святар, біскуп Мінскі і Пінскі, грамадскі і культурны дзеяч. Паходзіў з польскай сям'і. Вучыўся ў гімназіях Варшавы і Пецярбурга. З 1889 — клерык Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі (Пецярбург), потым — студэнт Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу. Пасвечаны ў святары 23.6.1895. Працаваў выкладчыкам Святога Пісьма і гамілетыкі ў духоўнай семінарыі ў Пецярбургу. У 1898 з-за канфлікту з расійскімі ўладамі звольнены з работы і ў якасці пакарання адпраўлены ў Аглонскі кляштар у Латвіі. У чэрв. 1900 прызначаны вікарыем у Сма-

ленск. На працягу 1901—02 выконваў святарскія абавязкі ў Туле і Рызе. Потым быў пробашчам мінскай Кальварыі і Мінскага кафедральнага касцёла. З 1908 прафесар Святога Пісання ў Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу; адначасова выкладаў у мясцовай духоўнай каталіцкай семінарыі. У гады 1-й сусветнай вайны служыў капеланам у лагерах для нямецкіх і аўстра-венгерскіх ваеннапалонных. 12.11.1917 прызначаны біскупам адноўленай Мінскай дыяцэзіі, заняў кафедру 14.8.1918. Браў удзел у беларусізацыі нацыянальна-рэлігійнага жыцця беларусаў-католікаў. Адзін з арганізатараў бел. каталіцкай семінарыі ў Мінску (1918). Падтрымліваў дзейнасць Хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці. Арыштаваны бальшавіцкімі ўладамі; утрымліваўся ў Смаленску і Маскве. Вызвалены ў выніку абмену на ваеннапалонных чырвонаармейцаў. Вярнуўся ў Мінск. Перад наступленнем Чырвонай Арміі ўлетку 1920 выехаў у Навагрудак. Пазней пераехаў у Пінск. 2.12.1925 прызначаны біскупам Пінскай дыяцэзіі. Супрацоўнічаў з рэлігійнымі час. «Miesięcznik Diecezji Pińskiej» (1925—26), «Piński Przegląd Diecezjalny» (1927—32). Пахаваны ў крыпце Пінскага кафедральнага касцёла.

Тв.: Chrześcjańska miłość Ojczyzny i praca narodów. Gniezno, 1918; Rozważania majowe dla duchowieństwa. Pińsk, 1927; Pedagogika w pierwszych rozdziałach Pisma Świętego. Pińsk, 1929.

Літ.: *PSB* XVIII; *Гарбінскі БРД*; *Stankiewicz A*. Rodnaja mowa u swiatyniach. Wilnia, 1929; *Stankievič A*. Biełaruski chryścijanski ruch. Vilnia, 1939; *Рэлігія і царква на Беларусі*. Мн., 2001.

**ЛАПІЦКІ Гектар Янавіч** [1830, в. Бачэйкава Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Бешанковіцкі р-н Віцебскай вобл. — 25.7.1904, мяст. Гасткова Ломжынскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча], удзельнік паўстання 1863 на Міншчыне. Сын арандатара, брат Ю.Лапіцкага. Удзельнічаў у віленскай нарадзе пад кіраўніцтвам З.Серакоўскага. Спачатку Л. быў рэферэнтам грамадзянскага начальніка паўстання Мінскага пав. А.Ваньковіча, пазней пераняў яго функцыі. Пасля ад'езду за граніцу К.Пялікшы стаў грамадзянскім начальнікам Мінскай губ. і выконваў гэтыя абавязкі да арышту (ліст. 1863). У час допытаў Л. выдаў некаторых удзельнікаў, але тым не меней у крас. 1864 быў сасланы ў Томскую губ., а ягоны маёнтак Пціч на Міншчыне канфіскавалі. Вярнуўшыся, жыў у Барысаўскім пав. Патрыятычна настроенае грамадства яго байкатавала. Пад канец жыцця пераехаў у Польшчу.

Літ.: *PSB* XVIII.

**ЛАПІЦКІ Юльян Янавіч** [1829, в. Бачэйкава Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Бешан-

ковіцкі р-н Віцебскай вобл. — 18.9.1894, маёнтак Гідлі Навагрудскага пав., Польшча], грамадскі дзеяч. Сын арандатара, брат Г.Лапіцкага. З сярэбраным медалём скончыў Мінскую гімназію. Затым вучыўся на прыродазнаўчым ф-це Пецярбургскага ун-та. Вярнуўшыся на Міншчыну, гаспадарыў у родавым маёнтку Буцавічы, дзе адным з першых у Беларусі ўвёў севазварот. Сканструяваў плуг, які быў адзначаны на сельскагаспадарчай выстаўцы ў Варшаве. Працаваў над вырашэннем сялянскага пытання, адмены прыгоннага права. У сувязі з гэтым у 1861 быў выбраны міравым пасрэднікам 2 акругі Мінскага пав. Пра непасрэдны ўдзел Л. ў паўстанні 1863 звестак няма, але тым не меней яго саслалі «ў глыб Расіі» на пасяленне. Паколькі вяртацца на Радзіму Л. было забаронена, з 1867 ён пасяліўся ў Варшаве, заняўся грамадскай і даследчыцкай дзейнасцю. Апублікаваў у варшаўскай перыёдыцы шмат артыкулаў па пытаннях рацыянальнага гаспадарання на зямлі.

Літ.: *PSB* XVIII.

**ЛАПО Дзмітрый Еўдакімавіч** [псеўданімы: Кама; Кантигров; Некорреспондент; Павел Очков; крыптанім: Л-о; кастр. 1861, мяст. Беліца Гомельскага пав. Магілёўскай губ., цяпер у межах Гомеля — лют. 1936, Краснаярск], пісьменнік, удзельнік народ-

ніцкага руху, грамадскі дзеяч. Пісаў на рускай мове. Вучыўся ў Гомельскай прагімназіі, дзе ўдзельнічаў у тайных гуртках самаразвіцця. З 1879 у Кіеўскай гімназіі, пасля сканчэння якой паступіў на юрыдычны ф-т Кіеўскага ун-та. Быў членам кіеўскай групы нарадавольцаў, займаўся справамі падпольнай друкарні. За агітацыю сярод рабочых і ў вёсках арыштаваны ў 1885 у Гомелі. Сасланы ў Табольскую, потым у Енісейскую губ. У ссылцы пачаў пісаць. У 1888 у газ. «Минский листок» і ў «Северо-Западном календаре на 1888 год» былі апублікаваны яго апавяданні. У 1890 пасля сканчэння тэрміна ссылкі вярнуўся ў Гомель; заняўся аднаўленнем мясцовых нарадавольніцкіх арганізацый. У 1892 пасяліўся ў Чыстапалі Казанскай губ.; займаўся прыватнай адвакатурай. Выдаў кнігу па гісторыі Чыстапаля. У 1896 пераехаў у Краснаярск. У 1898 здаў экзамены на званне юрыста ў Казанскім ун-це. З 1900 працаваў на юрыдычных пасадах у Краснаярску і Мінусінску. З 1898 супрацоўнічаў з сібірскімі газетамі. Належаў да партыі кадэтаў. Адстойваў правы карэннага насельніцтва Сібіры; быў членам Сярэдне-Сібірскага аддзялення Рускага геаграфічнага таварыства.

Тв.: Белорусские рассказы. Казань, 1895; Город Чистополь накануне реформы 17 июня 1870 г. Казань, 1897; Общественное управление минусинских инородцев. Томск, 1904; Преступление и наказание по степовому праву сибирских кочевых инородцев. Красноярск, 1905.

Літ.: *Кузняева С.* Судьба автора «Белорусских рассказов» // *Неман*. 1986, № 12; *БП*, т. 4.

**ЛАСКОВІЧ Васіль Пятровіч** [нар. 5(18).2.1914, в. Франопаль Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкі р-н], удзельнік зах.-бел. вызваленчага руху, гісторык, публіцыст. Быў адным з арганізатараў выступлення сялян в. Навасёлкі Брэсцкага пав. ў 1933. Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1934, асуджаны на 10 гадоў зняволення. Вызвалены ў вер. 1939 пасля прыходу Чырвонай Арміі. Быў дэпутатам Народнага сходу Зах. Беларусі ў 1939 у Беластоку. З чэрв. 1941 на фронце, удзельнічаў у абароне Смаленска. Арыштаваны ў вер. 1941; сасланы ў Омск. Вызвалены ў крас. 1942. У вер. 1942 — ліп. 1944 нам. начальніка асобага аддзела партызанскага атрада імя Калініна. У 1945—70 на дзяржаўнай і партыйнай рабоце і ў органах юстыцыі ў Брэсце. У 1949 скончыў Усесаюзны юрыдычны завочны інстытут. У 1970—89 навуковы супрацоўнік мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой». Даследуе гісторыю рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, гісторыю партызанскага руху ў гады 2-й сусветнай вайны. Адзін з аўтараў зборнікаў «У суровыя гады падполля» (1958), «У працы і ў баі» (1970), «Годы испытаний и мужества» (1973).

Тв.: Тайными тропами. Мн., 1974.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**ЛАСТОЎСКІ Вацлаў Юстынавіч** [псеўданімы і крыптанімы: Власт; Włast; Юры Верашчака;

Ласт; В.Ласт.; Уласт; Арцём Музыка; Пагашчанін; Сваяк; Ю.Сулімірскі; Veritatis; Miles; Peregrinus; В.В...; В-...; В.Л.; В.Л-скі; В-т; Л.; Ю.В.; 27.10(8.11).1883, засценак Калеснікаў Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. — 23.1.1938, Саратаў, НКВД], пісьменнік, грамадскі і паліт. дзеяч, гісторык, філолаг, літаратуразнавец. У 1902 уступіў у Польскую сацыялістычную партыю ў Літве. У 1904—05 слухаў лекцыі ў Пецярбургскім ун-це. З 1906 у Рызе, дзе далучыўся да мясцовага бел. руху. У 1906—08 член БСГ. З сак. 1909 у Вільні. У 1909—14 сакратар газ. «Наша ніва». Рэдагаваў газ. «Гоман» (1916—17). У час 1-й сусветнай вайны заставаўся ў Вільні; кіраваў «Беларускай кнігарняй» і Беларускім выдавецкім таварыствам. У сак. 1918 кааптаваны ў Раду БНР. У ліст. 1918 увайшоў у склад Літоўскай Тарыбы. У снеж. 1919 узначаліў Кабінет міністраў Народнай рады БНР. Арыштаваны польскімі ўладамі 17.12.1919; вызвалены ў лют. 1920; пераехаў у Рыгу, потым у Коўна. Удзельнічаў у арганізацыі антыпольскага партызанскага руху. 20.4.1923 падаў у адстаўку з пасады прэм'ер-міністра БНР. У 1923—27 выдаваў час. «Крывіч». Пасля паліт. перавароту ў Літве (17.12.1926) у крас. 1927 пераехаў у БССР. Працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, загадчыкам кафедры этнаграфіі пры Інбелкульце. З 1928 акадэмік БелАН. Быў неадменным сакратаром Інбелкульта. Вызвалены ад гэтай пасады 20.11.1929. 21.7.1930 арыштаваны ДПУ БССР па справе «Саюза вызвалення Бела-

русі». 6.12.1930 пазбаўлены звання акадэміка. Пастановай Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 высланы на 5 гадоў у Саратаў. Паўторна арыштаваны 20.8.1937. 23.1.1938 прыгавораны да расстрэлу. Па першым прысудзе рэабілітаваны 10.6.1988; па другім — 16.9.1958. Адноўлены ў званні акадэміка АНБ у 1990.

Тв.: Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910 (факсім. выд.: Мн., 1992); Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: (Спроба паясніцельнай кнігапісі ад канца X да пачатку XIX стагоддзя). Коўна, 1926; Творы. Мюнхен, 1956; Выбр. тв.. Мн., 1997.

Літ.: *Сидоревич А.* Экскурс в историю, необходимый для восстановления правды об одном человеке — писателе и ученом // *Неман*. 1988, № 9; *Міхнюк У.* Справа Вацлава Ластоўскага // *Маладосць*. 1993, № 8—9; *Ількевіч М.* За чатыры месяцы да расстрэлу: Аб адной архіўнай знаходцы // *Пагоня*. 1994. 27 жн. — 2 вер.; *Кісялёў Г.* Власт: Першае набліжэнне // *Кісялёў Г.* Радаводнае дрэва. Мн., 1994; *Янушкевіч Я.* Неадменны сакратар Адраджэння: Вацлаў Ластоўскі. Мн., 1995; *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 4.

**ЛАЎСКІ Вячаслаў Якубавіч** [15(27).11.1900, в. Слачва Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 25.9.1951, Інта, Комі АССР, ГУЛАГ], грамадскі дзеяч, педагог, публіцыст. У 1916 быў у бежанстве на Бабруйшчыне. З вясны 1919 браў удзел у арганізацыі на Ігуменшчыне бел. школ. У 1920—22 вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі, потым у Пражскім політэхнічным інстытуце, які скончыў у 1929. Пад-

час вучобы ў Празе быў адным з кіраўнікоў студэнцкай філіі Беларускага сялянскага саюза і секцыі БСРГ, сакратаром скаўцкай арганізацыі «Сокал». Адзін з заснавальнікаў у жн. 1924 Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый (АБСА). Публікаваў артыкулы па праблемах бел. студэнцкага руху. У час. «Новы шлях», «Студэнцкая думка» надрукаваў шэраг апавяданняў. Пасля вяртання ў Зах. Беларусь у 1930—34 выкладаў у Навагрудскай беларускай гімназіі. З 1939 начальнік Лідскага дарожнага аддзела. Падчас 2-й сусветнай вайны супрацоўнічаў з нямецкімі ўладамі. У 1942—44 быў членам Лідскага Беларускага нацыянальнага камітэта. Арыштаваны органамі НКДБ у 1945. Памёр у зняволенні.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**ЛЕАНІДАЎ Васіль** [сапр.: Багамольцаў; 1912?, — 1937 ?, Мінск ?, НКВД], паэт. Вучыўся ў МВПІ. Друкавацца пачаў у 1932; яго вершы з'яўляліся на старонках час. «Полымя рэвалюцыі», «Беларусь калгасная», «Чырвоная Беларусь», газ. «Звязда», «Літаратура і мастацтва», у альманахах «Аднагодкі», «Заклік», «Ударнікі». Арыштаваны ў канцы 1937. Абставіны смерці невядомыя.

Тв.: У гарах Гвадарамы: [Верш] // *Звязда*. 1937, 6 кастр.; Кніга, якая выкрывае твар фашызма // *ЛіМ*. 1937, 1 мая.

**ЛЕБЯДА Тодар** [сапр.: Шырокаў або Шыракоў Пётр Фёдаравіч; іншы псеўданім: Клім Каліна; 6.1.1914, Віцебск — 1970, Разанская вобл.], драматург, паэт, празаік. Скончыў Віцебскую сямігадовую школу і чыгуначнае рамеснае вучылішча. У 1933 паступіў у МВПІ. Пісаў нарысы і вершы, якія змяшчаў у газ. «Віцебскі рабочы», «Савецкая Беларусь», «Піянер Беларусі». Арыштаваны 31.10.1936 разам з А.Дударом. Асуджаны на 5 гадоў зняволення; накіраваны ва Ухтпечлаг. У 1940 па хадайніцтве жонкі прывезены ў Мінск для перагляду справы. З Мінска адпраўлены ў Чэрвень. Тут Л. застала вайна. У час акупацыі жыў з сям'ёй у Віцебску; у 1943—44 рэдактар газ. «Беларускае слова». У гэтыя гады і напісаў асноўныя творы, у тым ліку п'есу «Загубленае жыццё» — першы антысавецкі твор у бел. драматургіі (пастаўлена ў 1943 В.Селях-Качанскім). У 1944 апублікаваў паэтычны зборнік «Песьні выгнаньня». Выехаў на Захад у 1944. У канцы 1945 вярнуўся на Радзіму. У маі 1947 паўторна арыштаваны. Асуджаны ваенным трыбуналам войск МУС па Мінскай вобл. на 25 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў ў сібірскіх канцлагерах. У Беларусь вярнуўся ў 1960. Жыў у Слоніме, працаваў рэзчыкам паперы на кардоннай фабрыцы «Альбярцін». Напісаў п'есу ў трох актах «У нас, на Гродзеншчыне». У студз. 1962 пераехаў у Чэрвень, працаваў у раённай газеце. У канцы 1962 выехаў з Беларусі. Хварэў на

сэрца, перанёс два інфаркты. Пахаваны ў пасёлку Воршава Пуцяцінскага р-на Разанскай вобл. Рэабілітаваны 12.7.1989.

Тв.: Песьні выгнаньня. Мн., 1944 (факсім. выд.: Мн., 1991); Загубленае жыццё: Драма ў 3 дзеях. Монтрэаль, 1952; Загубленае жыццё: Драма ў 3 дзеях // *Тэатральная Беларусь*. 1995, № 2.

Літ.: *Адамовіч І.* «Мне лёсам вызначаны гэтакі прымус…» // *Голас Радзімы*. 1994, 24 лют.; *Чыгрын С.* Трагічны лёс Тодара Лебяды // *Тэатральная Беларусь*. 1995, № 2; *Маракоў Л.* «Успомніш Беларусь, і кроў у жылах стыне…» // *ЛіМ*. 1999, 14 мая.

**ЛЕВІН Саламон Вульфавіч** [псеўданім: Стручок; жн. 1912, пас. Ратамка Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 29.10.1937, Мінск, НКВД], крытык. Паводле некаторых звестак вучобу ў МВПІ (1931—34) сумяшчаў з работай на кніжнай базе, дзе нейкі час працаваў разам з П.Пруднікавым, якога ён туды і ўладкаваў. Блізкі сябар літаратурнага крытыка П.Хатулёва. На момант арышту (13.11.1936) выкладаў літаратуру ў СШ. 28.10.1937 асуджаны на расстрэл. Рэабілітаваны 29.11.1989.

Кр.: *НАРБ, ІКР*.

Літ.: *Маракоў Л.* Вынішчэнне, або Пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў // *ЛіМ*. 1999, 10 снеж.

**ЛЕНСКІ Юльян** [Leński; сапр.: Ляшчынскі; 8.1.1889, Плоцк, Польшча — 20.8.1939, НКВД], паліт. дзеяч, публіцыст. Удзельнік сацыял-дэмакратычнага руху, з 1905 член СДКПіЛ. У 1909—12 вывучаў філасофію ў Ягелонскім ун-це (Кракаў). Зняволены ў 1914—15. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі. Камісар па польскіх справах у Наркамнацы РСФСР. Са снеж. 1918 у Мінску, адзін з арганізатараў і рэдактараў газ. «Młot». У 1919 народны камісар асветы Літоўска-Беларускай ССР. У 1920 член Польскага бюро пры ЦК РКП(б). Удзельнічаў як эксперт у савецка-польскіх перамовах у Рызе (1920). З 1925 член ЦК і Палітбюро ЦК КПП. У 1929—37 генеральны сакратар КПП. Арыштаваны НКВД у 1937; расстраляны. Рэабілітаваны ў 1955. Пасмяротна выдадзены зборнік яго публіцыстыкі.

Тв.: O front ludowy w Polsce 1934—1937. Warszawa, 1956.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**ЛЕНЦНЕР Навум Міхайлавіч** [1902 — 1936], рэдактар, журналіст. У 1926 скончыў Інстытут чырвонай прафесуры. Быў асабістым сакратаром Л.Троцкага. Адзін з рэдактараў і аўтар каментарыяў да 3-га тома Поўнага збору твораў Л.Троцкага. З 1932 у Беларусі. Сакратар Сенненскага райкама КП(б)Б. Сваёй гаспадарчай дзейнасці прысвяціў брашуру «Из отстающих в передовые». Быў пры-

значаны рэдактарам газ. «Рабочий» і «Звязда». Спрабуючы пазбегнуць рэпрэсій, з дапамогай М.Гікалы накіраваны ў Днепрапятроўскую вобл. Арыштаваны ў 1936, расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956.

Літ.: *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000.

**ЛЕПЯШЫНСКІ Панцеляймон Мікалаевіч** [29.2(12.3).1868, мяст. Студзянец Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 30.9.1944], грамадскі і паліт. дзеяч, публіцыст, літаратар, педагог, гісторык. У 1886 скончыў Магілёўскую гімназію і паступіў на фізіка-матэматычны ф-т Пецярбургскага ун-та. Ва ун-це ўзначальваў бел. зямляцтва; стаў членам народавольскага гуртка. У 1890 за ўдзел у рэвалюцыйным руху выключаны з ун-та, высланы з Пецярбурга ў Пінск, дзе жыў пад наглядам паліцыі. У 1891 экстэрнам здаў экзамены ў Кіеўскім ун-це і атрымаў дыплом настаўніка. З 1894 жыў у Пецярбургу, кіраваў гуртком марксісцкай адукацыі рабочых. Арыштаваны ў 1895; знаходзіўся ў зняволенні 14 месяцаў, потым на 3 гады сасланы ў Енісейскую губ. Публікаваўся ў газ. «Сибирская жизнь», «Енисей». З 1900 у Пскове, агент газ. «Искра». Арыштаваны ў ліст. 1902; пасля 8 месяцаў зняволення высланы ў Енісейскую губ., адкуль уцёк за мяжу. У 1903 у

Жэневе далучыўся да бальшавікоў, супрацоўнічаў у газетах РСДРП. У 1907—09 жыў у Оршы, выкладаў матэматыку. Зноў арыштаваны ў 1909; вызвалены з-за адсутнасці доказаў, але пазбаўлены права выкладання. З 1909 у статыстычным бюро пры Маскоўскай гарадской управе. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 гарадскі галава Оршы. З канца 1917 у Петраградзе ў Наркамасвеце, распрацоўваў асновы адзінай працоўнай школы. Дзеля праверкі сваіх педагагічных канцэпцый летам 1918 заснаваў і ўзначаліў у в. Ліцвінавічы Рагачоўскага пав. (цяпер Кармянскі р-н) доследную працоўную школу-камуну. Займаўся літаратурнаю творчасцю — напісаў драму «Чырвоным па чырвонаму», раман «Барацьба і творчасць». У сувязі з наступам польскіх войск у 1919 пераехаў у Маскву. У 1921—24 адзін з кіраўнікоў Камісіі па распрацоўцы гісторыі РКП(б) (Гістпарта). Выкладаў у Маскоўскім ун-це і Камуністычнай акадэміі. Доктар гістарычных навук. З 1927 дырэктар Гістарычнага музея; у 1935—36 дырэктар Музея рэвалюцыі ў Маскве. У в. Ліцвінавічы створаны мемарыяльны музей Л. З 1967 устаноўлена Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Л. ў галіне публіцыстыкі.

Тв.: Як узнікла Ленінская партыя. Мн., 1934; На повороте. М., 1955.

Літ.: *Булацкий Г.В.* П.Н.Лепешинский. Мн., 1973; *Садовский А.С.* П.Н.Лепешинский: Страницы биографии. Мн., 1985; *ЭГБ*, т. 4.

**ЛЕЎШЧАНКА Леанід Іванавіч** [Леўчанка; псеўданім: Лявон Леўш; 4.8.1882 — 1954], публіцыст, літаратуразнавец. Уваходзіў у актыў бел. дыяспары ў Кіеве. Уклаў і ў 1919 выдаў у Кіеве анталогію «Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства» (пад псеўданімам). Аналізаваў тэндэнцыі ў бел. літаратуры ў рэвалюцыйны перыяд — артыкул «Адбіткі класавага змагання ў беларускім пісьменстве» (час. «Школа и культура Советской Белоруссии». 1919, № 2—3). Летам 1919 загадчык Літаратурна-выдавецкага аддзела Наркамата асветы Літоўска-Беларускай ССР (у той час знаходзіўся ў Бабруйску). Звольнены з педінстытута і арыштаваны ў 1936 (?). Пасля вызвалення працаваў на вёсцы ў школе.

Літ.: *Карский Е.Ф.* Белорусы. Т. 3, вып. 3. С. 152; *Скалабан В.У.* Леўшчанка Леанід // *Янка Купала*: Энцыкл. даведнік. Мн., 1986. С. 338.

**ЛЕЦКА Раман** [1912 ?, хутар Вярбіца Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 1993, Навагрудак], самадзейны мастак, краязнавец, калекцыянер. У 1920-х г. вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі. Скончыўшы дарожныя курсы, працаваў пры гарадской управе майстрам на пабудове дарог. Вязень ГУЛАГу. Пасля вызвалення вярнуўся ў Навагрудак. З юнацкіх гадоў збіраў этнаграфічныя і кра-

язнаўчыя матэрыялы, найперш па Навагрудчыне, меў багатую калекцыю бел. віленскіх выданняў.

Літ.: *Чэмер А.* [Анішчык А.]. Наваградская беларуская гімназія. Вільнюс, 1997.

**ЛЁСІК Язэп Юр'евіч** [Іосіф Юр'евіч; псеўданім і крыптанімы: Я.Л.Апалчэнец; Л-к; Я.Л.; Я.Л-к; 6(18).11.1883, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 1.4.1940, Саратаў, НКВД], празаік, публіцыст, мовазнавец, літаратуразнавец, паліт. дзеяч, педагог. Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі (1898—99), скончыў Ноўгарад-Северскае гарадское вучылішча (1902). З 1903 настаўнічаў у мяст. Грамяч Ноўгарад-Северскага пав. Чарнігаўскай губ. За ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях 1905 арыштаваны; зняволены ў Ноўгарад-Северскую турму. У 1907 прывезены на суд у Старадуб; уцёк з мясцовай турмы. Хаваўся ў Стоўбцах, Пецярбургу, пад Луганскам. Зноў арыштаваны ў 1911 у Ноўгарад-Северскім; прыгавораны да бестэрміновага пасялення ў Сібіры. Адпраўлены ў Кірэнск, потым у Бадайбо Іркуцкай губ., дзе пасябраваў з А.Гаруном. Са ссылкі вярнуўся пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917. У 1917—18 рэдагаваў газ. «Вольная Беларусь». Адзін з ініцыятараў абвяшчэння БНР. У 1919 старшыня Найвышэйшай Рады БНР. Чарговая

хваля рэпрэсій напаткала Л. ў 1922, пасля выхаду яго «Практычнай граматыкі беларускай мовы». У газ. «Звязда» падручнік быў названы контррэвалюцыйным, а ў пачатку ліст. 1922 Л. быў арыштаваны. Пасля ўмяшання тагачаснага наркама асветы У.Ігнатоўскага ў снеж. 1922 Л. быў вызвалены. З 1928 акадэмік АН Беларусі. Зноў арыштаваны ДПУ БССР 17.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 6.12.1930 пастановай СНК БССР пазбаўлены звання акадэміка. Пастановай Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 сасланы на 5 гадоў у Саратаўскую вобл. Жыў у Камышыне і Нікалаеўску, дзе выкладаў у педтэхнікуме. У ліст. 1934 атрымаў амністыю ВЦВК без права вяртання ў Мінск. У 1935 пераехаў з сям'ёй на Браншчыну; восенню 1937 пасяліўся ў Саратаўскай вобл. Арыштаваны 25.6.1938 па справе «Контррэвалюцыйнай арганізацыі палітссыльных у Саратаве». 31.3.1940 Асобай нарадай прыгавораны да 5 гадоў лагераў. Памёр ад сухотаў у Саратаўскай турме. Па першым прысудзе рэабілітаваны 10.6.1988; па другім — 8.10.1958. Адноўлены ў званні акадэміка ў 1990.

Тв.: Аўтаномія Беларусі. Мн., 1917 (2 выд.: Мн., 1990); Практычная граматыка беларускай мовы: Курс першы. Мн., 1921; Беларуская мова: Правапіс. Мн., 1924; Да рэформы беларускага правапісу. Мн., 1926 (сааўт. А.Лёсік); Творы: Апавяданні, казкі, артыкулы. Мн., 1994.

Літ.: *Нацдэмы*; *Багдановіч І., Жынкін А.* «Гэтага слаўнага пісьменніка чакаець яшчэ слаўнейшая будучыня» // *За передовую науку*. 1990, 4 мая; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 4.

**ЛІБМАН Ганна** [1908 — ?], гісторык. Вучылася ў БДУ. У 1932 скончыла аспірантуру БелАН. З 1934 — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі БелАН. Пастановай Асобай нарады пры НКВД СССР ад 15.8.1936 прыгаворана да пазбаўлення волі. Адпраўлена ў Комі АССР. Рашэннем Вярхоўнага суда Комі АССР ад 7—10.7.1942 асуджана на 10 гадоў зняволення. Далейшы лёс невядомы. Па першым прыгаворы рэабілітавана 9.6.1956, па другім — 21.1.1956.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**ЛІСОЎСКІ Адам Язэпавіч** [6(18).1.1884, в. Каранды Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 9.10.1929, Варшава], рыма-каталіцкі святар, перакладчык. Скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю, Мітрапалітальную духоўную каталіцкую акадэмію ў Пецярбургу (1906). Пасвечаны ў святары ў 1907. Вучыўся ў Інсбруку (Аўстрыя, 1908—09), Мюнхене (1909—10). Быў святаром у парафіях Беларусі і Расіі. Спрыяў увядзенню бел. мовы ў жыццё касцёла. Да з’езду бел. ксяндзоў у Мінску ў 1917 падрыхтаваў рэферат «Беларускі рух і яго адносіны да жыцця касцельнага, а таксама да акцыі каталіцкай у Беларусі». З 1917 служыў у касцёлахМіншчыны. У 1922 узначаліў Мінскі дэка-

нат. Выступіў супраць канфіскацыі касцёльнай маёмасці. Арыштаваны ДПУ 31.5.1922; прыгавораны да смяротнага пакарання, замененага 5 гадамі зняволення. Знаходзіўся ў зняволенні ў турмах Мінска, Масквы («Бутырка»), Яраслаўля. 28.4.1924 у выніку абмену палітвязняў перададзены польскім уладам. Канонік Пінскага капітула. Пераклаў на бел. мову кнігі Новага Запавету. Пахаваны ў Кляшчэлях Бельскага пав. (Польшча).

Літ.: *Dzwonkowski R.* Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998; *Гарбінскі БРД*.

**ЛІСТАПАД Юрый** (Георгій) **Іванавіч** [крас. 1897, в. Варкавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 5.7.1938, Бамлаг], паліт. дзеяч, публіцыст. У 1914 скончыў Панявежскую настаўніцкую семінарыю. Настаўнічаў на Случчыне і ў Слуцку. Член Беларускай Рады Случчыны; удзельнік Слуцкага збройнага чыну 1920. Выехаў у Польшчу. У 1922 вярнуўся ў Слуцк. Настаўнічаў, выкладаў на Слуцкіх агульнаадукацыйных курсах. У сярэдзіне 1920-х г. працаваў стыльрэдактарам Дзяржвыдавецтва БССР. Арыштаваны ДПУ БССР 22.10.1925; у сак. 1926 асуджаны на 5 гадоў турэмнага зняволення. Вызвалены ў ліст. 1927. Зноў арыштаваны летам 1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; вызвалены праз не-

калькі месяцаў. У ліп. 1933 перасяліўся ў Ржэў. У кастр. 1933 арыштаваны па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра»; у студз. 1934 асуджаны на 8 гадоў зняволення. Адпраўлены ў Бамлаг; паводзіў сябе там непакорліва. У жн. 1935 на яго была заведзена крымінальная справа. 31.3.1938 прыгавораны да расстрэлу. Па прысудах 1934 і 1938 рэабілітаваны ў 1956.

Тв.: Слуцкае вяселле // *Беларусь*. 1920, № 108—110; Узбіліся на свой шлях // *Наша думка* (Вільня). 1921, № 9—10.

Літ.: *Скаруліс С.* Лістападаўская справа і Якуб Колас // *Полымя*. 1992, № 11; *Яго ж*. Працяг трагедыі // *Полымя*. 1994, № 3; *Скідан В*. Рэабілітаваны пасмяротна // *Настаўніцкая газета*. 1993, 24 сак.; *ЭГБ*, т. 4.

**ЛІХАДЗІЕЎСКІ Сцяпан Іванавіч** [псеўданімы і крыптанімы: Гуртковец; А.Случанскі; А.Случанский; Л.Сцяпанаў; А.С.; С.Л.; Юн.; 26.4(9.5).1911, в. Баслаўцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер в. Барок Слуцкага р-на Мінскай вобл. — 13.2.1979, Ташкент], паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец. Падчас вучобы ў Грозаўскай сямігодцы пачаў дасылаць допісы ў час. «Малады араты». У 1926—30 вучыўся ў Мінскім Белпедтэхнікуме; у 1930—31 у БДУ; у 1931—33 у МВПІ. У 1928 уступіў у літаб'яднанне «Маладняк»; потым стаў членам БелАПП. Як малады літаратар атрымліваў персанальную стыпендыю ад Наркамасветы. У 1931—32 апублікаваў чаты-

ры паэтычныя зборнікі. Арыштаваны 23.2.1933; 10.8.1933 асуджаны на 3 гады высылкі ў Казахстан. У 1933—37 настаўнічаў там у школах Сары-Ачагскага р-на. Працягваў пісаць вершы. У 1937 залічаны на 3 курс літаратурнага ф-та Ташкенцкага падінстытута. У 1939 скончыў Томскі падінстытут; паступіў у аспірантуру Ташкенцкага падінстытута. Член СП Узбекістана з 1948. Доктар філалагічных навук (1967), прафесар (1968). Рэдагаваў кнігі ўзбекскіх паэтаў. Уваходзіў у рэдкалегію час. «Звезда Востока». Пісаў на бел., рускай, узбекскай мовах. Падрыхтаваў да выдання ў Мінску некалькі паэтычных зборнікаў. Перакладаў на бел. мову творы ўзбекскіх, французскіх, нямецкіх пісьменнікаў.

Тв.: Берасцянка жывых трывог: Выбраныя вершы і пераклады. Мн., 1962; Анатоль Франс: Очерк творчества. Ташкент, 1962; Поиски сердолика: Стихи; Переводы. Ташкент, 1973; Чырвоныя макі: Вершы. Мн., 1981.

Літ.: *Мірачыцкі Л.* Любоў да жыцця: Пра паэзію Сцяпана Ліхадзіеўскага // *Звязда.* 1974, 7 снеж.; *Шушкевіч С.* Паэт, вучоны, педагог // *Голас Радзімы.* 1971, № 39; *БП*, т. 4.

**ЛОБІК Лявон Сцяпанавіч** [крыптанімы: Л.; Л.Л-к; 1871, в. Кукавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — сак. 1918, Капыль], паэт, публіцыст. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Настаўнічаў на Случчыне. З 1905 далучыўся да сацыял-дэмакра-

тычнага руху. За ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905-07 сасланы на 3 гады ў Краснаярскі край. Потым Л. было дазволена пасяліцца ў паволжскім гарадку Чорны Яр. Пасля сканчэння тэрміну высылкі жыў у Пінску; пазней пераехаў у родную вёску. З 1910 супрацоўнічаў з газ. «Наша ніва». Быў сталым карэспандэнтам газет на Случчыне, Капыльшчыне, Нясвіжчыне. Як удзельнік бел. руху быў арыштаваны і зняволены ў турме ў Вільні. У ссылцы і турмах падарваў здароўе, хварэў на сухоты. Пахаваны ў Капылі.

Літ.: *Каханоўскі Г.* Лявон Лобік // *Каханоўскі Г.* Адчыніся, таямніца часу. Мн., 1984; *Яго ж*. Паэт-земляроб // *Полымя*. 1969, № 6; *БП*, т. 4.

**ЛОЙКА Міхаіл Фёдаравіч** [1(14).11.1892, мяст. Ярэмічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 28.9.1937, Мінск, НКВД], эканаміст, географ, матэматык. Скончыў у 1912 Пецярбургскія агульнаадукацыйныя курсы А.Чарняева. З 1921 у Маскве загадчык Бюро беларускай секцыі Наркамасветы РСФСР. З 1924 вучыўся ў Маскоўскім інстытуце народнай гаспадаркі. Разам з Г.Гарэцкім апісаў эканамічны профіль маскоўскага рэгіёна. У 1931—33 вучоны сакратар, нам. дырэктара Інстытута эканомікі БелАН; адначасова ў 1932—33 загадчык кафедры эканамічнай геаграфіі

МВПІ. Аўтар навуковых прац і падручнікаў па фізічнай і эканамічнай геаграфіі, эканамічным раянаванні БССР, матэматыцы. Займаўся папулярызацыяй навукі. У 1935 абвінавачаны ў нацыянал-дэмакратызме; выключаны з партыі; арыштаваны 3.12.1936. Прыгавораны пазасудовым органам да расстрэлу 22.9.1937. Рэабілітаваны ў 1957 і 1990.

Тв.: Беларуская ССР у задачах: Рабочая кніга па матэматыцы. Мн., 1927; Наш калгас: Рабочая кніга па матэматыцы. Ч. 1. Мн., 1930; Геаграфія (фізічная і паліт. карта свету). Вып. 1—2. Мн., 1932-33 (разам з Езавітам, Сакольчыкам).

Літ.: *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 4.

**ЛУЖАНІН Максім** [сапр.: Каратай Аляксандр Амвросьевіч; іншыя псеўданімы: М.Бусловіч; Ал.-Даведка; Мікола Драч; Л.Трыер; 20.10(2.11).1909, в. Прусы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл. — 13.10.2001, Мінск], паэт, празаік, кінадраматург, перакладчык. У 1924—28 вучыўся ў Мінскім Белпедтэхнікуме. Публікавацца пачаў у 1925. Першая кніга вершаў («Крокі») выйшла ў 1928. У 1928—31 вучыўся ў БДУ. З 1931 працаваў у час. «Узвышша» і на Беларускім радыё. Арыштаваны ДПУ БССР 23.2.1933 па справе «Беларускай народнай грамады»; асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі. Адпраўлены ў ссылку ў Марыінск Кемераўскай вобл., праз некалькі месяцаў

быў вызвалены і вярнуўся дадому. У 1935—41 рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратуры па машынабудаванні ў Маскве. Падчас вайны на фронце. З 1944 загадчык аддзела культуры газ. «Звязда», адказны сакратар час. «Вожык». Рэабілітаваны ў 1956. З 1959 член сцэнарнай калегіі, у 1967—72 галоўны рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм». Аўтар сцэнарыяў фільмаў («Паўлінка», 1951; «Народны паэт», 1952; «Першыя выпрабаванні», 1960; «Запомні гэты дзень», 1967, разам з А.Куляшовым). На бел. мову пераклаў асобныя творы А.Грыбаедава, М.Гогаля, А.Радзішчава, А.Пушкіна, У.Маякоўскага, А.Міцкевіча, У.Сыракомлі. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1969), заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1975).

Тв.: Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1960; Зб. тв.: У 3 т. Мн., 1968—1970; Зб. тв.: У 4 т. Мн., 1979—1981.

Літ.: *Бечык В.* Прасторы творчасці // *Бечык В.* Прад высокаю красою… Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мн., 1984; *Кісялёў Г.* Крокі // *Полымя*. 1984, № 11; *Гніламёдаў У.* Натхненне і майстэрства: Творчасць М.Лужаніна // *Роднае слова*. 1998, № 5; Маракоў Л. Павышэнне // *Маракоў Л.* 100 мініяцюр. Мн., 2002; *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 4.

**ЛУКАШЫК Васіль** [1905, Сакольскі пав. Гродзенскай губ. — 17.3.1975, Густаўберг, Швецыя], бел. паліт. і культурны дзеяч, выдавец. Скончыў рускую гімназію ў Беластоку, вывучаў паліта-

логію ў Віленскім ун-це. Актыўны ўдзельнік Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады ў Беластоку. Арганізатар бел. культурна-асветных устаноў на Беласточчыне. У 1939—41 ствараў бел. школы на Беласточчыне, працаваў загадчыкам дзіцячага дома ў Беластоку. На пачатку нямецкай акупацыі быў бургамістрам Беластока. Па даносе быў арыштаваны гестапа, апынуўся ў канцлагеры Асвенцым. Здолеў уцячы ў Варшаву, адкуль быў вывезены на прымусовыя работы ў Нарвегію. Разам з групай беларусаў у 1944 уцёк у Швецыю, дзе ў 1948 арганізаваў «Беларускую грамаду». Быў сябрам Камітэта вольнай Беларусі, Федэрацыі вольных беларускіх журналістаў.

Літ.: *Czasopis* (Беласток). 1995. № 11; *Котлярчук А.* Швэды ў гісторыі і культуры беларусаў. Мн., 2002.

**ЛУПІНОВІЧ Карл Аляксандр** [14.7.1891 — 1937?, ГУЛАГ), рыма-каталіцкі святар, грамадскі і культурны дзеяч. У 1914 скончыў Магілёўскую духоўную каталіцкую семінарыю ў Пецярбургу. У 1914—17 вучыўся ў Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі (Петраград). Член культурна-асветнага гуртка клерыкаў-беларусаў. Пасвечаны ў святары ў 1915. Быў прызначаны вікарыем ў Мінск. Арыштаваны бальшавікамі вясной 1919. Вызвалены ў выніку абмену на ваеннапалонных

чырвонаармейцаў. У 1922—23 адміністратар парафіі ў Рэчыцы Мазырска-Рэчыцкага дэканата. З 1924 у Маскве, дзе служыў у парафіі святых Пятра і Паўла. Выконваў абавязкі генеральнага вікарыя і фактычна з'яўляўся апостальскім адміністратарам у Маскве. Арыштаваны АДПУ СССР 20.2.1929. Пад націскам падпісаў заяву аб супрацоўніцтве. Пасля вызвалення паведаміў пра гэта каталіцкім уладам. Зноў арыштаваны і адпраўлены на 3 гады ў ссылку ў Казахстан. Арыштаваны ў ссылцы ў снеж. 1933 і дастаўлены на следства ў Мінск. 29.3.1934 прыгавораны да 3 гадоў ссылкі і дэпартаваны ў Казахстан. Зноў арыштаваны ў ссылцы ў чэрв. 1934 і прыгавораны да 10 гадоў лагераў. Рашэннем Калегіі НКВД 11.12.1937 прыгавораны да расстрэлу.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Dzwonkowski R*. Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998.

**ЛУЦКЕВІЧ Антон Іванавіч** [псеўданімы: Антон Навіна; А.Иванов; Антон Белорус; Генрык Букавецкі; Кумельган; Ів.Мялешка; крыптанімы: А.Л.; А.Н.; А.Н-А; А.Н-а; А-н-а; Б.Г.; Г.Б.; Г-бэ; Г.; Г.В.; Н.; Н-а-А; Н.А.; A.L.; A.N.; H.B.; 17(29).1.1884, Шаўлі Ковенскай губ., цяпер Шаўляй, Літва — 23.3.1942, перасыльны пункт Актарска Саратаўскай вобл.], паліт. і грамадскі дзеяч, публіцыст, літаратурны крытык, гісторык, лінгвіст, выдавец.

Паходзіў з шляхецкага роду герба «Навіна». Брат І.Луцкевіча. У 1902 скончыў Мінскую гімназію. Вучыўся на фізіка-матэматычным ф-це Пецярбургскага ун-та, юрыдычным ф-це Дэрпцкага ун-та. Адзін з заснавальнікаў у 1903 БРГ. Арыштаваны ў Мінску ў 1904 за распаўсюджванне партыйнай літаратуры; выпушчаны з пазбаўленнем права пакідаць горад. У лют. 1906 перайшоў на нелегальнае становішча, пераехаў у Вільню. Уваходзіў у склад рэдакцый газ. «Наша доля» і «Наша ніва». Першы артыкул апублікаваў у 1906 у №1 газ. «Наша доля». Пасля акупацыі Вільні ў 1915 нямецкімі войскамі ўзначаліў Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Адзін з выдаўцоў газ. «Гоман». У 1918 быў ініцыятарам абвяшчэння незалежнасці БНР; з кастр. 1918 старшыня Рады народных міністраў і міністр замежных спраў БНР. У пачатку вер. 1919 інтэрнаваны ў Варшаве; 1.12.1919 вярнуўся ў Мінск. У ліп.—жн. 1920 зняволены бальшавікамі. З 1921 старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. У 1921 арганізатар Беларускага музея імя І.Луцкевіча. З 1925 працаваў у рэдакцыйным камітэце БСРГ. Арыштаваны польскімі ўладамі ў кастр. 1927; апраўданы судом у пач. 1928. У 1928 арыштоўваўся яшчэ раз. У 1930 польскія ўлады забаранілі дзейнасць Беларускага выдавецкага таварыства, якім кіраваў Л. У 1931 звольнены з работы ў Віленскай беларускай гімназіі. Л. стаў аб’ектам паліт. спеку-

ляцый і нападаў; у 1933—39 бел. газеты яго не друкавалі. Арыштаваны 30.9.1939 савецкімі ўладамі ў Вільні; этапіраваны ў Мінск. Рашэннем Асобай нарады пры НКВД СССР 14.6.1941 прыгавораны да 8 гадоў зняволення. Памёр у зняволенні (дакладная дата смерці стала вядомая нядаўна). Рэабілітаваны ў 1989.

Тв.: Белорусы. СПб., 1909; Нашы песняры: літаратурна-сацыяльныя нарысы. Вільня, 1918; Ekanamičnaja ewalucyja i biełaruski ruch. Wilnia, 1918; Польская акупацыя на Беларусі. Вільня, 1920; Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры. Вільня, 1921; Вільня ў беларускай літаратуры. Вільня, 1925; За дваццаць пяць гадоў (1903—1928): Успаміны аб працы першых беларускіх паліт. арганізацый. Вільня, 1928 (перавыданне: Мн., 1991); Адбітае жыццё. Вільня, 1929; Янка Купала як прарок адраджэння. Вільня, 1933.

Літ.: *Bergman A.* Antoni Łuckiewicz (1884—1946). Szkic biograficzny // *Przegląd Historyczny*. 1974. T. LXV, у. 4; *Сидоревич А.* Антон Луцкевич: Главы из книги // *Нёман*. 1990, № 7; *Янушкевіч Я.* Луцкевічы // *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*. Вып. 4. Мн., 1994; *Антон Луцкевич: материалы следственного дела НКВД БССР* / Подг. к печати, введение и комментарии В.Н.Михнюка, Н.М.Климовича и А.Н.Гесь. Мн., 1997; *Бяляцкі А.* Антон Луцкевіч // *Гісторыя беларускай літаратуры XX ст.* Мн., 1999. Т. 2; *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 4.

**ЛУЦКЕВІЧ Іван Іванавіч** [псеўданімы: Ян Міхальчык; Нашанівец; Шчасны; Palissander Нев.; 28.5(9.6).1881, Шаўлі Ковенскай губ., цяпер Шаў-

ляй, Літва — 20.8.1919, Закапанэ, Польшча], паліт. і грамадскі дзеяч, публіцыст, археолаг, краязнавец. Брат А.Луцкевіча. У 1890 пачаў вучобу ў Лібаўскай гімназіі, у 1897—1902 працягваў у Мінскай гімназіі. Займаўся на юрыдычным ф-це Пецярбургскага ун-та; у Маскоўскім археалагічным інстытуце. За сваю паліт. дзейнасць у 1903 трапіў у турму. У 1904—05 працягваў вучобу ў Венскім ун-це. У 1903 быў адным з заснавальнікаў БРГ (пазней БСГ). Прымаў актыўны ўдзел у падзеях 1905 у Мінску. Пад пагрозай арышту выехаў у пачатку 1906 у Вільню, дзе да 1908 знаходзіўся на нелегальным становішчы. Ініцыятар стварэння ў Вільні многіх бел. арганізацый і выданняў, у тым ліку газ. «Наша доля» і «Наша ніва». У 1916 удзельнічаў у выданні газ. «Гоман». Яго багатыя калекцыі сталі асновай для створанага ў 1921 Беларускага музея. У сярэдзіне чэрв. 1919 выехаў на лячэнне на курорт Закапанэ, дзе і памёр. У 1991 перапахаваны на могілках Роса ў Вільні.

Тв.: Аб беларускім мастацтве // *Гоман*. 1918, № 70 (перадрук: *Скарыніч*. Вып. 2. Мн., 1993); Ай-Кітаб // *Зборнік «Наша ніва»*. Вільня, 1920; Ай-Кітаб—Кіцёп // *Беларускае жыццё*. 1920, 11 сак. (перадрук: *Спадчына*. 1992, № 3; *Скарыніч*. Вып. 2).

Літ.: *Памяці Івана Луцкевіча. У першыя ўгодкі сьмерці яго. (20.8.1919 — 20.8.1920).* Вільня, 1920; *Каваль А.* (Каўка А.). Іван Луцкевіч — адраджэнец // *Беларусіка*. Вып. 1. Мн., 1993; *Адамовіч А.* Як дух змагання Беларусі... Нью-Йорк, 1983; *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 4.

**ЛУЦКЕВІЧ Лявон Антонавіч** [13.3.1922, Вільня — 28.7.1997, Вільнюс], бел. грамадскі і культурны дзеяч, педагог, мемуарыст. Сын прэм'ера Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча, закатаванага бальшавікамі. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў, прымаў удзел у нацыянальным падполлі. У 1944 уступіў у Беларускую Краёвую Абарону. Арыштаваны савецкай дзяржбяспекай у Польшчы ў канцы 1945. Быў асуджаны на судовым працэсе над кіраўніцтвам Беларускай Незалежніцкай Партыі. Пасля вызвалення з канцлагера жыў у Вільні, з канца 1980-х г. актыўна падтрымліваў бел. адраджэнскі рух.

Тв.: Вандроўкі па Вільні. Вільня, 1998.

Літ.: *Ерш С.* Вяртанне БНП: Асобы і дакументы Беларускай Незалежніцкай Партыі. Мн.; Слонім, 1998; *Антысавецкія рухі*.

**ЛЯБЕЦКАЯ Алена Канстанцінаўна** [2(15).7.1903, хутар Лягуцева Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н — 28.1.1982], паліт. і грамадская дзяячка, мемуарыстка. Актывістка Таварыства беларускай школы ў Зах. Беларусі. З ліст. 1927 сакратар Слонімскай акруговай управы ТБШ. За сваю дзейнасць арыштавана польскімі ўладамі ў 1928. У 1929 дэлегат 1-га антыфашысцкага кангрэса ў Берліне; дэлегат Еў-

рапейскага сялянскага кангрэса. Зноў арыштавана ў лют. 1930; асуджана на 6 гадоў зняволення. З 1933 у выніку абмену палітвязнямі ў БССР. Працавала ў ЦК Міжнароднай арганізацыі дапамогі барацьбітам рэвалюцыі Беларусі. Арыштавана НКВД і зняволена 14.10.1937. У пасляваенны час пісала ўспаміны.

Тв.: Дзейнасць гурткоў «Таварыства беларускай школы» // *У суровыя гады падполля*. Мн., 1958; Иного пути не было // *Вильнюсское подполье*. Вильнюс, 1966.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**ЛЯБОВІЧ Марцін Фаркашавіч** [28.11.1900, Сатмар, Венгрыя — ?], гісторык. Скончыў Інстытут чырвонай прафесуры ў Маскве. Працаваў старшым навуковым супрацоўнікам, вучоным сакратаром Інстытута гісторыі БелАН. Арыштаваны 22.2.1938. Крымінальная справа спынена 15.12.1939, вызвалены з-пад варты. Далейшы лёс невядомы.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**ЛЯВОННЫ Юрка** [сапр.: Юркевіч Леанід Мікалаевіч; іншыя псеўданімы: Леанідаў; Леонидов; крыптанімы: Ю.Л.; Л-ны; Юр. Л-ны; Юр. Ля-

ны; 16(29).7.1908, Чавусы Магілёўскай губ., цяпер Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], паэт. Вучыўся ў Чавускай сямігодцы, Магілёўскім педтэхнікуме, МВПІ (у 1934 скончыў літаратурны ф-т). Друкавацца пачаў у 1924. Першыя зборнікі паэзіі «Камсамольскія вершы» і «Штурм» выйшлі ў 1930. Член СП Беларусі з 1934. Працаваў у рэдакцыях газ. «Магілёўскі селянін», «Звязда», час. «Работніца і калгасніца Беларусі». Разам з С.Грахоўскім пераклаў на бел. мову раман Ж. Верна «80000 кіламетраў пад вадой». Некаторыя вершы Л. пакладзены на музыку. Арыштаваны 30.10.1936; расстраляны. Таксама была рэпрэсавана сям’я паэта.

Тв.: Выбранае. Мн., 1960.

Літ.: *Грахоўскі С.* Савецкая № 68: Трыццатыя гады...: Успаміны // *Дзень паэзіі*. Мн., 1978; *Шушкевіч С.* З маладнякоўскага племя // *ЛіМ*. 1968, 30 ліп.; *БП*, т. 4.

**ЛЯЖНЕВІЧ Алесь** [Аляксандр Францавіч; псеўданімы: Алесь Бяздольны; Язэп Церабеж; ініцыялы: А.Ф.; 1890, в. Сенцяняты Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 1937, НКВД], драматург. У 1914 быў мабілізаваны ў царскую армію; ваяваў на Румынскім фронце. У 1917—20 у Адэсе ў Чырвонай Арміі, працаваў у абл. тэатры, быў акцёрам бежан-

скай суполкі «Беларускі гай». Вучыўся ў прыватнай тэатральнай школе. З 1920 у Мінску, акцёр БДТ-1, у 1921 — яго дырэктар. У 1922—26 у Маскве, дырэктар бел. студыі Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва, затым працаваў інспектарам Наркамасветы БССР па справах мастацтва. Публікаваўся з 1924. Разам з Я.Купалам і Ц.Гартным уклаў анталогію «Беларускі дэкламатар Чырвоны Дудар» (1924). У 1924 падчас партыйнай чысткі быў выключаны з партыі з прычыны «адарванасці ад мас і палітычнай непісьменнасці». З кастр. 1927 кансультант, асістэнт рэжысёра на кінафабрыцы «Савецкая Беларусь» у Ленінградзе. Арыштаваны АДПУ СССР 20.7.1930 у Ленінградзе па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 пастановай Калегіі АДПУ СССР сасланы на 5 гадоў у Пашахонне-Валадарск (Яраслаўская вобл.). Арыштаваны паўторна ў 1937. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Новыя ўсходы: П’еса ў 6-ці актах. Мн., 1927; Таміла: Меладрама ў 5-ці дзеях. Мн., 1927; З дымам-пажарам: Рэвалюцыйная п’еса ў 3-х дзеях. Мн., 1928; Сялянскі тэатр: Парады ў пытаннях тэатральнай тэхнікі і метады пастаноўкі п’ес сялянскімі і гарадскімі клубнымі драмгурткамі. Мн., 1928.

Літ.: *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 4.

**ЛЯЛЕВІЧ Г.** [сапр.: Калмансон Лабары Гілелевіч; 17(30).9.1901, Магілёў — 1937, НКВД),

гісторык, паэт, крытык. Сын паэта Г.Калмансона. Удзельнік Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 і грамадзянскай вайны ў Расіі. З 1917 публікаваў вершы (магілёўская газ. «Молот»). Пазней працаваў у Маскве рэдактарам час. «На посту»; быў кіраўніком ВАПП, дзе разам з І.Вардзіным і С.Родавым абвясцілі сябе «палітбюро пралетарскай літаратуры». Адзін з праваднікоў партыйнай крытыкі, дагматычна ацэньваў творчасць С.Ясеніна, Дз.Фурманава, А.Фадзеева. У 1920—1930-я г. апублікаваў шэраг літаратурных твораў, прысвечаных рэвалюцыі — зборнікі вершаў «Набат» (1921), «У Смольным» (1925), паэма «Голад» (1921). Даследаваў рэвалюцыйны рух і грамадзянскую вайну ў Расіі. Арыштаваны (1937) і расстраляны як трацкіст. Рэабілітаваны пасмяротна.

Тв.: Ставка и Октябрьская революция // *Революционная борьба в Гомельской губернии: Исторические материалы*. Вып. 1. Гомель, 1921; Октябрь в Ставке. Гомель, 1922; Из истории крестьянского движения в Могилевской губернии накануне Октябрьской революции // *Пролетарская революция*. 1922. № 11; Стрекопытовщина: Страничка из истории контрреволюционных выступлений в годы гражданской войны. 2 изд. М.; Пг., 1923; Сергей Есенин. Гомель, 1926; Клинок и книга: Памяти Дмитрия Фурманова. М.; Л., 1926.

Літ.: *Михнюк В.Н.* Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919—1941 гг.). Мн., 1985; *ЭГБ*, т. 4.

**ЛЯПІЧ Раман Фёдаравіч** [1.7.1906, в. Бор Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 9.1.1977, Мінск], крытык, перакладчык. З пачатку 1923 жыў у Мінску. У 1923—26 курсант школы міліцыі. У 1926—28 вучыўся на вячэрнім рабфаку, у 1928—31 — на літаратурным ф-це БДУ. Працаваў літработнікам у рэдакцыях газ. «Звязда», «Рабочий». Друкавацца пачаў у 1929 (перакладаў на рускую мову творы бел. аўтараў). З літаратурна-крытычнымі артыкуламі ўпершыню выступіў у 1931. У 1931—35 у аспірантуры БелАН; пасля яе сканчэння да 1938 малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры. Адначасова выкладаў у МВПІ; у сак. — ліп. 1938 дэкан філалагічнага ф-та. Арыштаваны 20.7.1938; 10.10.1938 асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі і адпраўлены на Калыму ў адзін з паўночна-ўсх. канцлагераў. Пасля вызвалення з 1946 працаваў як вольнанаёмны геолаг на капальнях у Магаданскай вобл. Падарваў здароўе; з 1965 інвалід 2-й групы. У 1968 вярнуўся ў Мінск. Рэабілітаваны ў 1969. Апошні год перад смерцю быў паралізаваны. Пахаваны на Чыжоўскіх могілках.

Тв.: Нацыянал-дэмакратычная фальсіфікацыя беларускай літаратуры: (Крытычны агляд артыкулаў па беларускай літаратуры, змешчаных у «Литературной Энциклопедии» і «БСЭ» // *Літаратура і мастацтва*. Мн., 1936. Кн. 4—5 (сааўтар Э. Галубок).

Літ.: *Возвращенные имена*; *БП*, т. 4.

**ЛЯЎДАНСКІ Аляксандр Мікалаевіч** [29.8(10.9).1893, в. Юр'ева Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Смалявіцкі р-н Мінскай вобл. — 27.8.1937, Мінск, НКВД], археолаг. У 1922 скончыў Смаленскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута; у 1922—25 вучыўся ў Смаленскім ун-це, з 1925 яго выкладчык, супрацоўнік Смаленскага музея. З 1927 у Мінску; член гісторыка-археалагічнай камісіі Інбелкульта; загадчык секцыі археалогіі Інстытута гісторыі БелАН. Адначасова працаваў у БДУ; дацэнт. Кандыдат гістарычных навук з 1934. Арганізатар першых навукова-археалагічных экспедыцый у БССР. Арыштаваны 19.5.1937; па пастанове НКВД ад 25.8.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 7.5.1958.

Тв.: Археалагічныя раскопкі ў м. Заслаўі Мінскай акругі // *Запіскі аддзялення гуманітарных навук БАН*. Кн. 5. Працы кафедры археалогіі. Т. 1. Мн., 1928; Археалагічныя доследы ў Віцебскай акрузе // *Там жа*. Кн. 11. Працы кафедры археалогіі. Т. 2. Мн., 1930; Археалагічныя доследы ў Полацкай акрузе // *Там жа*; Археалагічныя доследы ў БССР пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі // *Працы секцыі археалогіі Інстытута гісторыі БАН*. Т. 3. Мн., 1932.

Літ.: *Каробушкіна Т.М.* Заснавальнік савецкай археалагічнай навукі ў Беларусі // *Весці АН БССР*. Сер. грамад. навук. 1983, № 6; *Вяргей В. С.* Археалагічная навука ў Беларускай ССР, 1919—1941 гг. Мн., 1992; *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 4.

**ЛЯШЧЭВІЧ Антон Янавіч** [18(30).9.1890, в. Абрамаўшчына Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 17.2.1943, в. Росіца, Верхнядзвінскі р-н Віцебскай вобл.], рыма-каталіцкі святар, манах-марыянін, місіянер, грамадскі дзеяч. У вер. 1902 — жн. 1908 вучыўся ў прыватнай гімназіі пры рыма-каталіцкім касцёле св. Кацярыны ў Пецярбургу. У 1914 скончыў Магілёўскую духоўную каталіцкую семінарыю. Пасвечаны ў святары. З 17.6.1915 вікарый рыма-каталіцкага касцёла ў Іркуцку. 2.8.1917 пераведзены на пасаду вікарыя ў Харбінскі касцёл (Маньчжурыя). У 1930-я г. працаваў ва Усх. місіі ў Іркуцку, Чыце, Харбіне. Пасля вяртання ў Еўропу ўступіў у Ордэн марыянаў; манаства прыняў 13.6.1939 у Скужцы каля Седльцаў (Польшча). Са жн. 1939 вёў душпастырскую дзейнасць у Беларусі. Быў аканомам Друйскага кляштара марыянаў. Спалены разам з вернікамі падчас нямецкай карнай акцыі.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *ЭГБ*, т. 4; *Bykowicz J.* Męczennicy z Rosicy. Warszawa, 1993; *ЭГБ*, т. 4.

**МАГАРАМ Элізарый Еўлевіч** [26.12.1899, Адэса — ?], глебазнавец. У 1935—38 працаваў старшым навуковым супрацоўнікам, нам. дырэктара Інстытута аграглебазнаўства і ўгнаенняў БелАН. Арыштаваны 6.4.1938. Асуджаны 19.2.1940. Вызвалены 6.4.1940. Паўторна арыштаваны і прыгавораны да 8 гадоў зняволення 29.10.1949. Пакаранне адбываў у адным з лагераў на Поўначы. Рэабілітаваны 10.8.1955. У 1958 жыў у Сыктыўкары Комі АССР. Рэабілітаваны 25.6.1955. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Возвращенные имена.*

**МАГНУШЭЎСКІ Войцех** [каля 1758 — 24.12.1828, в. Крошын Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл.], рыма-каталіцкі святар, настаўнік П.Багрыма. Магчыма, быў манахам-дамініканцам. Выхоўваў дзяцей князя Мацея Радзівіла — Канстанціна і Антаніну. Потым атрымаў парафію ў мяст. Крошын, дзе была школа, у якой вучыліся сялянскія дзеці, у тым ліку П.Багрым. М. пабудаваў для школы новы будынак. У выніку юрыдычных і маёмасных спрэчак паміж новым уладальнікам Станіславам Юрагам і жыхарамі Крошына вясной 1828 у мястэчка былі ўведзены войскі. М., які спраба-

ваў заступіцца за крошынцаў, таксама быў прыцягнуты да следства. Школу зачынілі. М. быў узяты спачатку пад ваенны нагляд, потым пад паліцэйскі. У такой неспрыяльнай псіхалагічнай атмасферы ён памёр. 23.1.1829 вялікі князь Канстанцін распарадзіўся зняць нагляд з М., але было позна.

Літ.: *Станкевіч А.* Магнушэўскі; Паўлюк Багрым; Бабраўскі: (Да вытокаў беларускага адраджэння). Вільня, 1937; *Паўлюк Багрым*. Мн., 1994.

**МАГУЧЫ Адам Адамавіч** [псеўданім: Пірат; 7.3.1891, Віцебск – 7.5.1953, турма Штум, Польшча], ваенны дзеяч, спецыяліст па мараходнай справе, контрадмірал. Паходзіў з бел. шляхецкай сям'і. Вучыўся ў Віленскай гімназіі. Скончыў Марскі корпус у Пецярбургу (1908). Служыў на розных надводных і падводных караблях. Кіраваў адукацыяй афіцэраў падводных лодак, у тым ліку ў Петраградскай марской акадэміі. 25.11.1919 быў прыняты ў Польскую армію, камандаваў многімі караблямі. Напісаў шэраг падручнікаў па марской справе. Паколькі М. вызначаўся незалежнасцю поглядаў, у 1929 яго звольнілі з ваеннага флоту. Перайшоў на гандлёвы. 1.10.1939, спрабуючы прарвацца праз нямецкую блакаду, трапіў у палон. Некалькі гадоў правёў у фашысцкіх канцлагерах. Пас-

ля вызвалення вярнуўся ў Польскі ваенны флот у званні камандора. З 1.1.1946 контрадмірал. Нейкі час камандаваў Ваенным флотам. У 1948 па стане здароўя перайшоў на пенсію. 7.12.1949 арыштаваны па фальсіфікаваным даносе. 7.3.1950 асуджаны на 13 гадоў турмы. 21.6.1957 цалкам рэабілітаваны. Адзначаны Крыжам Віртуці Мілітары, крыжам Грунвальда.

Літ.: *PSB* XXI.

**МАЁРАЎ Міхаіл Майсеевіч** [10(22).1.1890, в. Скародна Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Скароднае Ельскага р-на Гомельскай вобл. — 20.1.1938, Масква, НКВД], паліт. дзеяч. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07; член РСДРП(б) з 1906. За сваю дзейнасць неаднаразова арыштоўваўся ўладамі. У 1917 кіраўнік арганізацыі РСДРП(б) у Кіеве. З 1920 на партыйнай і дзяржаўнай рабоце ў Кіеве, Адэсе, Астрахані, Томску. Аўтар прац па гісторыі рэвалюцыйнага руху на Украіне. У 1930—32 наркам забеспячэння УССР. У 1932—33 сакратар Сярэднеазіяцкага бюро ЦК ВКП[б]. З 1934 нам. старшыні Цэнтрасаюза СССР. Арыштаваны і расстраляны ў 1938. Рэабілітаваны.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МАЗУРКЕВІЧ Язэп** [Іосіф Ігнатавіч; псеўданім: Я.Цікавы; 1887, в. Цялякава Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 4.11.1937, Віцебск, НКВД], празаік, крытык, краязнавец. У 1906 здаў экстэрнам экзамен на званне настаўніка пачатковай школы; да 1915 настаўнічаў на Навагрудчыне. У 1918—19 настаўнічаў у Саратаўскай губ. З 1919 зноў на Навагрудчыне; працаваў у прыватнай школе; удзельнічаў у падпольным і партызанскім антыпольскім руху. Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1921; зняволены ў Баранавіцкай турме, з якой уцёк і перабраўся ў БССР. Настаўнічаў на Случчыне. У 1924 скончыў Вышэйшыя курсы беларусазнаўства ў Мінску. Працаваў у Віцебску — выкладаў у навучальных установах; быў супрацоўнікам краязнаўчага музея. Пачаў публікавацца з 1922 — у час. «Полымя», «Маладняк», у мінскіх і абл. газетах. Пры яго ўдзеле падрыхтаваны і выдадзены альманахі «Пачатак» (1926) і «Світанне» (1927; у абодвух аўтар прадмоў). Удзельнічаў у стварэнні Віцебскай філіі «Маладняка» і Віцебскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў; уваходзіў у склад Цэнтральнага бюро «Маладняка» і ў праўленне БелАПП. Арыштаваны 15.9.1937; расстраляны. Рэабілітаваны 16.5.1957.

Тв.: Здзекі: Апавяданне // *Полымя*. 1924, № 3; Літаратурны рух на Віцебшчыне // *Маладняк*. 1929, № 3.

Літ.: *Лаўшук С*. Станаўленне беларускай савецкай драматургіі (20-я — пач. 30-х гг.). Мн., 1984. С. 178—179; *БП*, т. 4.

**МАЙЗЕЛЬ Юрый Навумавіч** [студз. 1902, в. Кулікі Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. — вер. 1942, ГУЛАГ], гісторык, журналіст. З 1918 супрацоўнічаў у яўрэйскай газ. «Штэрн»; у газ. «Дело революции». Служыў у Галоўміліцыі БССР. З 1924 в. а. загадчыка ўлікова-інфармацыйнага аддзела СНК БССР. З 1925 у Гістпартце ЦК КП(б)Б. У 1928—30 аспірант БДУ. З 1929 навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі пры ЦК КП(б)Б. Адначасова выкладаў у Вышэйшай сельскагаспадарчай школе і ў Інстытуце журналістыкі. Вывучаў гісторыю КП(б)Б і нацыянальнае пытанне ў БССР. Падрыхтаваў да друку ч. 1 зборніка «КП(б)Б у рэзалюцыях» (1934). Абвінавачваўся ў сувязях з трацкістамі і прыцягваўся да партыйнай адказнасці падчас кампаній па барацьбе з трацкізмам у 1924, 1929 і 1934. 28.11.1935 выключаны з КП(б)Б. З 1936 супрацоўнік Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобл. Арыштаваны 22.6.1941. Пастановай Асобай нарады НКВД СССР ад 5.1.1942 прыгавораны да 10 гадоў лагераў. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Кароткі нарыс гісторыі КП(б)Б. Мн., 1929 (разам з М.Шапавалавым); Десять лет борьбы и строительства, 1920 — 11 июля 1930: (К разрешению национального вопроса в БССР). Мн., 1930 (разам з Л.Майзелем).

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МАЛЕЎСКІ Францішак Геранім** [Malewski Franciszek Hieronim; псеўданімы: Яраш; Франц Семяновіч; крыптанім: F.M.; 21.8.1800, Вільня — 10.4.1870, Санкт-Пецярбург], журналіст, публіцыст, мемуарыст. У 1815 скончыў Віленскую гімназію і паступіў на юрыдычны ф-т Віленскага ун-та. Быў знаўцам зах.-еўрапейскай літаратуры. 4.11.1817 па прапанове А.Міцкевіча прыняты ў Таварыства філаматаў; хутка стаў відным членам таварыства: сурэдактар «Філамацкіх статутаў», аўтар праектаў рэформ таварыства; з 7.9.1818 генеральны сакратар таварыства. Быў таксама членам «Таварыства сяброў», у якім арганізаваў Статыстычны камітэт, падрыхтаваў для яго інструкцыю, апублікаваную без згоды цэнзуры пад назвай «Opis geograficzny». Удзельнічаў у стварэнні Таварыства філарэтаў; апрацаваў «Статуты» таварыства, быў абраны віцэ-прэзідэнтам. Пасля сканчэння ун-та пакінуты для падрыхтоўкі на званне прафесара. За кошт Віленскага ун-та адпраўлены для працягу вучобы ў замежныя ун-ты. У ліст. 1821 — сак. 1822 знаходзіўся ў Варшаве, потым выехаў у Берлін. Пасля наведаў Йену, Гале, Лейпцыг, Дрэздэн, Прагу. У сувязі з працэсам над філарэтамі быў арыштаваны 20.12.1823 у Берліне па патрабаванні вялікага князя Канстанціна. 1.2.1824 выданы расійскім уладам; дастаўлены ў Варшаву; у крас. 1824 прывезены ў Вільню. Падзеі таго часу апісаў у «Турэмным дзённіку». 14.8.1824 прыгавораны да

дэпартацыі ў глыб Расіі. Выехаў з Вільні 25.10.1824; па дарозе сустрэўся з А.Міцкевічам і разам з ім паехаў у Пецярбург. 19.7.1825, не атрымаўшы дазволу жыць у Адэсе, накіраваўся ў Маскву. У 1827 разам з А.Міцкевічам спрабаваў арганізаваць выданне час. «Iris», але не атрымалі згоды ўладаў. У снеж. 1827 пасяліўся ў Пецярбургу. З 1829 працаваў пры 3-м дэпартаменце Сената ў аддзяленні Метрыкі ВКЛ; з чэрв. 1834 метрыкант; пазней стаў дырэктарам аддзела Метрыкі ВКЛ і тайным саветнікам. Адначасова з 1830 разам з І.Даніловічам працаваў над кадыфікацыяй права для губерняў на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Адмовіўся ад прапанаванай пасады сенатара. У 1830 арганізаваў «Tygodnik Petersburgski», рэдактарства ў якім потым перадаў Ю.Пшэцлаўскаму. Сам пісаў у «Tygodnik Petersburgski» ананімна.

Тв.: Dziennik więzienny // *Z filareckiego świata*. Warzsawa, 1924; Z nieznanych listów do żony // *Echo Polskie* (Moskwa). 1916.

Літ.: *Witkowska A.* Rówieśnicy Mickiewicza. Warszawa, 1962; Proces filaretów w Wilnie // *Archiwum do Dziejów Literackich*. Kraków, 1890; *PSB*, z. 81.

**МАЛЕЦ Дзяніс** [1909, в. Лембаўка Дзісенскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — снеж. 1941 ?, Мінск ?, Гестапа], рыма-

каталіцкі святар, рэлігійны і грамадскі дзеяч. З 1933 вучыўся ў духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пінску. Пасвечаны ў святары ў 1937. Быў прызначаны вікарыем парафіі Нараджэння Панны Марыі ў Бельску-Падляскім на Беласточчыне. З восені 1938 — прэфект школ у Пінску. Пазней служыў вікарыем пры Пінскім кафедральным саборы. Браў удзел у беларусізацыі касцёльнага жыцця. У якасці ганаровага госця прысутнічаў на канферэнцыі школьных інспектараў у Мінску (15.12.1941), дзе быў арыштаваны нямецкай тайнай паліцыяй. Дата і акалічнасці смерці невядомыя.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Мартос А.* Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Буэнос-Айрес, 1966 (рэпрынт: Мн., 1990).

**МАЛІНОЎСКІ Мікалай** [6(18).12.1799, в. Махноўка Брацлаўскага пав., цяпер Вінніцкая вобл., Украіна — 17(29).6.1865, Вільня], гісторык, публіцыст. З 1820 вучыўся ў Віленскім ун-це. Публікаваўся ў выданнях «Dziennik Wileński» і «Dzieje Dobroczynności…» За ўдзел у таварыстве філарэтаў зняволены ў ліст. 1823 — крас. 1824. Ад жн. 1826 працаваў у архіве Польскага аддзела Імператарскай публічнай бібліятэкі ў Пецярбургу. Вярнуўся ў Вільню ў 1829; да 1840 працаваў у Радзівілаўскай камісіі. Удзельнічаў у падрыхтоўцы выдання

«Крыніцы польскай гісторыі» (т. 2; 1844); апублікаваў «Хроніку» Мацея Стрыйкоўскага (1846); пераклаў і апублікаваў фрагменты лацінскай хронікі Б.Вапоўскага пад назвай «Гісторыя Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага» (т. 1—3; 1847—49); апублікаваў «Помнікі старажытнай Польшчы з часоў Жыгімонта Аўгуста» (т. 1—2; 1847—51). У 1860—63 супрацоўнічаў з газ. «Виленский вестник».

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МАМОНЬКА Язэп Аляксеевіч** [28.1.1889, в. Залессе Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 10.9.1937, Комі АССР, ГУЛАГ], паліт. дзеяч, публіцыст. У 1907—17 член партыі эсэраў; у 1918—24 член БПС-Р. Двойчы арыштоўваўся, правёў у турме 2 гады і 10 месяцаў. Падчас 1-й сусветнай вайны мабілізаваны ў царскае войска. Адзін з арганізатараў і дэлегатаў 1-га Усебеларускага з'езда 1917. Арыштоўваўся савецкімі ўладамі 18.12.1917 і ў 1918. Са снеж. 1919 член прэзідыума Рады БНР. Арыштаваны польскімі ўладамі. Пасля вызвалення перабраўся ў Коўна. У пачатку 1921 прыехаў у Мінск дзеля каардынацыі падпольнай дзейнасці ў Зах. Беларусі. Арыштаваны ў сак. 1921, прывезены ў Маскву. У крас. 1921 высланы ў Казань, адкуль уцёк у

Коўна. У канцы 1922 выехаў у Чэхаславакію. У час 2-й Усебеларускай канферэнцыі 1925 у Берліне выступіў супраць роспуску ўрада БНР і пакінуў канферэнцыю. У 1928 жыў у Рызе. У вер. 1928 прыехаў у СССР; 11.9.1928 арыштаваны ДПУ БССР на станцыі Бігосава; адпраўлены ў Маскву. 3.1.1929 пастановай Калегіі АДПУ СССР прыгавораны да 10 гадоў лагераў. 2.9.1937 пастановай «тройкі» НКВД Комі АССР прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны пракуратурай Комі АССР 12.4.1989, Генеральнай пракуратурай Расіі 25.3.1993.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МАМЧЫЦ Мікалай Мікалаевіч** [1899, Мінск — ?], педагог. У 1923—24 вучыўся ў БДУ. Працаваў інспектарам школ у Калінінскай акрузе (да 1927), у Полацку. У 1929 працаваў у апараце Наркамата асветы БССР, вучыўся на педагагічным факультэце БДУ. Арыштаваны ДПУ БССР 20.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны 10.4.1931 на 5 гадоў высылкі. Пакаранне адбываў у Яранску Кіраўскай вобл. Паўторна асуджаны 31.7.1935 на 2 гады лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 19.9.1960.

Кр.: *НАРБ, ІКР*.

**МАНЦЭВІЧ Міхаіл Антонавіч** [1858, мяст. Ражаны Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер г.п. Ружаны Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. — 17.5.1930, Варшава], рэвалюцыйны дзеяч, публіцыст, мемуарыст. З 1879 вучыўся ў Варшаўскім ун-це, дзе далучыўся да польскага сацыялістычнага руху. Уваходзіў у дапаможныя арганізацыі партыі «Пралетарыят» — «Чырвоны крыж» і «Баявая дружына». З восені 1884 член ЦК партыі «Пралетарыят»; выдаваў газ. «Пралетарыят». Арыштаваны царскімі ўладамі ў вер. 1885; у 1887 сасланы на 5 гадоў ва Усх. Сібір. У 1892 пасля вызвалення пасяліўся ў Смаленску, дзе восенню 1893 па даручэнні Ю.Пілсудскага ўступіў у арганізацыю «Народнае права» як прадстаўнік ППС. Зноў арыштаваны ў 1894 і да 1902 знаходзіўся ў зняволенні і ў ссылцы. У 1905—07 працаваў на чыгунцы ў Гродне і Вільні. З 1919 жыў у Варшаве. Адышоў ад грамадска-паліт. дзейнасці. Пакінуў успаміны.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МАНЦЭВІЧ Фларыян Данатавіч** [псеўданім: Якім Пярэчка; 1890, мяст. Іказнь Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл. — 30.7.1941, Віцебшчына], грамадскі дзеяч, педагог, публіцыст. У 1910 скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам у Дзвінскім пав.

Публікаваўся ў газ. «Наша ніва». Збіраў бел. песенны і музычны фальклор. У 1-ю сусветную вайну санітар пры ваенных шпіталях. З 1917 на Дзісеншчыне арганізоўваў школьнае навучанне. Пасля вер. 1939 у мяст. Друя ўзначальваў курсы па перападрыхтоўцы настаўнікаў бел. школ. Дэпутат Народнага сходу Зах. Беларусі (28—30.10.1939, Беласток). З 1940 настаўнік у в. Малая Кавалеўшчына Міёрскага р-на. У пачатку нямецкай акупацыі арыштаваны гітлераўцамі і пасля катаванняў расстраляны.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МАРАКОЎ Валерый Дзмітрыевіч** [псеўданімы: В.Армак (разам з А.Мардвілкам); В.Армар (з А.Мардвілкам); В.Бор; крыптанімы: С.Ш. і В.М. (з С.Шушкевічам); 14(27).3.1909, мяст. Козырава Мінскага пав., цяпер у межах Мінска — 29.10.1937, Мінск, НКВД], паэт, перакладчык. Старэйшы сын Дз.Маракова, брат Л. і У. Мараковых. У час 1-й сусветнай вайны ў бежанстве ў Мцэнску (Расія) і Ромнах (Украіна). У 1924 скончыў 4-ю Мінскую сямігодку і да канца 1925 працаваў мулярам разам з бацькам. З чэрв. ў друку пачалі з'яўляцца яго першыя вершы («Чырвоная змена», «Малады араты» і інш.). У снеж. па пастанове ЦБ юных піянераў і пры спрыянні А.Якімовіча прызначаны сакратаром рэдакцыі час. «Піянер Беларусі». Належаў да «друго-

га прызыву» (1926) маладнякоўцаў, да якіх яго прывёў І.Барашка. У канцы 1926 пэўны час (па запрашэнні А.Звонака) жыў у Полацку, друкаваўся ў газ. «Чырвоная Полаччына». Першы зборнік вершаў выйшаў у 1926. Другі («Пасля якога яго заўважыў і акрыліў бацькоўскай ласкай Я.Купала». — С.Шушкевіч) — у 1927. У тым самым годзе паступіў у МБПТ, але пасля двух курсаў адкліка괠ны з вучобы і прызначаны загадчыкам літаратурнага аддзела газ. «Савецкая Беларусь», дзе працаваў з перапынкам да канца 1930. М.Гарэцкі ў той час пра М. пісаў: «Маракоў вызначаецца лірычнасцю, эмацыйнай напружанасцю, гучальнасцю сваіх вершаў. У яго шмат пачуцця, ён любіць яскравыя фарбы і гучанне». У 1931 паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне МВПІ (скончыў у 1934). Адначасова працаваў у час. «Чырвоная Беларусь». Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1934. У пачатку 1935, спрабуючы пазбегнуць арышту, паехаў у мяст. Чэрнеўка Барысаўскага р-на. 1 сак. вярнуўся дадому. Праз 3 тыдні арыштаваны органамі Дзяржбяспекі. Пасля 3 месяцаў знаходжання ва ўнутранай турме НКВД вызвалены. Паўторна арыштаваны 6.11.1936. Пасля года катаванняў знявечанага М. выязная сесія ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда СССР прыгаварыла да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці. 29.10.1937 разам з 22 іншымі бел. літаратарамі расстраляны. Рэабілітаваны 23.4.1957.

Тв.: На залатым пакосе: Вершы. Мн., 1927; Вяршыні жаданняў. Паэзія. Мн., 1930; Права на зброю: Вершы. Мн., 1933; Лірыка. Мн., 1959; Вяршыні жаданняў: Вершы, паэмы. Мн., 1989.

Літ.: *Рагойша В.* Сердце, согретое грустью // *Вопросы литературы.* 1990. № 6; *Пруднікаў П.* Паэт эмоцый // *Маладосць*. 1998. № 3; *Грахоўскі С.* Растоптаныя пялёсткі // Голас Радзімы.. 1998. 7 мая; *Звонак А.* З успамінаў аб В.Маракове // Першацвет. 1998. № 10-11; *Маракоў Л.* Валеры Маракоў: Лёс, хроніка, кантэкст. Мн., 1999.

**МАРАКОЎ Дзмітрый Захаравіч** [21.9.1880, в. Азяроўка Пскоўскай губ., цяпер Пскоўская вобл. — 18.11.1968, Мінск], удзельнік антыкамуністычнага руху, рэлігійны дзеяч. Бацька В., Л. і У. Мараковых. Паводле некаторых звестак, удзельнік руска-японскай вайны 1904—05, I Усебеларускага кангрэса (верагодна, як дэлегат ад бежанцаў або эсэраў). Па звестках С.Шушкевіча і П.Пруднікава, вуліца Вялікаморская, дзе М. паставіў (каля 1906—07) першы дом, спачатку мела назву *Марская*, а потым, калі яна пашырылася, была перайменавана ў Вялікаморскую. Адзін з арганізатараў (з епіскапам Мінска М.Семянякам і настаяцелямі Козыраўскай царквы У.Бірулям і І.Зенюком (цесцем паэта Я.Бобрыка) рэлігійнай антысавецкай арганізацыі ў мяст. Козырава (1933—35). У канцы сак. 1935 ў арганізацыю пранік правакатар і ў

пачатку крас. ўсе яе члены былі арыштаваны. 10.8.1935 М. і іншыя ўдзельнікі арганізацыі прызнаны «судом» вінаватымі ў тым, што: «пачынаючы з 1933 г., пасля прыезду ў Мінск М.Семянякі на пасаду епіскапа, у Козыраўскай царкве пачалі групавацца рэлігійныя, кулацкія і іншыя антысавецкія элементы, якія паставілі сабе за мэту, пад прыкрыццём царквы і выканання рэлігійных абрадаў, настройваць у антысавецкім духу насельніцтва горада і бліжэйшых раёнаў… Толькі пасля арышту гэтай контррэвалюцыйнай групы святароў прыпынілася распаўсюджванне правакацыйных чутак і пачаўся масавы прыліў людзей у калгасы». На працэсе 25 удзельнікаў арганізацыі прысудзілі да розных тэрмінаў зняволення. М. быў асуджаны на 5 гадоў канцлагераў. Пакаранне адбываў у Тайшэтлагу (працаваў на шахце ў Кісялёўску Кемераўскай вобл.). Вызвалены 29.7.1940, але ў сувязі з забаронай уезду ў Беларусь дадому вярнуўся толькі праз 12 гадоў. М. неаднаразова выклікалі ў НКВД-КДБ. Апошні раз дапытвалі ў 1960 (у 80 гадоў!). М. ні разу не атрымаў пенсіі, бо не меў дакументаў (НКВД згубіў іх і асабовую справу), якія б пацвердзілі яго працоўны стаж прыкладна з 1897— 98 г.

Літ.: *Шушкевіч С.* Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968; *Маракоў Л.* Валеры Маракоў: Лёс, хроніка, кантэкст. Мн., 1999; *Маракоў Л.* Знявечаныя жыцці // *Голас Радзімы.* 1999. 15—22 крас.

**МАРАКОЎ Леанід Дзмітрыевіч** [ліп. 1914, Мінск — 14.6.1943, мяст. Васілішкі Лідскага р-на Гродзенскай вобл.], педагог, удзельнік антыкамуністычнага руху. Сярэдні сын Дз.Маракова, брат В. і У. Мараковых. Пасля сканчэння на выдатна сямігодкі (1928), паступіў у МБПТ. Вучыўся разам з С.Астрэйкам, С.Гайкам, Ф.Гінтаўтам, У.Дудзіцкім, М.Кавылём, Л.Калюгам. Пасля адыходу з МБПТ на работу ў газ. «Савецкая Беларусь» (1929) старэйшага брата В.Маракова ўзяў на сябе кіраўніцтва студэнцкім літаратурна-мастацкім час. «Крыніца», лепшым у той час сярод студэнцкіх перыядычных выданняў у краіне. У канцы лют. 1930, калі арыштавалі групу студэнтаў тэхнікума, быў выключаны, але здолеў аднавіцца. Пасля сканчэння МБПТ (1931) накіраваны настаўнікам у Лагойскі р-н. Працаваў метадыстам, загадчыкам навучальнай часткі, дырэктарам школы, раённым школьным інспектарам. Вучыўся завочна ў МВПІ. Пасля арышту бацькі і старэйшага брата (1935) пераследаваўся ўладамі: яго звальнялі з працы, выклікалі на допыты ў НКВД. Каб быць далей ад нагляду органаў, пасяліўся ў Жлобіне. Там працаваў настаўнікам, завочна вучыўся ў Магілёўскім педагагічным інстытуце адразу на двух ф-тах: гістарычным і літаратурным. 22.6.1941 пайшоў на фронт. Удзельнічаў у баях на Украінскім фронце. У 1942 пад Краменчугом трапіў у палон. Пры этапіраванні ў Мінск уцёк. Вярнуўся да бацькоў. Атрымаўшы паруку У.Дудзіцкага, па-

чаў займацца грамадскай працай. Арганізаваў і кіраваў школай у Козыраве. Удзельнічаў у аднаўленні будынкаў горада (сярод памочнікаў быў Я.Кіпель з сынам В.Кіпелем), узначальваў раённую, потым гарадскую арганізацыю БНС. За нацыяналістычныя погляды звольнены немцамі з пасады і высланы (разам з кіраўніком БНС па Мінскай акрузе Ю.Саковічам і А.Змагаром) на Лідчыну. 13.6.1943 іх расстралялі ў спіну акаўцы. Ю.Саковіч разам з падлеткам, які выпадкова апынуўся каля яго, загінулі на месцы, а М. на наступны дзень памёр у бальніцы. Хутка іх забойцы былі выкрыты. Матэрыялы пра іх перадалі бел. грамадскаму дзеячу І.Кісламу. Праз тыдзень пасля іх атрымання і ён быў застрэлены акаўцамі. 27.6.1943 у Мінску адбылася паніхіда па забітых. Імшу правялі святары М.Лапіцкі, І.Кушнер і Н.Пыск. Пахаваны на праваслаўных могілках у Лідзе. Дакладнае месца пахавання невядома, бо пасля вайны бальшавіцкія ўлады зруйнавалі большасць магіл.

Кр.: *НАРБ,* Ф.908.

Літ.: *С.Хізма* [Адамовіч А.] Паніхіда па свежых ахвярах. // *Беларуская газэта*. 1943. 30 чэрв.; *В.В.* Чуе Беларусь… Памяці Леаніда Маракова // *Беларуская газэта*. 1943. 3 ліп.; Другі Усебеларускі кангрэс. *Пад рэд. праф. Р.Астроўскага*. 1954, с. 6; Лідская акруга падчас нямецкай акупацыі 1941 — 1944 г. // *Беларуская думка*. 1960. № 1; *Малецкі Я.* Пад знакам пагоні. Таронта. 1976, с. 59; *Ёрш С.* Вяртанне БНП. Асобы і дакументы Беларускай Незалежніцкай Партыі. Мн.; Слонім. 1998; *Маракоў Л.* Валеры Маракоў: Лёс, хроніка,

кантэкст. Мн., 1999; *Сазанавец Л.* Мадонна // *Arche*. 2000. № 9; *Змагар, Алесь*. Сцежкі-дарожкі // *Arche*. 2001. № 2. С. 80—81, 88; *Гардзіенка А.* Беларуская народная самапомач: ад пачаткаў да рэарганізацыі // *Спадчына*. 2002. №1.

**МАРАКОЎ Уладзімір Дзмітрыевіч** [паводле пашпарта 19.7.1924, паводле іншых звестак 19.7.1926, Мінск — 30.10.1971, Мінск], удзельнік антыкамуністычнага руху. Малодшы сын Дз.Маракова і брат В. і Л. Мараковых. У маленстве стаў сведкам вобыску супрацоўнікамі НКВД у бацькоўскай хаце, які праводзіўся ў сувязі з арыштам старэйшага брата В.Маракова. Падчас вобыску выцягнуў са стосу адкладзенай для вынасу літаратуры творы Дж.Байрана, што засталіся адзіным напамінам пра некалі вялікую сямейную бібліятэку. У канцы 1930 скончыў на выдатна сямігодку і паступіў у Мінскі аўтамеханічны (або — механічны; па іншых звестках — політэхнічны) тэхнікум. Не давучыўся ў сувязі з пачаткам 2-й сусветнай вайны. У канцы 1942 пад уплывам брата Л.Маракова ўступіў у БНС. Распрацоўваў антысавецкія плакаты і буклеты. З ліст. 1943 нам. Ф.Каплунова, кіраўніка мінскай гарадской маладзёжнай арганізацыі «Саюз беларускай моладзі». Адначасова працягваў вучобу, удзельнічаў у падрыхтоўцы антысавецкіх выданняў. 25.3.1944, у гадавіну БНР, атрымаў ад кіраўніка СБМ М.Ганько падзяку і павышэнне ў званні. 29 чэрв. вы-

ехаў разам з Р.Зыбайлам (па сведчанні Ф.Гінтаўта і Г.Рабковай, жонкі Л.Маракова, дзякуючы Р.Астроўскаму, якому аднойчы выратаваў жыццё; як, між іншым, і А.Калубовічу) у Катавіцэ (Польшча), потым у Берлін. Пасля сканчэння спецыяльных курсаў працаваў у «Службе інфармацыі». Ажаніўся. Але 24.8.1945, не вытрымаўшы тугі па Радзіме, вярнуўся дадому. Адчуваючы небяспеку, выехаў у Днепрадзяржынск (Украіна). Пры чарговым вобыску ў бацькоўскай хаце былі знойдзены лісты М. да маці, па якіх, верагодна, і вызначылі яго месцазнаходжанне. Арыштаваны 30.10.1946. Этапаваны ў Мінск. Пасля 6 месяцаў катаванняў 28.3.1947 асуджаны на 25 гадоў катаржных работ. Пакаранне адбываў у адным з нарыльскіх канцлагераў. Паводле некаторых звестак, удзельнічаў у паўстанні вязняў ГУЛАГа (1953). Пасля яго быў зноў катаваны, але выжыў. Вызваліўся ў 1956. Як сведчыў бацька на допыце ў КДБ (1960), дадому з лагера М. вярнуўся хворым (парушэнне псіхікі).

Літ.: *Маракоў Л.* Валеры Маракоў: Лёс, хроніка, кантэкст. Мн., 1999.

**МАРГЕЛАЎ Сцяпан Прохаравіч** [28.3.1902, в. Расохавічы Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. — 29.7.1937, Мінск, НКВД], эканаміст, географ. У 1927 скончыў Беларускую сельскагаспадар-

чую акадэмію, у 1930 — аспірантуру пры НДІ сельскай і лясной гаспадаркі. З 1931 працаваў у Інстытуце эканомікі БелАН: вучоны сакратар інстытута, загадчык секцыі эканамічнай геаграфіі. Адначасова выкладаў у Інстытуце народнай гаспадаркі, прафесар. Кандыдат эканамічных навук (1934). Стварaў тэорыю размяшчэння ў БССР тэхнічных сельскагаспадарчых культур і перапрацоўчай прамысловасці. Адзін з кіраўнікоў групы па складанні Вялікага атласа БССР. Арыштаваны 23.1.1937. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 28.10.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 19.7.1957.

Тв.: Да пытання аб рэсурсах Палесся БССР. Мн., 1933; Эканамічная геаграфія БССР. Мн., 1936 (у сааўт.).

Літ.: *Возвращенные имена*.

**МАРДВІЛКА Аркадзь Пятровіч** [псеўданімы: В.Армак (разам з В.Мараковым); В.Армар (разам з В.Мараковым); А.Вясковы; Аркадзь Лясны; крыптанімы: А.Л.; А.М.; А.М-ка; 24.8.1905, в. Языль Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Старадарожскі р-н Мінскай вобл. — 27.10.1986, Ташкент], лінгвіст, празаік, крытык, перакладчык. Падчас 1-й сусветнай вайны сям'я была ў бежанстве ва Уладзіміры. Там М. паступіў у гімназію. Вярнуўшыся ў Беларусь, працягнуў вучобу ў Слуцкай гімназіі. Першы верш апублікаваў у 1924, пасля выступаў як празаік і крытык.

Быў членам «Маладняка», потым БелАПП. У 1926—27 вучыўся на Фанетычных курсах новых моў у Ленінградзе; у 1927—29 на педагагічным ф-це БДУ; у 1929—30 на Вышэйшых курсах новых моў пры 2-м Маскоўскім дзяржаўным ун-це. З 1931 выкладаў англійскую мову ў Беларускім аўтадарожным інстытуце. Арыштаваны 15.5.1933; прыгавораны да 3 гадоў высылкі. Працаваў перакладчыкам англійскай тэхнічнай літаратуры ў тэхнічным аддзеле Масквавалгабуда. З 1935 жыў у Ташкенце. Выкладаў англійскую мову ў розных навучальных установах. У 1950 экстэрнам скончыў Сярэднеазіяцкі ун-т. У 1956 абараніў дысертацыю на ступень кандыдата філалагічных навук. Падрыхтаваў працы па методыцы выкладання англійскай мовы і рускай фразеалогіі. Перакладаў на рускую мову з англійскай і узбекскай. Пасля вымушанага перапынку ў 1930-х г. да творчасці па-беларуску ўжо не вярнуўся.

Тв.: Вялікае нараджэнне: Эскізы. Мн., 1932; Очерки по русской фразеологии. М., 1964; Как скорее усвоить значение английских слов. М., 1968.

Літ.: *БП*, т. 4; *Маракоў Л.* Шасцёра на фотаздымку // *Роднае слова*. 1999, № 6.

**МАРКС Максімілян Восіпавіч** [7(19).10.1816, Віцебск — 1893, Енісейск], удзельнік рэвалюцыйнага руху, даследчык Сібіры, мемуарыст, метэаро-

лаг. У 1834 скончыў Віцебскую гімназію; вучыўся ў Маскоўскім ун-це. З 1858 працаваў выкладчыкам у Смаленску, пазней у 4-й Маскоўскай гімназіі. У снеж. 1863 арыштаваны за сувязь з паўстанцамі; зняволены да лют. 1864 у Петрапаўлаўскай крэпасці. Выпушчаны пад нагляд паліцыі. Кіраваў адной з падпольных арганізацый у Маскве. Зноў арыштаваны ў 1866 па справе Д.Каракозава, які зрабіў няўдалы замах на Аляксандра II. 24.9.1866 пазбаўлены ўсіх правоў і сасланы ў Сібір. З 1868 жыў у Енісейску. Заснаваў там першую ў Сібіры метэастанцыю. Вымераў глыбіню і шырыню Енісея. Аўтар прац пра клімат Сібіры («Записки Императорской Академии наук», 1887, т. 55), нататак пра К.Касовіча («Русская старина», 1886, т. 52), М.Буташэвіча-Петрашэўскага («Русская старина», 1889, т. 62). Напісаў успаміны пра Віцебск 1820—30-х г. Член Рускага геаграфічнага таварыства. За навуковую дзейнасць у 1878 адзначаны залатым медалём таварыства. З-пад паліцэйскага нагляду вызвалены ў 1880.

Тв.: Записки старика: Витебск с 1821 по 1840 гг. // *Віцебскі сшытак*. № 1—3, 1995—1997.

Літ.: *А.Л.* Беларускі гутарнік Піліп Смуры // *Гадавік Беларускага навуковага таварыства ў Вільні*. Вільня, 1933; *Кісялёў Г.* Пошукі імя. Мн., 1978. С. 56—60; *Зайцаў М., Шчарбакоў С.* Гістарычныя замалёўкі віцябчаніна // *Помнікі гісторыі і культуры Беларусі*. 1984, № 3; *ЭГБ*, т. 5.

**МАРОЗ Міхаіл Іванавіч** [1.10.1895, мяст. Ка-

пыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер горад Мінскай вобл. — 1947], дзяржаўны дзеяч, педагог, выдавец. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю; настаўнічаў у сельскай школе. З 1916 у арміі. Удзельнік Кастрычніцкага ўзброенага паўстання 1917 у Петраградзе. У 1918—19 супрацоўнік бежанскага аддзела Белнацкама. З крас. 1919 выкладчык Камуністычнага ун-та ў Гомелі. З 1922 паўнамоцны прадстаўнік БССР у РСФСР; загадчык бел. сектара Камуністычнага ун-та нацыянальных меншасцей Захаду. У 1924—25 загадчык Белдзяржвыдавецтва ў Мінску. Друкаваўся ў газ. «Савецкая Беларусь». З 1926 кіраўнік спраў СНК БССР, старшыня камісіі Інбелкульта па ахове помнікаў старадаўнасці, мастацтва і прыроды, член гісторыка-археалагічнай секцыі Інбелкульта. Арыштаваны 3.11.1937; 3.12.1940 прыгавораны да зняволення ў лагерах, дзе і памёр.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МАРОЗАВА Ларыса Пятроўна** [псеўданімы: Леся Беларуска, Эриния; ?, Маладзечна — студз. 1948; лагер Эльген, Калыма], паэтэса. 22.5.1938 выйшла замуж за афіцэра НКВД Аляксея Марозава. У дзень вяселля была першы раз затрымана і дастаўлена ў НКВД. У канцы ліп. 1938 муж М. быў арыштаваны і расстраляны. Сама яна арыштава-

на ў студз. 1939. Знаходзілася ў зняволенні ў Магадане і ў лагеры Эльген. Працягвала пісаць. У лагеры рускамоўныя вершы разыходзіліся пад псеўданімам *Эриния* (багіня помсты і адплаты ў старажытных грэкаў); псеўданімам Леся Беларуска падпісвала толькі бел. вершы. Збірала лагерны фальклор. Шмат рукапісаў былі канфіскаваны падчас вобыскаў. Загінула ў зняволенні.

Тв.: Малітва да Калымы: Вершы // *Полымя*. 1997, № 2; Мой свет: Вершы // *Полымя*. 1999, № 3.

**МАРТЫНАЎ Аляксандр Самойлавіч** [псеўданім: Пікер; 12(24).12.1865, Пінск — 5.6.1935, Масква), удзельнік рэвалюцыйнага руху, публіцыст. З 1884 член партыі «Народная воля». У 1886 арыштаваны і сасланы на 10 гадоў у Сібір. У 1890-я г. далучыўся да сацыял-дэмакратычнага руху. Зноў арыштаваны ў 1900, пасля чаго эміграваў за мяжу. Супрацоўнічаў у час. «Рабочее дело». Адзін з ідэолагаў меншавізму. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адышоў ад меншавізму. З 1918 настаўнічаў на Украіне. З 1923 член РКП(б). Працаваў у Інстытуце К.Маркса і Ф.Энгельса. З 1924 член рэдкалегіі час. «Коммунистический Интернационал».

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МАРУК Іван Нічыпаравіч** [1903 — ?], жур-

наліст, рэдактар. Вучыўся ў БДУ. У 1929—30 працаваў ў Белдзяржвыдавецтве, потым ва Усебеларускім камітэце радыёвяшчання. У 1930 выключаны з ВКП(б) за падтрымку (разам з М.Гарэцкім, П.Ільючонкам і І.Цвікевічам) З.Жылуновіча падчас яго партыйнай чысткі. У 1931 высланы з Беларусі. Паводле ўспамінаў М.Улашчыка высылку адбываў у Вяцкай вобл. Далейшы лёс невядомы.

Літ.: *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000.

**МАРЦІНКЕВІЧ Каміла Вінцэнтаўна** [па мужу: Асіповіч; каля 1837, Мінск ? — пасля 1880, Вільня), музыкант, кампазітар, педагог. Дачка В. Дуніна-Марцінкевіча. Вучылася фартэпіяннай ігры ў Мінску. Выступала з канцэртамі ў Мінску, Слуцку, Кіеве, Варшаве. Уваходзіла ў тэатральную трупу бацькі; у 1852 брала ўдзел у паказе ў Мінску першай бел. оперы «Сялянка». У 1861—63 член мінскай арганізацыі кіраўнічага органа паўстанцаў Літоўскага правінцыяльнага камітэта. Першы раз была арыштавана і змешчана ў псіхіятрычную бальніцу ў чэрв. 1861. Зноў арыштавана 3.2.1863; саслана ў Салікамск (Пермская губ.). У ссылцы ўзяла шлюб з урачом К.Асіповічам. Вярнулася на Радзіму ў 1880-х г.

Літ.: *Кісялёў Г.* Сейбіты вечнага. Мн., 1963. С. 148—174; *Ахвердава А.* Пачынальнікі беларускага піянізму // *Мастацтва Беларусі*. 1985, № 2; *Барышев Г.* Из истории семьи В.И.Дунина-Марцинкевича // *Нёман*. 1961, № 1; *ЭГБ*, т. 5.

**МАРЦІНЧЫК Мікалай Міхайлавіч** [3(16).12.1901, в. Кубельнікі Гродзенскага пав., цяпер Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — 23.5.1980, Гродна], дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі, публіцыст, мемуарыст. У 1927 скончыў Віленскі ун-т. Падчас вучобы быў адным з кіраўнікоў Беларускага студэнцкага саюза. Рэдактар час. «Студэнцкая думка». У 1925 у Гданьску ўдзельнічаў ва ўстаноўчай канферэнцыі па стварэнні БСРГ. З 1925 сакратар, з 1934 нам. старшыні Галоўнай управы ТБШ. З 1927 выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі. Адначасова працаваў урачом у клініцы Віленскага ун-та. У 1927 і 1930 арыштоўваўся польскімі ўладамі; у 1931 высланы ў в. Нараўка Гайнаўскага пав. Беластоцкага ваяв. пад нагляд паліцыі. У 1930-я г. прэсай КП(б)Б і КПЗБ абвінавачваўся ў супрацоўніцтве з польскімі ўладамі, спробах звярнуць ТБШ са шляху нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Паступова адышоў ад грамадскай і паліт. дзейнасці. З 1944 галоўны ўрач інфекцыйнай бальніцы ў Гродне. Арыштаваны органамі МДБ у 1948; 12.3.1949 прыгавораны да 10 гадоў лагераў. Адпраўлены ў Варкуту; быў урачом у лагерным шпіталі. Рэ-

абілітаваны ў 1956. Вярнуўся ў Гродна; працаваў у абл. бальніцы. Напісаў успаміны.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МАСАЛЬСКІ Юзаф Ануфрыевіч** [Massalski; 1800, в. Белічаны Бярэзінскага р-на Мінскай вобл. — пасля 1840, Сібір], пісьменнік, дзеяч вызваленчага руху. Пісаў на польскай мове. Вучыўся ў Магілёўскай гімназіі; у 1818 скончыў Полацкую езуіцкую акадэмію, кандыдат філасофіі. Пасля жыў у Вільні. Служыў гувернёрам у Ю.Славацкага. Быў членам тайнага студэнцкага таварыства філаматаў. Па справе філаматаў арыштаваны ў 1823. Аўтар аповесці «Яцак» (1823), зборніка «Паэзія» (т. 1—2, 1827—28), у якіх пераважае бел. тэматыка. На вершы М. напісаныя песні, у тым ліку і С.Манюшкам. Браў удзел у паўстанні 1830—31, за што быў сасланы ў Сібір. Памёр у ссылцы.

Літ.: *PSB*.

**МАСКАЛІК Міхась** [18(31).3.1903, в. Гарадзея Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер г.п. Нясвіжскага р-на Мінскай вобл. — 25.9.1965, Гільдэсгайм, Германія], грэка-каталіцкі святар, крытык. У 1927—31 вучыўся ў Віленскім ун-це; з 1932 пра-

доўжыў вучобу ў Германіі. У 1933 заснаваў «Саюз беларускіх студэнтаў у Нямеччыне». У 1938 скончыў Калегіум св. Андрэя ў Мюнхене; пасвечаны ў святары 17.7.1938. На кароткі час вярнуўся ў Вільню. З 1939 духоўна апякаў бел. і ўкраінскіх ваеннапалонных польскай арміі ў Баварыі. У ліп. 1943 зняволены ў канцлагеры Заксенхаўзен; дзякуючы намаганням папскай місіі вызвалены ў крас. 1944. З 1945 жыў у Госляры; працягваў пастырскую дзейнасць сярод беларусаў і ўкраінцаў, выкладаў у бел. гімназіі. У 1947—52 быў кіраўніком Беларускага камітэта перасяленцаў. У 1959 абараніў дысертацыю на ступень доктара славянскай філалогіі; доктарская праца «Янка Купала — пясняр беларускага народа» была выдадзена на нямецкай мове ў 1961 як манаграфія.

Тв.: Janka Kupala. Der Sänger des weißruthenischen Volkstum. München. 1961.

Літ.: *Sakalouski Uladzimir*. Weißrußland und Deutschland: Geistes- und Kulturbeziehungen zwischen 1914 und 1941. Band 1: Bibliographiå. Köln;Weimar;Wein, 2000; Ajciec Maskalik doktaram filalohii // *Бацькаўшчына* (Мюнхен). 1959, 6 вер.; *Гарбінскі БРД*.

**МАСЛОЎСКАЯ Вера Ігнатаўна** [з 1927 Карчэўская; псеўданімы: Вера Мурашка; Беларуская Мурашка; 24.3.1896, в. Агароднічкі Беластоцкага пав.

Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв. Польшчы — 23.1.1981, Польшча], паэтэса, адна з пачынальніц жаночага руху ў Беларусі, педагог. Скончыла Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. У 1917 у в. Грабавец (цяпер Шчучынскі р-н) стварыла адну з першых нацыянальных школ. У 1919 вучылася на Першых беларускіх настаўніцкіх курсах у Вільні. Член партыі бел. эсэраў. Падчас польскай акупацыі ў 1920 настаўнічала ў в. Карма Ігуменскага пав. Адна з заснавальніц і старшыня Цэнтральнага саюза беларусак, створанага вясной 1920 у Мінску. Працавала інструктарам бел. аддзела Наркамата асветы БССР. Удзельнічала ў стварэнні эсэраўскай падпольнай паўстанцкай арганізацыі на Гродзеншчыне. Арыштавана польскімі ўладамі ў сак. 1922; на «працэсе 45-і» ў Беластоку прыгаворана да 6 гадоў зняволення. З 1939 працавала настаўніцай у вёсках Гродзеншчыны і Беласточчыны. Яе вершы публікаваліся ў газ. «Беларусь» (Мінск), «Ніва» (Беласток), «Родны край» (Гродна), у «Беларускім календары» (Вільня).

Літ.: *Туронак Ю*. Непакорная Вера // *Беларускі каляндар*. Беласток, 1990; *Кекелева Т*. «О, як мне балела душа!» // *Беларусь*. 1996, № 7; *ЭГБ*, т. 5.

**МАСЛОЎСКІ Мікалай Паўлавіч** [5.9.1905, в. Ялоўка Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Смалявіцкі р-н Мінскай вобл. — 27.11.1938, Мінск,

НКВД], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, публіцыст. З 1922 працаваў на чыгунцы. З 1926 — сакратар Смалявіцкага і Капыльскага райкамаў, з 1929 — Мінскага акруговага камітэта ЛКСМБ. З ліп. 1930 на падпольнай рабоце ў Зах. Беларусі. 1-ы сакратар КСМЗБ, з 1934 член Сакратарыята ЦК КПЗБ. У крас. 1935 вярнуўся ў Мінск, да канца 1936 працаваў у прадстаўніцтве ЦК КПЗБ ў Мінску. Арыштаваны 29.12.1937; 12.4.1938 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 4.2.1956.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МАТУЛАЙЦІС Кацярына Станіславаўна** [5.1.1900, Вільня — 29.11.1938, Мінск, НКВД], гісторык. Дачка С.Матулайціса, жонка сакратара ЦК КПЛ К.Пажэлы, расстралянага ў 1927 у Літве. З 1933 працавала старшым навуковым супрацоўнікам у Камісіі па вывучэнні Зах. Беларусі БелАН. У 1935—37 у Інстытуце нацыянальных меншасцей і ў Інстытуце гісторыі. Арыштавана 9.8.1937. 12.4.1938 прыгаворана да расстрэлу. Рэабілітавана 8.12.1956.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**МАТУЛАЙЦІС Стасіс Юргевіч** [12.10.1866, в. Сцябулішкі Марыямпальскага пав., цяпер Капсу-

касскі р-н, Літва — 10.4.1956, Вільня], гісторык, рэдактар, паэт, медык. У 1891 скончыў медыцынскі ф-т Маскоўскага ун-та. Адзін з заснавальнікаў у 1896 Сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы. Арыштаваны ў 1898 і сасланы на 3 гады ў Валагодскую губ. У руска-японскую вайну 1904—05 ваенны ўрач. У 1906—07 разам з В.Міцкявічусам-Капсукасам выдаваў у Вільні газ. «Naujoji gadynė». З 1908 займаўся медыцынскай практыкай. У 1917 рэдагаваў у Маскве літоўскую газ. «Socialdemokratas». З 1917 член РКП(б). З 1918 у Вільні, рэдагаваў газ. «Tiesa». З 1920 працаваў урачом; выкладаў у Марыямпальскай гімназіі. У 1925 пераехаў у Мінск. З 1927 кіраўнік літоўскага сектара Інбелкульта, з 1928 акадэмік БелАН, з 1929 загадчык кафедры гісторыі, з 1931 дырэктар Інстытута гісторыі, з 1935 дырэктар Інстытута нацыянальных меншасцей БелАН. Доктар гістарычных навук (1934). Даследаваў гісторыю паўстання 1863—64 у Літве і літоўскага нацыянальнага руху. У жн. 1937 выключаны з ВКП(б); арыштаваны 17.2.1937. Рашэннем Асобай нарады пры НКВД СССР ад 15.8.1939 прыгавораны да высылкі ў Казахстан тэрмінам на 5 гадоў. Вярнуўся ў Вільню ў канцы 1945; працаваў у Інстытуце гісторыі АН Літвы. Рэабілітаваны 20.5.1957.

Тв.: 1863 год у Літве. Ч. 1. Мн., 1933.

Літ.: *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 5.

**МАТУСЕВІЧ Мітрафан Рыгоравіч** [4(16).12.1900, в. Чарневічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 30.9.1975, Мінск], эканаміст, гісторык. У 1930 скончыў БДУ. З 1932 працаваў у Інстытуце эканомікі БелАН. У 1934—38 нам. дырэктара Аддзела падрыхтоўкі кадраў БелАН, вучоны сакратар Інстытута эканомікі. Кандыдат гістарычных навук (1936). Арыштаваны 30.7.1938; зняволены. Рэабілітаваны ў 1955. У 1955—71 загадчык сектара Інстытута эканомікі. Даследаваў эканамічную гісторыю Беларусі.

Тв.: Асноўныя этапы развіцця прамысловасці БССР. Мн., 1937 (разам з С.М.Малініным); Экономика Белоруссии в эпоху империализма, 1900—1917. Мн., 1963 (у сааўтарстве); Экономика Советской Белоруссии, 1917—1967. Мн., 1967 (у сааўтарстве); Социально-экономические преобразования в БССР в годы Советской власти. Мн., 1970; Развитие экономики Белоруссии в 1921—1927 гг. Мн., 1973 (у сааўтарстве).

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МАЦЮКЕВІЧ Іосіф Ігнатавіч** [26.9.1890, в. Гернікі Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 16.9.1938, Мінск, НКВД], лінгвіст. Скончыў БДУ. З кастр. 1930 вучоны сакратар, з ліп. намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства БелАН. Прымаў удзел у падрыхтоўцы рэформы бел. правапісу. Арыштаваны ДПУ БССР

31.10.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Пастановай пазасудовага органа ад 9.1.1934 зняволены ў лагерах на 5 гадоў. 2.7.1938 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгавораны да расстрэлу. Расстраляны ў Мінску. Па першым прыгаворы рэабілітаваны 16.8.1956; па другім — 21.11.1956.

Літ.: *Возвращенные имена*; *Спадчына*. 2001, № 3. С. 46—47.

**МАШАРА Міхась** [Міхаіл Антонавіч; псеўданімы: С.Антонаў; М.Каліна, Міх.Каліна, Міхась Каліна; М.Машарак; крыптанім: М.М.; 5(18).11.1902, хутар Падсосна Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Шаркоўшчынскі р-н Віцебскай вобл. — 7.6.1976, Мінск], паэт, празаік, драматург, перакладчык. У 1915–18 вучыўся ў працоўнай школе ў Глыбокім. Быў арыштаваны польскімі ўладамі, але адпушчаны як непаўналетні. З вясны 1920 у Чырвонай Арміі; удзельнічаў у баях у Польшчы. Часць, у якой знаходзіўся М., была інтэрнавана ў Германіі. 11 месяцаў М. знаходзіўся ў лагеры Зальцведаль у Саксоніі. Пасля падпісання Рыжскай дамовы перададзены Польшчы; 8 месяцаў правёў у прафілактычным лагеры «Шчыпёрна». У 1923—25 служыў у польскай арміі. Пасля дэмабілізацыі арганізоўваў гурткі БСРГ у родных мясцінах. У 1927 рэдагаваў у Вільні газ. «Наша воля». Арыштаваны ў 1928; зняволены ў віленскай

турме Лукішкі. Друкавацца пачаў у 1927. Вершы, напісаныя падчас зняволення, З.Верас тайна вынесла і ў 1928 выдала асобным зборнікам «Малюнкі», які стаў першай кнігай паэта. Зборнік «З-пад стрэх саламяных» (1937) канфіскаваны польскай адміністрацыяй; рукапіс зборніка «З ваколіц Сініх Балот» не быў надрукаваны. З канца 1939 кіраваў аддзелам народнай асветы Шаркоўшчынскага р-на. Член СП Беларусі з 1940. Падчас вайны працаваў у газ. «Звязда», «Савецкая Беларусь», «Партызанскае слова», на радыё. Пасля вайны жыў у Мінску, працаваў у час. «Полымя» (1945—47), «Настаўніцкай газеце» (1947—49). У 1960—70 г. выступаў пераважна як празаік. Пераклаў на бел. мову творы П.Бажова, М.Гогаля, Г.Сянкевіча.

Тв.: На сонечны бераг! Вільня, 1934; Напрадвесьні. Вільня, 1935; Выбр. лірыка. Мн., 1945; Выбр. тв. Мн., 1958; Мая азёрная краіна: Выбр. Мн., 1962; Крэсы змагаюцца: Раман-хроніка. Мн., 1966; Сонца за кратамі: Раман-хроніка. Мн., 1968; Лукішкі: Раман-хроніка. Мн., 1970; Старонкі летапісу: Кніга ўспамінаў. Мн., 1975.

Літ.: *Ваданосаў М.* Сэнс жыцця — змаганне // *ЛіМ*. 1974, 27 снеж.; *Паўлюкоўскі І.* З кагорты змагароў // *ЛіМ*. 1977, 18 ліст.; *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 5.

**МАШЫНСКАЯ-ГЕЛЬТМАН Ядвіга Уладзіславаўна** [16.7.1886, мяст. Глуск Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Глуск Магілёўскай

вобл. — 7.5.1946, пас. Тайнча, Казахстан], паэтэса, перакладчыца, педагог. У 1904—07 вучылася ў Ягелонскім ун-це (Кракаў). Удзельнічала ў польскім рэвалюцыйным руху — член маладзёжнай арганізацыі «Spójnia». У тыя ж гады пачала пісаць вершы, з якіх апублікавала толькі адзін у мінскай польскамоўнай газ. «Polska prawda». У 1917—18 была членам управы Польскага сацыялістычнага аб'яднання ў Мінску. У 1924—31 выкладала ў Польскім педтэхнікуме ў Мінску, Камуністычным ун-це Беларусі. У 1932—37 у Ваеннай акадэміі імя М.Фрунзе ў Маскве. Член СП Беларусі з 1934. Друкавалася ў польскамоўнай газ. «Orka», якая выходзіла ў Мінску. Перакладала на польскую мову творы Я.Купалы, Я.Коласа, З.Бядулі, Ц.Гартнага, А.Александровіча. Аўтар падручнікаў для польскіх школ Беларусі. Пасля арышту мужа — грамадскага дзеяча Стэфана Гельтмана — была таксама арыштавана ў 1937. Саслана ў лагеры ў Казахстане. З 1943 там на пасяленні: с. Баравое, Багаслоўка, пас. Тайнча. Дасылала з ссылкі сыну лісты і лірычныя вершы (апублікаваны ў час. «Нёман». 1988, № 9). Памерла ў ссылцы.

Літ.: *Гапава В.* З перакладам і вершам у страі // *Голас Радзімы*. 1966, № 30; *Звязда*. 1966, 16 ліп.; *Гельтман В.* Поэт и переводчик // *Неман*. 1972, № 1; *Касперович Э.* Колыбельная // *Нёман*. 1988, № 9; *Мальдзіс А.* Імя, вартае памяці // *ЛіМ*. 1966, 15 ліп.; *БП*, т. 4.

**МЕЛЬНІК Сцяпан Паўлавіч** [13.8.1883, в. Засулле Лохвіцкага р-на Палтаўскай вобл., Украіна — 28.6.1938, Мінск, НКВД], батанік. У 1911 скончыў Пецярбургскі лясны інстытут. У 1914—19 выкладаў у Харкаўскім інстытуце сельскай і лясной гаспадаркі. З 1923 прафесар кафедры агульнай лесагадоўлі Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. У 1926—30 дырэктар Цэнтральнай лясной даследчай станцыі БССР. У 1933—38 дырэктар Батанічнага сада АН БССР. Доктар біялагічных навук (1935), член-карэспандэнт АН БССР (1936). Праводзіў тыпалагічнае вывучэнне лясоў Беларусі, даследаванне паркаў, даў класіфікацыю лясоў Беларусі. Арыштаваны 28.2.1938. У чэрв. 1938 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 9.8.1957.

Тв.: Таблицы для определения главнейших деревьев и кустарников. Горы-Горки, 1925; Лесо-фенологические наблюдения. Горы-Горки, 1928.

Літ.: *Юркевич И.Д., Чекалинская Н.И.* Основатель Ботанического сада АН БССР // *Ботаника*. Вып. 11. Мн., 1969; *Возвращенные имена*.

**МЕЛХІСЕДЭК** [свецкае імя: Паеўскі Міхаіл Львовіч; вер. 1878, с. Вітулін Канстанцінаўскага пав. Седлецкай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 17.5.1931, Масква], праваслаўны свя-

тар, царкоўны дзеяч. У 1904 скончыў Казанскую духоўную акадэмію, у 1904—05 выкладаў у Магілёўскай духоўнай семінарыі. У 1905—07 настаяцель Магілёўскага брацкага манастыра, у 1907—14 — Бялыніцкага і Херсонскага Уладзімірскага манастыроў. З 1906 сябра Магілёўскага царкоўна-праваслаўнага Богаяўленскага брацтва. З 1914 епіскап Таўрычаскі, архіепіскап Астраханскі. З 1919 вікарны епіскап Слуцкі, епіскап Мінскі і Тураўскі. Выступіў супраць абнаўленцаў, якія стварылі Беларускую аўтаномную праваслаўную царкву. М. стаў прыхільнікам стварэння Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У маі — чэрв. 1922 выклікаўся ў ДПУ з мэтай схіліць да супрацоўніцтва з абнаўленцамі. Адзін з ініцыятараў склікання 10.7.1922 сходу бел. праваслаўнага духавенства. З ліп. 1922 мітрапаліт Мінскі і Беларускі. З 1.6.1924 знаходзіўся пад следствам; абвінавачаны ва ўтойванні царкоўнай маёмасці. Арыштаваны ў 1925 і на адкрытым судовым працэсе ў Мінску 17.8.1925 прыгавораны да 3 гадоў зняволення ўмоўна. Зноў арыштаваны ў канцы ліст. 1925 у Маскве і сасланы на пасяленне ў Краснаярскі край. З 1927 архіепіскап Краснаярскі. Меў намер вярнуцца ў Беларусь. Затрыманы 23.5.1927; вызвалены 17.9.1927 з падпіскай аб нявыездзе. У 1930 выкліканы ў Маскву на Сінод Рускай праваслаўнай царквы. Раптоўна памёр у Дарагамілаўскім саборы.

Літ.: *Мартос А.* Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Мн., 1990. С. 259—262; *Процька Т.* Пакутнік за веру і бацькаўшчыну. Мн., 1996; *Гарбінскі БРД*; *ЭГБ*, т. 5.

**МЕРТЭНС Станіслаў Адамавіч** [псеўданім: Стэфан Скульскі; 3.5.1892, Лодзь, Польшча — жн. 1937, Мінск, НКВД], дзеяч рэвалюцыйнага руху, публіцыст. Член СДКПіЛ з 1909. Быў зняволены ў 1913—14. Член РКП(б) з 1918. Старшыня павятовага камітэта РКП(б) у Мсціславе ў 1918. З 1919 у Чырвонай Арміі. У 1920 нам. старшыні Смаленскага губвыканкама; потым у часовым польскім рэўкаме ў Беластоку. У 1921 наркам унутраных спраў БССР. З канца 1921 на нелегальнай рабоце ў Польшчы. Член КПП з 1921. Адзін з арганізатараў КПЗБ і Мінскай школы КПЗБ. У 1923—25 упаўнаважаны ЦК КПП пры ЦК КПЗБ. Арыштаваны ў кастр. 1925. У выніку абмену палітвязнямі са студз. 1928 у СССР. У 1934—35 прадстаўнік ЦК КПЗБ пры ЦК КП[б]Б. Аўтар многіх дакументаў КПЗБ, брашур і артыкулаў. У 1935 пад рэдакцыяй М. выйшаў зборнік артыкулаў «Палітычныя партыі ў Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне». Арыштаваны ў 1937 і расстраляны. Рэабілітаваны.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МІКУЛІЧ Барыс Міхайлавіч** [псеўданімы: Б.Міхайлаў; Барыс М.; крыптанімы: Б.М.; БаМ; Б.М-ч; М.Б.; 6(19).8.1912, Бабруйск — 17.6.1954, с. Машукоўка Краснаярскага краю), празаік, крытык. Пачаў публікавацца з 1927 (час. «Маладняк»). З 1928 член бабруйскай філіі «Маладняка». З 1929 працаваў у бабруйскай газ. «Камуніст». У 1930 пераехаў у Мінск. Працаваў карэктарам у Дзяржвыдавецтве БССР; стыльрэдактарам, адказным сакратаром у газ. «Літаратура і мастацтва». Потым зноў вярнуўся у выдавецтва на пасаду рэдактара. У 1930 вучыўся на творчым аддзяленні МВПІ; у 1934—35 на літаратурных курсах у Маскве. Член СП Беларусі з 1934. У 1936 чытаў курс гісторыі літаратурных жанраў і гісторыі нарыса ў Інстытуце журналістыкі (Мінск). Да 1936 выдаў 7 мастацкіх кніг. Арыштаваны 26.11.1936. Асуджаны на 10 гадоў зняволення. У 1937 пераведзены ў Марыінск Новасібірскай вобл., у 1938 — у Рашоты Краснаярскага краю. У 1943 пераведзены ў катэгорыю ссыльных. Пасля вызвалення ў 1946 пераехаў у Ашхабад да старэйшай сястры Кацярыны, нягледзячы на тое, што яму было забаронена жыць у сталіцах. У 1947 вярнуўся ў Беларусь. Жыў у Бабруйску, на Лагойшчыне. У 1947—49 працаваў у бабруйскай бібліятэцы. Звярнуўся да гістарычнай тэматыкі, падрыхтаваў аповесць пра М.Багдановіча. Актыўна пісаў, але ягоныя творы не публікаваліся. Арыштаваны паўторна 28.4.1949, высланы ў

Сібір. Жыў у сяле Машукоўка Краснаярскага краю, дзе і памёр. Рэабілітаваны праз тры месяцы пасля смерці.

Тв.: Выбранае. Мн., 1959; Аповесці. Мн., 1985; Палеская аповесць: Аповесці, апавяданні. Мн., 1991; Аповесць для сябе. Мн., 1993.

Літ.: *Бугаёў Д*. Станаўленне мастака // *Бугаёў Д*. Шматграннасць. Мн., 1970; *Грахоўскі С*. Слова пра друга // *ЛіМ*. 1962, 31 жн.; *Яго* ж. Так і застаўся маладым... // *Грахоўскі С*. Так і было. Мн., 1986; *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 5.

**МІЛЕР Саламон Танхелевіч** [партыйныя псеўданімы: Шлёмка; Партыец; творчы псеўданім: І.Р.Валевіч; 10(22).12.1889, мяст. Кнышын Беластоцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер горад Падляшскага ваяв., Польшча — 1.9.1937, Омск ?], дзеяч рэвалюцыйнага руху, публіцыст. Падчас рэвалюцыі 1905—07 камандзір атрада самаабароны ў Беластоку. Потым служыў у арміі. За арганізацыю салдацкага бунту ў 1910 арыштаваны. Уцёк з турмы. Эміграваў у ЗША, дзе ўдзельнічаў у прафсаюзным руху. Вярнуўся ў Расію пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917. Быў у Чырвонай гвардыі, потым у Чырвонай Арміі. У 1919 уступіў у РКП(б), загадваў секцыяй па рабоце сярод яўрэйскага насельніцтва Смаленскага гаркама РКП(б). У 1920 узначальваў Мінскі падпольны камітэт КП(б)Б. З 1921

на падпольнай рабоце ў Зах. Беларусі. З 1923 член ЦК, з 1926 член Бюро ЦК КПЗБ. У 1932—33 узначальваў Краявы сакратарыят ЦК КПЗБ. З 1933 у БССР, сакратар Бабруйскага райкама КП(б)Б. З 1936 у Омску на партыйнай і гаспадарчай рабоце. У атмасферы цкаванняў скончыў жыццё самагубствам.

Тв.: Першыя гады Кампартыі Заходняй Беларусі. Мн., 1935.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МІНЕЙКА Зыгмунт** [Mineyko Zygmunt, сапр.: Мінейка-Газдава Сігізмунд Станіслававіч; псеўданім: Баравы; 1840, в. Балванішкі Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер в. Зялёны Бор Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл. — 27.12.1925, Грэцыя], удзельнік паўстання 1863 — 64, мемуарыст. У 1863 ваяваў у атрадзе М.Лянгевіча, паўстанцкі ваенны начальнік Ашмянскага пав. 3.6.1863 яго атрад быў разбіты пад Расолішкамі. М. трапіў у палон; асуджаны царскімі ўладамі на 12 гадоў катаргі. Адпраўлены ў Сібір. Адзін з кіраўнікоў арганізацыі ссыльных. У 1865 уцёк за мяжу. У 1868 скончыў Акадэмію Генштаба ў Парыжы. З 1891 у Грэцыі; удзельнічаў у вайне з Турцыяй за Крыт. Ганаровы грамадзянін Грэцыі. Напісаў успаміны.

Тв.: Z tajgi pod Akropol: Wspomnienia z lat 1848—1868. Warszawa, 1971.

Літ.: *Клейн Б.* Фамильный портрет // *Клейн Б.* Время выбора. Мн., 1987; *Орлов В.* Почетный гражданин Эллады // *Дело (Восток + Запад).* 1995, № 5; *PSB*; *ЭГБ*, т. 5.

**МІНІН Яўхім Сямёнавіч** [8.10.1894 або 21.10.1897, Віцебск — 29.12.1937, Віцебск ?, НКВД], графік. У 1916—18 вучыўся ў Політэхнічным інстытуце ў Петраградзе; у 1920—21 у школе-майстэрні Ю.Пэна. У 1920—37 выкладаў у Віцебскім мастацкім вучылішчы. Працаваў пераважна ў тэхніцы дрэварыта. З 1925 удзельнічаў у мастацкіх выставах. Стварыў шмат краявідаў Віцебска, партрэтаў, экслібрысаў. Сярод твораў: серыі дрэварытаў «Стары Віцебск» (1926—28), «Помнікі драўлянага дойлідства Беларусі» (1927—28), «Вайна» (1932), партрэты старога (1928), Гамера (1935), серыя акварэлей «Віцебск» (1932), жывапіснае палатно «Цэх Віцебскай фабрыкі акуляраў» (1935). Экслібрысы М. экспанаваліся на выстаўцы Міжнароднага таварыства кніжнага знака (1928, Лос-Анджэлес). Арыштаваны і расстраляны ў 1937. Рэабілітаваны ў 1958.

Літ.: *Шматаў В.Ф.* Беларуская графіка 1917—1941 гг. Мн., 1975; *ЭГБ*, т. 5.

**МІСКО Якуб Герасімавіч** [псеўданім: Асот; 1.6.1911, в. Чамяры Слонімскага пав. Гродзенскай

губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 23.10.1981, Мінск], празаік, публіцыст, журналіст, паэт, перакладчык, крытык. У 1925—28 вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, адкуль выключаны за ўдзел у рэвалюцыйным руху. Друкавацца пачаў у 1926 (у падпольным часопісе вучняў гімназіі «Наперад»). Публікаваўся ў польскіх газетах. У 1932—34 працаваў у галоўным сакратарыяце арганізацыі «Змаганне»; у 1933—34 у рэдакцыі віленскай «Беларускай газеты» (легальнае выданне КПЗБ). На працягу 1930-х г. неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі, некалькі гадоў правёў у турмах. У ліст. 1939 разам з братам арыштаваны НКВД. Вызвалены пасля ўмяшання П.Панамарэнкі. У 1940—41 літсупрацоўнік лідскай раённай газ. «Уперад». Падчас Вялікай Айчыннай вайны на фронце; дэмабілізаваўся ў званні маёра. У 1948—49 вучыўся ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце. У 1947—76 працаваў у «Сельской газете»; у 1976—81 у час. «Коммунист Белоруссии». Член Саюза журналістаў Беларусі з 1958. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1967). Аўтар успамінаў пра вызваленчую барацьбу ў Зах. Беларусі; пісаў водгукі і рэцэнзіі на кнігі М.Танка, Я.Брыля, А.Адамовіча, М.Машары, В.Казько і інш. Перакладаў з польскай, украінскай, рускай моў. Пахаваны на Паўн. могілках Мінска.

Тв.: Маё маўклівае сэрца: З літаратурнай спадчыны. Мн., 1983; Было яно калісьці: Дакументальная аповесць // *Маладосць*. 1980, № 9.

Літ.: *Башлакоў М.* Рэха ўдзячнай памяці: Старонкі ўспамінаў // *Беларусь*. 1984, № 4; *Цітовіч Г.* Паклон даўняму сябру // *ЛіМ*. 1981, 12 чэрв.; *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 5.

**МІЦКЕВІЧ Адам** [24.12.1798, фальварак Завоссе Навагрудскага пав. Літоўскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 26.11.1855, Стамбул, Турцыя], паэт, публіцыст, асветнік. Пісаў на польскай мове. Паходзіў з шляхецкага роду Рымвідаў-Міцкевічаў герба «Порай». У 1815 скончыў Навагрудскую дамініканскую школу; у 1819 Віленскі ун-т. Падчас вучобы ва ун-це быў адным з лідэраў тайных студэнцкіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў. У 1819 накіраваны на выкладчыцкую працу ў Коўна. У 1823 тайныя таварыствы былі выкрытыя; арыштавалі таксама М., які правёў у зняволенні некалькі месяцаў. У кастр. 1824 М. было загадана пакінуць родныя мясціны. Пад тайным наглядам паліцыі жыў у Пецярбургу, Адэсе, Маскве. У маі 1829 пакінуў Расію раней, чым быў падпісаны загад цара пра забарону выезду. Жыў у Рыме, Швейцарыі. Атрымаўшы паведамленне пра паўстанне, спрабаваў выехаць на Радзіму. Ужо ў Познані даведаўся пра паражэнне паўстання. З 1832 у Парыжы. Разам з І.Ляляевелем адзін з лідэраў дэмакратычнага крыла эміграцыі з тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Рэдагаваў час. «Pielgrzym Polski». У 1839 прафесар Лазанскага ун-

та; з 1840 узначальваў кафедру славянскіх літаратур у Калеж дэ Франс у Парыжы. У лекцыях даў высокую ацэнку бел. мове і фальклору, на якія стала абапіраўся ў мастацкай творчасці. У 1848 падчас рэвалюцыі стварыў у Італіі польскі легіён. З 1849 зноў у Парыжы, рэдагаваў газ. «La Tribune des Peuples». З 1852 бібліятэкар Арсенала. У 1855, пасля пачатку Крымскай вайны, выехаў у Турцыю, дзе ствараў атрады з ураджэнцаў Рэчы Паспалітай для барацьбы з царскай Расіяй. Памёр у Стамбуле падчас эпідэміі халеры. Многія біёграфы мяркуюць, што смерць М. з'явілася вынікам паліт. інтрыг. Пахаваны ў Кракаве. Многія творы М. сталі агульнапрынятымі сімваламі вызваленчага руху на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, «Ода да маладосці» была ўспрынята як маніфест паўстання 1830—31. Пасля напісання ў віленска-ковенскі перыяд паэмаў «Гражына» і «Дзяды» постаць М. выйшла на першы план у польскамоўнай літаратуры. У Навагрудку створаны Дом-музей Адама Міцкевіча; яго імем названы вуліцы ў Навагрудку, Гродне, Брэсце. У многіх гарадах Польшчы, Беларусі і іншых краін устаноўлены помнікі і бюсты М.

Тв.: Dziela. T. 1—16. Warszawa, 1955; Бел. пер.: Выбраныя творы. Мн., 1955; «Зямля навагрудская, краю мой родны...» Мн., 1969; Пан Тадэвуш. Мн., 1985; Да Нёмна. Мн., 1998; Санеты = Sonety. Мн., 1998; Дзяды = Dziady. Т. 1—2. Мн., 1999.

Літ.: *Лойка А.* Адам Міцкевіч і беларуская літаратура. Мн., 1959; *Мірачыцкі Л.* Светлым ценем Адама Міцкевіча: Эміграцыя з Наваградчыны. Мн., 1994; *Брага С.* Міцкевіч і беларуская плынь польскае літаратуры // *З гісторыяй на «Вы».* Вып. 3. Мн., 1994; *Адам Міцкевіч і Беларусь = Adam Mickiewicz a Białoruś.* Мн., 1997; *Мархель У.І.* «Ты як здароўе…»: А.Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры. Мн., 1998; *ЭГБ*, т. 5.

**МІЦКЕВІЧ Адам Юр'евіч** [1889, в. Мікалаеўшчына Мінскай губ., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — ?], фізік. Асістэнт кафедры фізікі БДУ. Арыштаваны 24.7.1930. Асуджаны 10.4.1931 на 5 гадоў высылкі. Пакаранне адбываў у Вяцкім краі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 15.12.1957.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

**МІЦКЕВІЧ Юльян Аляксандр** [ахрышчаны 11(23).8.1801, Навагрудак — 16.11.1871, маёнтак Губерня, цяпер Драгічынскі р-н Брэсцкай вобл.], гісторык права. Брат паэта А.Міцкевіча. Скончыў дамініканскую школу ў Навагрудку. У 1819 паступіў у Віленскі ун-т. Удзельнік таварystваў філаматаў і філадэльфістаў. У ліст. 1823 арыштаваны па справе філаматаў і да крас. 1824 зняволены ў

былым кляштары францысканцаў. У 1825 яго праца «Які ўплыў магло мець рымскае заканадаўства на заканадаўства польскае і літоўскае?», напісаная яшчэ ў студэнцкія часы, была апублікавана з заўвагамі І.Лялевеля ў час. «Dziennik Warszawski». У 1825 ці 1826 атрымаў ступень магістра права. З 1828 выкладаў у Крамянецкім ліцэі. З 1835 ва ун-це св. Уладзіміра ў Кіеве; з 1840 прафесар рымскага права Харкаўскага ун-та. Пасля выхаду ў адстаўку каля 1859 набыў на Палессі маёнтак Губерня. Там напісаў свае творы «Энцыклапедыя права» і «Курс рымскага права» (не выдадзены). У 1863 дапамагаў паўстанцам атрада Р.Траўгута.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5; *АЗБ*.

**МРЫЙ А.** [сапр.: Шашалевіч Андрэй Антонавіч; 1(13).9.1893, в. Палуж, па іншых звестках в. Доўгавічы Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі р-н Магілёўскай вобл. — 8.10.1943, Мурманская вобл., ГУЛАГ], празаік, журналіст. Брат драматурга В.Шашалевіча. З сям'і валаснога пісара. Скончыў духоўнае вучылішча і Магілёўскую духоўную семінарыю (1914). Працягваў вучобу ў Кіеўскай духоўнай акадэміі. З трэцяга курса (1916) мабілізаваны ў школу прапаршчыкаў. Праз 4 месяцы адпраўлены на фронт у 94 енісейскі полк. З 1918 да 1921 у Чырвонай Арміі, ка-

мандзір 345 роты 14 палка. У 1921—26 настаўнічаў у мяст. Краснаполле (выкладаў гісторыю і французскую мову). Публікаваўся з 1924. Са сваякамі стварыў у Краснаполлі тэатр; выдаваў рукапісны час. «Пралеска». Збіраў народную лексіку, дасылаў яе ў Слоўнікавую камісію Інбелкульта. У жн. 1926 выехаў у Мінск, дзе па прапанове З.Бядулі стаў супрацоўнікам час. «Наш край», потым інспектарам Цэнтральнага бюро краязнаўства БССР. З 1933 стыльрэдактар у газ. «Звязда». Сябра літаратурнага аб’яднання «Узвышша» (з 1929; друкаваўся ў аднайменным часопісе з 1927). У 1929 напісаў сатырычны раман «Запіскі Самсона Самасуя», які быў абвешчаны «злосным пасквілем на савецкую рэчаіснасць» (цалкам апублікаваны ў 1988: *Полымя*, №1; экранізаваны ў 1990: «Пратарчака жыцця, або Запіскі Самсона Самасуя»). Арыштаваны 22.2.1934 па справе краснапольскіх настаўнікаў. 26.3.1934 асуджаны «тройкай» на 5 гадоў зняволення і этапіраваны ў Карагандзінскі ППЛ. Пасля падачы апеляцыі Генпракурору СССР 21.11.1934 тэрмін пазбаўлення волі зменены: тры гады высылкі ў Волагду, потым у Вельск, дзе працаваў бухгалтарам да снеж. 1937. У пачатку 1938 прыехаў у Мурманск, настаўнічаў у адной з сярэдніх школ. Зноў арыштаваны 2.6.1940. Асуджаны (праз дзесяць дзён) на 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Карагандзе, у Валагодскай і Мурманскай абл. У ссылцы працягваў літаратурную дзейнасць,

напісаў раман з лагернага жыцця «Жывы дом». 1.3.1943 медыцынскай камісіяй прызнаны інвалідам і адпраўлены паміраць дамоў. Па некаторых звестках забіты рэцэдывістамі ў цягніку. Рэабілітаваны 6.1.1961.

Тв.: Творы. Мн., 1993.

Літ.: *Васючэнка П.* Вяртанне рамана, або Дзіўнае стварэнне Самасуя // *ЛіМ*. 1988, 29 крас.; *Яго ж*. Рэпрэсіраваны смех: Роздум над лёсам і творчасцю беларускага савецкага празаіка Андрэя Мрыя // *Беларуская мова і літаратура ў школе*. 1989, № 3; *Грахоўскі С*. Праўдзівыя дакументы жыцця // *Полымя.* 1988, № 1; *Чыгрын І*. Андрэй Мрый: спроба сатырычнай прозы // *Чыгрын І.* Крокі: Проза «Узвышша». Мн., 1989; *Маракоў Л*. Вядомы пад псеўданімам А.Мрый // *Роднае слова.* 2001. № 9.

**МУРЗО Сяргей** [1912, Віцебшчына ? — 1937?], паэт. Да 1930 працаваў токарам на Віцебскім станкабудаўнічым заводзе «Камінтэрн». У 1934 скончыў МВПІ. Друкаваўся з 1929. Належаў да т. зв. паэтаў-ударнікаў, асноўнай тэмай якіх было ўслаўленне працы рабочага. Быў членам Віцебскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Арыштаваны ў ліст. 1936. Абставіны смерці невядомы.

Тв.: Ля сталёвых бліскучых машын // *Рытмы будавання*. Віцебск, 1930.

Літ.: *БП*, т. 4; *Маракоў Л.* Валеры Маракоў: Лёс, хроніка, кантэкст. Мн., 1999.

**МУШКАТ Генрык Мар'янавіч** [псеўданімы: Грабінскі Г., Марабут, Генрык Мушынскі і іншыя; 27.11.1898, мяст. Гальшаны Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл. — 1937, ГУЛАГ], дзеяч рабочага руху. З сям'і лекара. Вучыўся ў Клецку і Нясвіжы, у 1917 скончыў гімназію ў Петраградзе. Паступіў на юрыдычны ф-т Варшаўскага ун-та, але не скончыў яго. У 1918 стаў членам Польскай сацыялістычнай партыі (Левіца). З 1925 актыўны дзеяч Камуністычнай партыі Польшчы. Першы раз арыштаваны ў 1919 у Польшчы, на тэрыторыі Шлёнска, але ў 1920 уцёк па дарозе пад Кракавам. У студз. 1922 зноў арыштаваны ў Варшаве, але вызвалены пад залог. У 1926 асуджаны акруговым судом у Варшаве на 4 гады турмы, у 1928 амніставаны. У 1931 зноў арыштаваны ў Варшаве, аднак дзякуючы заступніцтву А.Барбюса вызвалены. У 1932 выехаў у СССР, дзе жыў пад прозвішчам Вышкоўскі. 9—18.5.1935 удзельнічаў у II з'ездзе КПЗБ у Сляпянцы пад Мінскам. У 1935—36 жыў у Маскве, працаваў у Інстытуце Маркса-Энгельса-Леніна пры ЦК ВКП(б) і Камінтэрне. У ліп. 1937 арыштаваны. Рэабілітаваны ў 1955.

Літ.: *PSB* XXII.

**МЫСАЎСКОЙ Міхаіл Паўлавіч** [псеўданімы: М.Ржевусский; М.Ольшанский; Петр Чёрный;

крыптанімы; М.П.; М.М.; 1856, с. Альшанка Саратаўскай губ. — пасля 1914], журналіст, публіцыст, крытык. З канца 1870-х г. жыў у Беларусі, працаваў на чыгунцы. Удзельнічаў у жыцці Мінскага таварыства аматараў прыгожага мастацтва, у рэдагаванні газ. «Минский листок». Выступаў як лектар і папулярызатар творчасці класікаў рускай літаратуры. У 1902—05 рэдактар-выдавец газ. «Северо-Западный край», дзе 15.5.1905 быў змешчаны першы бел. верш Я.Купалы «Мужык». За публікацыю ў газеце матэрыялаў рэвалюцыйнага зместу ў чэрв. 1905 М. арыштаваны і высланы ў Пінегу Архангельскай губ. У ліст. па амністыі вярнуўся ў Мінск. Уступіў у Мінскую арганізацыю РСДРП. Аўтар апавяданняў і нарысаў, крытык прыхільнікаў фармалізму і дэкадэнцтва ў літаратуры. У 1913—14 жыў у Маскве, супрацоўнічаў у газ. «Голос Москвы», «Московское утро».

Літ.: *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971. С. 167—173; *Дорошевич Э., Конон В.* Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972. С. 224—243; *АЗБ*; *ЭГБ*, т. 5.

**МЯДЗЁЛКА Паўліна Вінцэнтаўна** [псеўданім: Паўлінка; крыптанім: М.; 12(24).9.1893, мяст. Будслаў Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер вёска Мядзельскага р-на Мінскай вобл. —

13.2.1974, Будслаў], артыстка, педагог, мемуарыстка. Скончыла Глыбоцкае царкоўнапрыходскае вучылішча. З 1907 у Рызе, вучылася на вячэрніх курсах для дарослых. З 1909 у Вільні, займалася ў прыватнай жаночай гімназіі Няздзюравай і Райсмілер. Зблізілася з віленскім бел. і сацыялістычным рухамі. Увосень 1912, пасля сканчэння гімназіі, накіравалася ў Пецярбург на Вышэйшыя камерцыйныя курсы, якія скончыла ў 1914. У 1913 выканала ролю Паўлінкі ў пецярбургскай прэм’еры п’есы Я.Купалы. Падчас 1-й сусветнай вайны ў эвакуацыі ў Царыцыне. З восені 1916 у Петраградзе сакратар Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны. У 1917 працавала ў Кіеве (Саюз гарадоў). У кастр. 1917 па дамоўленасці з княгіняй Магдаленай Радзівіл арганізавала бел. школу ў в. Жорнаўка Ігуменскага пав. Пасля таго, як у сак. 1918 школа была закрыта, перабралася ў Мінск. Працавала настаўніцай, удзельнічала ў пастаноўках Першага таварыства беларускай драмы і камедыі. Наведвала Вільню і Гродна. З 1918 выступала ў друку з вершамі. З вясны 1919 інспектар бел. школ, кіраўнік Грамады беларускай моладзі і драматычнага гуртка ў Гродне. 20.7.1919 арыштавана польскімі ўладамі за ўдзел у выданні газ. «Родны край» (Гродна), дзе, дарэчы, і друкавалася. З пачатку 1920 у Мінску, кіравала бел. жаночай школай. Зноў арыштавана разам з мужам Т.Грыбам польскімі ўладамі ў маі 1920. Перад наступленнем

Чырвонай Арміі вывезена ў Варшаву, сядзела ў турме Вронкі на Пазнаншчыне. Пасля вызвалення накіравана на жыхарства ў Лодзь з забаронай пераязджаць на «ўсходнія крэсы». Па падробных дакументах выехала ў Вільню, потым (у лют. 1921) трапіла ў Літву. У Коўне займалася выданнем агітацыйнай літаратуры, накіраванай супраць польскай акупацыі Зах. Беларусі. Друкавалася ў газ. «Сялянская доля». З восені 1921 па прапанове Ц.Гартнага працавала ў выдавецкім аддзеле пры савецкім пасольстве ў Берліне. У 1922 пераехала ў Латвію, выкладала ў бел. гімназіі ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс). У маі 1924 арыштавана латышскімі ўладамі разам з іншымі выкладчыкамі. Апраўдана судом у крас. 1925. 22.5.1925 разам з братам прыехала ў БССР. Працавала ў сектары мастацтва Інбелкульта. У 1927—30 выкладала бел. мову ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштавана ДПУ БССР 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; выслана ў Казань. З восені 1932 выкладала рускую мову і літаратуру ў адной з маскоўскіх школ. Улетку 1947 пераехала ў мяст. Будслаў. Да 1958 працавала настаўніцай. У Будславе напісала свой найбольш значны твор — мемуары «Сцежкамі жыцця», якія ў фрагментах пачалі друкавацца з 1958 (асобным выданнем выйшлі ў 1974; ч. 2 надрукавана ў 1993). Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1966).

Тв.: Сялянская доля: Паэма. Б.м., 1921; Сцежкамі жыцця. Мн., 1974.

Літ.: *Ермаловіч М*. Першая выканаўца // *Настаўніцкая газета*. 1973, 15 вер.; *Калеснік У*. Галгофа адроджаных // *Полымя*. 1993, № 2; *Марціновіч А*. Паўліна, Паўлінка, Журавінка // *ЛіМ*. 1993, 10 вер.; *Янушкевіч Я*. Невядомыя старонкі жыцця Паўліны Мядзёлкі // *Голас Радзімы*. 1993, 23 вер.; *Міхнюк У*. «Невінаватым ад нас не выйдзеш…» // *Беларуская мінуўшчына*. 1995, № 6; *БП*, т. 4.

**МЯЖЭВІЧ Уладзімір Навумавіч** [23.5.1907, в. Крывушча Аршанскага пав. Віцебскай губ., цяпер пас. Якаўлевічы Аршанскага р-на Віцебскай вобл. — 1.7.1982, Мінск], празаік, журналіст. Вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе. У 1925 працаваў загадчыкам хаты-чытальні. Публікавацца пачаў у 1924. Быў членам Аршанскай філіі «Маладняка». У 1926—27 загадваў аддзелам прапаганды ў Копыскім, Горацкім райкамах камсамола; у 1928 сакратар Горацкага райкама камсамола. У 1929—33 працаваў у Мінску ў газ. «Звязда», адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні філалагічна-гістарычнага ф-та БДУ. У 1931—32 выдадзены яго першыя кнігі нарысаў і апавяданняў «Крок у будучыню» і «Шляхам герояў». У 1933 рэдактар бягомльскай раённай газ. «Калгасны змагар». У 1934—37 працаваў карэспандэнтам газ. «Известия» па Беларусі. Арыштаваны 27.1.1937; пры арышце канфіскаваны новыя рукапісы мастацкіх твораў. Асуджаны (15.11.1937) на 10 гадоў лагераў (у 1942

тэрмін зняволяння быў скарочаны да 8 гадоў). Пасля вызвалення (27.1.1945) працаваў лесарубам у Краснаярскім краі (Канск). Зноў арыштаваны 10.7.1947. Рэабілітаваны 26.1.1955. Вярнуўся ў Мінск; у 1956—67 працаваў у час. «Вожык», «Вясёлка», «Бярозка», карэспандэнтам газ. «Лесная промышленность». З 1971 член СП Беларусі. У 1960—70-я г. апублікаваў некалькі кніг нарысаў і апавяданняў. Пахаваны на Паўн. могілках Мінска.

Тв.: Медунічкі: Апавяданні. Мн., 1966; Землякі: Нарысы. Мн., 1969; Лясныя знаходкі: Апавяданні і нарысы. Мн., 1969; Яны былі першымі. Мн., 1970; Аксамітны бляск: Апавяданні, гумарэскі. Мн., 1971; Выдумшчыцы: Апавяданні. Мн., 1971; Стрэлы на зялёнай палянцы: Аповесць. Мн., 1973; Спатканні на дарогах: Запіскі карэспандэнта. Мн., 1978; На ўсходзе сонца: Апавяданне. Мн., 1982.

Літ.: *Кухараў С.* «І ўсё ж я шчаслівы...» // *ЛіМ*. 1982, 9 ліп.; *БП*, т. 4.

**МЯЛЕШКА Міхаіл Вінцэнтавіч** [псеўданімы: Міхалка Скарэўскі; Міхалка С.; крыптанімы: М.-о; М. М-о; N.; 27.4(9.5).1892, в. Скары Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 19.4.1941, Самара], гісторык, пісьменнік, публіцыст. З 1911 працаваў на фабрыках у Пецярбургу. Удзельнічаў у гуртку Б.Эпімах-Шыпілы. У 1913 апублікаваў першае апавяданне «Родныя абразкі» ў альманаху «Маладая Беларусь».

У 1914—18 у расійскай арміі. З 1917 член БСГ. З 1918 працаваў у Віцебскім аддзяленні Белнацкама. У 1918—21 вучыўся ў Віцебскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута. Працаваў у Віцебскім археалагічным інстытуце і губернскім архіве. У 1920—21 служыў у Віцебскім губернскім ваенкамаце. З ліст. 1922 у Мінску. Працаваў у Цэнтрархіве БССР; з 1927 у Цэнтральным архіўным упраўленні БССР. З 1923 член Інбелкульта. У 1923—24 чытаў лекцыі па этнаграфіі ў Віцебскім пединстытуце. У 1926—28 выкладаў гісторыю Беларусі ў Камуністычным ун-це Беларусі. Даследаваў праблемы прыгоннага права, падзеі 1863—64 і 1905—07 у Беларусі. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пастановай Калегіі АДПУ ад 10.4.1931 сасланы ў Самару на 5 гадоў. Паўторна арыштаваны 16.2.1938. Вызвалены з-пад следства 4.3.1940. Рэабілітаваны па першым прыгаворы ў 1957, па другім — у 1962.

Тв.: Камень у вераваннях і паданнях беларусаў. Мн., 1929; Цэнтрархіў Беларусі // *Полымя*. 1923, № 7—8; Паншчына на Беларусі // *Полымя*. 1924, № 4; 1925, № 4, 6; Краязнаўства і архівы Беларусі // *Наш край*. 1927, № 11; З. Жылуновіч як гісторык // *Полымя*. 1928, № 10; Дзённік Міхаіла Мялешкі // *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*. Мн., 1994.

Літ.: *Бібліятэка Міхася Мялешкі: Зводны каталог*. Мн., 1998; *Скалабан В., Крапивин С.* Михаил Мелешко: Долгое возвращение в Беларусь // *Советская Белоруссия*. 1998, 10 окт.; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 5.

**МЯЛЕШКА Сяргей Міронавіч** [1901 — 5.10.1938], музейны работнік, гісторык. Скончыў БДУ. У 1926—30 быў загадчыкам Полацкага краязнаўчага музея. Выкладаў у Полацкім педтэхнікуме. Арыштаваны ДПУ БССР у 1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пастановай калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 сасланы ў Астрахань. Арыштаваны Ліпецкім гарадскім аддзелам НКВД 17.7.1938. «Тройкай» УНКВД па Варонежскай вобл. 5.10.1938 прыгавораны да расстрэлу.

Тв.: Полацкі акруговы краязнаўчы музей // *Наш край*. 1929, № 12.

Літ.: *Гужалоўскі А.* Музеі Беларусі (1918—1941 гг.). Мн., 2002; *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000.

**МЯРКІЦЕ Аляксандра** [псеўданімы: Люда Лавенас; Liuda Lavenos; Люда; 16.12.1901, в. Палевеняліс Панявежскага пав. Ковенскай губ., цяпер Купішскі р-н, Літва — 14.9.1938, Мінск, НКВД], паэтэса, празаік, публіцыст. У 1920 уступіла ў КП Літвы. Першы верш апублікавала ў час. «Komunaras». Перад пагрозай арышту ў 1921 нелегальна выехала ў СССР; вучылася ў Маскве ў Літоўскай партыйнай школе, Камуністычным ун-це народаў Захаду. Працавала ў час. «Komunaras» і «Kibirkštis». У 1924 накіравана на падпольную

работу ў Коўна. Арыштавана літоўскімі ўладамі ў 1925; уцякла з турмы. З восені 1925 ў Мінску. Працавала бібліятэкарам, потым загадчыцай бібліятэкі імя Л.Талстога. У 1929—33 жыла ў Полацку, працавала ў газ. «Чырвоная Полаччына». З 1933 зноў у Мінску. Вучылася ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры БелАН (пакінула аспірантуру з-за хваробы). Член СП Беларусі з 1934. Часта друкавалася ў мінскай літоўскамоўнай прэсе: газ. «Raudonasis artojas», час. «Priekalas» і «Darbininkes lapelis». Арыштавана 21.7.1937. 3.6.1938 Ваенным трыбуналам БВА прыгаворана да расстрэлу. Рэабілітавана 17.12.1957.

Тв.: Žingsniuojanciai jaunatvei. Minskas, 1936; Žingsniuojanciai jaunatvei. Vilnius, 1961.

Літ.: *Мальдзіс А.* Творчыя ўзаемасувязі беларускай і літоўскай літаратур у савецкі час // *Старонкі літаратурных сувязей*. Мн., 1970; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 4.

**МЯТЛА Пётр Васілевіч** [1890, в. Кухцінцы Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 12.8.1936, Белбалтлаг], дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі, педагог, публіцыст. У 1906—10 вучыўся ў Дзісенскім гарадскім вучылішчы, у 1911—12 на педагагічных курсах у Коўне. Працаваў настаўнікам. У 1914—17 у арміі; вучыўся ў Аляксееўскім

ваенным вучылішчы, юнкеры якога ў 1917 выступілі супраць бальшавікоў. М. сярод іншых быў арыштаваны. З канца 1917 да 1921 настаўнічаў на Дзісеншчыне. З 1921 у Вільні. Працаваў у каапэрацыі. Удзельнічаў у стварэнні бел. школ у Зах. Беларусі. У 1922 выбраны дэпутатам польскага сейма. Член КПЗБ з 1926; адзін са стваральнікаў БСРГ. Быў рэдактарам грамадаўскіх газет. Аўтар публікацыі пра паездку з паслом Ярэмічам у 1924 у Мінск. Арыштаваны 16.1.1927 у сувязі з разгромам Грамады. У 1928 на «працэсе 56-ці» прыгавораны да 12 гадоў турмы. У выніку абмену палітвязнямі з 1930 у БССР. Працаваў у ВСНГ БССР, у Камісіі па вывучэнні Зах. Беларусі пры Прэзідыуме БелАН; старшыня Камісіі ў 1932—33. Арыштаваны ДПУ БССР 1.9.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». 9.1.1934 «як кіраўнік і арганізатар БНЦ» судовай калегіяй АДПУ СССР прыгавораны да расстрэлу, замененага 10 гадамі лагераў. Накіраваны на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. Рэабілітаваны 16.8.1956.

Тв.: *Прамовы дэпутатаў соймавага клуба Беларускай сялянска-работніцай грамады*. Вільня, 1926; Аб таварыстве беларускай школы і яго барацьбе. Мн., 1932.

Літ.: *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 5.

**НАГРОДСКІ Зыгмунт Вікенцевіч** [1866, маёнтак Зулова Уцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Швянчонскі р-н, Літва — 25.3.1937, Вільня], паэт, дзеяч культуры, прадпрымальнік. Паводле паліт.-грамадскіх поглядаў краёвец. Меў у Вільні склад-краму сельскагаспадарчых машын; праводзіў культурна-асветную работу сярод віленскіх рамеснікаў. У 1893 пазнаёміўся з «Дудкай беларускай» Ф.Багушэвіча, пачаў яе актыўна распаўсюджваць сярод сялян. Асабістае знаёмства з Багушэвічам перайшло ў сяброўства. У 1896 фундаваў другое выданне кнігі ў Кракаве. Калі Багушэвіч памёр, Н. арганізаваў дэлегацыю віленскіх рамеснікаў, якія прыехалі ў мяст. Жупраны 17.4.1900 на пахаванне паэта. На смерць паэта напісаў верш «На памяць зычліваму для сям’і». У 1901 пад арыштам у пецярбургскім астрозе, дзе напісаў верш «Да жонкі маёй у Вільні». Матэрыяльна падтрымліваў выданне газ. «Наша ніва». У 1920-я г. стварыў «Народнае выдавецтва», якое выпускала танныя кнігі для масавага чытача. Двухмоўная польска-бел. п’еса «На каляды», напісаная на бел. фальклорным матэрыяле, была пастаўлена ў 1936 у Вільні. Пісаў успаміны з віленскага культурнага жыцця. Аўтар кніг па тэхнічным абслугоўванні сельскагаспадарчых машын.

Тв.: Ze wspomnień oświatowca. Wilno, 1929; Moje wspomnienie i rozważania z powodu budowy pomnika Montwiłłowi. Wilno, 1931; Wyprawa wileńska roku 1919 we wspomnieniach cywila. Wilno, 1933; Rola duchowieństwa

katolickiego w godzinie prób i cierpień na terenie Litwy i Białejrusi: (1863—1883). Wilno, 1935; Нашым ён быў братам...; На памяць зычліваму для сям'і: (Вершы) // *Беларуская літаратура XIX стагоддзя*. Мн., 1988.

Літ.: *Рагойша В*. Зыгмунт Нагродскі і яго вершы // *Рагойша В*. Кантакты. Мн., 1982; *Содаль У*. Зыгмунт Нагродскі — сябар Ф.Багушэвіча // *ЛіМ*. 1976, 30 студз.; *БП*, т. 4.

**НАЙДЗЮК Язэп** [15.5.1909, в. Рэпля Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл. — 13.2.1984, Польшча], грамадскі і культурны дзеяч, рэдактар, гісторык. З канца 1920-х працаваў у Беларускай друкарні імя Ф.Скарыны ў Вільні, быў яе дырэктарам. Рэдагаваў час. «Шлях моладзі». Арыштаваны польскімі ўладамі ў жн. 1939; зняволены ў лагеры Картуз-Бяроза. Вызвалены пасля прыходу савецкіх войск; вярнуўся ў Вільню. Восенню 1941 пераехаў у Мінск. Працаваў у «Выдавецтве падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Мінску», быў членам Цэнтральнай рады Беларускай народнай самапомачы. У 1943 (на вокладцы 1944) выдаў у Мінску падручнік па гісторыі «Беларусь учора і сяньня». Летам 1944 выехаў у Польшчу, дзе жыў і друкаваўся пад прозвішчам Александровіч. Пакінуў рукапіс працы па гісторыі Беларусі.

Тв.: Беларусь учора і сяньня. Вільня, 1940 (2-е выд., Мн., 1944; 3-е выд. (разам з І.Касяком), Мн., 1993).

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**НАРБУТ Тэадор** [Фёдар Яўхімавіч; 28.10(8.11).1784, маёнтак Шаўры Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Воранаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 14(26).11.1864, Вільня], гісторык, археолаг, інжынер. У 1803 скончыў Віленскі ун-т. Вучыўся ў Пецярбургскім кадэцкім корпусе. Удзельнічаў у расійска-пруска-французскай (1806—07) і расійска-шведскай (1808—09) войнах; капітан, ваенны інжынер. Удзельнічаў у праектаванні і будаўніцтве Бабруйскай крэпасці. З 1812 у адстаўцы. Жыў у сваім маёнтку, даследаваў гісторыю ВКЛ, праводзіў археалагічныя раскопкі. Найбольш значны яго твор — «Гісторыя літоўскага народа» (т. 1—9, 1835—41), дзе, разам з іншым, апісаны народныя абрады беларусаў Лідчыны. Увёў у навуковы ўжытак Хроніку Быхаўца. Арыштаваны ў сувязі з падзеямі паўстання 1863—64.

Тв.: Pomniki do dziejów litewskich… Wilno, 1846; Pomniejsze pisma historyczne, szczególnie do historii Litwy odnoszące się. Wilno, 1856.

Літ.: *Каханоўскі Г.А.* Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984; *Улащик*. Очерки; *АЗБ*; *ЭГБ*, т. 5.

**НЕЗАБЫТОЎСКІ Аляксандр Крыштаф Ян** [2.10.1819, в. Смалічы Слуцкага пав. Мінскай вобл., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл., паводле іншых звестак 15.9.1818, в. Зубкава Навагрудскага р-на

Гродзенскай вобл. — 21.3.1849, Вільня], пісьменнік, філосаф. Пісаў на польскай мове. У 1835—38 вучыўся ў Дэрпцкім (Тартускім) ун-це. У 1844—47 падарожнічаў па Францыі, Аўстрыі, Італіі, Іспаніі, Партугаліі, Англіі. У Вільні і Парыжы выдаў папольску ананімныя кнігі, у якіх выступаў з радыкальнымі сацыяльнымі і атэістычнымі ідэямі. Крытыкаваў курс лекцый А.Міцкевіча «Славянскія літаратуры» за клерыкальна-месіянерскія ідэі і кансерватыўна-рамантычную скіраванасць. У 1845 апублікаваў у Парыжы мемуары «Мае нататкі». 12.7.1847 арыштаваны за спробу ўвезці ў Расію нелегальныя выданні. Паўторна арыштаваны 5.10.1847 ужо ў сувязі з пачаткам справы па змесце кніг. Быў зняволены ў пінскай, мінскай і віленскай турмах. Прыгавораны да пазбаўлення дваранскіх і маёмасных правоў і 20-і гадоў катаргі. Але перад абвяшчэннем прысуду памёр у турме.

Тв.: Rozamunde. Wilno, 1844; Barbara. Wilno, 1844; Jadwiga. Paryż, 1845; Katarzyna Wielka. Paryż, 1846.

Літ.: *Александровіч С. Х.* Вольнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі: З гісторыі беларуска-польскіх літаратурных і грамадска-палітычных сувязей у 40-я гады XIX ст. Мн., 1975; *ЭГБ*, т. 5.

**НЕКАНДА-ТРЭПКА Антон Станіслававіч** [11.2.1877, Мінск — 12.2.1942, Казахстан], гра-

мадскі і паліт. дзеяч, педагог, публіцыст. Сваяк Я.Лучыны. Скончыў Мінскую гімназію, Пецярбургскі тэхналагічны інстытут (1903), электратэхнічныя курсы ў Льежы (Бельгія, 1904). Падчас вучобы ў Пецярбургу далучыўся да студэнцкага і бел. культурніцкага руху. Быў арыштаваны. Адзін са стваральнікаў БСГ. З 1905 працаваў інжынерам-электрыкам у Варшаве, Пецярбургу, Маскве. З 1909 у складзе выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца». Падчас 1-й сусветнай вайны жыў у Зах. Еўропе. З восені 1918 у Мінску, выкладаў у польскай гімназіі і ў настаўніцкім інстытуце. Зімой 1919 працаваў у Наркамасвеце БССР, член Калегіі. Арыштаваны 17.3.1919 ВЧК. Высланы ў Смаленск. З 1.3.1920 нам. дырэктара МВПІ. З лета 1920 у Вільні. Выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі, у 1922—23 і 1928—30 яе дырэктар. У 1921—24 адказны сакратар ТБШ. Супрацоўнічаў з Беларускім навуковым таварыствам, Беларускім выдавецкім таварыствам, Беларускім музеем імя І.Луцкевіча, газ. «Наперад». Выдаў падручнікі па фізіцы і матэматыцы для сярэдніх школ. Арыштаваны НКВД у кастр. 1939; сасланы на 10 гадоў у Сібір. У сувязі з уступленнем у армію генерала Андэрса, быў вызвалены. Памёр па дарозе да месца дыслакацыі.

Тв.: Фізыка: Механіка і цяплыня. Вільня, 1922; Фізыка: Акустыка і оптыка. Ч. 2. Вільня, 1924; Аналітычная геамэтрыя. Вільня, 1927.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**НЕКРАШЭВІЧ Сцяпан Міхайлавіч** [8.5.1883, в. Данілаўка Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Светлагорскі р-н Гомельскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, НКВД], мовазнавец, грамадскі дзеяч. У 1908 скончыў Панявежскую настаўніцкую семінарыю, у 1913 Віленскі настаўніцкі інстытут. Падчас 1-й сусветнай вайны ў дзеючай царскай арміі на Румынскім фронце. З восені 1917 у Адэсе. Пасля абвяшчэння БНР прадстаўнік яе ўрада на Поўдні Украіны і пры французскім камандаванні Антанты. Адначасова вучыўся ў Адэскім вышэйшым міжнародным інстытуце. З 1920 у Мінску. Працаваў у апараце Наркамасветы БССР. У 1922—25 старшыня Інбелкульта. З 1927 дацэнт БДУ. З пачатку 1925 да ліп. 1926 на стажыроўцы ў Ленінградскім ун-це, працаваў пад кіраўніцтвам Я.Карскага. З 1928 акадэмік БелАН, віцэ-прэзідэнт БелАН, адначасова з 1929 дырэктар Інстытута мовазнаўства, старшыня камісіі па ўкладанні слоўніка жывой бел. мовы, старшыня правапіснай і аспіранцкай камісій. З 1.1.1928 старшыня Галоўнавукі пры Наркамасвеце БССР. Асноўны кірунак навуковай дзейнасці — лексікаграфія і гісторыя бел. мовы. Арыштаваны ДПУ БССР 21.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 пастановай калегіі АДПУ СССР прыгавораны да 5 гадоў высылкі ў Сарапул (Удмурція). Тэрмін ссылкі быў прадоўжаны на 2 гады. Паўторна арыштаваны ў ліст. 1937; дастаўлены ў Мінск. 19.12.1937

Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР прыгавораны да расстрэлу. Па 2-м прысудзе рэабілітаваны 12.10.1957, па 1-м — 10.6.1988.

Тв.: Беларуска-расійскі слоўнік. Мн., 1925 (разам з М.Байковым); Расійска-беларускі слоўнік. Мн., 1928 (разам з М. Байковым); Мова кнігі Касьяна Ермаліты // *Запіскі аддзелу гуманітарных навук ІБК*. Т. 1. Кн. 2. Мн., 1928.

Літ.: *Германовіч І.К.* Аб навуковай дзейнасці С.М.Некрашэвіча // *Веснік БДУ*. Серыя 4. 1972, № 3; *Іофэ Э.* Першы старшыня Інбелкульту // *Спадчына*. 1995, № 6; *Шчэрбін В.* Ён мог стаць беларускім Далем: Пра лексікаграфічную дзейнасць Сцяпана Некрашэвіча // *Роднае слова*. 1995, № 2; *Возвращенные имена*; *Беларуская мова*; *ЭГБ*, т. 5.

**НЕМАНЦЭВІЧ Антон** [псеўданімы: а. Антоні, Злучэнец; 27.1(8.2).1893, Санкт-Пецярбург — 1.4.1943?, Берлін, гестапа], грэка-каталіцкі святар, публіцыст, адзін з найбольш дзейсных ідэолагаў аб'яднання зах. і ўсх. цэркваў. Нар. ў сям'і перасяленцаў з в. Парчэўцы Сакольскага пав. Гродзенскай губ. Скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю, Петраградскую каталіцкую духоўную акадэмію (1918). Пасвечаны ў святары 27.9.1915. З 1918 вікарый парафіяльнага касцёла св. Кацярыны ў Колпіне пад Петраградам. Праследаваўся бальшавікамі за рэлігійную дзейнасць. Першы раз арыштаваны 25.5.1919; правёў у зняволенні 6 месяцаў. 31.5.1921 за пратэсты супраць арышту

біскупа Цепляка быў зняволены на некалькі месяцаў. Пасля вызвалення вікарый парафіі св. Пятра і Паўла ў Маскве. Зноў арыштаваны ў 1923. Па абмене палітвязнямі ў 1925 перададзены Польшчы. Выехаў у Рым, дзе вывучаў тэалогію. Доктар тэалогіі (1927). У 1928—29 выкладаў у Люблінскім каталіцкім ун-це. У 1929 уступіў у ордэн езуітаў; прыняў грэка-каталіцкі абрад. Настаяцель грэка-каталіцкай царквы ў мяст. Альбярцін пад Слонімам, з 1933 — Сынкавіцкай царквы. У 1932—37 выдаваў бел. уніяцкі час. «Да злучэньня», на старонках якога актыўна публікаваўся. З 1934 прафесар тэалогіі і кананічнага права ў Папскай Усх. семінарыі ў Дубне (Зах. Украіна). У 1938 у Варшаве выдаваў час. «Злучэньне». З 1939 узначаліў Беларускі экзархат Украінскай грэка-каталіцкай мітраполіі (узведзены ў сан экзарха 17.9.1939). Увёў бел. мову як афіцыйную ў справаводства і ў царкоўнае жыццё. Арыштаваны гестапа 4 ліп. 1942 ў Альбярціне. Памёр у турме ў Берліне альбо загінуў у менскай турме СД.

Літ.: *Мартос А.* Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Мн., 1990; *Dzwonkowski R.* Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998; *Гарбінскі БРД. Ерш С.* Дзе й калі загінуў экзхарх а. Антон Неманцэвіч?//Царква (Брэст), 2002, №4.

**НЕМЦАЎ (Нямцоў) Аляксандр Гаўрылавіч** [29.8.1898, Гомель — сак. 1938], краязнавец, этно-

граф, педагог, публіцыст. У 1917 скончыў настаўніцкую семінарыю ў Яраслаўлі; у 1933 Маскоўскі педагагічны інстытут. На працягу 1917—38 настаўнічаў у мяст. Асіповічы. На тэрыторыі раёна выявіў і апісаў помнікі археалогіі — курганы, гарадзішчы, стаянкі. З 1929 карэспандэнт Цэнтральнага бюро краязнаўства (ЦБК). Вывучаў фальклор і этнаграфію Асіповіцкага р-на. Публікаваўся ў час. «Наш край», «Савецкая краіна», газ. «Савецкая Беларусь». Арыштаваны і расстраляны ў 1938. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Праца па абследаванні Асіпавіцкага раёну ў летні перыяд 1926 г. // *Наш край*. 1926, № 12; Вяселле: Запісана ў в. Смык-Слабада Зборскага сельсавета і ў в. Заручэўе Дзераўцоўскага сельсавета ў студзені — лютым 1927 г. Асіпавіцкага раёна // *Наш край*. 1927, № 4; Спосабы лову жывёл і птушак у Асіпавіцкім раёне // *Наш край*. 1927, № 5; Помнікі старасветчыны ў Асіпавіцкім раёне // *Асіпавіцкі раён Бабруйскай акругі*. Вып. 2. Мн., 1928.

Літ.: *Этнаграфія Беларусі*. Мн., 1989. С. 367—368; *ЭГБ*, т. 5.

**НЁМАНСКІ Янка** [сапр.: Пятровіч Іван Андрэевіч; іншыя псеўданімы: Нёманскі; Нёманский; крыптанімы: І.П.; И.П.; Я.Н-скі; 31.3(12.4).1890, мяст. Шчорсы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. — 30.10.1937, Мінск, НКВД], празаік, публіцыст, эканаміст, грамадскі дзеяч. У 1909 скончыў Нясвіжскую настаўні-

цкую семінарыю; у 1915—16, 1918 вучыўся на гісторыка-філалагічным ф-це Петраградскага ун-та. У 1916 мабілізаваны ў армію, накіраваны ў школу прапаршчыкаў. У 1918 загадчык выдавецкага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята. У 1918—19 разам з Ц.Гартным выдаваў газ. «Дзянніца». Там з 1918 пачаў друкаваць публіцыстычныя творы. У 1919—21 у Чырвонай Арміі. З 1922 у Мінску; працаваў у планава-эканамічных органах. Нам. старшыні Дзяржплана БССР. Член Інбелкульта. Акадэмік БелАН з 1928. У 1929—31 неадменны сакратар БелАН. З 1931 загадчык аддзела эканомікі НДІ прамысловасці. У 1933—36 узначальваў кафедру фінансавых дысцыплін у Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі. З першым апавяданнем «Над Кроманню» выступіў у 1922 (час. «Полымя»). У 1927—32 член праўлення літаратурнага аб'яднання «Полымя». На працягу 1928—30 пісаў раман «Драпежнікі», які застаўся нясконченым (рукапіс 2-й часткі быў спалены энкавэдыстамі пасля арышту). Арыштаваны 26.4.1937. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.10.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 16.3.1957.

Тв.: На зломе: Апавяданні. Мн., 1925; Творы. Мн., 1984.

Літ.: *Строева Т.* Адзін з пачынальнікаў // *ЛіМ.* 1980, 4 крас.; *Хомчанка В.* Абавязак памяці // *ЛіМ.* 1985, 15 ліст.; *Савік Л.* Янка Нёманскі // *Гісторыя Беларускай літаратуры XX ст.* Мн., 1999. Т. 2; *Платонаў Р.* Лёсы. Мн., 1998; *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 5.

**НІКАЛАЕЎ-АСТРАВЕЦКІ Аляксандр Мікалаевіч** [кастр. 1905, в. Валілы Беластоцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 17.5.1934, Мінск, НКВД], журналіст, рэдактар. Апошняя пасада — загадчык аддзела міжнароднай інфармацыі газ. «Звязда». Арыштаваны 12.10.1933. Прысуджаны 9.1.1934 да расстрэлу. Рэабілітаваны 18.4.1956.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Маракоў Л.* Вынішчэнне, або Пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў // *ЛіМ*. 1999, 10 снеж.

**НІКАНОВІЧ Мікола** [Мікалай Уладзіміравіч; псеўданімы і крыптанімы: Селянін М. Н-іч; М.Н.; М.Н-віч; М.Н-іч; Н.; Н-іч; Н-ч; N.; 2(15).4.1902, в. Кляннік Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Смалявіцкі р-н Мінскай вобл. — кастр. 1944, Чэхаславакія], празаік, перакладчык. Вучыўся ў гімназіі ў Ігумене (цяпер Чэрвень). Удзельнічаў у партызанскай барацьбе супраць польскіх войск. Настаўнічаў у роднай вёсцы. Першае апавяданне «Ахвяры цемры» апублікаваў у 1922 у газ. «Савецкая Беларусь»; першы верш у 1925 у час. «Аршанскі маладняк». У 1926 выйшлі зборнікі апавяданняў «Золак» і «Радасць». У 1928 пераехаў у Мінск. Працаваў стыльрэдактарам у газ. «Чырвоная змена», потым у газ. «Звязда». Ягоная паэма ў прозе «Журавіны»

(«Беларусь калгасная». 1932, № 8) была аб'яўлена варожай. Арыштаваны ДПУ БССР 4.3.1933 па справе «Беларускай народнай Грамады». На тры гады сасланы на Урал. Працаваў у газ. «Уральский рабочий»; пазней — «Советский Дон». У 1942 мабілізаваны ў армію. У кастр. 1944 падчас баёў на тэрыторыі Чэхаславакіі прапаў без вестак. Рэабілітаваны ў 1956.

Тв.: Летнім днём: Выбранае. Мн., 1960; Светлая даль: Апавяданні; Аповесці; Замалёўкі. Мн., 1985.

Літ.: *Скрыган Я.* Прапаў без вестак // *Скрыган Я.* Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1985. Т. 2; *Шушкевіч С.* Сын незабыўных дзён // *Шушкевіч С.* Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2.; *БП*, т. 4.

**НОВІК-ПЯЮН Сяргей** [сапр.: Новік Сяргей Міхайлавіч; іншыя псеўданімы: Алесь Бярозка; С.Каліноўскі; Малады Дзядок; Сяргей Пяюн; С. Стапанчык; Н.Сяргееў; Od naszego morza; Dziecko Pomorza; Głos Świecki; Krasnoludek; Krasnoludek z Borów Tucholskich; Stary Dziadok; крыптанімы: Н.; С. Н.; С. П.; N.; 14(27).8.1906, в. Лявонавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — 26.8.1994, Мінск], паэт, празаік. У 1918—24 вучыўся ў Нясвіжскай гімназіі; у 1925—26 на бел. настаўніцкіх курсах у Вільні. У 1925 апублікаваў свой першы верш «Не бядуй» у час. «Студэнцкая думка» (№ 4). У 1926 стварыў у роднай вёсцы хор (з 1963 народны) і тэатр. Арганізаваў гурток ТБШ, бел.

бібліятэку і тайныя школы ў Лявонавічах і наваколлі, за што ў 1926 высланы польскімі ўладамі ў Свеце над Віслай. У 1927—31 супрацоўнік віленскага час. для дзяцей «Заранка». Пасля вяртання ў родныя мясціны ў 1931 зноў арыштаваны і высланы пад нагляд паліцыі ў Слонім. Разам з жонкай Людмілай у 1938—39 выдаваў польскамоўную газ. „Gazeta Slonimska“. Чарговы раз арыштаваны польскімі ўладамі ў сак. 1939; зняволены ў турме ў Баранавічах. Вызвалены пасля прыходу Чырвонай Арміі. У 1939—40 працаваў у сістэме народнай адукацыі, потым дырэктарам Слонімскага раённага краязнаўчага музея. У чэрв. 1941 выратаваў экспанаты музея разам з І.Стаброўскім, схаваўшы іх на ўскраіне горада. Падтрымліваў сувязі з партызанамі. У 1943 арыштаваны СД; адпраўлены ў лагер смерці Калдычэва. 4.7.1944 падчас расстрэлу групы вязняў (600 чалавек) паранены, прыкінуўся мёртвым, што і выратавала. Пасля вызвалення Слоніма працаваў дырэктарам музея. 14.12.1944 арыштаваны органамі НКДБ; 24.3.1945 ваенным трыбуналам асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі і адпраўлены на Калыму. Рэабілітаваны ў 1958. У 1959 вярнуўся ў Беларусь. Жыў у Слоніме, Нясвіжы; з 1960 — у Мінску. Выступаў у бел. рэспубліканскім друку. Некаторыя песні на словы Н.-П. лічацца народнымі, найбольш вядомыя з іх «Зорачкі» і «Над Шчарай» («Слонімскі вальс»). Пісаў на бел., рускай, польскай мовах і на эсперанта. Кніга вершаў «Песні з-за крат» засталася ў рукапісе. Член СП Беларусі з 1984.

Тв.: Заўсёды з песняй. Мн., 1984; Зорачкі ясныя: Вершы. Мн., 1986.

Літ.: *Ліс А.* Іскры з вогнішча // *ЛіМ.* 1966, 22 лют.; *Пяткевіч А.* Сцежкамі роднага краю // *Наднёманскія былі.* Мн., 1968; *Лойка А.* Душа рвалася да песень // *ЛіМ.* 1981, 9 кастр.; *Шишигина К.* Музы Несвижа. Мн., 1986; *БП*, т. 4.

**НЯВЕРАЎ Мікалай** [магчыма, не прозвішча, а псеўданім; ? — ?], удзельнік бел. падпольнага руху, журналіст, паэт. Падчас нямецкай акупацыі — удзельнік нацыянальнага партызанскага руху. Служыў у Беларускай Краёвай Абароне. З лета 1944 жыў пад фальшывымі дакументамі. Належаў да бел. нелегальнай групы Валянціна Крывенкі. Група займалася распаўсюджваннем антысавецкія адозваў і ўлётак, у тым ліку і вершаў Н. Пасля ліквідацыі падпольнай групы пакінуў Беларусь. Потым хаваўся сярод сваякоў на вёсцы. Распаўсюджваў аддрукаваныя на машынцы антысавецкіх ўлёткі і вершы, у якіх крытыкаваў калгасы і дзеянні савецкіх уладаў. Пісаў рэцэнзіі на творы савецкіх пісьменнікаў і высылаў іх у рэдакцыі газет і часопісаў. Падчас арышту аказаў узброенае супраціўленне.

Літ.: Мікалай Няверaў – змагар-адзіночка // *Беларускі Голас* (Таронта). 1972, май, № 202; Мікалай Няверaў // *Баявая ўскалось.* 1972, № 12; *Антысавецкія рухі.*

**ПАВАРОТНЫ Дзмітрый Сямёнавіч** [1905, в. Жароўка Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — ?], журналіст. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. На момант арышту працаваў у газ. «Звязда». Арыштаваны 2.4.1933 на сваёй кватэры (па адрасу: вул. Савецкая, д. 101, кв. 3). Да прысуду сядзеў ва ўнутранай турме НКВД, нейкі час у адной камеры з паэтам М.Кавылём. 10.8.1933 асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў на Урале. Рэабілітаваны Судзебнай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Далейшы лёс невядомы. Асобная справа Э. (№ 14618-с) разам з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Маракоў Л.* Вынішчэнне, або Пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў // *ЛіМ*. 1999, 10 снеж.

**ПАДАБЕД Язэп Тодаравіч** [псеўданімы: Аркадзь Чабор; Аркадзь Чобар; ліст. 1905, в. Ванікоўшчына Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — ?], паэт, публіцыст. У 1925 скончыў МБПТ. Працаваў у Клімавічах Магілёўскай вобл. ў рэдакцыі акруговай газ. «Наш працаўнік». Публікаваць вершы пачаў у 1924; друкаваўся на старонках час. «Маладняк» і «Полымя». Выступаў таксама з рэцэнзіямі і публіцыстыкай.

Быў членам «Маладняка»; уваходзіў у рэдкалегію «Маладняка Калініншчыны». Пасля 1928 публікацыі П. ў перыёдыцы зніклі. Арыштаваны ў 1936. Некаторы час знаходзіўся ў адным канцлагеры з Я.Кіпелем. Далейшы лёс невядомы.

Тв.: Вершы. Мн., 1926.

**ПАДБЯРЭСКІ Рамуальд Андрэевіч** [Друцкі-Падбярэзкі; 1812 ці 1813, Вільня — 22.10.1856, Архангельская губ.], выдавец, літаратуразнавец, публіцыст, фальклярыст. У 1830 скончыў Віленскую гімназію. Рыхтаваўся да паступлення ў Віленскі ун-т, але той быў закрыты царскімі ўладамі. У 1836—40 вучыўся на юрыдычным ф-це Маскоўскага ун-та. Падтрымліваў сувязі з расійскімі славянафіламі. Перакладаў на польскую мову рускія байкі і друкаваў іх у час. «Athenaeum». З 1841 пераехаў у Пецярбург, дзе зблізіўся з Т.Шаўчэнкам. У 1847 вярнуўся ў Вільню. Выдаваў літаратурна-навуковыя альманахі «Rocznik Literacki» (т. 1—4, Пецярбург—Вільня, 1843—49) і «Pamłętnik naukowo-literacki» (т. 1—2, ч. 1—6, Вільня, 1849—50). Аўтар прадмовы «Беларусь і Ян Баршчэўскі» да кнігі «Шляхціц Завальня…» Я.Баршчэўскага (1844). Выдаў зб. Т.Лады-Заблоцкага «Паэзія» (1845) і «Дыярыуш» С.Бельскага («Athenaeum». 1842. Т. 4). Аўтар публікацый па

бел. фальклоры. За публіцыстычную дзейнасць арыштаваны ў 1850 і сасланы ў Архангельскую губ., дзе і памёр.

Тв.: Antoni Abramowicz — muzyk // *Rocznik Literacki*. 1846. Т. 3.

Літ.: *Варановіч С.* [Александровіч С.]. Р.Друцкі-Падбярэскі // *Беларусь*. 1958, № 11; *Каханоўскі Г.* Лёс Рамуальда Падбярэскага // *ЛіМ*. 1976, 6 жн.; *Кісялёў Г.* Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. С. 27—40; *АЗБ*.

**ПАДЗЯВА Тамаш** [6.2.1906, в. Пярхулева Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 2.10.1975, Лондан], грэка-каталіцкі святар, марыянін, тэолаг, місіянер, сацыёлаг, педагог, публіцыст. У 1926 уступіў у навіцыят марыянаў у мяст. Друя. У 1929 скончыў гімназію ў Друі. Прадоўжыў вучобу ў Папскім Грыгарыянскім ун-це ў Рыме. Пасвечаны ў святары 23.12.1934. З 1935 займаўся місіянерскай дзейнасцю ў Харбіне (Кітай); працаваў у місіі св. Мікалая. Супрацоўнічаў з харбінскім місіянерскім выданнем «Католический вестник». Арыштаваны ў канцы 1948 кітайскімі ўладамі; перададзены МДБ СССР. Да 1955 знаходзіўся ў зняволенні ў лагеры Тайшэт (Усх. Сібір). Пасля вызвалення жыў у Польшчы, дзе займаўся навуковай і педагагічнай дзейнасцю. У 1969 выехаў у Рым, пазней у Лондан. Выступаў

на старонках бел. рэлігійных выданняў (час. «Божым шляхам» і інш.); супрацоўнічаў з бел. секцыяй Ватыканскага радыё. Пахаваны на лонданскіх могілках Дзевы Марыі.

Літ.: *Божым шляхам* (Лондан). 1975, № 3—4; *Гарбінскі БРД*.

**ПАЗНЯК Янка** [Ян Аляксандравіч; псеўданім: Янка Дудар; Той Самы; Сялянец; крыптанімы: Я.Д.; Д-р; Я.Д-р; Я.П.; я.п.; Яп.; П-к; п-к; Я.П-к; Рэд. «Б.Кр.»; 1887, мяст. Суботнікі Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл. — пасля кастр. 1939, Мінск ?, НКВД], публіцыст, паліт. і культурны дзеяч. У 1913—15 у Вільні разам з А.Бычкоўскім, Ядвігіным Ш., Б.Пачопкам і інш. выдаваў каталіцкую газ. «Беларус». У 1918—20 служыў арганістам у Лаварышскім касцёле каля Вільні, потым у Святаянскім касцёле ў Вільні. Член Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці з моманту яе заснавання ў маі 1917 у Петраградзе. Удзельнічаў у бел. хрысціянска-дэмакратычным руху, асабліва пасля перанясення яго сядзібы ў 1921 у Вільню. Актыўна друкаваўся на старонках газ. «Крыніца» («Беларуская крыніца»). У 1928—36 рэдагаваў «Беларускую крыніцу». У 1936 газета канфіскоўвалася 11 разоў; на яе рэдактара было заведзена больш за 30 судовых спраў. П. быў аб-

кладзены грашовымі штрафамі; арыштаваны, правёў у зняволенні некалькі месяцаў. У 1937 «Беларуская крыніца» была закрыта ўладамі. З 1938 П. рэдагаваў час. «Хрысціянская думка». У канцы 1930-х г. — старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта. Арыштаваны НКВД у кастр. 1939 і вывезены з Вільні. Абставіны гібелі невядомы.

Тв.: Самаўрад вясковых гмін. Вільня, 1929.

Літ.: *Малецкі Я.* Пад знакам Пагоні (Успаміны). Таронта, 1976; *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 5.

**ПАЛЬЧЭЎСКІ Алесь** [Аляксандр Восіпавіч; псеўданім: Аер; Ал.Вясковы; Падарожны; Прусінаўскі; Селькор Аер; Селянін В. А.; Сусед; А.Язвіч; крыптанім: А.В.; А.В-вы; А.П.; А-р; Ал. Яз-віч; В.А-сь; В-вы; П-ны; 3(16).1.1905, в. Прусінава Мінскага пав., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 26.4.1979, Мінск], празаік, драматург, рэдактар. Вучыўся ў Вышэйшым пачатковым вучылішчы ў мяст. Новы Свержань. Першыя вершы і апавяданні апублікаваў у 1924. У 1925 паступіў на рабфак БДУ. У 1931 скончыў педагагічны ф-т БДУ. Працаваў у час. «Кааперацыя БССР», потым у час. «Шляхі калектывізацыі». У 1931—36 адказны сакратар дзіцячага час. «Іскры Ільіча». Арыштаваны ў ліст. 1936; у 1937 прыгавораны да 8 гадоў зняволення. Быў накіраваны на лесараспрацоўкі ў Горкаўскую вобл.

Пасля вызвалення ў 1946 вярнуўся ў Беларусь; працаваў настаўнікам у Пухавіцкай і Рудзенскай сярэдніх школах. Зноў арыштаваны ў крас. 1949; сасланы ў Краснаярскі край. Рэабілітаваны ў 1954. Пасяліўся ў Мінску. У 1955—57 працаваў рэдактарам мастацкай літаратуры ў Дзяржвыдавецтве БССР; з 1957 літсупрацоўнік, у 1961—71 адказны сакратар час. «Вясёлка». Член СП Беларусі з 1956. Пахаваны ў в. Прусінава. Імя П. нададзена вуліцы ва Уздзе.

Тв.: Мора на камені: Выбранае. Мн., 1966; Выбр. тв.: У 2-х т. Мн., 1975; Выбр. тв.: У 2-х т. Мн., 1980.

Літ.: *Грахоўскі С*. Ёсць у мяне друг // *Полымя*. 1980, № 1; *Яго ж*. Чаго не паспеў сказаць // *Маладосць*. 1980, № 1; *Юрэвіч У*. Неўтаймоўнасць таленту // *Полымя*. 1980, № 1; *БП*, т. 4.

**ПАЛЯГОШКА Пятро.** Рэпрэсаваны ў 1930-х г. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у бел. адміністрацыі ў Смалявічах і Рудзенску. З 1944 на эміграцыі. У 1968 у Нью-Йорку выдадзены ягоныя мемуары.

Тв.: Успаміны з жыцьця пад савецкай уладай і з пабудовы Беламорскага каналу. Нью-Ёрк. 1968.

**ПАНКЕВІЧ Павел Якаўлевіч** [16.2(1.3).1895, Невель Пскоўскай губ., цяпер Расія — 28.6.1938,

Мінск, НКВД], педагог, псіхолаг, публіцыст. У 1917—18 член партыі бел. эсэраў; з 1919 член РКП(б). У 1922 скончыў Віцебскі інстытут народнай адукацыі; у 1924 Маскоўскія вышэйшыя педагагічныя курсы. У 1925 выкладчык Акадэміі камуністычнага выхавання; у 1925—37 загадчык метадычнай часткі Камуністычнага ун-та Беларусі, дацэнт, загадчык кафедры педагогікі БДУ, дырэктар НДІ педагогікі. Акадэмік БелАН з 1931; у 1931—35 неадменны сакратар БелАН, загадчык педагагічнага кабінета Акадэміі. Распрацоўваў праблемы політэхнічнай адукацыі, гісторыю педагогікі і псіхалогіі. Арыштаваны 11.12.1937. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага Суда СССР у чэрв. 1938 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 19.5.1956.

Тв.: Основные вопросы фабзавуча. М., 1926; Политехническая школа в связи с развитием современной крупной индустрии. Мн., 1928.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**ПАНЬКОЎ Мікола** [12.6.1911, Люцын Віцебскай губ., цяпер Лудза, Латвія — 7.1.1995, ЗША], публіцыст, бібліёграф, дзеяч бел. эміграцыі. Вучыўся ў Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі. Быў членам партыі бел. эсэраў; займаўся перавозкай лістовак і перыядычных выданняў. Арыштаваны латвійскімі ўладамі ў 1926; асуджаны на 5

гадоў турмы. Пасля вызвалення супрацоўнічаў у бел. перыядычным друку Латвіі і Зах. Беларусі. У час нямецкай акупацыі працаваў на чыгунцы. З 1944 у Германіі. У снеж. 1944 у лагеры для перамешчаных асоб Ольдэнбургу заснаваў Беларускую бібліяграфічную службу. Збіраў і апрацоўваў бел. эміграцкія выданні. Уклаў «Слоўнік замежных словаў беларускай мовы». Выдаваў шэраг неперыядычных выданняў (у т.л. і рукапісных), напр., бюлетэнь Саюза вольных бел. журналістаў «Вольнае слова» (1949—51). У 1951 пераехаў у ЗША. З 1952 старшыня Саюза беларускіх журналістаў у ЗША. Адзін са старшыняў «Крывіцкага (Беларускага) навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны». Працаваў над «Энцыклапедыяй прыроды Беларусі». Падрыхтаваў даведнікі «Хто ёсць хто на эміграцыі», «Мартыралогія беларускага народа», «Беларуская прэса на эміграцыі». Большасць прац П. засталася ў рукапісах.

Тв.: Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945—1950 гг. Ню-Ёрк, 1952; Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984). Мн., 2001.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**ПАРЭЧЫН Рыгор Яўхімавіч** [8.3.1894, в. Задашчэнне Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 28.6.1938, НКВД], правазнавец, публіцыст. Скончыў Мінскі на-

стаўніцкі інстытут, працаваў настаўнікам (з 1912). З 1921 у Паўнамоцным прадстаўніцтве БССР пры ўрадзе РСФСР (з 1923 Пастаяннае прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе СССР). У 1924 скончыў 1-ы Маскоўскі ун-т. З 1924 нам. старшыні Камісіі заканадаўчых меркаванняў пры СНК БССР. З 1926 у Інстытуце беларускай культуры; потым у Інстытуце эканомікі БелАН. З 1931 у Інстытуце савецкага будаўніцтва і права. Аўтар прац па станаўленні канстытуцыйнага права БССР і савецкага федэралізму. Арыштаваны 24.1.1937. У чэрв. 1938 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 1.8.1957.

Тв.: Советские республики в их взаимоотношениях. Мн., 1922; Савецкая Беларусь у зносінах з чужаземнымі дзяржавамі // *Змаганне*. Сш. 1. Мн., 1924; Наша Канстытуцыя. Мн., 1928; Ідэя беларускай дзяржаўнасці перад утварэннем Савецкай Беларусі // *Запіскі аддзела гуманітарных навук БАН*. Працы кафедры сучаснага права. 1929. Т. 1.

Літ.: *Возвращенные имена*; *Інстытут беларускай культуры*. Мн., 1993; *ЭГБ*, т. 5.

**ПАЎЛОВІЧ Сяргей Канстанцінавіч** [псеўданім: Паляшук; 13(25).9.1875, в. Асаўцы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Драгічынскі р-н Брэсцкай вобл. — 16.9.1940, Вільня], педагог, публіцыст, грамадскі і культурны дзеяч. Скончыў праваслаўную семінарыю ў Вільні, Кіеўскую духоўную

акадэмію (1899). Працаваў у царкоўных установах, у 1909—13 выкладчыкам настаўніцкай семінарыі і жаночай гімназіі ў Рагачове, у 1913—18 інспектарам народных школ Ваўкавыскага пав. З пачатку 1920-х г. жыў у Вільні. Член Беларускага навуковага таварыства; адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. У 1925—28 настаўнік і дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. Прапагандаваў ідэі працоўнай школы. Актыўна выступаў супраць паланізацыі. Крытыкаваў прымусовае ўвядзенне ў бел. школах лацінкі (брашура «Некалькі ўваг аб беларускім «Лемантары» Ст.Любіч-Маеўскага», 1929), але сам таксама карыстаўся лацінкай (буквар «Zasieúki», 1937). Аўтар школьных падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. У публіцыстыцы (найперш на старонках час. «Беларускі летапіс») шмат увагі надаваў пытанням самаадукацыі і хатняга выхавання, культурна-асветнай рабоце, рэлігійнай адукацыі. Арыштоўваўся польскімі ўладамі ў 1930 і 1933. У 1937 выдаваў час. для дзяцей «Снапок».

Тв.: Свяшчэнная гісторыя Старога Завету. Вільня, 1926; Пазашкольная асвета. Культурна-асветная праца ў гуртках ТБШ. Вільня, 1928; Пішы самадзейна: Развіццё навыку самастойнага пісьма. Ч. 1. Вільня, 1928; Метадычныя ўвагі да пасобніка «Пішы самадзейна». Вільня, 1929; Свяшчэнная гісторыя Новага Завету. Вільня, 1936; Першыя зерняткі. Вільня, 1936.

Літ.: *Антология педагогической мысли Белорусской ССР*. М., 1986; *Народная адукацыя і педагагічная навука ў Бела-*

*русі (1917—1945).* Мн., 1993; *Вабішчэвіч А.* Каб жыць пад сваім небам: Навукова-педагагічная спадчына Сяргея Паўловіча // *Голас Радзімы*. 1996, 19, 26 снеж.; *ЭГБ*, т. 5.

**ПАЎЛОВІЧ Эдвард Баніфацы Францавіч** [псеўданімы: Эдвард з-над Свіцязі; Ясенчык; 7.6.1825, мяст. Тургелі Віленскага пав., цяпер Тургеляй, Вільнюскі р-н, Літва — 10.2.1909, Львоў], грамадскі дзеяч, мемуарыст, мастак, асветнік. Пісаў на польскай мове. Дзяцінства правёў на Навагрудчыне. Вучыўся ў мяст. Жыровічы, Слоніме, Слуцку. У Вільні браў урокі малявання ў К.Русецкага і К.Рыпінскага. У 1853 скончыў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў. На працягу 1853—56 падарожнічаў па Зах. Еўропе. Уражанні ад вандроўкі апублікаваў у брашуры «Колькі слоў ліцвіна» (Парыж, 1857). З 1859 выкладаў у Навагрудскай гімназіі. Заснаваў у Навагрудку жаночы пансіён, нядзельную школу для простага люду. У 1860 стварыў самадзейны тэатр, дзе быў рэжысёрам, дэкаратарам і акцёрам. Дасылаў карэспандэнцыі ў газеты Вільні, Варшавы, Парыжа. Браў удзел у паўстанні 1863—64. Сасланы ў Петразаводск, потым у Алонец, Екацярынаслаў. Вярнуўся ў Навагрудак у 1867. З 1870 жыў у Львове. Падрыхтаваў і выдаў там каталогі фондаў музея Любамірскіх. Стала пісаў мемуары: «Успаміны з-над Віліі і Нёмана» (1882), «Успаміны. Навагрудак — турма — выгнанне» (1887), «З падарожжа па Літве» (1890), «З успамінаў. Год

1846» (1898), «З жыцця ліцвіна» (1904), «Мае ўспаміны з часоў настаўнічання на Літве колькі дзесяткаў год назад» (1904), «Двое памятных сутак у Мінску. 1863 год» (1906). У гэтых творах апублікаваў багата звестак пра культурна-грамадскае і літаратурнае жыццё ў Беларусі і Літве 1840—60-х г. Вядома яго публіцыстыка па мастацтвазнаўстве, апублікаваў працу «Погляд на становішча польскага выяўленчага мастацтва ў параўнанні з замежным мастацтвам» (1881). Як мастак працаваў пераважна ў жанры партрэта; пакінуў таксама замалёўкі Навагрудка; пісаў абразы.

Літ.: *АЗБ.*

**ПАЎЛЮКОЎСКІ Уладзіслаў** [псеўданімы і крыптанімы: У-Ініцкі; Улад. Ініцкі; У.І.Ніцкі; Улад-Ініцкі; Унучак; У. Паў-скі; Ул.Паў-скі; У.І.; У.-І.; Ў.П.; 1(13).5.1895, в. Ініца Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 8.9 (паводле іншых звестак 8.11).1955, Вільня], паэт, празаік, этнограф, краязнавец, мастак. Скончыў пачатковую школу ў Стоўбцах і гарадскую ў Навагрудку. Працаваў у канцылярыі маёнтка князя Радзівіла. Вучыўся ў Харкаўскім мастацкім вучылішчы. Падчас 1-й сусветнай вайны мабілізаваны ў царскае войска; прапаршчык. Удзельнік грамадзянскай вайны ў Расіі. У 1920 вярнуўся ў родную вёску. У ся-

рэдзіне 1920-х г. пераехаў у Вільню. Быў звязаны з БСРГ. Першыя творы П. пачалі з’яўляцца ў зах.-бел. друку ў 1926. Супрацоўнічаў з час. «Маланка», «Шлях моладзі», «Авадзень». Як графік афармляў мастацкія кніжкі, календары, падручнікі. Арыштаваны ў 1926; зняволены ў турме «Лукішкі». У 1927 апеляцыйны суд скасаваў крымінальную справу і вызваліў П. На працягу 1928—29 выдаў тры кнігі; некаторыя творы прысвяціў жыццю за кратамі (вершы «Лукішкі», «Дзень у адзіночцы», «У вастрозе», «Відзежа ў вастрозе»). Перакладаў рускіх аўтараў (Л.Талстой, М.Зошчанка). Зноў арыштаваны ў першай палове 1939 і адпраўлены ў канцлагер Картуз-Бяроза. Вызвалены савецкімі ўладамі. Знаходжанне ў лагеры апісаў ва ўспамінах, якія апублікаваў у 1940. З 1940 супрацоўнік Беларускага музея імя І.Луцкевіча. З 1945 да 1948 працаваў дырэктарам Літаратурнага музея А.Пушкіна ў Вільні. Арыштаваны 29.8.1948; этапіраваны ў Мінск. Асуджаны на 10 гадоў лагераў. Вызвалены ў 1953. Вярнуўся ў Вільню паралізаваным. Пахаваны на віленскіх могілках Роса.

Тв.: Сон Гаўрылы і розныя вершы. Вільня, 1928; Апавяданні. Вільня, 1929; Клім бабаю і іншыя жарты. Вільня, 1929; Aryšty: Biaroza i vola: (Uspaminy aryštanta). Vilnius, 1940.

**ПАЎЛЮКЯВІЧУС Банавентура** [Pauliukevičius Bonaventūras; Паўлюкевіч Банавентура Казімі-

равіч; псеўданімы і крыптанімы: Džugas; Джугас; Bonplas; B.P.; Dž.; 16.10.1896, в. Будэжэрай Мар'ямпальскага пав. Ковенскай губ., цяпер Вілкавішскі р-н, Літва — 29.11.1938, Мінск, НКВД], празаік, публіцыст. Пісаў на літоўскай мове. У 1922—24 вучыўся ў Мар'ямпальскай гімназіі, дзе браў удзел у рабоце марксісцкага гуртка. У 1924 паступіў на прыродазнаўчы ф-т Каўнаскага ун-та. Публікавацца пачаў у 1926. З 1926 — рэдактар час. «Skardas», які выдаваўся ЛКП. На другім нумары выданне было закрыта, а рэдактар арыштаваны. Пасля вызвалення выехаў у Рыгу, дзе выкладаў літоўскую мову і адначасова сам вучыўся ў Латвійскім ун-це. З 1929 жыў у Кёнігсбергу, працаваў у рэдакцыі газеты ЛКП «Balsas». Публікаваўся ў літоўскіх газетах ЗША «Laisvė» і «Vilnis». З 1932 у Мінску; працаваў у рэдакцыі газ. «Raudonasis artojas». З 1933 вучыўся ў аспірантуры пры БелАН. Член СП Беларусі (літоўскай секцыі) з 1934. Арыштаваны 4.8.1938. Пастановай калегіі НКВД ад 29.3.1938 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 27.9.1957.

Тв.: Lietuvių kalbos vadovėlis. Minskas, 1933; Berno vargai. Vilnius, 1960.

Літ.: *Мальдзіс А.* Творчыя ўзаемасувязі беларускай і літоўскай літаратур у савецкі час // *Старонкі літаратурных сувязей*. Мн., 1970; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 4.

**ПАЧОПКА Баляслаў Антонавіч** [падпісваў творы: а. Баляслаў; крыптанімы: B.P.; B.P-ko; 1884, Віцебская губ. — 26.12.1940], грэка-каталіцкі святар, культурна-асветны дзеяч, журналіст, педагог, публіцыст. Паходзіў са шляхецкай сям'і. У 1905—07 вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі, але пакінуў яе на другім годзе навучання. З 1913 загадчык аддзела рэлігіі газ. «Biełarus» (Вільня), у 1914—15 рэдактар-выдавец. У 1916—18 дырэктар Свіслацкай настаўніцкай семінарыі. Аўтар падручнікаў па граматыцы бел. мовы. Пасвечаны ў святары ў 1925. З 17.9.1926 пробашч Баброўіцкага прыходу (Косаўскі пав., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл.). Удзельнік грэка-каталіцкіх канферэнцый у Пінску (1932, 1933). Публікаваўся ў перыядычных выданнях: «Гоман», «Biełaruskaja krynica», «Chryścijanskaja Dumka», «Да злучэння». Супрацоўнічаў з газетай віленскіх краёўцаў «Przegląd Wileński». За сваю бел. культурную і рэлігійную дзейнасць пераследаваўся польскімі ўладамі. Памёр пасля збіцця невядомымі.

Тв.: Žyćcio papieža Piusa X. Wilnia, 1914; Čaławiek na wyšyni swajoj hodnaści. Wilnia, 1915; Boh z nami: Biełaruski maliteunik. Wilnia, 1915; Światy Jezafat Kuncewič. Wilnia, 1916; Hramatyka biełaruskaj mowy. Wilnia, 1918; Jak wučyć žyć i wieryć św. Chrystowa Pausiudnaja Carkwa. Wilnia, 1931.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *ЭГБ*, т. 5.

**ПАШКОВІЧ Іван Феліксавіч** [22.5.1898, мяст. Глыбокае Дзісненскага пав. Віленскай губ., цяпер горад Віцебскай вобл. — 19.1.1938, Яраслаўская вобл.], журналіст, педагог. Брат члена ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў М.Пашковіча. Працаваў у сістэме Наркамасветы. Згадваўся ў сакрэтным дакладзе ДПУ БССР у ЦК КП(б)Б ад 29.10.1925 «Аб беларуска-эсэраўскім шавіністычным руху». Арыштаваны 17.2.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны 10.4.1931 на 5 гадоў высылкі. Пакаранне адбываў ва Угліччы (Расія). Вызвалены 17.2.1935. Паўторна арыштаваны 9.9.1937. Расстраляны. Рэабілітаваны 19.9.1960.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Платонов Р.* Перед крутым поворотом: Тенденции в политической и духовной жизни Беларуси (1925—1928): Отражение времени в архивных документах. Мн., 2001.

**ПЕСТРАК Піліп Сямёнавіч** [псеўданімы: П.Гайдук; Звястун; П.Звястун; 14(27).11.1903, в. Сакаўцы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 22.8.1978, Мінск], паэт, празаік. Падчас 1-й сусветнай вайны сям’я П. знаходзілася ў бежанстве ў Самарскай губ., дзе будучы пісьменнік атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1920 паступіў на сацыяльна-гістарычны ф-т Са-

марскага ун-та. У 1921 разам з бацькамі вярнуўся ў Зах. Беларусь. У 1921—24 працаваў лесніком Косаўскага лясніцтва; у 1924—26 служыў у войску. У 1926 уступіў у БСРГ; з 1927 сакратар Косаўскага падпольнага райкама КПЗБ. Друкавацца пачаў на старонках час. «Родныя гоні» ў 1926. Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1929; зняволены ў Гродзенскай турме (да 1933). Пасля вызвалення быў інструктарам ЦК КПЗБ па Пінскай акрузе, але ў 1934 зноў арыштаваны. Сядзеў у турмах Пінска, Вільні, Гродна; змяшчаў вершы ў нелегальным рукапісным час. «Краты», які выдаваўся палітвязнямі. Вызвалены савецкімі ўладамі пасля ўз'яднання Зах. Беларусі з БССР у вер. 1939. Член СП Беларусі з 1939; у 1940—41 старшыня Беластоцкага аддзялення СП Беларусі. У 1940 апублікаваў першы зборнік вершаў «На варце». У 1942—43 удзельнік партызанскага руху. Працаваў начальнікам Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР (1943—45), у Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР (1946—48), літкансультантам СП БССР (1948—51). З 1951 на творчай працы. Тэме барацьбы ў Зах. Беларусі прысвяціў раман «Сустрэнемся на барыкадах». Перакладаў на бел. мову творы польскіх (Э.Ажэшка, У.Бранеўскі, С.Дабравольскі, Е.Путрамант), украінскіх (І.Франко, Л.Украінка, М.Рыльскі, П.Тычына), латышскіх, літоўскіх пісьменнікаў. П'еса «Пад зоркамі» (сааўтар А.Струнін) ставілася ў Гродзенскім абл. дра-

матычным тэатры. Раман «Серадзібор» прысвечаны жыццю вёскі. На вершы П. напісаны песні. У 1964 удастоены Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1968). Пахаваны на Усх. могілках Мінска. Імем П. названы вуліцы ў Мінску і Гродне.

Тв.: Выбр. тв.. Мн., 1947; Зб. тв.: У 4 т. Мн., 1969—71; Зб. тв.: У 5 т. Мн., 1984—86; Апавяданні. Мн., 1970.

Літ.: *Хромчанка К.Р.* Піліп Пестрак: Жыццё і творчасць. Мн., 1960; *Ватацы Н.Б.* Піліп Пестрак: Бібліяграфічная памятка. Мн., 1961; *БП*, т. 5.

**ПЕТРАШКЕВІЧ Ануپрэй** [Pietraszkiewicz Onufry; псеўданімы: Nufr; Proloszcz; Stryjaszek; 1793, мяст. Шчучын Лідскага пав. Віленскага ваяв., цяпер горад Гродзенскай вобл. — 7.12.1863, Вільня], паэт, архівіст, педагог. Пісаў на польскай мове. Скончыў павятовую школу ў мяст. Шчучын, Віленскі і Варшаўскі ун-ты; магістр філасофіі (1821). Пачаў друкаваць свае вершы ў 1817 у час. «Tygodnik Wileński». Пісаў фальклорна-этнаграфічныя замалёўкі, заснаваныя на бел. матэрыяле («Ідылія Купала»). У 1822—24 працаваў у архіве Радзівілаў у Вільні. Адзін з заснавальнікаў Таварыства філаматаў, распрацоўваў структуру Таварыства прамяністых. Збіраў матэрыялы Таварыства філаматаў (выдадзены як архіў філаматаў у

1913—34, 1973). Арыштаваны ў 1824. Высланы з Вільні. Працаваў бібліятэкарам Маскоўскага ун-та (1825—31). Паўторна арыштаваны 16.4.1831; у 1832 высланы ў Табольск. Змог вярнуцца ў Вільню толькі ў 1860.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**ПЕТРУСЕВІЧ Казімір Адамавіч** [21.2(4.3).1872, засценак Душава (в. Навіны) Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер каля в. Навіны Капыльскага р-на Мінскай вобл. — 11.8.1949, Варшава], адвакат, грамадскі і паліт. дзеяч, публіцыст. У 1891 скончыў Слуцкую гімназію, у 1895 юрыдычны ф-т Кіеўскага ун-та. З 1894 далучыўся да рэвалюцыйнага руху. У 1897 за ўдзел у дэманстрацыі арыштаваны і высланы з Кіева ў Екацярынаслаў, дзе заняўся аб'яднаннем мясцовых рабочых плыняў у «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа»; дэлегаваны на 1-ы з'езд РСДРП у Мінск (1898). Арыштаваны ў сак. 1898; высланы ў Валагодскую губ. З канца 1904 зноў у Мінску. Удзельнік рэвалюцыі 1905. Арыштаваны ў снеж. 1905; зняволены на 6 месяцаў. У 1908 абараняў на судовых працэсах Я.Коласа, А.В. і В.І.Бонч-Асмалоўскіх. У 1918—20 старшыня камітэта Чырвонага Крыжа, старшыня акруговага суда ў Мінску. З 1920 у Вільні. У кастр. 1920 — чэрв. 1922 — нам. стар-

шыні, старшыня Апеляцыйнага суда ўсх. тэрыторый Польшчы. З вер. 1922 адвакат і старшыня Адвакацкага савета, прафесар Віленскага ун-та. У 1926 на «працэсе 94-х» абараняў удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі; у 1928 на «працэсе 56-і» абараняў дзеячаў БСРГ, за што быў пазбаўлены работы ва ун-це. У 1934 абараняў М.Танка. З 1945 у Польшчы. Суддзя Вярхоўнага суда Польшчы, член Галоўнай адвакацкай рады. Аўтар прац па цывільным праве.

Літ.: *PSB*, t. 30/4; *ЭГБ*, т. 5.

**ПЕЦЮКЕВІЧ Марыян Язэпавіч** [24.9.1904, в. Цяцеркі Новааляксандраўскага пав. Ковенскай губ., цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл. — 13.9.1983, Торунь, Польшча], этнограф, педагог, мемуарыст. З дапамогай бел. ксяндзоў В.Шутовіча і А.Станкевіча трапіў у Віленскую беларускую гімназію. Пасля сканчэння гімназіі паспрабаваў выехаць для вучобы ў Прагу. Пры нелегальным пераходзе мяжы затрыманы. Адпраўлены служыць у польскае войска. Пасля службы паступіў у Віленскі ун-т, дзе вывучаў этнаграфію, археалогію, славістыку. Яшчэ падчас вучобы ўладкаваўся на працу ў бібліятэку імя Урублеўскіх. Меў доступ да спецфондаў, сярод якіх былі выданні з БССР. Дапамагаў многім віленскім беларусам знаёміцца з

забароненымі ў Польшчы выданнямі. Быў членам Беларускага студэнцкага саюза, Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. У 1930—35 — рэдактар час. «Шлях моладзі». На гэтай пасадзе пры канфіскацыях нумароў часопіса двойчы прыцягваўся да судовай адказнасці, некалькі разоў быў пакараны грашовымі штрафамі. Пасля заняцця Вільні савецкімі войскамі вёў на віленскім радыё перадачы па-беларуску. Быў дырэктарам бібліятэкі імя Урублеўскіх. Пасля перадачы Вільні Літоўскай рэспубліцы стаў дырэктарам Беларускага музея імя І.Луцкевіча. З пачаткам нямецка-савецкай вайны з'ехаў на вёску. Потым выкладаў бел. мову ў эвакуіраваным з Магілёва ў Новую Вільню Медыцынскім інстытуце. Арыштаваны савецкімі ўладамі 1.1.1945; утрымліваўся ў Лукішскай турме. Вызвалены 19.3.1945. Пасля сканчэння вайны таксама жыў на вёсцы. Быў абраны старшынёй Ажулаўскага сельскага савета на Віленшчыне. Арыштаваны 27.3.1949; высланы ва Ужурскі р-н Краснаярскага краю. Зноў арыштаваны 31.7.1952. Дастаўлены ў Вільню, асуджаны да 25 гадоў пазбаўлення волі. У канцы сак. 1953 адпраўлены ў Варкуту. Вызвалены ў сак. 1957. Па рэпатрыяцыі пераехаў у Польшчу, куды ўжо раней выехалі яго жонка і дачка. Да ліст. 1970 працаваў у Торуньскім этнаграфічным музеі. Многа ўвагі надаваў вывучэнню народнай культуры бел. насельніцтва Беласточчыны. Аўтар шматлікіх публікацый. Напісаў кніжку ўспамінаў.

Тв.: У пошуках зачараваных скарбаў. Вільня, 1998; Кара за служэнне народу. Беласток, 2002.

**ПІВАВАРАЎ Зяма** [Зяма Раманавіч; Залман Рувімавіч; крыптанімы: П-Ў; П-ў; 24.5(5.6).1910, мяст. Касцюковічы Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковічы Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], паэт, перакладчык. Пачаў пісаць вершы па-беларуску ў 1925, тады ж упершыню апублікаваў іх у клімавіцкай газ. «Малады камуніст». У 1927 паступіў у Мсціслаўскі педтэхнікум. У 1929 пераехаў у Ленінград. Публікаваўся ў ленінградскіх альманахах і часопісах. Уступіў у БелАПП. Вучыўся на літаратурным ф-це МВПІ (скончыў у 1934). У 1934—36 працаваў у рэдакцыі газ. «Чырвоная змена». Перакладаў рускіх паэтаў. Выступаў у друку таксама як тэатральны крытык. Арыштаваны 13.11.1936; у кастр. 1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1958.

Тв.: Лірыка двух нараджэнняў: Вершы. Мн., 1934.

Літ.: *Левін С.* Пра творы Зямы Піваварава // *ЛіМ*. 1934, 31 студз.; *Шушкевіч С.* У буднях працоўных гартаваўся радок // *Чырвоная змена*. 1971, 17 крас.; *Русаковіч В.* Зяма Півавараў // *Полымя*. 1985, № 6; *БП*, т. 5.

**ПІВАВАРАЎ Уладзімір Іванавіч** [1904, в. Сямёнаўка Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ.,

цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. — 28.8.1941, Варкута, ГУЛАГ], фізік. Скончыў БДУ. Працаваў навуковым супрацоўнікам Фізіка-тэхнічнага інстытута БелАН. У 1937—38 наркам асветы БССР. Арыштаваны 2.7.1938. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.5.1940 прыгавораны да 15 гадоў лагераў. Удзельнічаў у паўстанні палітвязняў. Памёр у Печлагу (Варкута). Рэабілітаваны 25.12.1954.

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ПІГУЛЕЎСКІ Уладзімір Васілевіч** [псеўданім: Гуль; 26.2(10.3).1889, Гродна — 17.6.1958, Рыга], празаік, драматург, перакладчык, крытык, педагог. Пісаў на бел., латышскай і рускай мовах. У 1907 скончыў Мінскую мужчынскую класічную гімназію. У 1908 паступіў на гістарычна-філалагічны ф-т Пецярбургскага ун-та, пасля сканчэння якога ў 1912 адбываў вайсковую павіннасць. У гады 1-й сусветнай вайны на фронце, служыў у авіяатрадзе, быў узнагароджаны. У 1918 удзельнічаў у барацьбе за бел. дзяржаўнасць, быў дыпламатычным кур’ерам пры ўрадзе В.Ластоўскага. З 1922 жыў у Даўгапілсе (Дзвінску), выкладаў у бел. гімназіі. У 1924—25 быў дырэктарам Люцынскай беларускай гімназіі. Карыстаўся падтрымкай Я.Райніса. Друкавацца

пачаў у 1924. У 1925 у выніку сфабрыкаванага ўладамі Латвіі т.зв. «беларускага працэсу» адхілены ад педагагічнай дзейнасці. Пераехаў у Рыгу; працаваў у кааператыўным банку. На з'ездзе бел. культурна-асветных устаноў у 1926 у Рызе вылучаны на пасаду загадчыка Беларускага аддзела пры Міністэрстве асветы Латвіі; працаваў там у 1926—34. Пасля дзяржаўнага перавароту К.Ульманіса ў 1934 арыштаваны і сасланы ў Ліепайскі лагер (1935). Па вызваленні займаўся журналістыкай. У 1940—41 працаваў інспектарам Міністэрства асветы Латвійскай ССР. У час вайны ў эвакуацыі ў Татарстане. Пасля вайны жыў у Рызе; выкладаў у мараходным вучылішчы, педагагічным інстытуце. Пасля выхаду на пенсію ў 1950 займаўся літаратурнай працай. Перакладаў на бел. мову з латышскай і чэшскай. На латышскую мову пераклаў камедыю Я.Купалы «Паўлінка», якая была пастаўлена ў 1949 Латвійскім мастацкім тэатрам імя Я.Райніса. Публікаваў у латышскім друку артыкулы пра бел. культуру і літаратуру. Член СП Беларусі з 1957, заслужаны дзеяч культуры Беларусі.

Тв.: Беларусы ў Латвіі // *Змаганне*. 1924, 31 студз.; Ян Райніс і беларусы // *Беларускае жыццё*. 1932, № 1.

Літ.: *Мірачыцкі Л.* Сціплы працаўнік літаратуры // *ЛіМ*. 1959, 7 сак.; *Яго ж.* Нястомны працаўнік на ніве культуры // *ПГКБ*. 1980, № 1; *Ліс А.* Уладзімір Пігулеўскі — каардынатар беларуска-латышскіх сувязей // *Здабыткі*. Мн., 2002; *БП*, т. 5.

**ПІРЫШКА Фёдар Барысавіч** [17.2(1.3).1898, Дубровіца Валынскай губ., цяпер Ровенская вобл., Украіна — 1.12.1991], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, мемуарыст. У 1920 на Валыні быў зняволены польскімі ўладамі. З 1924 сакратар Дубровіцкага райкама КП(б)У. З 1926 на падпольнай рабоце ў Зах. Беларусі; сакратар Баранавіцкага, Пінскага, Брэсцкага, Гродзенскага, Віленскага акруговых камітэтаў КПЗБ. Арыштаваны ў маі 1928; зняволены на 6 гадоў. З 1934 у СССР. Вучыўся ў аспірантуры Камуністычнага ун-та нацыянальных меншасцей Захаду імя Ю.Мархлеўскага. З 1936 зноў у Зах. Беларусі; член Краявога сакратарыята ЦК КПЗБ. Арыштаваны польскімі ўладамі ў снеж. 1938; прыгавораны да 10 гадоў зняволення. Вызвалены пасля вер. 1939 савецкімі ўладамі. У час вайны ў Чырвонай Арміі. У 1944—56 на савецкай і партыйнай рабоце. Аўтар успамінаў.

Тв.: Дзейнасць Краявога сакратарыята ЦК КПЗБ у 1937—38 гг. // *У суровыя гады падполля*. Мн., 1958.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**ПІЧЭТА Уладзімір Іванавіч** [9(21).10.1878, Палтава, Украіна — 23.6.1947, Масква], гісторык. У 1901 скончыў Маскоўскі ун-т. У 1910—11 прыват-дацэнт, у 1918—22 прафесар Маскоўскага ун-та. У 1918 абараніў доктарскую дысертацыю «Аг-

рарная рэформа Жыгімонта-Аўгуста ў Літоўска-Рускай дзяржаве». Па прапанове ўрада БССР узначаліў Маскоўскую камісію па арганізацыі БДУ, з ліп. 1921 рэктар БДУ. Вывучаў гісторыю ВКЛ, Польшчы, Чэхіі, Сербіі, Балгарыі, Расіі XVI—XX ст. Апублікаваў каля 150 прац па гісторыі, гістарыяграфіі, археалогіі, архівазнаўстве, краязнаўстве, гісторыі права Беларусі. Адзін з арганізатараў Інбелкульта (аўтар яго статута) і БелАН. Акадэмік БелАН (1928). У 1929 у СССР была сфабрыкавана т. зв. «акадэмічная справа» супраць акадэміка С.Ф.Платонава і іншых гісторыкаў. 13.9.1930 П. арыштаваны АДПУ СССР у Ленінградзе. Пастановай СНК БССР ад 6.12.1930 пазбаўлены звання акадэміка. Пастановай Калегіі АДПУ ад 8.8.1931 сасланы на 5 гадоў у Вятку. У чэрв. 1934 месца ссылкі заменена на Варонеж, дзе П. працаваў прафесарам у педагагічным інстытуце. У 1935 справа П. перагледжана, яму дазволілі жыць у Маскве. Паводле адной з версій вызваленне было звязана з прыездам у Маскву былога аднакурсніка П. прэм’ер-міністра Чэхаславакіі Э.Бенеша. З 1937 працаваў у Інстытуце гісторыі АН СССР, дзе з 1939 узначаліў сектар славяназнаўства; адначасова быў загадчыкам кафедры зах. і паўдн. славян Маскоўскага ун-та. З 1941 разам з інстытутам у эвакуацыі ў Ташкенце. У 1946 з акадэмікам Б.Дз.Грэкавым заснаваў і стаў дырэктарам Інстытута славяназнаўства АН СССР. Акадэмік АН СССР.

Тв.: Гісторыя Беларусі. Ч. 1. М.; Л., 1924; Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. 2 изд. М., 1958; Белоруссия и Литва, XV—XVI вв. М., 1961; Пытанне аб вышэйшай школе на Беларусі ў мінулым. Мн., 1991.

Літ.: *Академик В. И. Пичета: Страницы жизни*. Мн., 1981; *В. И. Пичета: Библиографический указатель*. Мн., 1978; *Брачев В.С.* «Дело историков» 1929—1931. СПб., 1997; *Іофе Э.* Партрэт вучонага // *Полымя*. 1970, № 12. С. 215—221; *Иоффе Э.Г.* Академик В. И. Пичета (1878—1947) // *Новая и новейшая история*. 1996, № 5; *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 5.

**ПІЯТУХОВІЧ Міхайла** [Міхаіл Мікалаевіч; 23.2.1891, в. Алексінічы Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Сенненскі р-н Віцебскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, НКВД], літаратуразнавец, крытык, педагог. Паходзіў з сям'і вясковага праваслаўнага святара. Вучыўся ў Магілёўскай духоўнай семінарыі. У 1917 скончыў Нежынскі гісторыка-філалагічны інстытут; быў накіраваны ў Петраградскі ун-т для падрыхтоўкі да прафесарскага звання па кафедры рускай мовы і славеснасці. З-за матэрыяльных умоў на пачатку 1920 вымушаны быў пераехаць у Адэсу. З 1921 у БССР. Публікавацца пачаў у 1921. Актыўна выступаў у друку як крытык і даследчык бел. літ. З вер. 1921 з'яўляўся членам навукова-тэрміналагічнай камісіі, з лют. 1922 — навуковым супрацоўнікам, а з 1925 — правадзей-

ным членам Інбелкульта; з 1929 — правадзейны член БелАН. У 1921—26 выкладаў бел. літаратуру ў МБПТ. З лют. 1922 працаваў у БДУ: дацэнт, з кастр. 1926 прафесар. У маі 1926 стаў дэканам педагагічнага ф-та. У пачатку 1930-х г. над П. навісла пагроза рэпрэсій з-за «непралетарскага паходжання». Літаратурна-крытычныя выступленні П. заўсёды мелі апанентаў, аднак у сярэдзіне 1930-х г. палеміка выйшла за межы літаратурнай дыскусіі і прыняла характар грубых паліт. абвінавачванняў. П. вырашыў выехаць з сям'ёй за межы Беларусі. Жыў у Арджанікідзе; працаваў выкладчыкам-славістам у Паўночна-Каўказскім і Паўночна-Асецінскім педагагічных інстытутах. Але 9.1.1937 ён быў арыштаваны і перавезены ў Мінск. 19.12.1937 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 27.12.1957.

Тв.: Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасць. Мн., 1926; Апавяданне «У палескай глушы» як новы этап бел. мастацкай прозы. Мн., 1927; Ля вытокаў лірыкі Янкі Купалы. Мн., 1927; Паэтычнае светаадчуванне ў творчасці Якуба Коласа. Мн., 1927; Звычаі і песні беларускага селяніна ў іх гаспадарчай аснове. Мн., 1928; Лірыка і проза Ц. Гартнага. Мн., 1928; Нарысы гісторыі беларускай літаратуры: Агляд літаратурна-ідэалагічных плыняў XIX і XX ст. Мн., 1928; Рукапісы А. Рыпінскага // *Шляхам гадоў*. Мн., 1990.

Літ.: *Карабан С.* Нарысы гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20—30 гадоў. Мн., 1971; *Мушынскі М.І.* Беларуская крытыка і літаратуразнаўства (20—30 гады). Мн., 1975; *Ки-*

*селёв Г.* Разыскивается классик… Мн., 1989. С. 356—376; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 5.

**ПЛАТНЕР Ісак** [Айзік Хаімавіч; псеўданім: Айзік Мазік; 17.11.1895, Саколаў-Падляскі Сядлецкай губ., Польшча — 26.7.1961, Мінск], паэт, празаік, журналіст. Працаваў краўцом. Першыя вершы апублікаваў у яўрэйскай прэсе ў 1918. У тым жа годзе выехаў на заробкі ў ЗША; да 1923 працаваў на швейнай фабрыцы ў Нью-Йорку. У 1927 скончыў там яўрэйскую настаўніцкую семінарыю. У 1927—32 настаўнічаў у школах пры Інтэрнацыянальным рабочым ордэне; працаваў літсупрацоўнікам у газ. «Морген-фрайтаг» (на ідыш). Актыўна публікаваўся ў яўрэйскай перыёдыцы ЗША. У 1930 у Нью-Йорку выйшла яго першая кніга. У 1932 пераехаў у СССР. Публікаваўся ў мінскіх яўрэйскіх выданнях. Да 1937 працаваў літаратурным работнікам у Беларускім радыёкамітэце. Член СП Беларусі з 1934. У 1937—41 — літаратурны рэдактар газ. «Октобэр» (на ідыш). У гады вайны ў эвакуацыі ў Саранску і Яраслаўлі. У ліст. 1944 вярнуўся ў Мінск. Падчас «кампаніі супраць касмапалітаў» 8.6.1949 арыштаваны. У 1950 асуджаны на 25 гадоў лагераў. Рэабілітаваны ў 1956. Вярнуўся ў Мінск. Аўтар вершаў для дзяцей. Перакладаў з англійскай і нямецкай моў. Асобнымі выданнямі

выходзілі яго творы ў перакладзе на бел., рускую, польскую і балгарскую мовы. Пахаваны на Усх. могілках.

Тв.: Соль жыцця: Выбр. тв. М., 1976 / Яўр.; Бел. пер.: Сваёй краіне: Вершы. Мн., 1947; Соль жыцця: [Вершы]. Мн., 1957; Палаючае сэрца: Апавяданні. Мн., 1960; Вясёлая іголка. Мн., 1961; Дар сэрца. Мн., 1962; Магазін цацак. Мн., 1963; Хто што робіць. Мн., 1970; Мой агарод. Мн., 1984; Песні пра хлеб. Мн., 1986.

Літ.: *Азгур З*. Сквозь сердце // *Неман*. 1986, № 11; *Васіленка П*. Ісак Платнер // *Полымя*. 1985, № 11; *БП*, т. 5.

**ПЛАТУН Антон Мартынавіч** [13.11.1896, в. Амлынцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — 1938, НКВД], дзяржаўны і прафсаюзны дзеяч, публіцыст, рэдактар. Вучыўся ў Нясвіжскім гарадскім вучылішчы. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў. У 1920—27 на адміністрацыйнай і партыйнай рабоце ў Мазыры, Барысаве, Слуцку. З 1927 старшыня Цэнтральнага праўлення прафсаюза работнікаў асветы БССР; рэдактар час. «Прафесійны рух Беларусі». У 1929—33 наркам асветы БССР. Акадэмік БелАН (1931). Быў адным з галоўных выкрывальнікаў «нацдэмаў». 7.3.1933 зняты з пасады і накіраваны на работу ў Зах. Сібір. Арыштаваны ў 1937. Памёр у зняволенні. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў БССР. Мн.,1930; За культурную рэвалюцыю. Мн., 1931; Итоги культурного строительства в БССР за 10 лет. М.—Л., 1931.

Літ.: *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 5.

**ПЛАШЧЫНСКІ Міхаіл Іосіфавіч** [? — ?, Казахстан ?], журналіст. Арыштаваны ў 1936 (?). Асуджаны на 10 гадоў лагераў і ссылку ў Казахстан.

Літ.: *Маракоў Л.* Вынішчэнне, або Пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў // *ЛіМ*. 1999, 10 снеж.

**ПЛУГ Адам** [сапр.: Пяткевіч Антоні; крыптанімы: P.; A.P.; R (?); 23.10.1823, в. Замосце Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 2.11.1903, Варшава], празаік, паэт, журналіст. Пісаў на польскай і бел. мовах. Паходзіў з шляхецкага роду гербу «Трубы». Бацька быў арандатарам. У 1841 сям'я пераехала ў в. Жукаў Барок на Стаўбцоўшчыне. У 1835—42 вучыўся ў Слуцкай гімназіі. Працаваў хатнім настаўнікам. У 1845—46 вучыўся на філасофска-літаратурным ф-це Кіеўскага ун-та. Матэрыяльная нястача прымусіла спыніць вучобу. П. зноў заняўся настаўніцкай працай у мяст. Джурыне на Падоллі. Больш увагі стаў надаваць мастацкай творчасці. Дэбютаваў у

друку ў 1847. Сябраваў з У.Сыракомлем, у 1856 у Мінску сустракаўся з В.Дуніным-Марцінкевічам. Ажаніўшыся ў 1857 з Людвікай Сержпутоўскай, узяў у арэнду маёнтак Паток каля Вінніцы. У 1859 пераехаў у Жытомір. Заснаваў разам з жонкай мужчынскую гімназію з пансіёнам. Але ў 1861 улады пазбавілі іх права ўтрымліваць асветніцкую ўстанову. У 1862 жонка П. была арыштавана за ўдзел у антыўрадавых маніфестацыях і зняволена ў Оўручы. У 1864—66 П. знаходзіўся пад арыштам у Жытоміры, потым у Кіеве. Вымушаны быў часта мяняць месца жыхарства; займаўся гувернёрскай практыкай. У 1868 аўдавеў. У снеж. 1874 прыняў прапанову выдаўца С.Левенталя і пераехаў у Варшаву; у 1875—79 быў сурэдактарам, у 1879—90 рэдактарам час. «Kiosy». Пасля спынення выхаду часопіса ў 1891—1903 быў галоўным рэдактарам «Wielkiej Encyklopedii Powszechnej Ilustrowanej». Адначасова ў 1894—99 працаваў літаратурным рэдактарам час. «Wędrowiec»; у 1899—1903 уваходзіў у склад рэдакцыі газ. «Kurjer Warszawski». Быў членам многіх дабрачынных, навуковых і літаратурных таварыстваў. Пахаваны на Павонзкаўскіх могілках. У варшаўскім касцёле св. Крыжа ў 1905 устаноўлены бюст П.

Тв.: Zagon rodzinny: Zbiór obrazków, gawęd, fraszek rymowanych i nierymowanych. T. 1—3. Wilno, 1854; Głos z Litwy. Mińsk, 1959; Zupełny zbiór pism. Serya 1—2. T. 1—6. Żytomierz; Wilno, 1862—1863; Кручаная баба // *Варта* (Мінск). 1918. 1.

Літ.: *Мальдзіс А.* Сябра беларускай літаратуры // *ЛіМ*. 1963, 26 сак.; *Яго ж*. Адам Плуг // *Мальдзіс А.І.* Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969; *БП*, т. 5.

**ПОТАШ Майсей Абрамавіч** [26.4.1892, Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс, Латвія — пасля 1955], гісторык, публіцыст. Член Бунда з 1914; член РКП(б) з 1920. У 1930 у Маскве скончыў Інстытут чырвонай прафесуры. У 1931—36 нам. дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б. Даследаваў гісторыю рэвалюцый 1905—07 і 1917. Арыштаваны 10.12.1937; 15.8.1939 прыгавораны да 8 гадоў лагераў. Вызвалены ў снеж. 1945. З сак. 1946 да жн. 1948 працаваў старшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце гісторыі АН БССР. Падчас «кампаніі супраць касмапалітаў» зноў арыштаваны 9.11.1948. Пастановай ад 2.3.1949 сасланы на пасяленне тэрмінам на 2 гады. Па абодвух прыгаворах рэабілітаваны 29.12.1955.

Тв.: Бальшавізм і дробнабуржуазныя партыі ў рэвалюцыі 1905 г. ў Беларусі. Мн., 1931; Што дала рабочым і сялянам Кастрычніцкая рэвалюцыя і Савецкая ўлада. Мн., 1934; Контррэвалюцыйная роля Бунда ў Акцябрскай рэвалюцыі // *Бальшавік Беларусі*. 1934, № 19.

Літ.: *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 5.

**ПРАКУЛЕВІЧ Уладзімір Міхайлавіч** [снеж. 1887, в. Красналукі Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Чашніцкі р-н Віцебскай вобл. — 20.8.1938, Свярдлоўская вобл., НКВД], паліт. дзеяч, публіцыст, журналіст, юрыст. У 1912 скончыў Маскоўскі ун-т. Падчас вучобы быў сакратаром марксісцкага час. «Возрождение», загадчыкам аддзела хронікі ў газ. «Копейка». З 1912 працаваў у Мінскай казённай палаце, з 1914 у Мінскім акруговым судзе. З пачаткам 1-й сусветнай вайны эвакуіраваўся ў Маскву. Вярнуўся ў Мінск у ліп. 1917. У 1918 абраны старшынёй Слуцкага з'езда міравых суддзяў. У 1919—20 міравы суддзя мяст. Вызна (цяпер Чырвоная Слабада). Адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну 1920. У 1921 выехаў у Вільню. У 1922 у ліку 33 бел. дзеячаў высланы польскімі ўладамі з Вільні; пераехаў у Каўнас. Са жн. 1923 дзяржаўны сакратар урада БНР на чале з А.Цвікевічам, разам з якім пераехаў у Прагу. З мая 1926 жыў у БССР. Працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР; быў сакратаром бібліяграфічнай камісіі Інбелкульта і БелАН. Арыштаваны ДПУ БССР 19.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пастановай Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1932 сасланы на 5 гадоў у Перм. Зноў арыштаваны УНКВД па Свярдлоўскай вобл. 9.1.1938 і 10.7.1938 прыгавораны да расстрэлу. Па першым прыгаворы рэабілітаваны 10.6.1988; па другім — 26.4.1989.

Тв.: Слуцкое восстание (ноябрь—декабрь 1920 г.) // *Нёман*. 1996, № 4.

Літ.: *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 5.

**ПРАТАСЕНЯ Рыгор Іванавіч** [1.12.1899, в. Сенніца Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], аграхімік. У 1932—33 працаваў нам. дырэктара Інстытута аграглебазнаўства БелАН. У снеж. 1933 выключаны з КП(б)Б, потым працаваў старшым навуковым супрацоўнікам, загадчыкам аддзела Інстытута аграглебазнаўства. Арыштаваны 26.11.1936. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.10.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 22.8.1957.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**ПРОЗАР Кароль** [паміж 1759 і 1761 – 1.11.1841], дзяржаўны і ваенны дзеяч. Тытулаваў сябе графам на Хойніках (Оўруцкі пав.) і Астраглядавічах (Рэчыцкі пав.). У ВКЛ быў вялікім абозным (1787—94), маршалкам Трыбунала (1787). Падчас паўстання 1794 прызначаны Т.Касцюшкам генерал-маёрам і начальнікам узброеных сіл на Украіне, Палессі і анексаванай Расіяй частцы Бе-

ларусі. 18.7.1794 прызначаны нам. радцы Найвышэйшай нацыянальнай рады, яму падпарадкоўвалася Цэнтральная дэпутацыя ВКЛ. Знаходзіўся ў Вільні. Пасля падаўлення паўстання ў эміграцыі. Прыехаў у Расію ў 1802. У 1812 падтрымаў Напалеона і ўвайшоў у склад Часовага ўрада ВКЛ, быў старшынёй яго Скарбовага камітэта. З адступленнем французскага войска зноў выехаў у эміграцыю. Вярнуўся на Радзіму пасля царскага маніфеста ад 30.8.1814. З 1821 у Патрыятычным таварыстве. Арыштаваны ў 1826 па справе дзекабрыстаў. Вызвалены ў 1829.

Літ.: *Iwaszkiewicz J.* Litwa w roku 1812. Kraków—Warszawa, 1912; *PSB*; *ЭГБ*, т. 5.

**ПРУДНІКАЎ Алесь** [Аляксандр Трафімавіч; псеўданім: Ал. Усходні; 1(14).4.1910, в. Стары Дзедзін Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 5.8.1941, Карэльская АССР], паэт, журналіст. Стрыечны брат П.Пруднікава. З 1929 вучыўся ў Магілёўскім педтэхнікуме. З 1930 жыў у Мінску; працаваў рабочым. Друкаваўся з 1930. З 1931 стыльрэдактар Белдзяржвыдавецтва, рэпарцёр БелТА. У 1932 паступіў на творчае аддзяленне літаратурнага ф-та МВПІ. Арыштаваны 16.3.1933. Вызвалены ў жн. 1933. У 1933—35 служыў у Чырвонай Арміі. У

1935—36 супрацоўнік клімавіцкай раённай газ. «Камуна». Вучыўся на літаратурным ф-це Ленінградскага настаўніцкага інстытута (1936—38). Настаўнічаў у Пятроўскім р-не Карэльскай АССР. Адначасова завочна вучыўся на філалагічным ф-це Карэльскага ун-та. З першых дзён вайны ў апалчэнні; быў начальнікам разведкі знішчальнага батальёна. Трапіў у палон. Пасля катаванняў павешаны фашыстамі.

Тв.: Зямныя зоры: Паэма. Мн., 1932; «Ноч глухая...»; Звіняць абшары; Абрабаваны Стронг: [Вершы] // *Крывёю сэрца*. Мн., 1967.

Літ.: *Гардзіцкі А.* «Каб тварыць другому пакаленню...» // *ЛіМ*. 1980, 25 крас.; *Пруднікаў П.* Недапетая песня // *ЛіМ*. 1967, 13 чэрв.; *Яго ж*. Яго забыць нельга: Успаміны // *Дзень паэзіі — 71*. Мн., 1971; *Бельскі А.* Зацвітала маладая пара паэзіі. *ЛіМ*. 2001. 3 жн.

**ПРУДНІКАЎ Павел Іванавіч** [псеўданімы: П.Буравей; Паўлюк Буравей; 1(14).7.1911, в. Стары Дзедзін Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 16.3.2000, Мінск], паэт, празаік. Стрыечны брат А.Пруднікава. У школьныя гады быў юнкарам газ. «Піянер Беларусі», «Чырвоная змена», «Беларуская вёска», «Комсомольская правда», «Крестьянская газета», «Беднота», «Ленинские искры». У 1930 пасля сканчэння школы паехаў у Данбас; працаваў шахцёрам.

Вярнуўся ў Беларусь. Быў рабочым; потым у рэдакцыях газ. «Беларуская вёска», «Савецкая Беларусь», карэктарам у друкарнях, рэпарцёрам у БелТА. Пасля супрацоўнік рэдакцыі клімавіцкай раённай газеты «Камунар». У 1932 выйшла першая кніга яго-ных вершаў «Песні грузчыкаў» (з Я.Субачам). У вер. 1932 — студэнт Ленінградскага інстытута замежных моў; з 1933 студэнт Ленінградскага педінстытута. Пасля яго сканчэння ў 1937 стаў аспірантам Інстытута славяназнаўства АН СССР. Арыштаваны 11.8.1937. Этапаваны ў Бурацкую АССР, затым у Іркуцк, Омскую вобл., Краснаярскі край. У канцлагерах і ссылках знаходзіўся да 1945. З 1946 настаўнічаў у розных школах Смаленскай вобл. З 1952 выкладчык мовы, літаратуры і гісторыі Слабадской СШ Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. Зноў пачаў друкавацца ў 1959. У 1968—71 старшы рэдактар час. «Служба быту Беларусі». Член СП Беларусі з 1971. Значнае месца ў творчасці П. заняла тэма сталінскіх рэпрэсій: паэма «Таймыр» напісана ў 1975—87, аповесці «Яжовыя рукавіцы» (1989), «Пекла» (1991); дарожны нарыс «Па знаёмых пякучых сцежках», напісаны пасля наведвання мясцін зняволення ў ваколіцах Улан-Удэ. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1992).

Тв.: Мая магістраль; Выбр.: Вершы, успаміны. Мн., 1981; Крыніцы: Выбр.: Вершы і паэмы. Мн., 1991; Далёкае, але не забытае: Успаміны. Мн., 1988; За калючым дротам: Аповесці. Мн., 1993.

Літ.: *Кобрын У.* Не стукайся, старасць, у дзверы // *Мінская праўда.* 1981, 15 ліп.; *Снегін В.* «Нягучная песня мая...» // *Чырвоная змена.* 1981, 14 ліп.; *Старавыбарны П.* Голас сэрца // *Настаўніцкая газета.* 1971, 7 ліп.; *Маракоў Л.* Пад страхам усё жыццё // *Голас Радзімы.* 1999. 29 снеж.

**ПРЫБЫТКОЎСКІ Уладзімір** [псеўданім: Прыбытак Лад;? — 1941 ?, каля Брэста ?], літаратурны крытык, паэт. З 1926 належаў да Аршанскай філіі «Маладняка», з канца 1927 — да «Літаратурна-мастацкай камуны». У другой палове 1920-х г. быў членам літаратурнага гуртка пры Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (Горкі). Першы верш апублікаваў у 1926 у час. «Аршанскі маладняк». Пісаў рэцэнзіі на творы бел. аўтараў. Публікаваўся ў час. «Росквіт» (1928). Арыштаваны ў 1933 (?). Паводле сведчання (успамінаў) Ю.Гаўрука, загінуў на пачатку вайны пад Брэстам.

Літ.: *Маракоў Л.* Не стаяў на раздарожжы. // *ЛіМ.* 1999. 23 крас.; *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000.

**ПРЫТЫЦКІ Сяргей Восіпавіч** [19.1(1.2).1913, в. Гаркавічы Саколкаўскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 13.6.1971, Мінск], дзяржаўны і паліт.

дзеяч, публіцыст, мемуарыст. З 1931 сакратар Крынкаўскага раённага, потым Гродзенскага акруговага камітэтаў КСМЗБ. Першы раз арыштаваны ў 1933. У 1933—34 член Слонімскага акруговага камітэта КСМЗБ. Кіраваў забастоўкамі лясных рабочых. У 1934—35 вучыўся ў партыйнай школе КПЗБ у Мінску. З 1935 сакратар Слонімскага акруговага камітэта КСМЗБ. 7.1.1936 у Віленскім акруговым судзе падчас судовага працэсу над 17 рэвалюцыйнымі дзеячамі страляў у правакатара; пры арышце сам быў цяжка паранены. У чэрв. 1936 прыгавораны да пакарання смерцю. Прысуд выклікаў шматлікія акцыі пратэсту і кампанію салідарнасці ў многіх краінах свету. Смяротны прысуд быў заменены пажыццёвым турэмным зняволеннем. Вызвалены з турмы ў вер. 1939. У 1939—41 нам. старшыні Беластоцкага аблвыканкама. У чэрв.—жн. 1941 удзельнічаў у стварэнні абарончых збудаванняў вакол Магілёва, у фарміраванні народнага апалчэння ў Гомелі. Са жн. 1941 на фронце. У 1942—44 другі сакратар ЦК ЛКСМБ. У 1949—52 і ў 1953—62 першы сакратар Гродзенскага, Баранавіцкага, Маладзечанскага, Мінскага абкамаў КПБ. У 1962—68 сакратар ЦК КПБ, нам. старшыні Савета Міністраў БССР. З 1968 старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Пахаваны на Усх. могілках. Імем П. названы вуліцы ў Мінску, Гродне, Баранавічах, Маладзечне. Факты з падпольнай дзейнасці П. ў Зах. Беларусі паслу-

жылі дакументальнай асновай для стварэння кінастужкі «Чырвонае лісце».

Тв.: У імя шчасця працоўнага народа // *У суровыя гады падполля*. Мн., 1958; Партызанскі рух на Гродзеншчыне // *Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны*. Мн., 1959; *Верные помощники партии*. М., 1962; Дружба, скрепленная кровью // *Коммунист Белоруссии*. 1964, № 7; *Этого требует жизнь*. Мн., 1966; По заданию партии // *Годы испытаний и мужества*. Мн., 1973; *Жизнь, отданная народу: Статьи и речи С.О.Притыцкого, документы и воспоминания о нем*. Мн., 1978; Три выстрела в суде // *Беларуская думка*. 1998, № 10.

Літ.: *С.О.Притыцкий: Фотоальбом*. Мн., 1976; *Чагіна Л.* Жыццё, аддадзенае народу. Мн., 1987.

**ПУЧКАР-ХМЯЛЕЎСКІ Адам Янавіч** [24.12.1891, мяст. Івянец Мінскага пав., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — 1.9.1938, ГУЛАГ], рыма-каталіцкі святар, грамадскі і культурны дзеяч. У жн. 1903 — 4.6.1911 вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы. У 1911—16 вучыўся ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу, дзе далучыўся да бел. нацыянальнага руху. Пасвечаны ў святары ў 1916. Быў прызначаны вікарыем ў Бабруйскі касцёл. Пазней служыў у рыма-каталіцкай парафіі ў Іркуцку. Арыштаваны ЧК ў 1920. Знаходзіўся ў групе закладнікаў, якая па дамоўленасці паміж польскім і савецкім урадамі

рыхтавалася да выезду ў Польшчу. З 1922 у Мінску, святар у касцёле св. Сымона і Алены. Потым служыў у парафіях мяст. Койданава, Заслаўя, Воўчкавіч. У 1926 на з'ездзе каталіцкіх святароў б. Мінскай губ. выступіў з прапановай утварэння каталіцкай дыяцэзіі на чале з бел. біскупам, падпарадкаваным непасрэдна Ватыкану, а не польскай іерархіі. З 1929 пробашч Мінскага кафедральнага касцёла. Арыштаваны ДПУ БССР 26.6.1933 (паводле іншых крыніц — 3.8.1933). Прыгавораны да 10 гадоў лагераў. З вер. 1934 знаходзіўся на Салаўках. У 1938 прыгавораны да расстрэлу.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Dzwonkowski R*. Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998.

**ПУШЧА Язэп** [сапр.: Плашчынскі Іосіф Паўлавіч; іншыя псеўданімы: Л.Кудзер; Язэп Кудзер; Лясун; Пушча; А.Пушча; Л.Трыер; 7(20).5.1902, в. Каралішчавічы Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер Мінскі р-н — 14.9.1964, Мінск], паэт, крытык, перакладчык. З 1918 да жн. 1921 вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы. У 1921—22 быў слухачом курсаў беларусазнаўства Наркамасветы БССР. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1922 з публікацыі апавяданняў. У 1923 быў адным з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання «Маладняк», пазней — «Узвышша». На працягу 1925—30 выдаў не-

калькі паэтычных кніг. У 1925—27 вучыўся на педагагічным ф-це БДУ. Увосень 1927 перавёўся ў Ленінградскі ун-т. На чацвёртым курсе пакінуў вучобу; вярнуўся ў Мінск, працаваў стыльрэдактарам у Белдзяржвыдавецтве. Арыштаваны ДПУ БССР 25.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пастановай Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 прыгавораны да 5 гадоў высылкі. Накіраваны ў Шадрынск на Урале. У 1937—41 жыў у Мурамскім р-не Уладзімірскай вобл., настаўнічаў. У гады вайны на фронце. Пасля зноў у Мурамскім р-не. Рэабілітаваны 30.1.1956. Вярнуўся з сям'ёй у Беларусь у 1958. Член СП Беларусі з 1958. Асобныя творы П. пакладзены на музыку. Да апошніх дзён жыў у Мінску. Пахаваны ў Каралішчавічах.

Тв.: Раніца рыкае. Мн., 1925; Людвіся: Вершы і паэма. Мн., 1968; Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1993— 94.

Літ.: *Грахоўскі С.* Запозненыя сустрэчы: (Успаміны) // *Грахоўскі С.* Так і было. Мн., 1986; *Шушкевіч С.* Над труною паэта // *Шушкевіч С.* Выбр. тв: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2; *Ярош М.* З кагорты першапраходцаў // *Полымя.* 1983, № 8; *Міхнюк У.* Адысея Язэпа Пушчы: [Паказанні рэпрэсаванага пісьменніка] // *ЛіМ.* 1992, 23 кастр.; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 5.

**ПЯКАРСКІ Эдуард Карлавіч** [13(25).10.1858, фальварак Пятровічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Смалявіцкі р-н Мінскай вобл. — 29.6.1934, Ленінград], географ, лінгвіст, этнограф.

З сям'і арандатара. Вучыўся ў Мазырскай, Мінскай і Чарнігаўскай гімназіях; у 1877—78 у Харкаўскім ветэрынарным інстытуце. У снеж. 1878 за ўдзел у народніцкім руху выключаны з інстытута і прыгавораны да 5 гадоў адміністрацыйнай ссылкі ў Архангельскую губ. Але прысуд не быў выкананы, таму што П. скрыўся ад паліцыі, пад чужым прозвішчам паехаў у Тамбоўскую губ., дзе працаваў валасным пісарам. 24.12.1879 арыштаваны ў Маскве і заключаны ў Бутырскую турму. Асуджаны на 15 гадоў катаргі. Потым катаргу замянілі на пасяленне ў Якуціі. Там пачаў складаць якуцка-рускі і руска-якуцкі слоўнікі. У 1894—96 удзельнік экспедыцый Усх.-Сібірскага аддзялення Рускага геаграфічнага таварыства. У 1903 браў удзел у Аяна-Нельканскай экспедыцыі. З 1905 жыў у Пецярбургу. У 1914—17 сакратар аддзялення этнаграфіі Рускага геаграфічнага таварыства. Рэдагаваў час. «Живая старина». Працаваў у Інстытуце ўсходазнаўства АН СССР. Адзін з аўтараў «Слоўніка якуцкай мовы» (вып. 1—13, 1907—30). Аўтар многіх прац па этнаграфіі, лінгвістыцы, фальклярыстыцы, геаграфіі. Член-карэспандэнт АН СССР з 1927, ганаровы акадэмік з 1931.

Літ.: *Э.К.Пекарский: (К 100 летию со дня рождения).* Якутск, 1958; *Оконешников Е.И.* Э.К.Пекарский как лексикограф. Новосибирск, 1982; *Грыцкевіч В.* Эдуард Пякарскі: Біяграфічны нарыс. Мн., 1989.

**ПЯНТКОЎСКІ Вацлаў** [1902 — 1991], рымакаталіцкі святар, стваральнік нелегальнай каталіцкай духоўнай семінарыі. У міжваенны перыяд вучыўся ў Рыме, пасля вяртання ў Беларусь быў прэфектам Навагрудскай гімназіі імя А.Міцкевіча. Пасля 2-й сусветнай вайны прызначаны пробашчам касцёла ў в. Мядзведзічы Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл., выконваў абавязкі Генеральнага вікарыя Пінскай каталіцкай дыяцэзіі. У 1950 арыштаваны і сасланы ў казахстанскія лагеры. Паводле абвінавачання, заклікаў сялян не ўступаць у калгас. У Казахстане працягваў праводзіць службы для католікаў, якія знаходзіліся ў зняволенні. Падчас «хрушчоўскай адлігі» вярнуўся ў парафію ў в. Мядзведзічы. У 1970-х г. у сваім доме адкрыў без дазволу ўлад семінарыю. П. выкладаў гісторыю касцёла, кананічнае права, этыку, замежныя мовы і філасофію. Семінарыя была добра законспіравана. Некаторыя слухачы ўладкоўваліся на працу, таму савецкім органам было цяжка «падвесці» іх пад крымінальны артыкул аб ухіленні ад працы. Праз пэўны час у в. Мядзведзічы прыязджалі ксяндзы і экзаменавалі слухачоў. Выпускнікі праходзілі нават практыку ў парафіях. Потым яны давучваліся ў Рызе і Каўнасе або таемна пасвячаліся ў капланства.

Літ.: *Толочко М.* Цветы на могилу священника // *Советская Белоруссия*. 1992. 11 лют.; *Глябовіч А.* Касьцёл у няволі // *Спадчына.* 1994, № 1—2; *Канфесіі на Беларусі [канец XVIII—XX ст.].* Мн., 1998; *Гардзіенка А.* Вацлаў Пянткоўскі // *Дэмакратычная апазыцыя*.

**ПЯРЛОВІЧ Самсон** [13.8.1923, в. Католышы на Навагрудчыне — 14.12.2001, Навагрудак], паэт, удзельнік навагрудскага патрыятычнага падполля. У часы нямецкай акупацыі быў прымусова вывезены на работы ў Германію. Пасля вяртання на Бацькаўшчыну супрацоўнічаў з навагрудскай раённай газетай. У 1947 стаў удзельнікам антысавецкай бел. падпольнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі» (СВБ). Быў упаўнаважаным СВБ у Навагрудскім р-не. Арыштаваны 30.5.1947. Утрымліваўся ў Баранавіцкай следчай турме «Крывое кола». На працэсе, які праходзіў 29—31.8.1947 у Баранавічах, асуджаны ваенным трыбуналам на 10 гадоў зняволення з пазнейшай высылкай. Адбываў пакаранне на лесапавале ў лагеры Усць-Вым (Комі АССР), а з 1949 — у спецлагерах Караганды (на будаўніцтве шахтаў). Вызвалены 3.1.1956. Высылку павінен быў адбываць у Сарані Карагандзінскай вобл., але яна была адменена. У Беларусь вярнуўся восенню 1956 і працаваў на заводзе газавай апаратуры ў Навагрудку. На пенсіі з 1980. Не рэабілітаваны. Пачаў публікаваць кнігі сваіх вершаў у 1990-х г.

Тв.: Бяссмертнік. Мн., 1994; Заяц на бярозе. Навагрудак, 1995; Чарадзейны агонь. Навагрудак, 1998.

Літ.: *Супрун В.* Самсон Пярловіч // *Антысавецкія рухі.*

**ПЯТКЕВІЧ Язэп Станіслававіч** [15.9.1892, мяст. Лепель Віцебскай губ., цяпер горад Віцебскай вобл. — 2.9.1937, Комі АССР, ГУЛАГ], рыма-каталіцкі святар, грамадскі і культурны дзеяч. З 1912 вучыўся ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу, дзе далучыўся да бел. нацыянальнага руху. Пасвечаны ў святары ў 1917. У 1920 прызначаны вікарыем ў парафію мяст. Койданава. У 1922—23 адміністратар парафіі мяст. Бабоўня каля Нясвіжа. З другой паловы 1920-х г. святар у Слуцку, Уздзе, Капылі. Арыштаваны ДПУ БССР у 1933. Прыгавораны да 5 гадоў лагераў; накіраваны ў Комі АССР. Цяжка захварэў у сак. 1935; знаходзіўся ў цэнтральным лагерным шпіталі ў мясцовасці Вегерска Кем. Зноў арыштаваны ў пачатку 1937. Калегіяй НКВД Комі АССР 2.9.1937 прыгавораны да расстрэлу.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Dzwonkowski R*. Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998; *Stankievič A*. Biełaruski chryścijanski ruch. Vilnia, 1939.

**РАВУН Іосіф Ізраілевіч** [1897, Нясвіж Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — пасля 1955, Мінск ?], эканаміст. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне ў Расіі. У 1923 скончыў Камуністычны ун-т народаў Захаду. У 1930—33 вучыўся ў аспірантуры БелАН. У 1934—36 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі. Арыштаваны 31.7.1936. 14.12.1936 прыгавораны да 5 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены 15.3.1946. Рэабілітаваны 16.9.1955. Пасля 1955 жыў у Мінску.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Возвращенные имена.*

**РАГАЗІНСКІ Пётр** [1.2.1898 — 30.12.1937, Мінск, НКВД], рэдактар мінскай польскай газ. «Orka». Арыштаваны 29.7.1937. Прыгавораны да расстрэлу 17.12.1937. Расстраляны ва ўнутранай турме НКВД разам з 63 зняволенымі. Рэабілітаваны 24.8.1956.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Маракоў Л.* Вынішчэнне, або Пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў // *ЛіМ*. 1999, 10 снеж.

**РАГАЧЭЎСКІ Пятро Іванавіч** [1907, в. Ашмяны Мінскага пав., цяпер Заслаўскі р-н Мінскай

вобл. — ?], перакладчык. Арыштаваны 23.2.1933. Асуджаны (4.11.1933) на 5 гадоў высылкі. Пакаранне адбываў у Зах. Сібіры. Па сведчанні М.Паслядовіча, пасля 2-й сусветнай вайны жыў у Баранавічах; быў забіты невядомымі.

Кр.: *НАРБ, ІКР*.

Літ.: *Кандыбовіч С*. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000.

**РАГІНСКІ Раман** [Rogiński Roman; 29.2.1840 — 15.2.1915], адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64, мемуарыст. У 1861 скончыў Варшаўскую рэальную гімназію. Удзельнічаў у маніфестацыях у Варшаве. З-за пагрозы арышту эміграваў у Францыю. Вучыўся ў вайсковай школе ў Генуі. Вярнуўся ў Варшаву ў 1862. З пачаткам паўстання прызначаны камісарам Цэнтральнага нацыянальнага камітэта ў Падляшскім ваяв. 23.1.1863 зрабіў няўдалую спробу авалодаць Белай (цяпер Бяла-Падляска). 7.2.1863 удзельнічаў у бітве пад Сямяцічамі. Потым накіраваўся ў глыб Беларусі. 13.2.1863 заняў мяст. Пружаны. Яго атрад быў разбіты 25—26.2.1863 каля в. Баркі. 3.3.1863 узяты ў палон у Тураве. 23.8.1863 прыгавораны да смяротнага пакарання, замененага 20 гадамі катаргі, якую адбываў ва Усолі ў Пермскай губ. У 1868 пераведзены на пасяленне, жыў у Верхняўдзінску (цяпер у За-

байкальскай вобл.), Віціме, Іркуцку. У 1892 вярнуўся на Радзіму. Аўтар успамінаў пра паўстанне.

Тв.: Kartki z pamiętnika [1861—1863] // *Powstanie styczniowe na Lubelszczyźnie. Pamiętniki*. Londyn, 1966.

Літ.: *Płoski S*. Działania Rogińskiego w powstaniu styczniowym // *Przegląd Historyczno-Wojskowy*. 1936; *Zeznania i wspomnienia* / Wyd. S. Kieniewicz. Warszawa, 1983; *PSB*, z. 130.

**РАГУЛЯ Васіль Цімафеевіч** [16(28).7.1879, в. Ачукевічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 16.6.1955, Нью-Йорк, ЗША], паліт. і грамадскі дзеяч, публіцыст. У 1900 скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут. Настаўнічаў у Мінскім пав., у Смаргоні і ў Мінску. Арыштаваны ў 1906 за ўдзел у рэвалюцыйных падзеях. Падчас 1-й сусветнай вайны ваяваў на Зах. фронце. У 1917 уступіў у Расійскую дэмакратычную партыю. Удзельнік 1-га Усебеларускага кангрэса 1917 у Мінску. У 1918 выкладаў у навучальных установах Мінска. У час польскай акупацыі ўваходзіў у Расійскую аб’яднаную радыкальна-дэмакратычную групу. З лета 1920 у Чырвонай Арміі; у крас. 1921 пакінуў яе і вярнуўся ў родную вёску. У 1922 абраны дэпутатам польскага сейма, увайшоў у Беларускі пасольскі клуб. Адзін з ініцыятараў стварэння і кіраўнікоў Беларускага сялянскага саюза. У снеж. 1925 быў членам ініцыятыў-

най групы па стварэнні Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. У 1928 абраны сенатарам, але хутка пазбаўлены парламенцкага імунітэту і зняволены на 2 гады. Пасля вызвалення вярнуўся ў родную вёску. З вер. 1939 настаўнічаў у мясцовай школе. Арыштаваны 20.6.1941. З пачаткам вайны збег з-пад арышту. Быў прызначаны бургамістрам Дзятлаўскага р-на. З 1944 у Германіі. У 1950 пераехаў у ЗША. Аўтар успамінаў.

Тв.: *Прамовы паслоў Беларускага пасольскага клюбу*. Вільня, 1926; Успаміны. Нью Ёрк, 1957.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**РАДЗЕВІЧ [Ямант] Людвіка** [1833 ці 1836 — 1914, Вільня], мемуарыстка. Сястра Марыі Ямант, нарачонай К.Каліноўскага. На іх кватэры была арганізавана падпольная друкарня. Тут хаваўся К.Каліноўскі. Арыштавана ў 1863. Напісала на польскай мове «Горсць успамінаў з 1863 года» (рукапіс захоўваецца ў бібліятэцы Асалінэум у Вроцлаве, Польшча).

Літ.: *PSB*.

**РАДЗЕВІЧ Пётра** [1906, Навагрудскі пав. Мінскай губ. — крас. 1944, в. Гліннае, цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл.], бел. грамадскі дзеяч,

музыкант, публіцыст. Вучыўся ў гімназіях Навагрудка і Варшавы, на педагагічным аддзяленні Варшаўскай кансерваторыі. Тры гады служыў у польскай арміі. Пераехаў у Вільню, дзе далучыўся да бел. руху. Публікаваўся ў час. «Хрысціянская думка». Служыў арганістам і кіраваў хорам у Вялікай Бераставіцы на Гродзеншчыне. У другой палове 1940 ачольваў хор Беларускага цэнтра ў Вільні. Падчас нямецкай акупацыі сябра Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. Быў накіраваны для правядзення беларусізацыі ў Вілейку. Спачатку працаваў школьным інспектарам у Свірскім павеце, пасля — у Вілейскім, дзе арганізаваў бел. хор. Пазней займае становішча кіраўніка Вілейскага пав. Арыштаваны СД 23.3.1943, утрымліваўся ў Вілейскай турме. Спалены немцамі разам з некалькімі іншымі вязнямі ў вёсцы Гліннае.

Літ.: *А.М.* Пётр Родзевіч (у дзясятую гадавіну арышту і дзясятую гадавіну мучаніцкае сьмерці) // *Бацькаўшчына* (Мюнхен). 1953, 3 мая.

**РАДЗІВІЛ Канстанцін** [5.4.1793 — 6.4.1869], адзін з першых бел. фальклярыстаў, мецэнат, паліт. дзеяч. Разбудаваў спадчынны маёнтак Паланэчка ў Навагрудскім пав., ператварыўшы яго ў адзін з культурных цэнтраў Беларусі. Сабраў вялікую бібліятэку, архіў, калекцыю твораў мастацтва. Меў

званне камергера імператарскага двара. У 1820 уступіў у тайнае таварыства «Нацыянальнае масонства», у 1821 увайшоў у склад «Патрыятычнага таварыства». Арыштаваны ў канцы 1825 па справе дзекабрыстаў. Збіраў на Навагрудчыне фальклорныя, этнаграфічныя і лінгвістычныя матэрыялы, склаў мясцовы слоўнічак, апісаў адзенне, абрады на Дзяды, куццю, Купалле, вяселле, запісаў прыказкі і абрадавыя песні. У 1850-х г. даслаў у Рускае геаграфічнае таварыства свае працы — «Статыстычны нарыс Навагрудскага павета» і «Этнаграфічныя звесткі пра жыхароў Навагрудскага павета» (зберагаюцца ў архіве таварыства). У снеж. 1863 заступніцтва Р. перад генералам Мураўёвым дазволіла замяніць смяротны прысуд аднаму з лідэраў паўстання З.Чаховічу на ссылку ў Сібір.

Літ.: *Зеленин Д.К.* Описание рукописей ученого архива императорского Русского географического общества. Пг., 1915. Вып. 2; *Воронков И.А.* Польские тайные общества в Литве и Белоруссии в конце XVIII и первом тридцатилетии XIX в. // *Исторические записки*. 1957. Т. 60; *Цішчанка І.К.* Да народных вытокаў: Збіранне і вывучэнне беларускага фальклору ў 50—60-я гады XIX ст. Мн., 1986; *ЭГБ*, т. 6-1.

**РАДЗЮК Пятро**, журналіст, рэдактар. Вучыўся ў Віленскім ун-це. Быў рэдактарам-выдаўцом часопіса гумару і сатыры «Асва», які выходзіў ле-

гальна ў Вільні з 25.3 да 25.8.1934. Час. «Асва» працягваў традыцыі закрытых польскімі ўладамі час. «Маланка», «Беларускай газеты» і «Літаратурнай старонкі». Выйшла 6 нумароў. Выданне было забаронена польскімі ўладамі. Р. асуджаны на 6 гадоў турмы. Арыштаваны ваеннай контрразведкай у 1944. Вырваны з рук «Смерша» М.Танкам. Паводле некаторых звестак, пасля вайны жыў у Польшчы.

Літ.: *Гэй, смалі, страляй, маланка!* Мн., 1989.

**РАКІТА Сяргей** [сапр.: Законнікаў Сяргей Васілевіч; іншы псеўданім: С.Асот; крыптанім: Р.С.; 15.10.1909, в. Ліцвінава Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Дубровенскі р-н Віцебскай вобл. — 23.3.1942, ст. Сухабязводнае Горкаўскай вобл., ГУЛАГ], паэт. У 1925 скончыў сярэднюю школу. Быў камсамольскім актывістам; з 1927 член Аршанскага акруговага камітэта ЛКСМБ. У 1928 ягоныя першыя вершы з'явіліся ў «Аршанскім маладняку»; тады ж стаў выступаць з нарысамі (газ. «Савецкая Беларусь»). У 1929 накіраваны на працу ў гомельскую абл. газ. «Палеская праўда». З 1930 адказны сакратар Гомельскай філіі БелАПП. Выдаў у Гомелі 2 кніжкі паэзіі. У 1932—33 служыў у арміі. Працаваў у Мінску ў рэдакцыях газет, на радыё, у Дзяржвыдавецтве БССР. Адначасова вы-

чыўся ў Мінскім Камуністычным інстытуце журналістыкі. Арыштаваны 19.10.1936; асуджаны на 10 гадоў зняволення ў лагерах. Адпраўлены на лесапавалы ў Горкаўскай вобл. Загінуў у лагеры. Рэабілітаваны ў 1956.

Тв.: Разгон. Кніжка вершаў. Гомель, 1930 (разам з Р.Казаком, В.Палескім); Я агітую за пяцігодку: Вершы. Гомель, 1931.

Літ.: *Шушкевіч С.* Паэт-агітатар першых пяцігодак // *Шушкевіч С.* Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2; *Паўлюкоўскі І.* Вітаў пяцігодак будні // *ЛіМ*. 1979, 26 кастр.; *БП*, т. 5.

**РАК-МІХАЙЛОЎСКІ Сымон Аляксандравіч** [псеўданімы: Баўтручонак; Беларус; Бутрым Каляда; Сымон Міхалкаў; Сымон Рак; крыптанімы: С.Р.; Р.-М.; Сымон Р.; Сымон Р-к; 2(14).4.1885, в. Максімаўка Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — 27.11.1938, Мінск, НКВД], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст, перакладчык, паэт, педагог. У 1900—04 вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі; потым настаўнічаў на Маладзечаншчыне. У час рэвалюцыі 1905—07 за распаўсюджанне сацыял-дэмакратычнай літаратуры зняволены на 3 месяцы ў Вілейцы, потым вымушаны з’ехаць у Крым. У 1912 у Феадосіі скончыў педінстытут. Вярнуўся на Радзіму. Арганізоўваў бел. школы.

Стаў членам БСГ. У 1914 мабілізаваны ў армію; ваяваў на Румынскім фронце. Пачаў публікавацца ў 1915 (артыкул «З думак у паходзе» ў «Нашай ніве»). Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 у Мінску. Узначаліў Цэнтральную вайсковую раду. З 1918 член Рады БНР. У 1918—20 жыў у Гродне, працаваў у бел. гімназіі. Рэгулярнай публіцыстычнай творчасцю стаў займацца з 1919. У 1920—22 дырэктар Беларускай настаўніцкай семінарыі ў Барунах. Адначасова, з восені 1920, настаўнік Віленскай беларускай гімназіі. У 1922 абраны дэпутатам польскага сейма. З 1923 член Цэнтральнай школьнай рады (з 1926 — Галоўнай управы) ТБШ. З 1925 нам. старшыні ЦК БСРГ. З 1926 член КПЗБ. Рэдактар «Бюлетэня пасольскага клуба БСРГ»; член Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні. Арыштаваны польскімі ўладамі па справе БСРГ 15.1.1927; Віленскім акруговым судом 22.5.1928 на «працэсе 56-і» асуджаны на 12 гадоў турмы. Паводле рашэння апеляцыйнага суда вызвалены ў 1930. Увайшоў у склад камітэта «Змаганне». З-за пагрозы новага арышту ў кастр. 1930 перабраўся ў Мінск. З лют. 1931 працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея. У 1931—32 быў членам ЦВК БССР. Арыштаваны ДПУ БССР 16.8.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». 9.1.1934 рашэннем судовай калегіі АДПУ СССР прыгавораны да расстрэлу; прысуд заменены на 10 гадоў лагераў. Адпраўлены на Салаўкі.

5.9.1937 этапаваны ў Мінск; 14.11.1938 «асобай тройкай» НКВД БССР прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 16.8.1956. У Маладзечне яго імем названа вуліца.

Тв.: Гутарка аб беларускай мове. Мн., 1919; Страшны вораг: Кніжка пра гарэлку. Вільня, 1924; *Прамовы дэпутатаў Беларускага пасольскага клюбу ў Польскім Сойме. Паводле соймавых стэнаграм*. Вільня, 1924; *Прамовы дэпутатаў соймавага клюбу Беларускай сялянска-работніцкай грамады*. Вільня, 1926.

Літ.: *Бобер М., Ватковіч Г.* У памяць аб С.А.Рак-Міхайлоўскім // *ПГКБ*. 1984, № 3; *Bergman A.* Szymon Rak-Michajiowski // *Bergman A.* Sprawy biaioruskie w II Rzeczypospolitej. Warszawa, 1984; *Яновіч С.* Моцны чалавек грамады // *Ніва* (Беласток). 1985, 14 крас.; *Адамушка У.* Сацыял-дэмакрат Сымон Рак-Міхайлоўскі // *Сыны і пасынкі Беларусі*. Мн., 1996; *ЭГБ*, т. 6-1.

**РАМАНОЎСКАЯ Ганна Пятроўна** [сапр.: Мяркіце Соф'я; 20.9.1903, в. Палевеляніс Вілкамірскага пав. Ковенскай губ., цяпер Купішскі р-н, Літва — 1986, Мінск], публіцыст, гісторык. Сястра літоўскай паэтэсы Аляксандры Мяркіце. У 1920 уступіла ў КП Літвы. У 1925 эмігравала ў СССР. У 1927—28 вучылася ў Камуністычным ун-це народаў Захаду ў Маскве. З 1928 у Мінску. Працавала ў газ. «Raudonasis artojas»; аддзеле культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б. З 1933 супрацоўнік Камісіі

па вывучэнні Зах. Беларусі, Інстытута нацыянальных меншасцей БелАН. Арыштавана 8.1.1938. Па пастанове Асобай нарады ад 5.8.1939 зняволена ў лагеры тэрмінам на 3 гады. З 1945 жыла ў Мінску. Рэабілітавана 20.8.1956.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**РАМАНЧУК Іосіф Арсеневіч** [1899 — ?], музейны работнік. У 1930—31 і 1936—37 быў дырэктарам Музея рэвалюцыі (Мінск). У 1937 выключаны з ВКП(б). У 1937—39 працаваў навуковым супрацоўнікам Мінскага сацыяльна-гістарычнага музея. У 1939 арыштаваны па абвінавачанні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці і сувязі з польскай разведкай. Прыгавораны да расстрэлу. У 1940 прысуд адменены пасля касацыйнай скаргі.

Тв.: Наркомпрос БССР не руководит музеями // *Советский музей*. 1938, № 8.

Літ.: *Гужалоўскі А.* Музеі Беларусі (1918—1941 гг.). Мн., 2002.

**РАМЕНСКІ Фёдар Яўграфавіч** [царкоўнае імя: Філарэт; 1880 — 1.11.1937, Мінск, НКВД], праваслаўны святар, епіскап Бабруйскі, архірэй Мінскай епархіі, рэлігійны і грамадскі дзеяч. Выконваў абавязкі вікарыя пры мітрапаліце Мелхі-

седэку. Рэктар Мінскай духоўнай праваслаўнай семінарыі. У 1922—27 прымаў удзел у беларусізацыі рэлігійнага жыцця праваслаўных беларусаў. Удзельнік з'езда прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства і вернікаў Мінскай епархіі 9—10.7.1927. Адзін з ініцыятараў стварэння Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Спадкаемец Мелхіседэка. Пасля закрыцця вясной 1937 у Мінску апошняга каталіцкага храма дазволіў вернікам-католікам маліцца ў царкве св. Марыі Магдаліны. 28.7.1937 арыштаваны НКВД. Абвінавачаны ў стварэнні антысавецкай арганізацыі. Прыгавораны да смяротнага пакарання і расстраляны.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Синодик за веру и церковь Христову пострадавших в Минской епархии [1918—1951]* / Составил священник Федор Кривонос. Киевиц, 1996; *Dzwonkowski R*. Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998.

**РАФАЛЬСКІ Міхаіл Фадзеевіч** [1889, Кіеў — 1937, Мінск, НКВД], рэжысёр яўрэйскага тэатра, педагог. З 1908 вучыўся ў драматычнай школе кіеўскага таварыства «Салаўцоў». Працаваў акцёрам у тэатрах Кіева, Харкава, гастраляваў у Мінску і Віцебску. У 1921 з аматараў арганізаваў у Мінску яўрэйскую тэатральную трупу, на базе якой была створана яўрэйская секцыя Беларускай драматычнай студыі ў Маскве. З 1922 кіраўнік гэтай секцыі.

З 1926 кіраўнік Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР. Стварыў і ў 1933—35 узначальваў студыю пры тэатры. Паставіў спектаклі: «На пакаянным ланцугу» І.Перэца (1926), «Ботвін» А.Вевюркі (1928), «Глухі» Д.Бергельсона (1929), «На 62-м участку» І.Дабрушына (1931), «Бойтра» М.Кульбака (1937). Народны артыст Беларусі (1934). Член ЦВК БССР (1935—37). Арыштаваны і расстраляны ў 1937. Рэабілітаваны пасмяротна.

Літ.: *Кандыбовіч С*. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000; *ЭЛіМБел*, т. 4.

**РЖЭЎСКІ Браніслаў** [25.3.1905, в. Добрыцкае Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 10.2.1980, Гродна], літаратуразнавец і педагог. У 1927 скончыў педагагічны тэхнікум у Барысаве і да 1930 працаваў настаўнікам у вёсках Гомельшчыны. З 1930 да 1940 вучыўся ў Магілёўскім педінстытуце, працаваў у розных адукацыйных установах Магілёва. З сак. 1940 да чэрв. 1941 быў дырэктарам польскай сярэдняй школы імя Адама Міцкевіча ў Баранавічах. Браў актыўны ўдзел у антыгітлераўскім супраціве — на тэрыторыі Баранавіцкай вобл. стварыў падпольную дыверсійную групу «Барыса», якой кіраваў. Быў рэдактарам газ. «Перамога» — органа Новамыш-

скага райкама КП(б)Б. За ўдзел у партызанскім руху ўзнагароджаны. З кастр. 1944 да 1955 працаваў выкладчыкам і загадваў кафедрай мовы і літаратуры ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце. Уваходзіў у склад Камісіі па збору матэрыялаў аб злачынствах нямецкіх акупантаў на тэрыторыі Баранавіцкай вобл. У 1952 абараніў дысертацыю пра творчасць Максіма Танка. У 1955 пераехаў у Гродна і да 1957 выкладаў бел. літаратуру ў Гродзенскім педагагічным інстытуце. У сярэдзіне 1950-х г. пачаў праводзіць кампанію публічных зваротаў да ўладаў — пісаў лісты ў бел. газеты і ўстановы, звяртаўся да вядомых дзеячаў БССР. У зваротах у рэзкай форме выказваўся пра нацыянальную палітыку ў Беларусі, пра абмежаванні ў выкарыстанні бел. мовы ў сферы адукацыі, культуры і публічнага жыцця. Арганізаваў напісанне студэнтамі інстытута заяў пра становішча нацыянальнай школы. Арыштаваны 16.2.1957 на лекцыі ў інстытуце, у яго доме праведзены вобыск. 21.2.1957 праведзены паўторны вобыск, у выніку якога з асабістай бібліятэкі канфіскаваны кнігі, баявыя ўзнагароды і рукапісы вершаў, у якіх Р. называў Сталіна забойцам, Неронам і Чынгісханам, заклікаў беларусаў да вызвалення. Асуджаны 25.3.1957 Гродзенскім абл. судом па артыкуле 72 КК БССР да 7 гадоў пазбаўлення волі. Знаходзячыся ў зняволенні, працягваў кампанію петыцый. Накіраваў 10.10.1957 члену Прэзідыу-

ма ЦК КПСС К.Фурцавай ліст пра становішча бел. мовы ў БССР. Свой тэрмін адбываў у Дуброўлагу (Мардовія). У 1961 Пленум Вярхоўнага суда БССР перагледзеў справу і датэрмінова (на 3 гады) вызваліў Р. Пасля вяртання ў Гродна апынуўся ў цяжкай атмасферы ізаляцыі — пісаў літаратуразнаўчыя артыкулы і рэцэнзіі, але публікаваць іх было забаронена; шлях у вышэйшую школу для яго быў закрыты. Удалося ўладкавацца выкладчыкам бел. мовы і літаратуры ў сярэдняй школе. За домам быў арганізаваны нагляд КДБ. 29.3.1990 рэабілітаваны.

Літ.: *Громава Н.* На самавольныя дзеянні ўказаць // *Крыніца.* 1989, № 2; *Пяткевіч А.* Педагог, вучоны, вязень ГУЛАГа: Да 90-годдзя Б. А. Ржэўскага // *Гродзенская праўда.* 1995. 28 сак.; *Ржэўскі М., Дзярновіч А.* Браніслаў Ржэўскі // *Дэмакратычная апазыцыя.*

**РОДЗЕВІЧ Леапольд Іванавіч** [псеўданімы: Анатоль; Антон; Антось; Васіль; Грымот; М.Грымот; Мікула Грымот; Лявон Жыцень; Антось Замежны; Саўка Змагар; Ігнат; Васіль Касагар; Абарыген Крайскі; Крыкун; Лявон; Лукаш Нехлямяжы; Антось Сталевіч; Сучасны; Юргілевіч; крыптанімы: Л.; Л. Р.; Л. Родз-іч; Р. Л.; Р. Ю.; Ю.; Ю. Р.; Юрг.; Р. Юрг.; Eler; 12.6.1895, фальварак Кур’янаўшчына Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл. — пасля 1938 ?, Сара-

таў ?, НКВД], празаік, публіцыст, паэт, драматург. Паходзіў з шляхецкага роду, які да пачатку XX ст. асяляніўся. Брат Ч.Родзевіча. У 1909 скончыў гарадское вучылішча ў Вілейцы. Пад уплывам «Нашай нівы» пачаў пісаць па-беларуску. Публікаваўся з 1912. У 1914 пераехаў у Вільню. Перад наступленнем нямецкіх войскаў у 1915 пакінуў горад. З 1919 жыў у Мінску, у 1921 зноў вярнуўся ў Вільню. У 1921 працаваў у рэдакцыі газ. «Беларускія ведамасці», потым — у «Беларускім звоне». У 1922—23 рэдагаваў газ. «Наша будучыня», з 1922 газ. «Беларускі звон». Кіраваў Беларускай драматычнай майстроўняй. Вадэвілі і п'есы Р. карысталіся папулярнасцю, ставіліся ў 1920—30 г. прафесійнымі і самадзейнымі тэатрамі. У 1922 увайшоў у Беларускую рэвалюцыйную арганізацыю (БРА), быў членам яе ЦК, супрацоўнічаў з яе газ. «Вольны сцяг» (1923). Адзін з ініцыятараў уступлення ў 1923 БРА ў КПЗБ. Арыштоўваўся ў 1923. У 1924 сакратар Гродзенскага падпольнага акружкама КПЗБ. З-за праследу ўладаў увосень 1925 перабраўся ў Мінск. У 1925—34 рэдактар газ. «Чырвоны сцяг» і час. «Бальшавік». Быў рэдактарам «Бюлетэня ЦК КПЗБ». Працаваў у Камісіі па вывучэнні Зах. Беларусі пры БелАН. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1933. Адпраўлены ў Саратаў, дзе працаваў у лясніцтве. Паўторна арыштаваны ў 1938. Дакладная дата гібелі невядомая. Рэабілітаваны ў 1956. Многія творы Р., асабліва «Збянтэжаны Саўка»,

цяпер з поспехам ставяцца тэатральнымі калектывамі Беларусі.

Тв.: Пакрыўджаныя: Драма. Мн., 1921; Сцэнічныя творы. Вільня, 1921; Беларусь: (Вершы). Вільня, 1922; Досвіткі: (Драматычныя сцэнкі). Вільня, 1922; Сцэнічныя творы. Вільня, 1925; На паняволеных гонях: Вершы. Кракаў, 1928 (падпольнае выданне); Рэвалюцыйным шляхам: Апавяданні з жыцця Заходняй Беларусі. Мн., 1928; Вогнішча барацьбы: Апавяданні з жыцця Заходняй Беларусі. Мн., 1930; Sceničnyja twory. Wilnia, 1933; Збянтэжаны Саўка: Жарт. Мн., 1964.

Літ.: *Хаўратовіч І.* Ён заслужыў добры ўспамін аб сабе // *Полымя*. 1965, № 9; *Калеснік У.* З лістоў Леапольда Родзевіча да Уладзіміра Жылкі // *Беларуская літаратура і літаратуразнаўства*. Вып. 2. Мн., 1974; *Bergman A.* Leopold Rodziewicz // *Bergman A.* Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej. Warszawa, 1984; *Ліс А.* Паміж літаратурай і палітыкай: драма аднаго рамантыка // *Спадчына*. 1997, № 3; *Саламевіч Я.* У суровыя гады змагання: Да 90-годдзя з дня нараджэння драматурга Л.І.Родзевіча // *Звязда*. 1995, 12 чэрв.; *БП*, т. 5; *ЭГБ*, т. 6-1.

**РОДЗЕВІЧ Чэслаў Іванавіч** [20.3.1889, фальварак Кур'янаўшчына Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл. — сак. 1942, Саратаў, НКВД], грамадскі і культурны дзеяч, публіцыст. Брат Л.Родзевіча. У 1908 скончыў Віленскую сярэднюю хіміка-тэхналагічную школу. Выступаў як акцёр у Першай беларускай трупе Ігната Буйніцкага. Жыў у Петраградзе. Адзін з заснаваль-

нікаў Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны, Таварыства беларускага народнага штукарства. У 1918 скончыў Новачаркаскі політэхнічны інстытут. У 1918 супрацоўнік Беларускага нацыянальнага камісарыята. Пераехаў у Мінск. У канцы 1918—19 акцёр Беларускага савецкага тэатра; у 1919—20 выкладчык Мінскага педінстытута. У час польскай акупацыі загадчык аддзела асветы Мінскага магістрата. У 1920-я г. ўдзельнічаў у рабоце Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры Наркамасвеце БССР. З 1922 у Інбелкульце, з 1925 навуковы сакратар сельскагаспадарчай секцыі. Арыштаваны 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пастановай Калегіі АДПУ ад 10.4.1931 паводле арт. 58 п. 4, 7, 10, 11 КК РСФСР высланы на 5 гадоў у Саратаў. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 15.11.1957.

Літ.: *Скалабан В.* Паплечнікі // *Мастацтва Беларусі*. 1983, № 11; *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 6-1.

**РОЗЕНШЭЙН Давід Іосіфавіч** [май 1903, мяст. Поразава Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер г. п. у Свіслацкім р-не Гродзенскай вобл. — пасля 1973], журналіст, паліт. дзеяч. Скончыў курсы партактыву КПЗБ. У 1920—21 загадчык аддзела, сакратар Віленскага гаркама КСМ Літвы. У 1921 асуджаны на 4 гады турмы. Член КПЗБ з 1923. З

кастр. 1925 сакратар Віленскага гаркама і 2-і сакратар Віленскага акруговага камітэта КПЗБ. Са снеж. 1928 працаваў у цэнтральнай краёвай рэдакцыі КПЗБ. З мая 1929 сакратар Гродзенскага акруговага камітэта КПЗБ. У 1929 арыштаваны і асуджаны на 5 гадоў турмы. Са снеж. 1934 кіраўнік Цэнтральнай краёвай рэдакцыі КПЗБ, рэдактар газ. «Чырвоны сцяг» і ўсіх выданняў КПЗБ і КСМЗБ на мовах насельніцтва Зах. Беларусі, кіраўнік замежнай рэдакцыі КПЗБ. У вер. 1936 асуджаны на 10 гадоў турмы. Вызвалены 28.9.1939. З кастр. 1939 працаваў у абл. газ. «Вольная праца» (Беласток). У час вайны супрацоўнік падпольнай газ. «Белостокская правда». У 1944—53 у Савецкай Арміі, супрацоўнік газ. «Wolna Polska» і «Wolność». У 1953—59 на журналісцкай працы ў Мінску.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6-1.

**РОЗНА Алесь** [Абрам Ісакавіч; 1913, Мінск — 1942, Горкаўская вобл., Унжлаг], паэт, перакладчык. Пасля сканчэння сярэдняй школы працаваў наборшчыкам у друкарні. Першыя вершы былі апублікаваны ў 1926 у газ. «Чырвоная змена». Друкаваўся ў час. «Полымя», «Чырвоная Беларусь», газ. «Савецкая Беларусь», «Звязда» і інш. Перакладаў на бел. мову творы Г.Гейнэ, А.Міцкевіча,

А.Пушкіна. У першай палове 1930-х г. працаваў у рэдакцыі газ. «Чырвоная змена». Адначасова вучыўся ў МВПІ, які скончыў у 1935. Арыштаваны 28.10.1936. Сасланы на ст. Сухабязводная ў Горкаўскай вобл. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны ў 1955.

Тв.: З казахстанскіх матываў // *Полымя*. 1930, № 11—12; Зямля… Зямля… // *Дзень паэзіі — 75*. Мн., 1975.

Літ.: *Грахоўскі С.* Жыве ў памяці маёй // *Дзень паэзіі—73*. Мн., 1973; *Яго ж*. Жывуць у памяці маёй // *Грахоўскі С.* Так і было. Мн., 1986; *БП*, т. 6.

**РУКЕВІЧ Міхал Іванавіч** [12.11.1794, в. Гожна (?), Беласточчына — 30.8(11.9).1841, Іркуцкая губ.], рэвалюцыйны дзеяч, паэт. Пісаў на польскай мове. У 1812—14 ваяваў на баку Напалеона. У 1814 трапіў у палон на тэрыторыі Францыі. Вярнуўся на Радзіму ў 1815. Вучыўся ў Віленскім ун-це (скончыў у 1820). З 1819 член тайнага Саюза сяброў, з сак. 1820 выконваў абавязкі яго прэзідэнта. З 1819 член-карэспандэнт Таварыства філаматаў, з 1820 яго правадзейны член. Адзін з ініцыятараў стварэння ў 1820 Таварыства прамяністых, для якога напісаў «Малітву прамяністых». Выконваў у таварыстве абавязкі надворнага маршалка. Удзельнічаў у стварэнні Таварыства філарэтаў. У 1820 разам з З.Навіцкім стварыў у Беластоцкай гімназіі

таварыства «Згодных братоў» (з 1823 «Заране»). Пасля сканчэння ун-та займаўся сельскай гаспадаркай у в. Мількаўшчына Ваўкавыскага пав., з 1823 арандаваў фальварак Завыкі Беластоцкага пав. Па справе філаматаў і філарэтаў арыштаваны ў кастр. 1823, знаходзіўся пад арыштам да студз. 1824 (вызвалены з-за недастатковасці доказаў). У 1825 ініцыятар стварэння арганізацыі «Ваенныя сябры» і галоўны натхняльнік выступлення ў 1825 Літоўскага піянернага батальёна. Арыштаваны 15.1.1826. Ваенным судом у Беластоку прыгавораны да смяротнага пакарання. Паводле царскай канфірмацыі 15.4.1827 пазбаўлены шляхецтва і высланы на 10 гадоў катаржных работ з далейшым пасяленнем у Сібіры. Знаходзіўся ў зняволенні ў Чыце (1828—30) і на Пятроўскім заводзе ў Забайкаллі (1830—33). Датэрмінова пераведзены на пасяленне ў в. Коркіна Іркуцкай губ., дзе і памёр.

Тв.: Бел. пер.: *Філаматы і філарэты: Зборнік*. Мн., 1998.

Літ.: *Букчин С.* К мечам рванулись наши руки. 2-е изд. Мн., 1985; *Швед В.* Беларускія старонкі гісторыі дзекабрыстаў. Мн., 1998; *ЭГБ*, т. 6-1.

**РУСАК Васіль Максімавіч** [22.3(4.4).1896, в. Ячава Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — пасля 1946, ГУЛАГ], грамадскі і паліт. дзеяч, фальклярыст, выдавец, прадпры-

мальнік. У 1-ю сусветную вайну ў чыне прапаршчыка ваяваў на Паўдн. фронце. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 член БСГ. З 1918 жыў на Случчыне; арыштоўваўся немцамі; у 1919 арыштоўваўся бальшавікамі. У час польскай акупацыі адзін з кіраўнікоў Беларускага нацыянальнага камітэта; актыўны ўдзельнік антыпольскага і антысавецкага руху. У ліст. 1920 старшыня з'езда Случчыны, уваходзіў у склад Беларускай рады Случчыны. У час Слуцкага збройнага чыну 1920 камісар 2-га Грозаўскага палка. У 1921 інструктар Беларускай вайсковай камісіі, актыўны ўдзельнік антыпольскага падпольнага і партызанскага руху ў Зах. Беларусі. У маі 1922 перабраўся ў Каўнас. З 1923 жыў у Чэхаславакіі. Адзін з кіраўнікоў Пражскага аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый. У 1928 скончыў Пражскую вышэйшую політэхнічную школу. З 1931 узначальваў Беларускі нацыянальны камітэт у Празе. Удзельнічаў у выданні час. «Іскры Скарыны». У 1934 выдаў зборнік уласных запісаў бел. народных песень. У час 2-й сусветнай вайны член Беларускага нацыянальнага камітэта ў Празе. У чэрв. 1945 арыштаваны савецкай ваеннай контрразведкай «Смерш». У чэрв. 1946 Ваенным трыбуналам БВА асуджаны на 10 гадоў лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Літ.: *Ляхоўскі У.* Слуцкі фронт збройнага змагання за незалежную Беларусь: Новыя крыніцы: Ліст Васіля Русака Кастусю Езавітаву // *Спадчына*. 1995, № 6; *ЭГБ*, т. 6-1.

**РУСАК Уладзімір** [нар. 17.6.1949, в. Звёздная Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл.], праваслаўны святар, публіцыст. Падрыхтаваў трохтомнае даследаванне «Свидетельство обвинения» пра ўзаемаадносіны Рускай Праваслаўнай Царквы і савецкай улады, дзе раскрываліся рэпрэсіі супраць Царквы. За свой рукапіс пазбаўлены працы ў рэдакцыі час. «Журнал Московской патриархии», адпраўлены ў Віцебск. Ужо там за казанні пра пакутнікаў за веру ў СССР пазбаўлены права служыць. 10.9.1986 Маскоўскім гарадскім судом асуджаны на 7 год зняволення. Жыве ў Маскве.

Літ.: *Дзярновіч А.* Індэкс рэпрэсаваных // *Наша Ніва*. 1998. 16 сак.; *Яго ж*. Уладзімір Русак // *Дэмакратычная апазыцыя*.

**РУСАКОВІЧ Сяргей Фёдаравіч** [1912, в. Асавец Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — 1937 ?, ГУЛАГ], празаік, перакладчык. У 1930 паступіў у МБПТ. Быў членам літаратурнага гуртка навучэнцаў тэхнікума. Увосень 1931 разам з З.Астапенкам, С.Астрэйкам, У.Сядурам і некаторымі іншымі «забастоўшчыкамі» за ўцёкі «з прарыву» па збіранні мерзлай бульбы ў калгасе «Сцяпянка» выключаны з тэхнікума. У 1931 паступіў у БДУ. Неўзабаве пакінуў ун-т, працаваў перакладчыкам Ваеннага выдавецтва. Вясной 1931 у час. «Узвышша» апублікаваў

апавяданне «Крумкач». М.Кавыль пісаў, што ў апавяданні «Крумкач» у «замаскіраванай форме (аўтар) крытыкаваў маскалёў, якіх у народзе называлі крумкачамі...». Арыштаваны 23.2.1933. Асуджаны 10.8.1933 на 3 гады пазбаўлення волі з адбываннем тэрміна пакарання ў папраўча-працоўных лагерах (справа № 14618 архіўнага аддзела КДБ Беларусі). Этапіраваны ў Новасібірск. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 24.8.1956.

Літ.: *Маракоў Л.* Вяртанне з нябыцця // *Голас Радзімы.* 1999, 24 ліп.

**РЫБАЛТОЎСКІ Казімір** [1909 — 24.7.1943, гестапа], рыма-каталіцкі святар, грамадскі дзеяч. З 1931 вучыўся ў Пінскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Пасля сканчэння вучобы пасвечаны ў святары. Душпастырскую дзейнасць распачаў вікарыем у в. Камень Івянецкага дэканата. У гады 2-й сусветнай вайны ўдзельнічаў у бел. нацыянальна-рэлігійным жыцці. Арыштаваны і расстраляны нямецкімі акупацыйнымі ўладамі.

Літ.: *Гарбінскі БРД*.

**РЫЎЛІН Езекііль Ісаакавіч** [1.12.1901, Віцебск — 7.5.1978, Алма-Ата], гісторык, публі-

цыст. У 1923 скончыў Камуністычны ун-т імя Я.Свярдлова ў Маскве, у 1927 Інстытут чырвонай прафесуры. З 1927 дацэнт кафедры гісторыі Захаду БДУ; з 1928 прарэктар БДУ. З 1929 нам. Наркама асветы. Прафесар, акадэмік БелАН (1931). У 1931—33 загадчык сектара навукі і культуры ЦК КП(б)Б, дырэктар Інстытута аспірантуры БелАН, выкладчык Камуністычнага ун-та Беларусі. Даследаваў гісторыю нямецкай сацыял-дэмакратыі. Далучыўся да трацкісцкай апазіцыі. Арыштаваны 6.3.1933. Пастановай Асобай нарады ад 9.7.1933 прыгавораны да 3 гадоў турмы. Гэты прыгавор у 1933 быў заменены высылкай на 3 гады ў Казахстан. У 1933—57 выкладаў у Кзыл-Ардынскім настаўніцкім інстытуце. З 1958 загадчык кафедры методыкі выкладання рускай мовы і літаратуры, у 1963—71 выкладчык Казахскага педінстытута (Алма-Ата). Аўтар падручніка і артыкулаў па методыцы выкладання рускай мовы ў казахскіх школах. Рэабілітаваны 9.5.1956.

Тв.: История германской социал-демократии. Мн., 1928; Аграрная дискуссия в германской социал-демократии. Мн., 1929.

Літ.: *Возвращенные имена*; *БЭ*, т. 13.

**САБАЛЕНКА Раман Карпавіч** [псеўданімы: Раман Заравы; Ромусь Заравы; крыптанімы: Р.С.; С.Р.; 2(15).10.1907, в. Сабалі Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер Брагінскі р-н Гомельскай вобл. — 13.5.1975, Мінск], празаік, паэт, публіцыст. Першы верш апублікаваў у 1927 у газ. «Звязда». Пісаў нататкі ў гомельскую сялянскую газ. «Новая деревня». У 1929 скончыў Гомельскі педтэхнікум. У 1929—31 служыў у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў стыльрэдактарам у газ. «Палеская праўда». У 1933—35 вучыўся на вячэрнім аддзяленні Гомельскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны ў снеж. 1933, але справу закрылі. Другі раз арыштаваны 28.9.1937, але С. зноў быў выпушчаны. Член СП Беларусі з 1939. З пачаткам вайны мабілізаваны ў армію, ваяваў на Калінінскім фронце; нам. камандзіра роты. Зноў арыштаваны і 13.7.1942 прыгавораны ваенным трыбуналам 39-й арміі да 10 гадоў пазбаўлення волі. Але 31.7.1942 прысуд быў адменены з-за адсутнасці складу злачынства. Накіраваны ў армію, ваяваў на 2-м Прыбалтыйскім фронце. У 1945—53 працаваў загадчыкам аддзела культуры, нам. галоўнага рэдактара баранавіцкай абл. газ. «Чырвоная звязда». З 1953 у Мінску. Супрацоўнічаў у рэдакцыях газ. «Калгасная праўда», час. «Маладосць». У 1957—66 нам. галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Атрымліваў дзяржаўныя ўзнагароды. Пахаваны на могілках у Заслаўі.

Тв.: Выбр. тв: У 2 т. Мн., 1967—68; Выбр.: Аповесці і апавяданні. Мн., 1977; Творы: У 2 т. Мн., 1983.

Літ.: *Карпаў У.* Раман Сабаленка: Літаратурны партрэт // *Полымя*. 1963, № 7; *Герцовіч Я.* Заўжды ў дарозе // *ЛіМ*. 1967, 13 кастр.; *Шушкевіч С.* Лета пісьменніка // *Шушкевіч С.* Выбр. тв: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2; *БП*, т. 5.

**САБІЛА Эрнст** [нар. 18.3 (паводле пашпарта 31.12) 1932, в. Дзегцяроўка Мінскага р-на, сёння ў межах Мінска], рэлігійны дзеяч, вязень сумлення, публіцыст. У сярэдзіне 1930-х г. сям'ю Сабілаў як ненадзейных выселілі далей ад блізкай савецка-польскай мяжы. Яны пасяліліся ў Бабруйску. Яшчэ хлопчыкам С. далучыўся да евангельскіх хрысціянаў, дзейнасць якіх была легалізавана ў час нямецкай акупацыі. На працягу 1943—44 сям'я Сабілаў супрацоўнічала з савецкім партызанскім атрадам на Бабруйшчыне. Пасля вайны С. паступіў у Мінскі медінстытут; арыштаваны ўлетку 1951. Праз два месяцы асуджаны на расстрэл у фармулёўцы суда за «антысавецкую агітацыю на падставе рэлігійных і нацыянальных забабонаў». Пакаранне было заменена на 25 гадоў лагераў. З 1951 да 1956 адбываў зняволенне ў лагерах Электрасталь (Падмаскоўе), Усць-Каменагорск (Паўн. Казахстан), у Кемераўскай вобл., а таксама ва Уладзімірскай турме. У 1953 і 1954 рабіў спробы

ўцячы, і, паводле ўласнага прызнання, толькі цудам застаўся жывы. У 1956 Судовай калегіяй Вярхоўнага Суда СССР рэабілітаваны. Са студз. 1957 зноў вязень ГУЛАГа. Да 1964 знаходзіўся ў Мардовіі. Адразу пасля вызвалення ў 1964 за С. быў наладжаны нагляд КДБ. У 1970-х г. здолеў скончыць вячэрняе аддзяленне Мінскага інстытута замежных моў. Напачатку 1970-х г. стаў прапаведнікам адной з незарэгістраваных баптысцкіх абшчын Мінска. З 1988 прасвітар Евангельскай царквы ў Мінску. Актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці, выступае ў сродках масавай інфармацыі і на мітынгах. З сярэдзіны 1990-х г. найбольшыя намаганні аддае сваёй царкве.

Літ.: Эрнст Сабіла: «Мая вайна — на каленях перад Богам» (інтэрв'ю) // *Наша Ніва*. 1998, № 14; *Кваткоўскі С.* Эрнст Сабіла // *Дэмакратычная апазыцыя*.

**САВІЧ Францішак Андрэевіч** [каля 1815, в. Вяляцічы Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Пінскі р-н Брэсцкай вобл. — каля 1845, мяст. Янушпаль Жытомірскага пав. Валынскай губ., цяпер Іванопаль Жытомірскай вобл., Украіна], паэт, публіцыст, удзельнік вызваленчага руху. Пісаў на бел. і польскай мовах. Паходзіў з сям'і уніяцкага святара. У 1833 з пахвальным пасведчаннем скончыў Пінскае павятовае вучылішча і паступіў у Вілен-

скую медыка-хірургічную акадэмію. Разам з іншымі студэнтамі арганізаваў нелегальнае «Дэмакратычнае таварыства», члены якога лічылі сябе прадаўжальнікамі справы філаматаў. Напісаў для таварыства статут пад назвай «Прынцыпы дэмакратызму» і адозву-пракламацыю «Заўвагі аб маральнай вайне народа з дэспатызмам». Гэтым часам датуецца верш «Там блізка Пінска...», напісаны на палескім дыялекце. Усталяваў сувязь «Дэмакратычнага таварыства» з «Садружнасцю польскага народа» Ш.Канарскага. Арыштаваны 1.6.1838. У зняволенні напісаў на польскай мове «Споведзь». 14.2.1839 высланы на Каўказ у салдаты без выслугі. Зрабіў першую спробу ўцячы, але быў злоўлены і адпраўлены на перадавую лінію. 22.4.1841 інсцэніраваў самагубства (пакінуў на беразе р. Церак адпаведную запіску і вопратку). У Балтах (Адэская губ.) захварэў; быў арыштаваны памежнай вартай. Два гады пад чужым імем прасядзеў у турме Тыраспаля. У 1843 адпраўлены санітарам у Чарнігаўскі батальён унутранай варты. Увесну 1844 зноў уцёк. Пад імем доктара Гельгега жыў у мяст. Янушпаль. Падчас эпідэміі халеры, выконваючы медыцынскія абавязкі, захварэў. Перад смерцю паспеў напісаць успаміны, якія разам са «Споведдзю» перадаў паэту А.Грозе. Гэтыя творы пазней апублікаваў Э.Геленіюш (Іваноўскі).

Тв.: Pamiętnik... // *Heleniusz E.* Wspomnienia lat minionych. Kraków, 1876. T. 2; Tam blizko Pinska // *Pawłowicz E.*

Wspomnienia z nad Wilji i Niemna. 3 wyd. Lwów, 1895; Дзе ж тое шчасце падзелася?.. // *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*. Мн., 1971.

Літ.: *Александровіч С*. Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960; *Смірноў А*. Франц Савіч: З гісторыі беларуска-польскіх рэвалюцыйных сувязей 30—40-х гадоў XIX стагоддзя. Мн., 1961; *Jowicki M*. Duch Akademii Wilenskiej. Wilno, 1925; *БП*, т. 5; *ЭГБ*, т. 6-1.

**САК Аляксандр Мікалаевіч** [14.8.1890, в. Сегда, Навагрудчына — 26.8.1937 ?, Мінск, НКВД], рыма-каталіцкі святар, паэт. Першы муж пісьменніцы Я.Бяганскай. Скончыў Пінскую гімназію. Вучыўся ў Пецярбургу ў Інстытуце лясной гаспадаркі. У 1913 пасля трэцяга курса спыніў вучобу і паступіў у Магілёўскую духоўную каталіцкую семінарыю ў Санкт-Пецярбургу, якую скончыў у 1917. Пасвечаны ў святары ў 1917. Душпастырскую дзейнасць распачаў у Магілёўскай губ. (мясцовасці Фашчоўка, Мікуліна-Руднянская ў Аршанскім пав.). Удзельнік з'езда бел. каталіцкіх святароў у Мінску (24—25.5.1917). З 19.12.1918 жыў у мяст. Сянно. У 1919—21 пробашч у Свяцілавіцкім касцёле і адміністратар у Шклове. Духоўныя ўлады Магілёўскай архідыяцэзіі ў 1922 і 1924 мелі намер накіраваць С. для службы ў Петраград, але ён папрасіў пакінуць яго ў Беларусі. З вясны 1924 жыў у Мінску, дзе часта гасцяваў у

Янкі Купалы. Да гэтага перыяду адносяцца многія лірычныя вершы, паэмы і вершаваныя драматургічныя творы С. Служыў святаром на Міншчыне і Мазыршчыне, у Койданаве і Хойніках. Шырока выкарыстоўваў бел. мову ў душпастырскай дзейнасці. Пераследаваўся савецкімі ўладамі. 17.12.1929 змушаны быў публічна адмовіцца ад святарскага сану. Працаваў стыльрэдактарам у Белдзяржвыдавецтве. Арыштаваны ДПУ БССР 24.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны на 5 гадоў ППЛ. Накіраваны на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала, дзе знаходзіўся да 1934. Зноў арыштаваны 25.8.1937. Расстраляны.

Літ.: *Dzwonkowski R*. Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998; *Гарбінскі БРД*.

**САКОВІЧ Юльян** [12(24).08.1906, фальварак Баўдыры Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 13.06.1943, мяст. Васілішкі Лідскай акругі, цяпер Шчучынскі р-н Гродзенскай вобл.), бел. грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. З сярэдзіны 1920-х г. — сябра падпольнага камсамола, пазней — Камуністычнай партыі Зах. Беларусі. Упершыню арыштаваны польскімі

ўладамі ў снеж. 1925; яго справа была ўзнята ў польскім Сейме паслом Юрыем Сабалеўскім. Прымаў удзел у дзейнасці Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У другой палове 1920-х г. вучыўся на агранома ў Віленскім універсітэце, быў сябрам незалежніцкага Беларускага студэнцкага саюза і Беларускай сялянска-работніцкай грамады, Таварыства беларускай школы. У 1929 за пракамуністычную дзейнасць быў выключаны на год з шэрагаў БСС. У ліп.—снеж. 1929 разам з Г.Вялецкім выдаваў у Вільні студэнцкі час. «Вольная думка». На працягу 1930-х г. неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі; у 1933 праходзіў на судовым працэсе разам з іншымі кіраўнікамі Таварыства беларускай школы. Асуджаны на 3 гады зняволення. Некаторы час пакаранне адбываў у Бяроза-Картузскім канцлагеры. Увосень 1939 С. быў арыштаваны савецкімі ўладамі. Вызваліўся ў пачатку нямецкай агрэсіі. У жн. 1941 арыштаваны на Смаргоншчыне польскай паліцыяй, якая знаходзілася на службе ў нямецкіх акупантаў. Пасля вызвалення працаваў у Мінску начальнікам адміністрацыйнага аддзела Беларускай народнай самапомачы, камендантам гарадской паліцыі. Арганізатар антынацысцкага бел. нацыянальнага падполля, сябра ЦК Беларускай незалежніцкай партыі, кіраўнік Мінскага акруговага камітэта БНП, лідэр падпольнай арганізацыі «Беларуская народная грамада». У жн. 1942 — маі 1943 —

кіраўнік БНС ў Мінскай акрузе. Летам 1942 увайшоў у штаб па фармаванні вайсковых аддзелаў Беларускай самаахoвы, якая ў крас. 1943 была распушчана акупацыйнымі ўладамі. За публічныя пратэсты супраць нямецкіх рэпрэсій над мірным насельніцтвам быў высланы на Лідчыну, дзе быў забіты польскай тэрарыстычнай групай.

Кр.: *НАРБ,* Ф.908.

Літ.: *С.Хізма* [Адамовіч А.] Паніхіда па свежых ахвярах // *Беларуская газэта*. 1943. 30 чэрв.; Лідская акруга падчас нямецкай акупацыі 1941 — 1944 г. // *Беларуская думка*. 1960. № 1; *Ёрш С*. Менск, 1942... У падполлі створана Беларуская Незалежніцкая Партыя. На 50-я ўгодкі з дня трагічнай смерці Юльяна Саковіча // Пагоня, 1993, 4—10 чэрв.; *Яго ж*. Вяртанне БНП. Асобы і дакументы Беларускай Незалежніцкай Партыі. Мн.; Слонім. 1998; *Сазанавец Л*. Мадонна // *Arche*. 2000. № 9; *Змагар, Алесь*. Сцежкі-дарожкі // *Arche*. 2001. № 2. С. 80—81, 88; *Гардзіенка А*. Беларуская народная самапомач: ад пачаткаў да рэарганізацыі // *Спадчына*. 2002. №1.

**САКОЛ Пятро** [сапр.: Масальскі Пётр Аляксандравіч; іншыя псеўданімы: Пятрусь; Пётра Сакол; 1(14).7.1905, мяст. Пасінь Люцынскага пав. Віцебскай губ., цяпер в. Пасіене Лудзенскага р-на, Латвія — 6.7.1985, Рыга], паэт, перакладчык. Пасля сканчэння Себежскага вучылішча ў 1922—23 вучыўся ў Лудзенскай (Люцынскай) беларускай гімназіі. У 1923 пераехаў у Рыгу. Працаваў на часовых работах. Пачаў друкаваць вершы ў 1923. Быў

карэктарам у газ. «Голас беларуса». У 1925—26 вучыўся на Беларускіх 2-гадовых настаўніцкіх курсах. У 1927 атрымаў месца настаўніка-практыканта ў Дзвінскай (Даўгаўпілс) беларускай гімназіі. Быў членам Партыі незалежных сацыялістаў і Латгальскага рабочага прафсаюза. З-за сваіх паліт. поглядаў у 1928 быў арыштаваны латышскімі ўладамі. Потым жыў пад наглядам паліцыі; пазбаўлены права выкладаць. У 1929 выдаў адзіны паэтычны зборнік. З 1929 да 1936 атрымліваў толькі часовую работу ў Ліепаі і Рызе (быў таксама карэктарам-перакладчыкам час. «Беларуская школа ў Латвіі»). Перакладаў рускую, украінскую паэзію, творы Я.Райніса. У 1935 спрабаваў апублікаваць зборнік перакладаў латышскіх дайнаў (народных песень). З 1936 працаваў бухгалтарам на фанернай фабрыцы. З 1942 карэктар-перакладчык у час. «Новы шлях» (Рыга). Складаў картатэку бел.-латышскага слоўніка. Арыштаваны савецкімі ўладамі ў 1945; асуджаны і адпраўлены на «фільтрацыю» ў Хабараўскі край, потым у Ніжне-Амурскі папраўча-працоўны лагер МУС. Вярнуўся ў Рыгу ў сак. 1947. Працаваў рабочым.

Тв.: *На світанні: Вершы*. Рыга, 1929; *Дайны: Латышскія народныя песні* / З латышскай. Мн., 1987.

Літ.: *Ліс А.* Два перакладчыкі з Латвіі // *Далягляды*. Мн., 1979; *Панізнік С.* Вяртанне голасу // *Дайны*. Мн., 1987; *Кекелева Т.* Беларускі пясьняр з-пад Люцына // *Спадчына.* 2000, № 1; *БП*, т. 5; *ЭГБ*, т. 6-1.

**САЛАГУБ Алесь Феафілавіч** [псеўданімы: Лявон Адраджэнец; Лявон Чачотка; крыптанімы: А.С.; А.С. і В.Т. (разам з В.Таўлаем); 5(18).10.1906, в. Зарудзічы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 17.5.1934, Мінск, НКВД], паэт, публіцыст, літаратуразнавец, мемуарыст. У 1922—27 вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Сістэматычна літаратурнай дзейнасцю займаўся з 1924. Публікаваўся ў зах.-бел. выданнях «Студэнцкая думка», «Беларуская ніва», «Народная справа», «Маланка». У 1926 ад талстоўскай ідэі «несупраціўлення» перайшоў да канцэпцыі класавага змагання і сацыялістычных ідэй. Удзельнічаў у руху БСРГ, арганізоўваў у сваім павеце гурткі Грамады, распаўсюджваў забароненую літаратуру. Арыштоўваўся польскімі ўладамі ў 1924 і 1927, быў вязнем Лукішак і Стафанаўскага астрогу ў Вільні. Пасля вызвалення ў 1928 нелегальна перайшоў польска-савецкую мяжу. Паступіў вучыцца ў БДУ. У 1929 выдаў зборнік вершаў, якія былі напісаны ў зняволенні. Пасля сканчэння ў 1931 ун-та аспірант Інстытута літаратуры і мастацтва БелАН. У 1933 у час. «Полымя рэвалюцыі» (№ 1) апублікаваў працу «Мастацкая літаратура «Грамады», дзе прааналізаваў прэсу і літаратуру БСРГ. Арыштаваны 10.8.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Калегіяй АДПУ СССР прыгавораны 9.1.1934 да расстрэлу. Рэабілітаваны 18.4.1956. Сям’я С. (жон-

ка і сын) таксама былі рэпрэсаваны і сасланы на Поўнач. Самы значны твор літаратурнай спадчыны С. — «Лукішскі дзённік», апублікаваны фрагментамі ў 1961.

Тв.: Лукішкі: Вершы з Заходняй Беларусі. Мн., 1929; Лукішскі дзённік: Фрагменты // *Полымя*. 1961, № 4.

Літ.: *Калеснік У.* Слова з-за крат // *Полымя*. 1961, № 4; *Яго ж*. Алесь Салагуб // *Калеснік У.* Лёсам пазнанае. Мн., 1982; Ліс А. Дзе вы, хлопцы, браты песняры? // *Ліс А.* Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 5; *ЭГБ*, т. 6-1.

**САЛАНЕВІЧ Іван Лук'янавіч** [1(13).11.1891, с. Руднікі Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 24.4.1953, Буэнас-Айрэс, Аргенціна], пісьменнік, публіцыст, выдавец, філосаф, гісторык, грамадскі дзеяч. Сын Л.Саланевіча. У 1916 скончыў Петраградскі ун-т. Пачаў кар'еру журналіста ў газ. «Гродненские губернские ведомости». У 1909—12 працаваў у газ. «Белорусская жизнь» (з 1911 — «Северо-Западная жизнь»), заснаванай яго бацькам. З 1912 супрацоўнік пецярбургскай газ. «Новое время». Віцэ-чэмпіён Расіі па гіравым спорце 1914, удзельнік спаборніцтваў па футболе, боксе, барацьбе. Публікаваўся ў спартыўнай прэсе. У 1908—10 у Гродне і Віцеб-

ску арганізаваў спартыўныя таварыствы «Сокал». Не прыняў Кастрычніцкую рэвалюцыю. Выехаў у Адэсу. З 1926 у Маскве. Працаваў у прафсаюзах, супрацоўнічаў з газ. «Известия», апублікаваў некалькі брашур аб спорце. У 1933 спрабаваў уцячы з СССР. Арыштаваны і накіраваны на будаўніцтва Беламорканала. У жн. 1934 разам з сынам уцёк з лагера, прабраўся ў Фінляндыю. Жыў у Балгарыі. Напісаў кнігу ўспамінаў «Россия в концлагере» (апублікавана ў 1936). З 1936 выдаваў у Сафіі газ. «Голос труда», перайменаваную ў «Голос России». Газета распаўсюджвалася ў 52 краінах свету і стала ідэалагічным цэнтрам расійскай правай эміграцыі. Пасля закрыцця ў 1938 газеты балгарскімі ўладамі пераехаў у Германію. Выступіў супраць планаў Германіі пачаць вайну з СССР, за што быў арыштаваны і сасланы пад нагляд гестапа ў мяст. Апельбек пад Гамбургам. З 1948 жыў у Аргенціне. У Буэнас-Айрэсе заснаваў газ. «Наша страна». Галоўны твор С. — філасофска-паліталагічная праца «Народная манархія».

Тв.: Белая империя. Буэнос-Айрес,1952; М., 1997; Народная монархия. Буэнос-Айрес, 1955, 1973; М., 1991; Мн., 1998.

Літ.: *Дьяков И.* Дело, которое больше нас // *Наш современник*. 1991, № 11; *Черепица В.Н.* Преодоление времени. Мн., 1996; *ЭГБ*, т. 6-1.

**САЛАНЕВІЧ Лук'ян Міхайлавіч** [8(20).10.1866—1938 ?, ГУЛАГ, Краснаярскі край ?], грамадскі дзеяч, журналіст, выдавец, краязнавец. Бацька І.Саланевіча. У 1886 скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Да 1896 працаваў у народных вучылішчах Бельскага, Пружанскага, Гродзенскага пав. Да 1907 служыў на канцылярскіх пасадах у Гродзенскім губернскім праўленні. З канца 1890-х г. супрацоўнічаў з газ. «Гродненские губернские ведомости», з 1897 сакратар неафіцыйнай часткі газ., у 1905—08 — рэдактар газеты. Пісаў на тэмы краязнаўства, адукацыі, культуры, аховы здароўя. Член Гродзенскага праваслаўнага Сафійскага брацтва, Гродзенскага царкоўна-археалагічнага камітэта. У 1908 сузаснавальнік «Беларускага таварыства». Прыхільнік «заходне-русізму», гістарычных поглядаў М.Каяловіча і палітыкі П.Сталыпіна. У 1909 пераехаў у Вільню, дзе пачаў выдаваць газ. «Белорусская жизнь» (з 1911 — «Северо-Западная жизнь»). З 1912 пры рэдакцыі газеты пачала выходзіць «Беларуская гістарычная бібліятэка». У 1916 у сувязі з набліжэннем фронту пераехаў у Ялту. Не прыняў Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 у Расіі, адышоў ад журналісцкай і грамадскай дзейнасці. У 1934 пасля ўцёкаў сына Івана з СССР арыштаваны. Паводле некаторых звестак, загінуў у лагеры каля Паўночна-Енісейска. Рэабілітаваны ў 1989.

Тв.: Краткий исторический очерк Гродненской губернии. Гродно, 1901.

Літ.: *Дьяков И.* Дело, которое больше нас // *Наш современник*. 1991, № 11; *Черепица В.Н.* Преодоление времени. Мн., 1996; *ЭГБ*, т. 6-1.

**САМОЙЛА Уладзімір Іванавіч** [псеўданімы: Владак з Казіміроўкі; Наглядчык; Сірыус; Суліма; Sulima; М. Чэмер; Ул. Чэмер; крыптанімы: Н.; С.; В.С.; Вл.С.; Ул.С.; В.С.-а; Ч-мр.; S; S-ик; Ars; 17(29).1.1878, Мінск — чэрв. 1941, Мінск (?), НКВД], публіцыст, філосаф-эстэтык, літаратуразнавец, паэт, празаік. Пасля сканчэння Мінскай гімназіі вучыўся ў Маскоўскім ун-це, у 1916 скончыў Петраградскі ун-т. У 1906 стаў адным з заснавальнікаў кніжнага таварыства «Мінчук». Спрыяў першым публікацыям твораў Я.Купалы. З 1918 жыў у Вільні. Выкладаў у розных навучальных установах. У 1918—22 быў рэдактарам-выдаўцом газ. «Виленская речь». Аўтар шматлікіх артыкулаў і эсэ, прысвечаных творчасці бел., зах.-еўрапейскіх, расійскіх пісьменнікаў. У 1922—27 быў адным з вядучых публіцыстаў у зах.-бел. друку. Пасля разгрому БСРГ адышоў ад актыўнага ўдзелу ў грамадска-паліт. жыцці. Публікаваў працы пераважна культуралагічнай тэматыкі. На пачатку 1930-х г. працаваў бібліятэкарам Беларускага музея імя

І.Луцкевіча. Арыштаваны савецкімі ўладамі ў кастр. 1939. Этапаваны ў Мінск (?), расстраляны.

Тв.: Праф. Здзяхоўскі аб беларускай душы. Вільня, 1924; Які «Самаўрад» гатуе Беларускаму народу Польская рэспубліка? Вільня, 1924; «Nowy» і «najnowszy» kurs polityki polskiej w sprawie biaioruskiej. Wilno, 1932; У кн.: *Александровіч С.Х., Александровіч В.С.* Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мн., 1978.

Літ.: *Бас І.* Уладак з Казіміраўкі // *Бас І.* Падарожжа ў літаратурнае мінулае. Мн., 1971; *Калинкович Н.* Как дань глубокого уважения… // *Неман.* 1979, № 11; *Александровіч С.Х.* Уладзімір Самойла — даследчык паэзіі Янкі Купалы // *Песні беларускай валадар*. Мн., 1981; *Конан У.* Прарок у сваёй Айчыне: Ул.Самойла, 1878—1941 // *Вяртання маўклівая споведзь: постаці творцаў беларускай гісторыі ў кантэксце часу*. Мн., 1994; *БП*, т. 5; *ЭГБ*, т. 6-1.

**САХАРАЎ Сяргей Пятровіч** [псеўданімы: Гісторык; Двинчанин; Дзьвінчук; Скучающий; крыптанімы: С.; С.С.; 16(28).9.1880, Полацк — 22.4.1954, Рыга], фалькларыст, этнограф, публіцыст, педагог. У 1891—95 за дзяржаўны кошт вучыўся ў Полацкім духоўным вучылішчы; у 1901 скончыў Віцебскую духоўную семінарыю. Адмовіўся ад духоўнага сана. Настаўнічаў у Люцынскім пав. і ў Люцыне. У 1907—11 вучыўся на юрыдычным ф-це Юр'еўскага (Тартускага) ун-та; адначасова слухаў лекцыі на гісторыка-філалагічным ф-це. З 1911 выкладаў у Віцебску ў гімназіях і на-

стаўніцкім інстытуце; адначасова працаваў сакратаром Віцебскай архіўнай камісіі. У 1913 прызначаны інспектарам народных вучылішчаў у Юр’еве. У 1917 С. давялося шмат павандраваць па Беларусі ў пошуках працы (Пінск, Барысаў, Мінск, Магілёў). З кастр. 1917 дырэктар Люцынскай рускай гімназіі. З 1921 старшыня бел. грамадскага культурна-асветнага таварыства «Бацькаўшчына». З пачатку 1922 жыў у Рызе. Кіраўнік бел. аддзела Міністэрства асветы Латвіі. Пасля ліквідацыі ў 1925 бел. аддзела дырэктар Дзвінскай беларускай гімназіі. У 1932 гімназія была ліквідавана, С. адпраўлены на пенсію. Пераехаў у Рыгу, актыўна заняўся гісторыка-літаратурнай працай, запісваў бел. фальклор Латгаліі. З 1940 зноў вярнуўся да выкладчыцкай дзейнасці, працаваў у бел. і рускіх школах. Арыштаваны ў крас. 1945; асуджаны на 5 гадоў лагераў. Пакаранне адбываў у лагерах Карабас і Батык (Казахстан). Вярнуўся ў Латвію ў 1950 без права пражывання ў Рызе.

Тв.: Народное образование в Юрьевском уезде. Юрьев, 1917; Город Лудза в прошлом и настоящем: (Популярный очерк). Рига, 1935; Полацкі князь Усяслаў — нацыянальны беларускі асілак. Вільня, 1939; Православные церкви в Латгалии: [Историко-статистическое описание]. Рига, 1939; Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў. Рыга, 1940. Вып. 1.

Літ.: *Ліс А.* Збіральнік духоўных скарбаў // *ЛіМ*. 1980, 7 крас.; *Папар С.* (Панізнік С.). У зялёным садзе вятры гудзелі // *Голас Радзімы*. 1980, 23 кастр.; *БП*, т. 5; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СВАЯК Янка** [сапр.: Фальскі Мар'ян; крыптанімы: М.Ф.; M.F.; 7.12.1881, в. Нача Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Ляхавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 7.10.1974, Варшава], перакладчык, публіцыст, педагог. Пісаў на польскай і бел. мовах. У 1899 скончыў Мінскую гімназію. У 1903 у перакладзе на бел. мову выдаў апавяданне М.Жыха (С.Жаромскага) «Да свайго бога». Публікаваў таксама свае пераклады Г.Сянкевіча. Вучыўся ў Варшаўскім політэхнічным інстытуце. Адзін з аўтараў лістовак на бел. мове «Царская гаспадарка» і «Прызыўныя» (1904—05), у якіх востра крытыкавалася палітыка царскага ўрада. У 1905 далучыўся да ППС, пасля ППС-лявіцы; падтрымліваў кантакты з БСГ. Арыштаваны ў 1907; зняволены ў Варшаўскай цытадэлі. У 1910 выдаў польскі лемантар «Навука чытання і пісання», які на працягу 60 гадоў быў абавязковым падручнікам у школах. З 1919 працаваў у Міністэрстве асветы Польшчы. У 1931 быў экспертам Лігі нацый у Кітаі па праблемах адукацыі. Пасля 2-й сусветнай вайны працаваў у Міністэрстве асветы ПНР і Польскай Акадэміі навук (куратар аддзела арганізацыі асветы). Аўтар шматлікіх прац па гісторыі, арганізацыі і методыцы навучання. Прафесар [1954]. Пакінуў мемуары.

Тв.: Помач работнікам у Нямеччыне // *Наша ніва*. 1907, 8, 21 чэрв.; Прызыўныя! Царская гаспадарка // *Сацыялістычны рух на Беларусі ў праклamацыях*. Мн., 1927; Fragmenty prac z zakresu oświaty 1900—1944 // *Studia pedagîgiczne*. 1974. T. 31.

Літ.: *Александровіч С.* З майго падарожжа // *Полымя*. 1969, № 8; *Яго ж*. Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971. С. 120—123; *Яго ж*. Кнігі і людзі. Мн., 1976. С. 34—38; *Turonek J.* Udział Mariana Falskiego w białoruskiej działalności wydawniczej // *Przegląd Historyczno-Oświatowy*. 1982, ą 3—4; *БП*, т. 5.

**СВЁНТАК Казімір** [нар. 21.10.1914, мяст. Котвіч, Эстонія], царкоўны дзеяч, рыма-каталіцкі кардынал, шматгадовы вязень сталінскіх лагераў. Паходзіць з польскай шляхецкай сям'і. У час 1-й сусветнай вайны сям'я Свёнтакаў была эвакуіравана на Усход. Пасля аднаўлення Польскай дзяржавы яны пасяліліся ў Баранавічах, дзе С. скончыў мясцовую гімназію. У 1933 паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю імя Тамаша Аквінскага ў Пінску, у крас. 1939 пасвечаны ў святары і распачаў душпастырскую дзейнасць вікарыем у мяст. Пружаны. У крас. 1941 арыштаваны савецкімі ўладамі па абвінавачванні ў шпіянажы і два месяцы ўтрымліваўся ў Брэсцкай турме. У канцы чэрв. 1941 быў вызвалены немцамі з турмы і вярнуўся да сваіх вернікаў у мяст. Пружаны. Пасля вайны застаўся з парафіянамі. У снеж. 1944 зноў арыштаваны савецкімі ўладамі і асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Зняволенне адбываў у лагерах Сібіры і Комі АССР. Пасля вызвалення 16.6.1954 вярнуўся да душпастырскай дзейнасці. Зноў узнікла магчымасць пераезду, гэтым разам у Польшчу, але ён

застаўся ў Беларусі. З 1.12.1954 пробашч у Пінску. З 13.4.1991 арцыбіскуп, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, апостальскі адміністратар Пінскай дыяцэзіі. 30.10.1994 Папа Ян Павел II абвясціў яго кардыналам.

Літ.: *Невяроўскі А.* Юбілей кардынала // *Навіны*. 13.4.1999; *Гардзіенка А.* Кардынал Казімір Сьвёнтэк // *Дэмакратычная апазыцыя*.

**СЕМАШКЕВІЧ Раман Мацвеевіч** [1900, мяст. Лебедзева Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер вёска Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. — канец 1937, Масква, НКВД], жывапісец, графік, скульптар. Скончыў гімназію ў Вільні. Афармляў час. «Рунь» (1923), які выдавалі навучэнцы Віленскай беларускай гімназіі. Член КСМЗБ. З 1924 жыў у СССР. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме, скончыў яго ў 1927 па класе скульптуры. Накіраваны вучыцца ў Вышэйшы мастацка-тэхнічны інстытут ў Маскве (ВХУТЕИН) на ф-т жывапісу, які скончыў у 1930. Выстаўляцца пачаў у 1924; удзельнік 3-й Усебеларускай мастацкай выставы (1930). У 1932 наладзіў персанальныя выставы ў Петрыкаве, Мазыры, Мінску. Аўтар жывапісных работ: «Галадоўка палітзняволеных у Лукішскай турме», «На этапе», «Паны забіраюць апошнюю карову», «Бойка з секвестратарамі», «Здзек палі-

цыі»; партрэтаў А.Грыневіча, В.Таўлая, Я.Купалы, Я.Коласа, групавога партрэта М.Галадзеда, М.Гікалы і А.Александровіча; скульптурнай кампазіцыі «Юны змагар». Арыштаваны 2.11.1937, усе творы былі канфіскаваны. Паводле рашэння «тройкі» расстраляны.

Літ.: *Салагуб А.* Раман Семашкевіч // *ЛіМ*. 1932, 19 ліст.; *Ліс А.* Пякучай маланкі след. Мн., 1981; *Васільева Н.* Ён жыў, каб ствараць… // *ЛіМ*. 1988, 15 крас.

**СЕРАДА Янка** [Іван Мікітавіч; 1(13).5.1879, в. Задзвеі Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — пасля 19.11.1943], грамадскі і паліт. дзеяч, вучоны-аграрый, публіцыст. У 1903 скончыў Варшаўскі ветэрынарны інстытут. У 1905—06 служыў у арміі ў Маньчжурыі. У 1907—11 працаваў ветэрынарам у Мінскай губ., адначасова выкладаў у Мар'іна-Горскім сельскагаспадарчым вучылішчы. Член БСГ. Публікаваўся з 1914 (час. «Саха»). Падчас 1—й сусветнай вайны мабілізаваны ў армію. У 1917 быў старшынёй прэзідыума Усебеларускага з'езда; у 1918 старшыня Рады БНР. У 1918 член ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў. У 1919—20 уваходзіў у Часовы Беларускі нацыянальны камітэт, прэзідыум Найвышэйшай рады БНР. У 1921—25 навуковы супрацоўнік і загадчык біблія-

тэкі Інбелкульта, выкладчык МБПТ. Працаваў у Наркамаце земляробства БССР. У 1923—24 арганізатар і дырэктар Мінскага ветэрынарна-заатэхнічнага тэхнікума. У ліп. 1925 — снеж. 1929 дацэнт БСГА у Горы-Горках; адначасова з 1927 навуковы супрацоўнік Беларускага НДІ сельскай і лясной гаспадаркі. Выступаў у друку з навуковымі, навукова-папулярнымі і публіцыстычнымі артыкуламі на сельскагаспадарчыя тэмы. Арыштаваны ДПУ БССР 4.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Па пастанове Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 сасланы ў Яраслаўль тэрмінам на 5 гадоў. Паўторна прыгавор вынесены 27.12.1941; атрымаў 10 гадоў пазбаўлення волі. Датэрмінова вызвалены 19.11.1943 з Краслага (Краснаярскі край). Далейшы лёс невядомы. Па 1-м прыгаворы рэабілітаваны 10.7.1988, па 2-м — 16.1.1989.

Тв.: Як трэба каваць коні. Мн., 1926; Ветэрынарыя і зоагігіена. Кн. 1—2. Мн., 1927—1928; Пабудова сіласаў у калгасах і саўгасах. Мн., 1930.

Літ.: *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СЕРАФІМАЎ Васіль Сцяпанавіч** [1897–1972], педагог, дзяржаўны дзеяч, краязнавец. З 1925 быў загадчыкам Бабруйскага акруговага аддзела народнай адукацыі, з 1926 нам. загадчыка Мінскага акруговага аддзела народнай адукацыі.

З 1930 у БелАН, старшыня Цэнтральнага бюро краязнаўства. Друкаваўся ў час. «Наш край». Пры ім вяліся пошукі наццэмаў у краязнаўчым руху. У 1937 першы нам. наркама асветы БССР. Арыштаваны ў 1937; хутка вызвалены. У 1951 скончыў Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б). Больш за 20 гадоў быў рэктарам Брэсцкага педагагічнага інстытута. У 1960-я г. напісаў успаміны пра Янку Купалу (друкаваліся ў час. «Полымя»).

Літ.: *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000.

**СЕРБЕНТА Віталь Андрэевіч** [2(14).6.1895, в. Люкяй Вілкавішскага пав. Сувалкаўскай губ., цяпер Марыямпальскі р-н, Літва — 26.10.1980, Мінск], гісторык, філосаф. Удзельнік рэвалюцыйнага руху, рэдактар падпольных і легальных выданняў у Літве, Маскве, Варонежы, Харкаве. З 1920 загадчык аддзела друку Харкаўскага губкама КП(б)У, сакратар Літоўскай секцыі пры ЦК КП(б)У. Рэдактар літоўскай газ. «Darbininkų balsas» і час. «Raudonoju Dirva»; газ. «Красные резервы», «Красноармейская страница», «Коммунист» (орган ЦК КП(б)У). У 1920 скончыў гісторыка-філалагічны ф-т Харкаўскага ун-та; у 1922 — медыцынскі ф-т. У 1922—23 выкладчык Камуністычнага ун-та народаў Захаду. У 1924 скончыў

Інстытут чырвонай прафесуры. З 1924 у Беларусі. Загадчык Віцебскай губсавпартшколы. У 1925—27 нам. загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б, з 1929 дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б. Прычыніўся да барацьбы з т. зв. беларускім нацыянал-дэмакратызмам; да выгнання з Мінска В.Доўнар-Запольскага, забароны друкаваць яго «Гісторыю Беларусі». Прафесар (1930), акадэмік БелАН (1931), доктар гістарычных навук (1934). У 1932—37 загадчык сектара Інстытута гісторыі БелАН. Арыштаваны 22.5.1937. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.11.1937 асуджаны на 10 гадоў лагераў. Паўторна прыгавораны Асобай нарадай пры МДБ СССР ад 26.11.1949 да высылкі на пасяленне ў Краснаярскі край. Рэабілітаваны 30.5.1956. З 1957 загадчык сектара, з 1967 навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН БССР. Даследаваў гісторыю філасофіі і сацыялагічнай думкі ў Беларусі і Літве. Сааўтар кніг «З гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі» (1962), «Нарысы гісторыі марксісцка-ленінскай філасофіі ў Беларусі, 1919—1968» (1968).

Літ.: *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СЕРГІЕВІЧ Юльян Іосіфавіч** [23.9.1910, в. Юраўшчына Ашмянскага пав. Віленскай губ., ця-

пер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — 4.10.1976, в. Ленкаўшчына Маладзечанскага р-на], паэт, самадзейны мастак. Першы верш С. «Дуб» быў апублікаваны ў 1922 у час. «Маладое жыццё». Друкаваўся ў перыядычных выданнях Зах. Беларусі, найперш у час. «Маланка» і газ. «Шлях моладзі»; у калектыўным зборніку «Рунь веснаходу». У сярэдзіне 1920-х г. быў актывістам БСРГ і ТБШ. У 1939 павінен быў выйсці яго зборнік паэзіі, але пачатак вайны не дазволіў ажыццявіцца гэтым планам. З нападам Германіі на Польшчу ў вер. 1939 мабілізаваны ў польскую армію. Трапіў у нямецкі палон. Знаходзіўся ў лагерах для ваеннапалонных (разам з Я.Брылём, для якога С. стаў прататыпам аднаго з герояў рамана «Птушкі і гнёзды»). Працаваў у Камітэце беларускай самапомачы ў Берліне. Вярнуўшыся на Радзіму пасля вайны, настаўнічаў у в. Ленкаўшчына і Манішчыцы Маладзечанскага р-на. Арыштаваны ў 1946. Да 1956 знаходзіўся ў лагерах Поўначы, Сібіры, Казахстана. Потым працаваў у калгасе, жыў у в. Ленкаўшчына. Друкаваўся мала, пераважна ў маладзечанскай раённай газеце. Некаторыя творы былі апублікаваны ўжо пасля яго смерці. Як мастак размалёўваў насценныя кілімы, пісаў тэматычныя карціны з жыцця вёскі. Творы С. экспанаваліся на рэспубліканскай выставе ў 1978. Яго вобраз як настаўніка створаны ў кнізе польскага празаіка З.Жакевіча «Воўчыя лугі».

Тв.: Музыка // *Рунь веснаходу*. Вільня, 1928; За волю нашых родных хат: [Вершы] // *Полымя*. 1991, № 7; Вершы з фашысцкай няволі // *Полымя*. 1992, № 9.

Літ.: *Чаркасава Д*. Люблю. Мн., 1978. С. 72—74; *Брыль Я*. З любоўю да слова // *Голас Радзімы*. 1980, 21 лют.; *Гардзіенка А*. Юльян Сергіевіч // *Наша ніва*. 2001, 3 вер.; *БП*, т. 5.

**СІМАНОВІЧ** [сярэдзіна XVIII ст. — першая палова XIX ст.], паэт, сатырык. Служыў столаначальнікам Магілёўскай казённай палаты. Пісаў на рускай мове. Перадаў Васілю Пасеку (пляменніку магілёўскага губернатара) акраверш, у «якім ганілася гасударыня імператрыца Кацярына II». Калі Пасек быў арыштаваны ў 1794 з-за фінансава-спадчынных праблем, у яго быў знойдзены гэты верш. У выніку С. саслалі на дваццаць гадоў у Сібір.

Літ.: *Пассек В*. Отрывок жизни // *Русский архив*. 1863. Слуп. 645—647; *Мальдзіс, На скрыжаванні*... С. 272.

**СІЎКО Уладзімір** [псеўданім Горн; нар. 7.1.1916, Мінск], паэт, педагог, бел. вайсковы дзеяч. Сям'я С. паходзіць з в. Ачукевічы каля мяст. Любча (Навагрудскі пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.). Скончыў Навагрудскую беларускую гімназію (1933). Свае вершы друкаваў пад псеўданімам у віленскім час. «Шлях

моладзі». Служыў у польскім войску (1937—38, 1939), браў удзел у нямецка-польскай вайне ў вер. 1939. Да 1941 працаваў настаўнікам бел. мовы ў Ачукевіцкай школе. Падчас нямецкай акупацыі становіцца афіцэрам, служыць у бел. вайсковых аддзелах на Навагрудчыне. Вясной 1944 прадстаўляў бел. бок на тайных перамовах з камандзірамі польскай Арміі Краёвай на Навагрудчыне. У 1944—45 жыў і працаваў у Вільні. Арыштаваны 25.8.1945, знаходзіўся ў мінскай турме НКДБ. Зняволенне адбываў на Калыме, дзе працаваў у шахтах. У бальшавіцкіх канцлагерах тайна працягваў пісаць патрыятычныя вершы. Пасля вяртання ў Беларусь жыў у Любчы. З-за сваёй «нядобранадзейнасці» доўга не мог знайсці работу. З сям'ёй выязджаў у Расію, пасля вярнуўся. У 1990-х г. друкаваў успаміны і вершы ў мясцовым і рэспубліканскім друку. Цяпер жыве ў Магілёве.

Тв.: Познія кветкі: Вершы. Навагрудак, 1996.

Літ.: *Антысавецкія рухі*.

**СКАБЛОЎ Фёдар Аляксеевіч** [1897, Рэчыца Мінскай губ., цяпер горад Гомельскай вобл. — 7.7.1938, Мінск, НКВД], эканаміст. Скончыў БДУ. У 1931 паступіў у аспірантуру БелАН. З 1935 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі. З 1937 кіраўнік секцыі. Адначасова выкладаў паліт-

эканомію ў Інстытуце народнай гаспадаркі. Арыштаваны 4.3.1938. Прыгавораны 25.5.1938 да расстрэлу. Рэабілітаваны 5.10.1957.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**СКАКАЛЬСКІ Гдалій Абрамавіч** [1901 — ?], музейны работнік. У 1936—39 быў навуковым супрацоўнікам Музея рэвалюцыі (Мінск), у 1939—40 — дырэктарам. У 1943 асуджаны на 5 гадоў ссылкі. Рэабілітаваны ў 1997.

Літ.: *Гужалоўскі А.* Музеі Беларусі (1918—1941 гг.). Мн., 2002.

**СКАНДРАКОЎ Сяргей Вячаслававіч** [псеўданімы: Сяргей Мглінскі; Янка з Вялікага Поля; 9(21).10.1876, Мглін Чарнігаўскай губ., цяпер Бранская вобл., Расія — 2.8.1953, Караганда], журналіст, вучоны-аграном, краязнавец. Вучыўся ў Слуцкай і Мінскай гімназіях. У 1906 скончыў Маскоўскі сельскагаспадарчы інстытут. Удзельнічаў у рабоце Мінскага таварыства аматараў прыгожых мастацтваў. Публікаваўся ў газ. «Минский листок». Быў знаёмы з Я.Купалам і Я.Коласам. Перапісваўся з У.Караленкам. У час рэвалюцыі 1905—07 член Мінскага камітэта Беларускай сацыялістычнай грамады. Рэдактар-выдавец газ. «Голос Белоруссии»;

першы яе нумар выйшаў 1.1.1906 і газета адразу была забаронена ўладамі. Адзін з заснавальнікаў кніжнага таварыства «Мінчук». З 1911 дырэктар Чырвонаградскай доследнай станцыі ў Палтаўскай губ. З 1921 дырэктар Беларускай агранамічнай станцыі ў Банцараўшчыне пад Мінскам. Выкладаў у БДУ і БСГА; працаваў у Беларускім НДІ сельскай і лясной гаспадаркі. У 1923—25 вучоны сакратар Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце. Аўтар навукова-папулярных нарысаў па аграноміі, артыкулаў па краязнаўстве. Збярог жывапісныя творы К.Каганца «Тып беларуса» і «Зімовы пейзаж». С. — прататып Кандаковіча ў трылогіі Я.Коласа «На ростанях». Арыштаваны ДПУ БССР 6.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Высланы ў Яраслаўль. З 1931 працаваў на навуковых і педагагічных пасадах у Яраслаўлі, Мічурынску, Душанбе, Алма-Аце, Карагандзе. Рэабілітаваны.

Тв.: Аграном Сэрадэля // *Маладняк*. 1924, № 4.

Літ.: *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971; *Скалабан В.* Па слядах Сяргея Мглінскага // *Мастацтва Беларусі*. 1986, № 11; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СКАРДЗІС (СКАРДЖУС) Вікенцій Іосіфавіч** [28.4.1897, в. Сафійск Чавускага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чавускі р-н Магілёўскай вобл. — 1967, ?], гісторык, публіцыст. Нарадзіўся ў літоў-

скай сям'і. Працаваў у літоўскім сектары АН, Інстытуце нацыянальных меншасцей, Інстытуце гісторыі БелАН. Кандыдат гістарычных навук. Вывучаў гісторыю пасяленняў літоўцаў у Беларусі. Арыштаваны 10.12.1937. Асобай нарадай 19.8.1938 прыгавораны да 5 гадоў высылкі ў Казахстан. Вызвалены ў 1943. Пасля жыў у Кустанайскай вобл. Казахстана. Рэабілітаваны 11.11.1957.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**СКІРМУНТ Алена (Гелена) Аляксандраўна** [5.11.1827, в. Калоднае Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Столінскі р-н Брэсцкай вобл. — 1(13).2.1874], мастачка, мемуарыстка. Вучылася жывапісу ў Вільні ў В.Дмахоўскага. На працягу 1844—45 падарожнічала па Еўропе. Апроч партрэтаў і пейзажаў стварала абразы для касцёла. Займалася скульптурай, вырабіла медальёны з партрэтамі І.Лялевеля, Ю.Крашэўскага. У 1863 везла паўстанцам дэпешу Р.Траўгута. Арыштавана, саслана ў Тамбоў. Пасля ссылкі жыла ў Крыме, дзе выканала гіпсавыя плакеты «Міндоўг», «Гедымін», шахматы ў выглядзе войска Яна III Сабескага (сярод іх ёсць паляшук). Вяла дзённік, пісала мемуары (на польскай мове). Фрагменты рукапісаў з лістамі апублікаваны ў выданні «З жыцця ліцвінкі, 1827—1874» (1876).

Літ.: *PSB*; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СКІРМУНТ Генрык** [1868, в. Моладава Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Іванаўскі р-н Брэсцкай вобл. — 20.9.1939], паэт, кампазітар. Пісаў на польскай мове. Вучыўся ў Пецярбургскай кансерваторыі, у Парыжы, Варшаве. Аўтар оперы «Пан Валадыёўскі» (паводле аднайменнага рамана Г.Сянкевіча), прэм'ера якой адбылася ў Львове (1902). Першы паэтычны зборнік «З вершаў і песень Генрыка Скірмунта» выйшаў у 1898. Перапісваўся з Э.Ажэшка. З 1920 жыў у маёнтку Моладава. Расстраляны савецкімі ўладамі.

Тв.: Poezja. T. 1—2. Warszawa, 1903—12.

Літ.: *PSB*; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СКІРМУНТ Раман Марыян Аляксандравіч** [25.4(7.5).1868, в. Парэчча Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Пінскі р-н Брэсцкай вобл. — 7.10.1939], паліт. і грамадскі дзеяч, публіцыст. Скончыў Рыжскую класічную гімназію. Быў адным з кіраўнікоў Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі. Імкнуўся стварыць Краёвую партыю Літвы і Беларусі як міжнацыянальны блок польскіх, літоўскіх і бел. партыйных арганізацый. Аўтар прац пра нацыянальнае развіццё беларусаў і літоўцаў. У студз. 1917 узначаліў Мінскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. У сак.—ліп. 1917 старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта. У

1918 падчас нямецкай акупацыі ўзначаліў «Менскае беларускае прадстаўніцтва», ад якога ў крас. 1918 увайшоў у Раду БНР. У ліп. 1918 узначальваў Народны сакратарыят Беларусі (урад). У 1919 быў адным з заснавальнікаў Польска-беларускага таварыства ў Варшаве. У 1930 абраны сенатарам Польшчы. Арыштаваны савецкімі спецслужбамі ў вер. 1939. Расстраляны.

Тв.: Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej. Lwów, 1904; Głos przeszłości i potrzeba chwili (Stanowisko szlachty na Litwie i Rusi). Lwów, 1905; Blichtr i blask: Z rozmyślań o Słowackim. Wilno, 1926; У кн.: *Беларуская думка XX ст.: Філасофія, рэлігія, культура: (Анталогія).* Варшава, 1998. С. 179—183.

Літ.: *Смалянчук А.* Раман Скірмунт: шлях да Беларусі // *Спадчына*. 1994, № 4; *Рудовіч С.* «…Беларускі дзеяч з вялікіх паноў»: Эпізоды палітычнай біяграфіі Рамана Скірмунта // *Гістарычны альманах*. Т. 2. Гродна, 1999; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СКРАБЕЦ Пётр** [1882, мяст. Любча Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 1963, Навагрудак], педагог. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, Віленскі педагагічны інстытут, Гандлёвую школу ў Кіеве. Выкладаў у школах, у тым ліку ў Навагрудскай жаночай прагімназіі. З 1920 выкладаў у Навагрудскай беларускай гімназіі фізіку, матэматыку, прыродазнаўства і бел. мову. Выконваў

абавязкі дырэктара гімназіі. У гады 2-й сусветнай вайны быў дырэктарам Навагрудскай беларускай настаўніцкай семінарыі. Арыштаваны пасля вайны. 8 гадоў знаходзіўся ў лагерах у Магадане. Пасля вызвалення вярнуўся ў Навагрудак. Пахаваны на «новых» могілках Навагрудка.

Літ.: *Чэмер А.* [Анішчык А.] Наваградская Беларуская Гімназія. Вільнюс, 1997.

**СКРЫГАН Ян** [Янка; Іван Аляксеевіч; псеўдонімы: Відук; Ян Відук; Аўлас; Дзед Аўлас (з П.Броўкам); Крушына; Пірат; 3(16).11.1905, в. Труханавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 18.9.1992, Мінск], празаік, паэт. Вучыўся ў Слуцкай беларускай гімназіі і сельскагаспадарчым тэхнікуме. У 1924 пачаў працаваць у рэдакцыі слуцкай акруговай газ. «Вясковы будаўнік». Літаратурную дзейнасць распачаў у 1924, калі ў газ. «Вясковы будаўнік» былі апублікаваны яго вершы. У 1925—26 быў загадчыкам Народнага дома ў Расонах. У 1926—27 працаваў у рэдакцыі газ. «Чырвоная Полаччына». У 1928 паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ. Быў членам літаратурнага аб’яднання «Маладняк», «Літаратурна-мастацкай камуны». Пасля сканчэння ў 1932 ун-та працаваў у рэдакцыі газ. «Літаратура і мастацтва».

Член СП Беларусі з 1934. Арыштаваны 13.11.1936. Асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі; высланы ў Кемераўскую вобл. Вызвалены ў 1946 з пяцігадовым паражэннем у правах. Працаваў бухгалтарам у Фергане (1946—48), Эстоніі (1948—49, сланцахімічны камбінат «Ківіылі», дзе была С. ўстаноўлена мемарыяльная дошка). Вяртацца ў Беларусь было забаронена. Зноў арыштаваны 25.6.1949; высланы ў Сібір. Рэабілітаваны ў снеж. 1954. Вярнуўся ў Мінск. Працаваў рэдактарам мастацкай прозы ў Дзяржвыдавецтве БССР (1955—59), літкансультантам СП Беларусі (1959), рэдактарам аддзела прозы, нам. галоўнага рэдактара час. «Полымя» (1959—67), загадчыкам літаратурна-кантрольнай рэдакцыі БелСЭ (1967—75), адказным сакратаром Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва, архітэктуры (1975—85). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі 1976 за ўдзел у стварэнні «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» ў 12 т. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1985). Вылучаўся высокай культурай літаратурнай бел. мовы.

Тв.: Кругі: Выбр. Мн., 1969; Выбр. тв: У 2 т. Мн., 1975; Выбр. тв: У 2 т. Мн., 1985.

Літ.: *Андраюк С.* Кругі жыцця // *Андраюк С.* Вывяраючы жыццём. Мн., 1976; *Шушкевіч С.* Слова пра сябра // *Шушкевіч С.* Выбр. тв: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2.; *БП*, т. 5; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СЛАБАДЗЕЦКІ Антон Лявонцевіч** [24.12.1905, в. Старая Гута, цяпер Ушыцкі р-н Камянец-Падольскай вобл., Украіна — пасля 1938, ?], гісторык, публіцыст. Нарадзіўся ў польскай сям'і. З 1932 працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце гісторыі БелАН. Арыштаваны 9.1.1938. Асобай нарадай 22.2.1938 прыгавораны да 10 гадоў лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 12.6.1956.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**СЛАВІН Цодзік Якаўлевіч** [1887–1937, ГУЛАГ], музейны работнік. У 1924—37 быў загадчыкам Бабруйскага краязнаўчага музея. Арыштаваны ў 1937 па абвінавачанні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Загінуў у лагеры.

Літ.: *Гужалоўскі А.* Музеі Беларусі (1918—1941 гг.). Мн., 2002.

**СЛАНЕЎСКІ Ігнат** [?, в. Сенна Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 1970, Эйшышкіс, Літва], педагог, гісторык. У 1920-х г. скончыў Навагрудскую беларускую гімназію. Нелегальна перайшоў польска-чэхаславацкую мяжу. Вучыўся на гістарычным ф-це Карлава ун-та (Прага). Вярнуўшыся

ў Зах. Беларусь, не мог знайсці працы па спецыяльнасці. У гады 2-й сусветнай вайны школьны інспектар у Карэлічах; арганізоўваў бел. школы. Арыштаваны пасля вайны. У зняволенні знаходзіўся ў Тайшэтлагеры. Пасля вызвалення вярнуўся ў Беларусь. Не знайшоўшы працы, перабраўся ў Літву.

Літ.: *Чэмер А.* [Анішчык А.] Наваградская Беларуская Гімназія. Вільнюс, 1997.

**СЛОСКАНС Баляслаў** [19.8.1893, Цілглс Рэжыцкага пав. Віцебскай губ., цяпер Рэзекненскі р-н, Латвія — 18.4.1981, Бельгія], рыма-каталіцкі святар, біскуп, апостальскі адміністратар Мінскі і Магілёўскі, рэлігійны і грамадскі дзеяч. Паходзіў з латышскай каталіцкай сям'і. У 1905—07 вучыўся ў Рэжыцкім гарадскім 3-класным вучылішчы. У 1917 скончыў Магілёўскую духоўную каталіцкую семінарыю (Петраград). Пасвечаны ў святары 21.1.1917. Быў прызначаны вікарыем пры касцёле св. Кацярыны ў Петраградзе. Выконваў святарскія абавязкі ў Абрамавай пустэльні ў Лужскім пав. Петраградскай губ. Кароткі час служыў у Віцебску. У 1925 пераведзены ў Ленінград. У маі 1926 у Маскве ўзведзены ў сан біскупа; прызначаны апостальскім адміністратарам Мінскім і Магілёўскім. Арыштаваны АДПУ СССР 16.9.1926. На працягу 1926—30 знаходзіўся ў лагеры на Салаўках. Пас-

ля вызвалення вярнуўся ў Магілёў. Зноў арыштаваны ДПУ БССР 9.11.1930. Да студз. 1933 знаходзіўся ў сібірскай ссылцы. Вызвалены ў выніку абмену палітвязнямі паміж Латвіяй і СССР. Жыў у Латвіі, служыў духоўнікам у Рыжскай духоўнай каталіцкай семінарыі, выкладаў на тэалагічным ф-це Рыжскага ун-та. З 1944 у эміграцыі. Духоўна апекаваўся бел. студэнцкім асяродкам у каталіцкім ун-це Лювена (Бельгія); дапамагаў там бел. кампазітару Міколе Равенскаму. У 1952 прызначаны Ватыканам апостальскім візітатарам для беларусаў-католікаў у Зах. Еўропе. Аказваў матэрыяльную падтрымку бел. рэлігійным перыядычным выданням — «Źnič» (Рым), «Божым шляхам» (Парыж—Лондан) і інш.

Літ.: *Гарбінскі БРД*.

**СЛУЧАНІН Лявон** [сапр.: Шпакоўскі Лявонцій Раманавіч; 3(16).10.1914, в. Лучнікі Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 25.10.1995, Салігорск], паэт. У 1929 паступіў у Слуцкі педтэхнікум. Пад уплывам мастацтва У.Галубка і яго артыстычнай трупы паступіў у Мінскі тэатральны тэхнікум. Як сын серадняка быў залічаны без стыпендыі, што прымусіла вярнуцца ў педтэхнікум. З трэцяга курса паступіў на літаратурны ф-т МВПІ, дзе вучыўся ў 1932—36. Пасля

атрымання дыплома накіраваны выкладчыкам рускай мовы і літаратуры. ў Чэрыкаў Магілёўскай вобл. Пачаў друкавацца з 1936. У 1937 арыштаваны ў Чэрыкаве. Прыгавораны да 10 гадоў пазбаўлення волі; накіраваны на Беламорканал. У 1939 датэрмінова вызвалены. Вярнуўся ў в. Лучнікі. Уладкаваўся ў Слуцку ў сярэднюю школу выкладчыкам бел. мовы і літаратуры. З 1940 выкладаў у Слуцкім педтэхнікуме. У часы нямецкай акупацыі працаваў дырэктарам Лучнікоўскай школы (1941—43), школьным інспектарам на Случчыне (1943—44). Адначасова супрацоўнічаў у акруговай «Газэце Случчыны»; друкаваўся ў «Беларускай газэце» (Мінск), «Голасе вёскі» (Мінск), «Раніцы» (Берлін) і час. «Новая дарога» (Беласток). Вершы, напісаныя ў 1942—43, апублікаваў у 1943 у калектыўным зборніку «Песняры Случчыны». Пры адступленні немцаў выехаў з сям'ёй у Германію. Працаваў карэспандэнтам у час. «Малады змагар», які выдаваў Саюз беларускай моладзі (1944—45). Вясной 1945 трапіў у амерыканскую акупацыйную зону. Вярнуўся ў родную вёску, дзе быў арыштаваны. Асуджаны на 15 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Адбываў пакаранне на Поўначы. Потым тэрмін быў зменшаны да 10 гадоў зняволення. Пасля вызвалення да 1973 жыў у Варкуце, потым вярнуўся на Радзіму і жыў у Салігорску. Член СП Беларусі з 1993.

Тв.: Рагнеда: Паэма. Вільня, 1944; [Сідней], 1958; *Спадчына*. 1991, № 1; *Калийщик Солигорска*. 1991, 1 сак. (Літаратурная ўкладка).

Літ.: *Бяляцкі А*. [Пасляслоўе] // *Спадчына*. 1991, № 1; *БП*, т. 5. *Савік Л*. «Нашу радасць у гразь утапталі…» *ЛіМ*, 1992, 10 ліп.; *Савік Л*. «Прыйдзе мой дзень…» *Голас Радзімы*, 1994, 6 кастр.

**СМОЛІЧ Аркадзь Антонавіч** [17(29).9.1891, в. Бацэвічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Клічаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 17.6.1938, Омск, НКВД], дзеяч бел. нацыянальнага руху, географ, публіцыст. У 1905 скончыў Мінскую духоўную семінарыю; у 1916 Нова-Александрыйскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства ў Пулавах (Польшча). Вучыўся ў Кіеўскім політэхнічным інстытуце. З 1910 член БСГ. Актыўны ўдзельнік клуба «Беларуская хатка» ў Мінску. У 1917 рэдагаваў газ. «Грамада». Народны сакратар асветы ў 1-м урадзе БНР. У 1918—22 знаходзіўся ў Гродне і Вільні. У 1919 у Вільні выдаў «Геаграфію Беларусі» — кнігу, разлічаную на шырокага чытача. Вярнуўся ў Мінск у жн. 1922. Працаваў загадчыкам планава-эканамічнага аддзела Наркамата земляробства. Адначасова з 1923 дацэнт, прафесар (1927) і загадчык кафедры ў БДУ. З 1925 нам. старшыні Інбелкульта, кіраўнік сельскагаспадарчай секцыі і камісіі па раянаванні БССР. У 1928 абраны правадзейным

членам Расійскага геаграфічнага таварыства, узнагароджаны ім малым залатым медалём. Арыштаваны 26.6.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 сасланы на 5 гадоў у Осу Пермскай вобл., потым у Ішым Цюменскай вобл. Вызвалены ў жн. 1935. Зноў арыштаваны 17.6.1937. Паводле рашэння тройкі УНКВД па Омскай вобл. прыгавораны да расстрэлу. Па 1-м прыгаворы рэабілітаваны 10.6.1988, па 2-м — 9.2.1957.

Тв.: Арганізацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнай Беларусі. Мн., 1927; Размяшчэнне насельніцтва на тэрыторыі Беларускай ССР. Мн., 1929; Геаграфія Беларусі / 4-е выд. Мн., 1995.

Літ.: *Кароль А., Міхнюк У.* Аркадзь Смоліч: паказанні на допытах // *Голас Радзімы*. 1992, 20 лют. — 19 сак.; *Макарэвіч А., Міхнюк У.* «Каб Беларусь перастала быць краем, невядомым для саміх беларусаў»: (Публікацыя архіўных матэрыялаў) // *Полацак*. 1993, №№ 8—10; 1994, №№ 1—8; 1995, №№ 1—8; *Мяснікоў А.* «Беларус — грамадзянін будучыні…»: (Лёс і трагедыя Аркадзя Смоліча) // *Маладосць*. 1994, № 7; *Ліс А.* Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994; *Болатаў А., Рыдзеўскі Г.* Ахвяруючы сябе бацькаўшчыне. Аркадзь Смоліч. Мн., 1999; *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СНЕЖКА (Белы) Дзмітрый Сямёнавіч** [24.9.1903, Орша Магілёўскай губ., цяпер Віцебскай вобл. — ?], журналіст. На момант арышту працаваў інспектарам у ЦСПСБ. Арыштаваны 5.2.1936.

7.5.1936 асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 20.3.1990.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Маракоў Л.* Вынішчэнне, або Пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў // *ЛіМ*. 1999, 10 снеж.

**СОКАЛ-КУТЫЛОЎСКІ Антон Андрэевіч** [7.2.1892, хутар Чырвоная Горка Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл. — 7.3.1983, Шчэцін, Польшча], грамадскі і ваенны дзеяч, мемуарыст. У 1910 скончыў Панявежскую настаўніцкую семінарыю. Настаўнічаў у школах Літвы. У 1913—15 вучыўся на Петраградскіх політэхнічных курсах. З 1915 у арміі. Скончыў Казанскае ваеннае вучылішча. Накіраваны прапаршчыкам на фронт. Ваяваў у Галіцыі і пад Вільняй. Капітан. З 1917 жыў на сваім хутары. У жн. 1918 выехаў у Растоў-на-Доне; уступіў у армію генерала Дзянікіна. Потым вярнуўся дадому, быў прызваны ў Чырвоную Армію, адкуль уцёк і перайшоў у армію генерала Юдзеніча, якая дзейнічала ў Эстоніі. Летам 1920 вярнуўся ў Беларусь. У снеж. 1920 узначаліў Слуцкую брыгаду. Пасля падаўлення паўстання разам з брыгадай перайшоў савецка-польскую мяжу і да мая 1921 быў інтэрнаваны. У 1921—39 быў праваслаўным святаром, настаўнічаў. Арыштаваны 19.6.1941 у Нямеччыне. Здолеў вызва-

ліцца пасля пачатку вайны. З кастр. 1941 да ліп. 1944 працаваў школьным інспектарам у Ганцавічах, удзельнік нацыянальнага падполля. Падпалкоўнік Бел. краёвай абароны. Арыштаваны 30.4.1945. Да ліст. 1947 знаходзіўся ў Паўночнапячэрскім лагеры. 20.4.1948 Ваенным трыбуналам войск МУС БВА асуджаны на 25 гадоў турмы. Вызвалены ў ліст. 1957 па амністыі. Апошнія гады правёў у Шчэціне. Напісаў успаміны пра Слуцкае паўстанне 1920.

Літ.: *Грынь А., Міхнюк У.* Следству вядома...: (Па старонках справы А. Сокал-Кутылоўскага з архіва КДБ) // *Полымя*. 1994, № 11; *Як судзілі Антона Сокал-Кутылоўскага: Жыцьцярыс...* Берасьце, 2000; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СОЛТАН Станіслаў** [1746 (паводле іншых звестак 27.8.1756) — 1836, Мітава, Курляндская губ., цяпер Елгава, Латвія], дзяржаўны і ваенны дзеяч. У ВКЛ быў генералам-ад'ютантам польнай булавы, з 1782 харунжы ВКЛ, з 1790 падкаморы, з 1791 маршалак надворны, стараста слонімскі. Удзельнічаў у паўстанні 1794. Пасля падаўлення паўстання сасланы ў Казань. Вызвалены Паўлам I. У 1806—07 сумесна з Ф.Патоцкім рыхтаваў антыцарскае паўстанне. У 1808 выехаў у Варшаўскае герцагства. 1.7.1812 указам Напалеона прызначаны старшынёй Часовага ўрада ВКЛ. С. праявіў вялікую энергію ў арганізацыі кіравання краем,

наладжванні харчавання французскай арміі, стварэнні войска ВКЛ. Рэдагаваў адозвы ўрада з заклікам да свабоды. З адступленнем французскіх войск з Вільні эміграваў за мяжу. Вярнуўся ў Расію пасля царскага маніфеста 30.8.1814.

Літ.: *Iwaszkiewicz J.* Litwa w roku 1812. Kraków—Warszawa, 1912; *Kukiel M.* Wojna 1812 roku. Kraków, 1937. T. 1—2; *PSB*; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СТАНКЕВІЧ Адам Вікенцьевіч** [псеўданімы: А.Сакалінскі; Соколинский; крыптанімы: А.С.; А.Ст.; Ад.С.; Ад.Ст-іч; 24.12.1891(6.1.1892), в. Арляняты Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 29.12.1949, Тайшэт Іркуцкай вобл., ГУЛАГ], рыма-каталіцкі святар, гісторык, публіцыст, літаратуразнавец, асветнік, выдавец. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю; у 1914—18 вучыўся ў Мітрапалітальнай рыма-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Петраградзе; кандыдат кананічнага права. Пасвечаны ў святары 28.12.1914. Адзін з першых ужыў бел. мову ў богаслужэнні. З 1919 выкладаў рэлігію ў Віленскай беларускай гімназіі. У жн. 1919 — вер. 1922 рэдактар-выдавец газ. «Крыніца» («Беларуская крыніца»). Адзін з заснавальнікаў партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя. У 1922—28 дэпутат польскага сейма, нам. старшыні Беларускага па-

сольскага клуба (да яго расколу ў 1925). У 1924—26 узначальваў ТБШ. У 1927—38 рэдактар і выдавец час. «Хрысціянская думка». У 1938 высланы польскімі ўладамі з Вільні ў Слонім на 5 гадоў. Восенню 1939 вярнуўся ў Вільню. У час вайны абмяжоўваўся душпастырскай дзейнасцю, быў святаром касцёла св. Міхала. Арыштаваны савецкімі ўладамі 7.12.1944; неўзабаве адпушчаны. Паўторна арыштаваны 13.4.1949. Асобай нарадай МДБ СССР 31.8.1949 прыгавораны да 25 гадоў лагераў. Адпраўлены ў Азярлаг, дзе і памёр. Пахаваны 10.12.1949 на могілках Азярлага каля в. Шаўчэнкі Тайшэцкага р-на, магіла № 3—43.

Тв.: Doktor Francišak Skaryna — pieršy drukar biełaruski (1525–1925). Wilnia, 1925; Biełaruskaja mowa u škołach Biełarusi XVI i XVII st. Wilnia, 1928; Rodnaja mowa u światyniach. Wilnia, 1929; Вітаўт Вялікі і Беларусы. Вільня, 1930; Franciš Bahušewič: Jaho žyćcio i tworčaść: U tryccatyja uhodki (1900—1930). Wilnia, 1930; Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення. Вільня, 1935; Міхал Забэйда-Суміцкі і беларуская народная песня. Вільня, 1938; Biełaruski chryścijanski ruch. Wilnia, 1939; Хрысціянства і Беларускі народ. Вільня, 1940.

Літ.: *Ксёндз Адам Станкевіч: У 25-я ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасці (10.1.1915 — 10.1.1940).* Вільня, 1940; *БП*, т. 5; *Гарбінскі БРД*; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СТАНКЕВІЧ Станіслаў Лявонавіч** [1886, в. Арляняты Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер

Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 3.2.1964, Вільня], паэт, выдавец. У 1903—19 жыў у Пецярбургу, працаваў у аптэках. З 1920 у Вільні. Супрацоўнічаў з Беларускім выдавецкім таварыствам. У 1926 адкрыў уласную бел. кнігарню. Разам з З.Верас выдаваў бел. адрыўныя календары. Публікаваўся ў перыядычным друку. З'яўляецца аўтарам паэтычных зборнікаў «Смех — не грэх» (1926), «З майго ваконца» (1928). Арыштаваны НКДБ 30.10.1945; асуджаны на 10 гадоў высылкі ў Пермскую вобл. Вярнуўся ў Вільнюс у 1954. Рэабілітаваны ў 1957. Напісаў аўтабіяграфічную паэму «Лявонава доля».

Літ.: *Трацяк Я.* «Аб якім тут Станкевічу гутарка?..» // *ЛіМ*. 1997, 29 жн.; *Русак М.* Справа № 528 // *Рунь*. 1999, 13 снеж.; *Яе ж*. Лявонава доля. Вільня, 2000; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СТАНКЕВІЧ Ян (Янка)** [псеўданімы: Брачыслаў Скарыніч; Янучонак; крыптанімы: Бр.Ск…іч; Бр.Ск.; С.Я.; Я.Ст.; Я.С.; Я.Ст—ч; I.S.; J.St—и; 26.11.1891, в. Арляняты Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 16.7.1976, Хэўтгопн, ЗША], мовазнавец, перакладчык, грамадскі і культурны дзеяч. У 1909 скончыў Ашмянскае гарадское вучылішча. Вучыўся ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі. Працаваў у газ. «Наша ніва». У 1914 мабілізаваны ў войска. У 1917 на Румынскім фронце трапіў у аўстрыйскі

палон. Пасля вызвалення вярнуўся ў Вільню. У 1918 пераехаў у Мінск. У 1920 арганізаваў бел. настаўніцкія курсы ў Слуцку, у 1920—21 арганізоўваў бел. школьніцтва ў Ашмянскім і Вілейскім паветах. У 1921 скончыў у Вільні Беларускую гімназію; у 1926 — Карлавы ун-т (Прага). Доктар славянскай філалогіі і гісторыі. У 1926 вярнуўся ў Вільню. Выкладаў бел. мову ў розных навучальных установах. У 1928 абраны дэпутатам польскага сейма ад Лідскай акругі. Стваральнік Бел. народнай партыі. У 1930—31 выдаваў у Вільні першы бел. мовазнаўчы час. «Родная мова». Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1939, трапіў у турму на Лукішках. У час вайны жыў у Мінску, Вільні, Варшаве, Празе; займаўся выдавецкай дзейнасцю, працаваў у БНС. Ад імя падпольнай Арганізацыі бел. нацыяналістаў (пазней — Бел. нацыянальна-дэмакратычнага аб'яднання) кантактаваў з польскім падполлем. З 1944 — у Германіі. Заснавальнік «Крывіцкага (Беларускага) таварыства Пранціша Скарыны». Прыхільнік «крывіцкай канцэпцыі» этнагенезу беларусаў. У 1949 пераехаў у ЗША. Заснавальнік Вялікалітоўскага фонду імя Л.Сапегі. Пахаваны ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі.

Тв.: Месца беларускага языка сярод іншых славянскіх языкоў і час яго ўзьніку. Вільня, 1930; Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом. Вільня, 1933 (3 выд. Мн., 1991); Крыўя — Беларусь у мінуласці. Мн., 1942; *Белорусско-русский (Великолитовский-русский) словарь — Беларуска-расійскі (Вялікалітоўскі-расійскі) слоўнік*. Нью-Йорк [1991]; Творы. Т. 1—2. Мн., 2002.

Літ.: *Прокша Л.* З неапублікаваных твораў доктара Станкевіча // *Голас Радзімы*. 1963, № 80; *Станкевіч В.* Бацькава Адысея // *Скарыніч*. Мн., 1993. Вып. 2; *БП*, т. 6; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СТАЦКЕВІЧ Фелікс Іванавіч** [псеўданім: Аганёк; 2(14).12.1879, мяст. Шчучын Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Шчучынскі р-н Гродзенскай вобл. — 21.6.1967, Вільнюс], выдавец, мемуарыст, педагог, юрыст. У 1891—1900 вучыўся ў гімназіі ў Пецярбургу. У 1900 паступіў на юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та. За ўдзел у студэнцкім руху і дэманстрацыях у лют. і сак. 1901 выключаны з ун-та. Арыштаваны і высланы на радзіму пад нагляд паліцыі. Займаўся прыватнай настаўніцкай працай. У 1902 працаваў у прыватнай натарыяльнай канторы ў Марыупалі. У 1903 уступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду. У 1903—05 працаваў на Прыладажскіх каналах. У 1905 вучыўся ў Кракаве на наборшчыка. У рэвалюцыю 1905—07 вёў рэвалюцыйную прапаганду ў Вільні і Мінску, наладзіў выпуск пракламацый. У сак. 1906 арганізаваў падпольную друкарню ў Мінску, якая праіснавала да жн. 1907 пад назвай «Аганёк» (адсюль і псеўданім С.). Быў блізка знаёмы з А.Пашкевіч (Цёткай) і А.Бурбісам. З 1908 сакратар адвакатаў Шабуні і Дземідовіча ў Ігумене (Чэрвень), тэхнік у Ноўгарадзе, Вышнім Валачку (1913), Цвяры (1913—1919). У 1913 скончыў Пецярбургскі ун-т.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў у прафсаюзах. У 1919—20 супрацоўнік выдавецкага аддзела Наркамата асветы Літоўска-Беларускай ССР. У 1920—23 супрацоўнік Віленскага беларускага саюза кааператываў. У 1923 выкладчык лацінскай мовы і дырэктар Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф.Скарыны. З 1928 старшыня Галоўнай управы ТБШ. Адначасова працаваў у Савеце адвакатаў пры Віленскім апеляцыйным судзе. Абвінавачваўся ў «скамунізаванні» ТБШ, у 1930 і 1933 арыштоўваўся. Рэдактар-выдавец штомесячніка «Летапіс Таварыства беларускай школы» (1933), супраць якога польскія ўлады разгарнулі рэпрэсіі. У 1936 выданне было ўзноўлена пад назвай «Беларускі летапіс». Удзельнік антыфашысцкага Народнага фронту Зах. Беларусі. У 1939—41 настаўнік у Вілейцы і Клецкім р-не. У 2-ю сусветную вайну працаваў суддзёй у Смаргоні. У 1944—49 супрацоўнік Беларускага музея ў Вільні і Музея А.С.Пушкіна ў Маркучай (пад Вільняй). Арыштаваны і зняволены ў 1949. Пасля вызвалення ў 1950-х г. жыў у Вільні. Быў актывістам руху эсперантыстаў, склаў «Эсперанта-беларускі слоўнік» (рукапіс у Інстытуце мовазнаўства НАН Беларусі), пераклаў на мову эсперанта кнігу Л.Петражыцкага «Тэорыя права і маральнасць» (публікацыя не выяўлена). Напісаў успаміны пра ўдзел у грамадскіх рухах першай паловы XX ст. (рукапіс захоўваецца ў БДАМЛіМ).

Тв.: Успаміны і думкі // *Беларускі звон*. 1921, 17 крас.; З мінуўшчыны беларускага руху // *Беларускі летапіс*. 1937, № 6—9; З маіх успамінаў // *ЛіМ*. 1990, 17 жн.

Літ.: *Клейн Б.* Открытая книга бытия… // *Неман*. 1979, № 9; *БП*, т. 5; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СТАШЭЎСКІ Васіль Пятровіч** [Базыль Сташэўскі; крыптанімы: В.С.; В.Ст.; 11(23).3.1895, в. Свінка Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер в. Лугавая Капыльскага р-на Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], празаік, драматург, педагог. У 1914 скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Ваяваў у 1-ю сусветную вайну і ў час грамадзянскай вайны ў Расіі. У 1918—20 і ў 1923 настаўнічаў. У 1920—21 служыў ваенкамам. У 1920 удзельнік антыпольскага руху на Случчыне. Уваходзіў у арганізацыю «Маладая Беларусь», партыю беларускіх эсэраў (БПС-Р), са студз. 1920 член Беларускай камуністычнай арганізацыі, са жн. член КП(б)Б. За пратэсты супраць арышту членаў БПС-Р выключаны ў маі 1921 з КП(б)Б. Публікавацца пачаў у 1923. У 1924 скончыў Мінскі настаўніцкі інстытут. Выкладаў гісторыю і літаратуру на настаўніцкіх курсах і на рабфаку ў Оршы. Першую п’есу апублікаваў у 1926. З 1926 жыў у Мінску. Адказны сакратар літаратурнага аб’яднання «Маладняк». У 1928—29 працаваў у рэдакцыі газ. «Савецкая Беларусь». З 1929 адказны сакратар літа-

ратурнага аб'яднання «Полымя». Член СП Беларусі з 1934. У 1936 Беларускі тэатр юнага гледача паставіў яго п'есу «Мікола Гоман». Арыштаваны 4.11.1936. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.6.1957.

Тв.: Бацька і сын; У цемры: П'есы. Мн., 1927; Беспрытульная: П'еска (у 1 дзеі). Мн., 1927; Архангелы з крэсаў: П'еса. Мн., 1930; Прысяга ў лесе: Шэсць сцэн з 1919—1920 гг. Мн., 1930; Шуміць Бярэзінка: Аповесці, апавяданні, нарысы. Мн., 1963.

Літ.: *Александровіч С.* Жывыя старонкі часу // *Полымя.* 1963, № 12; *Сабалеўскі А.* Васіль Сташэўскі // *Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі.* Т. 2. Мн., 1975; *Шушкевіч С.* Талент грамадскага гучання // *ЛіМ.* 1975, 28 сак.; *БП*, т. 5; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СТУКАЛІЧ Уладзімір Казіміравіч** [псеўданім: Веневич; крыптанім: В.С.; 28.10(9.11).1856, Екабштат Курляндскай губ., цяпер Екабпілс, Латвія — 18.10.1918, Віцебск], літаратуразнавец, гісторык, юрыст. Паходзіў са шляхецкай сям'і. Адразу пасля нараджэння С. яго бацькі пераехалі ў Віцебск. У 1867—79 вучыўся ў Віцебскай гімназіі; у 1879—83 на адміністрацыйным аддзяленні юрыдычнага ф-та Пецярбургскага ун-та. Пасля сканчэння ун-та пачаў займацца літаратурнай дзейнасцю. Актыўна друкаваў гісторыка-літаратурныя матэрыялы ў газ. «Русский курьер». Працаваў над дысертацыяй «Юрыдычнае становішча гарадской аб-

шчыны ў Заходняй Русі». Займаўся адвакацкай практыкай. Падтрымліваў сувязі з народнікамі. Арыштаваны ў студз. 1889; 4 месяцы правёў у зняволенні; з-за слабога здароўя адпушчаны пад нагляд паліцыі. У лют. 1891 да С. ў Віцебск прыязджаў рускі пісьменнік Г.Успенскі, з якім С. перапісваўся з 1886. У 1891 выйшла кніга С. «Беларусь і Літва», якая вытрымала яшчэ 2 выданні. Даследаваў аўтарства паэмы «Тарас на Парнасе». Член Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Выступаў за адкрыццё ў Віцебску ун-та. У 1893 пазнаёміўся з мастаком І.Рэпіным. Даследаваў творчасць М.Нікіфароўскага і А.Сапунова (прысвяціў ім асобныя кнігі). У 1898 пакінуў адвакацкую практыку і перайшоў у казённую палату. На працягу 3 гадоў жыў у Слоніме і Гродне; потым вярнуўся ў Віцебск.

Тв.: Белоруссия и Литва: Очерки из истории городов в Белоруссии. Витебск, 1891 (1893, 1894); Мальцевские заводы. Витебск, 1894; Краткая заметка о белорусском наречии. Витебск, 1895; Н.Я.Никифоровский: Странички из недавней старины города Витебска. Витебск, 1900; М.Ковалевский: Экономический строй России. Витебск, 1901; К вопросу об устройстве университета в Витебске. Витебск, 1903; А.П.Сапунов: К 25-летию его ученой и литературной деятельности. Витебск, 1905; Н.Я.Никифоровский: 1845—1910 годы. Витебск, 1910.

Літ.: *Падліпскі А.* Летапісец Віцебшчыны. Мн., 1993; *БП*, т. 5; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СТЭФАНОВІЧ Аляксандр Піліпавіч** [1905, Ашмяны — ?], журналіст. За членства ў БСРГ арыштаваны польскімі ўладамі ў 1927. У 1928 арганізаваў пастаноўку «Паўлінкі» Я.Купалы ў мяст. Гальшаны Ашмянскага пав., у якой выконваў ролю А.Быкоўскага. Перабраўся ў БССР. У 1933 працаваў рэдактарам газ. «Бальшавік Барысаўшчыны». Часта сустракаўся з Я.Купалам, які бываў у яго ў гасцях у Барысаве. Арыштаваны НКВД 30.10.1935; зняволены. Пасля вайны пасяліўся ў Вільні. Аўтар артыкулаў пра Я.Купалу: «Палымяны пясняр дружбы народаў» («Красное знамя», Ашмяны, 7—9.7.1977); «Пад уплывам песняра зямлі беларускай» («Успаміны пра Янку Купалу», 1982). Заслужаны работнік культурна-асветнай работы Літоўскай ССР.

Тв.: *Stefanowicz A.* Moje spotkanie z poetą; Polskie wiersze // *Czerwony Sztandar*. 1982. 17, 21 kwiet.

Літ.: *Цвірка К.* Стэфановіч Аляксандр // *Янка Купала*: Энцыкл. даведнік. Мн., 1986.

**СУБАЧ Ян** [Іван Сямёнавіч; 1912, в. Субачы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл. — 1938 ?, ГУЛАГ ?], паэт. Разам з бацькамі апынуўся на тэрыторыі БССР, нелегальна перайшоўшы мяжу. Першыя публікацыі пачалі з’яўляцца ў 1929 (газ. «Чырво-

ная змена»). Пасля сканчэння школы з 1930 працаваў грузчыкам на кандытарскай фабрыцы «Камунарка». З 1932 быў членам Цэнтральнай літаратурнай студыі для маладых пісьменнікаў пры БелАПП. З вясны 1932 працаваў у аршанскай міжраённай газеце. У кастр. 1932 паехаў да П.Пруднікава ў Ленінград. З прычыны ад'езду з 1932 знікаюць публікацыі С. ў перыядычным друку. Уладкаваўся на працу грузчыкам у гандлёвым порце. З 1933 вучыўся на падрыхтоўчых курсах, потым на філалагічным ф-це Ленінградскага педінстытута імя А.Герцэна. У 1937 скончыў інстытут. Арыштаваны ў жн. 1937. Верагодна, памёр у лагеры.

Тв.: Песні грузчыкаў: Вершы. Мн., 1932 (сааўтар П.Буравей [П.Пруднікаў]); Электрастанцыя // *Узвышша*. 1931, № 3.

**СУЗІН Адам** [30.12.1799 (10.1.1800), маёнтак Кулігоўшчына Кобрынскага пав. Гродзенскай губ, цяпер Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл. — 29.11(11.12).1879, Варшава], удзельнік вызваленчага руху, публіцыст, падарожнік. У 1819 скончыў Гродзенскую гімназію. У 1819—23 вучыўся ў Віленскім ун-це; магістр філасофіі. Быў сакратаром тайнага зялёнага (матэматычнага) саюза філаматаў. Арыштаваны па справе філаматаў вясной 1823. 14.8.1824 прыгавораны да ссылкі ў Арэнбургскую губ. Знаходзіўся пад наглядам паліцыі. У сак.

1829 атрымаў дазвол пераехаць у Арэнбург. Пасяліўся разам з Т.Занам. Служыў у Арэнбургскай памежнай камісіі. Арыштаваны восенню 1833 разам з Т.Занам, Я.Віткевічам і В.Івашкевічам; абвінавачаны ў падрыхтоўцы захопу Арэнбурга з дапамогай салдат, сярод якіх было шмат высланых. З-за адсутнасці доказаў арыштаваныя былі вызвалены праз месяц. З дыпламатычнымі даручэннямі выязджаў да казахскага султана Бай-Мухамеда. У 1871 апублікаваў успаміны пра свае падарожжы ў варшаўскім час. «Kronika Rodzinna». З 1837 жыў на Валыні ў маёнтку Млынаў у свайго сябра графа К.Хадкевіча. Арыштаваны 20.7.1838 па справе падпольнай арганізацыі «Саюз польскага народа» Ш.Канарскага. Быў перавезены ў следчую камісію ў Вільні. З-за адсутнасці доказаў высланы ў Кіеў пад нагляд паліцыі. Да лют. 1839 быў зняволены ў Кіеўскім астрозе. У 1841 вярнуўся ў Вільню. Потым перасяліўся ў Варшаву.

Літ.: *Грицкевич В.П.* От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СУКАЛА Іосіф Пятровіч** [1901, в. Гулевічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — 23.9.1937, Мінск, НКВД], паэт, настаўнік. Арыштаваны 30.5.1929. 10.11.1929 асуджаны на 3 гады высылкі. Пакаранне адбываў

у Кемі (Расія). Вызвалены 23.3.1932. Паўторна арыштаваны ў 1936 або ў 1937. Расстраляны разам з празаікам А.Траецкім. Рэабілітаваны 2.3.1992.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

**СУПІНСКІ А.К.,** этнограф, археолаг. Даты нараджэння і смерці невядомы. У 1920-я г. працаваў у Ленінградзе, дзе разам з А.Сержпутоўскім папаўняў фонды этнаграфічнага аддзела Беларусі ў Рускім музеі. Праводзіў археалагічныя раскопкі на Віцебшчыне. Арыштаваны ў 1937. Памёр у зняволенні ў Архангельскай вобл.

Тв.: Магільнік каля в. Лятох // *Віцебшчына*. Віцебск, 1925. Т. 1; Белорусы. Л., 1930.

Літ.: *Вяргей В.С.* Археалагічная навука ў Беларускай ССР 1919—1941 гг. Мн., 1992; *Інстытут беларускай культуры*. Мн., 1993.

**СУПРУН Васіль Рыгоравіч** [нар. 10.3.1926, в. Глоўсевічы Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл.], паэт, краязнавец, археолаг. Скончыў тры курсы Слонімскай настаўніцкай семінарыі (1944). З 1944 да 1947 працаваў дырэктарам і настаўнікам у шко-

лах вёсак Міжэвічы і Глоўсевічы Слонімскага р-на. У маі 1946 разам з сябрамі М.Ракевічам, М.Чыгрынам, А.Гардзейкам і іншымі стварыў у Слоніме бел. патрыятычную падпольную групу «Чайка». Арыштаваны 6.6.1947. Амаль паўгода знаходзіўся ў баранавіцкай следчай турме «Крывое кола» і мінскай «амерыканцы». 21.11.1947 Ваенны трыбунал войскаў МУС Беларускай акругі ў Мінску паводле артыкулаў 63-1 і 76 КК БССР (здрада радзіме і антысавецкая агітацыя) асудзіў С. на 25 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах з канфіскацыяй маёмасці. Пакаранне адбываў у лагерах Інты і Варкуты. У зняволенні падтрымліваў тайную міжлагерную перапіску з паэтэсай Л.Геніюш. Вызвалены паводле рашэння Камісіі Вярхоўнага Савета СССР ад 16.6.1956 са зняццём судзімасці і з дазволам вярнуцца ў Беларусь. У Слонім вярнуўся ў снеж. 1956, дзе адразу быў узяты на спецулік з забаронай працаваць па спецыяльнасці. Вымушаны быў пакінуць Слонім; працаваў будаўніком. З 1963 праводзіў даследаванні археалагічных помнікаў. З 1968 навуковы супрацоўнік Брэсцкага абл. краязнаўчага музея. У 1969 скончыў гістарычны ф-т Мінскага педагагічнага інстытута. Нягледзячы на перашкоды, у канцы 1980-х г. здолеў прабіцца ў друк са сваёй палітычнай паэзіяй. На пенсіі з 1986. Член СП Беларусі з 1995. Жыве ў Слоніме. Не рэабілітаваны.

Тв.: Крык: Вершы. Мн., 1993; Рэха абуджаных дзён: Вершы. Мн., 1994; За смугою часу: Даследаванні і меркаванні. Мн., 1994; Незабыўныя «ксівы»: Вершы з падпольнай канцлагернай перапіскі з Ларысай Геніюш. Гродна, 1998; Жыць для Беларусі: Вершы. Мн., 1998. Дзеі над Шчарай (з гісторыі зямлі Слонімскай). Слонім, 2000.

Літ.: Усё застаецца людзям // *Беларуская мінуўшчына*. 1997, № 4; *Археалогія і нумізматыка Беларусі*; *Антысавецкія рухі*.

**СУРЫН Феліцыян** [каля 1840, Магілёўшчына — пасля 1888, Магілёўшчына], пісьменнік, мемуарыст, краязнавец, фальклярыст. Пісаў на польскай мове. Супрацоўнічаў з час. «Tygodnik illustrowany». Збіраў бел. народныя песні, паданні і прыказкі. Лічыў, што прыказкі — «найбольшае багацце твораў фантазіі беларускага народа», бо яны маюць глыбокі змест, выразны і арыгінальны досціп, наіўную форму і глыбокія максімы. Удзельнік паўстання 1863 у Горках. Быў арыштаваны. Аўтар артыкулаў «Экскурсія па берагах Бярэзіны» (1863), «Лісты з Беларусі» (1878) і інш. Супрацоўнічаў з рэдакцыяй «Геаграфічнага слоўніка».

Літ.: *Olechnowicz M.* Polscy badacze folkloru i języka białoruskiego w XIX wieku. Łódź, 1986. S. 140 — 141; *Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*. Warszawa, 1887. T. VIII.

**СУШЫНСКІ Язэп Францавіч** [май 1885, в. Юроны Дрысенскага пав. Віцебскай губ. — 1967, Мінск], мемуарыст, хімік, мовазнавец, педагог. Скончыў Пецярбургскі ун-т. Член БСГ. Блізкі знаёмы Я.Купалы, першая сустрэча з якім адбылася на кватэры Б.Эпімах-Шыпілы ў Пецярбургу. У 1921—26 працаваў у розных установах Наркамасветы БССР. Потым у Інбелкульце. У 1929—30 у Інстытуце мовазнаўства БелАН, займаўся распрацоўкай бел. навуковай тэрміналогіі. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Па пастанове калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 высланы ва Уфу тэрмінам на 5 гадоў. Пастановай Асобай нарады ад 25.7.1935 тэрмін зняволення падоўжаны. Рэабілітаваны 15.11.1957. Па вяртанні ў Мінск выступаў у друку і публічна з успамінамі пра Я.Купалу, грамадска-культурнае жыццё беларусаў у Пецярбургу да 1917. Рукапіс успамінаў С. захоўваецца ў Літаратурным музеі Я.Купалы.

Тв.: Сябар вялікага таленту // *Чырвоная змена*. 1962, 26 чэрв.; Купала ў Пецярбурзе // *Полымя*. 1967, № 3;

Літ.: *Янка Купала*: Энцыкл. даведнік. Мн., 1986; *Возвращенные имена.*

**СЦЕРНІН (БАГДАНОВІЧ) Мікалай Клеафасавіч** [1900, Магілёў —?], журналіст. Нарадзіў-

ся ў сям'і чыгуначніка. Скончыў Магілёўскую гімназію. З 1913 працаваў карэктарам мясцовай земскай друкарні. У 1917 уваходзіў у склад Магілёўскай арганізацыі РСДРП (левыя інтэрнацыяналісты). У розныя гады рэдагаваў ці быў супрацоўнікам газ.: «Соха и молот», «Известия Оршанского Совета», «Оренбургский рабочий», «Тамбовская правда», «Красное Знамя» (Цюмень), «Красный шахтёр» (Шахты), «Донская правда» (Таганрог), «Кооперативная жизнь» (Масква) і інш. Узначальваў Саюз журналістаў у Магілёве. У 1932 скончыў вышэйшыя рэдактарскія курсы ў Маскве. Потым працаваў нам. загадчыка сектара друку ВЦСПС. Нечакана С. перавялі ў Чашніцкі р-н Віцебскай вобл. на пасаду начальніка палітаддзела саўгаса «Пачаевічы». Пазней быў рэдактарам газ. «Звязда». Звольнены ў жн. 1936 «за потерю революционной бдительности и допущение засоренности аппарата редакции… чуждыми людьми». Працаваў пасля гэтага ў Інстытуце мовы і літаратуры АН БССР рэдактарам руска-бел. слоўніка і сакратаром рэдакцыйнага аддзела акадэміі. Арыштаваны ў чэрв. 1938. Вызвалены 11.7.1938 пасля ліста ў ЦК КП(б)Б. Звесткі пра далейшы лёс адсутнічаюць.

Літ.: *Селяменеў В., Бараноўскі Я.* Пачыналі па-рознаму — завяршалі аднолькава (Драматычныя лёсы рэдактараў газеты) // *Звязда*. 1997, 10 крас.

**СЫРАКОМЛЯ Уладзіслаў** [сапр.: Кандратовіч Людвік Францішак Уладзіслаў; крыптанімы: N.N.; K.; Ldwk Kndrtcz; 29.9.1823, фальварак Смольгава Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Смольгава Любанскага р-на Мінскай вобл. — 15.9.1862, Вільня], паэт, драматург, перакладчык, крытык, краязнавец. Паходзіў са шляхецкага роду герба «Сыракомля», назву якога ўзяў за псеўданім. У 1833 паступіў вучыцца ў павятовую школу пры дамініканскім кляштары ў Нясвіжы. Але ў 1835 улады зачынілі школу; давучваўся ў дамініканскай школе ў Навагрудку (1836—37). У 1841 уладкаваўся на службу ў канцылярыю радзівілаўскіх маёнткаў. У 1844 пасля жаніцьбы пераехаў у арандаваны маёнтак Залуча (цяпер Стаўбцоўскі р-н). Гэта быў плённы перыяд у яго творчасці. Напісаў паводле пачутай у Міры гісторыі «народную гутарку» «Паштальён», якая стала дэбютам С. ў друку (1844). Праз пераклад Л.Трэфалева гэты верш стаў надзвычай папулярнай у Расіі песняй «Когда я на почте служил ямщиком...» У вер. 1852 пераехаў у Вільню, бліжэй да выдавецтваў. У крас. 1853 пачаў арандаваць фальварак Барэйкаўшчына каля Вільні. З твораў, напісаных па-беларуску, да нас дайшлі толькі два — верш «Добрыя весці» (1848, 1861) і лірычная мініяцюра «Ужо птушкі пяюць усюды...» (1861). У 1856—58 неаднаразова выязджаў у Варшаву і Познань (Прускае каралеўства). Пасля гэтых паездак за С. быў установлены сак-

рэтны нагляд. У крас. 1861 выступіў на патрыятычнай маніфестацыі ў Коўне з вершамі. Выехаў у Варшаву, а на зваротным шляху быў арыштаваны і зняволены ў віленскай турме. Знаходзіўся пад арыштам каля месяца. Вызвалены пад нагляд паліцыі. Памёр у час следства. Пахаваны на віленскіх могілках Роса.

Тв.: Бел. пер.: Выбр. тв. Мн., 1966; Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: Успаміны, даследаванні гісторыі і звычаяў. Мн., 1992; Мінск. Мн., 1992; Добрыя весці: Паэзія, проза, крытыка. Мн., 1993.

Літ.: *Цвірка К.* Слова пра Сыракомлю. Мн., 1975; *Мархель У.* Лірнік вясковы. Мн., 1983; *БП*, т. 5; *ЭГБ*, т. 6-1.

**СЫЧ Пётр** [18.1.1912, Вілейскі пав. — 20.6.1963, Германія], пісьменнік, мемуарыст. Друкаваўся з 1932. Арыштаваны 3.10.1939, пасаджаны ў Вілейскую турму, з 1940 у Полацкай турме, дзе пасябраваў з В.Жук-Грышкевічам. Асуджаны на дзесяць гадоў прымусова-папраўчых работ. Вывезены ў Комі АССР, дзе быў да канца 1941. Паводле так званай дамовы «Сікорскі-Майскі» патрапіў у армію генерала Андэрса. У чыне паручніка прымаў удзел у баях пад Монтэ-Касіна, Анконай, Балонні, 4 разы паранены. З 1946 у Англіі, з 1951 у Германіі. З канца 1950-х г. — супрацоўнік бел. аддзела радыё «Свабода». Рэдагаваў час. «Шарсцень».

Літ.: *Ля чужых берагоў*. Мюнхен, 1955. С. 131; *Пашкевіч А*. Зваротныя дарогі. Беласток, 2001. С. 134; *Юрэвіч Л*. Літаратурны рух на эміграцыі. Мн., 2002.

**СЯДНЁЎ Масей** [Майсей Ларывонавіч; 19.8(1.9).1913, в. Мокрае Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 5.2.2001, Глен Коў, ЗША], паэт, празаік. У 1930—31 вучыўся ў Мсціслаўскім педтэхнікуме. Пачаў публікавацца ў 1933. Друкаваўся ў час. «Полымя», «Беларуская работніца і сялянка», газ. «Савецкая Беларусь», «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена». У 1933 паступіў у МВПІ. На 4-м курсе 21.10.1936 арыштаваны. Высланы на Калыму. У 1941 быў накіраваны ў Мінск для перагляду справы. Пасля пачатку вайны каля Чэрвеня канвой адпусціў зняволеных. Вярнуўся ў родную вёску, працаваў на гаспадарцы. У 1943 пераехаў у Беласток, дзе ўладкаваўся карэктарам у газ. «Новая дарога». Падрыхтаваў да друку зборнік вершаў «Ад сына твайго, Беларусь», які быў набраны ў Кёнігсбергу, але згарэў там у час пажару. Потым выехаў у Берлін. Жыў у амерыканскай і англійскай зонах акупацыі Германіі. Працаваў настаўнікам у бел. гімназіі ў Міхельсдорфе. У 1950 пераехаў у ЗША. Каля 10 гадоў працаваў на металаапрацоўчай фабрыцы. Выкладаў рускую мову ў Індыянскім ун-це. Рэ-

абілітаваны 22.1.1992. Вялікі цыкл вершаў прысвяціў перажытаму ў турмах і лагерах. У першай палове 1990-х г. неаднаразова наведваў Беларусь.

Тв.: Ахвяры бальшавізму: (Зборнік успамінаў і артыкулаў). Беласток, 1944; На краю святла: Паэма. Б.м. [Міхельсдорф], 1947; Спадзяванні: Вершы. Рэгенсбург, б. г. [1947]; У акіяне ночы: (Вершы, паэмы). Мюнхен, 1947; Цень Янкі Купалы: Паэма. Ватэнштэт, 1947; Ля ціхай брамы: Вершы. Нью-Ёрк, 1955; Патушаныя зоры. Нью-Ёрк; Мюнхен, 1975; Раман Корзюк. Нью-Ёрк; Мюнхен, 1985; Ачышчэнне агнём. Нью-Ёрк, 1985; І той дзень надышоў: Раман з часоў другой сусветнай вайны. Нью-Ёрк, 1987; Патушаныя зоры. Мн., 1992; Масеева кніга. Мн., 1994.

Літ.: *Сачанка Б.* Сняцца сны аб Беларусі… Мн., 1990; *Савік Л.* «Мне песня дадзена для мукі...» // Культура беларускага замежжа. Мн., 1993; *Савік Л.* Я прыду з далёкае чужыны // *Савік Л.* Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа. Мн., 2001; *Юрэвіч Л.* Літаратурны рух на эміграцыі. Мн., 2002.

**СЯДУРА Уладзімір Ільіч** [псеўданімы: Уладзімір Глыбінны; Кастусь Старажоўскі; крыптанімы: У. Г.; Ул. Г.; 11(24).12.1910, Мінск — 14.4.1995, Трой, штат Нью-Йорк, ЗША], літаратуразнаўца, мастацтвазнаўца, крытык, празаік, грамадскі дзеяч, заслужаны прафесар Рэнсэлерскага політэхнічнага інстытута (1976, ЗША), доктар філалогіі (ЗША). Нарадзіўся ў Мінску на Старажоўцы (цяпер вуліца Старажоўская); вучыўся

пры нямецкай і польскай акупацыях, пачатковую чатырохгодку скончыў ужо пры савецкай уладзе (1923). У тым жа годзе С. паступіў у 15-ую Мінскую сямігодку, у якой вучыліся Андрэй Александровіч і некалькі іншых будучых пісьменнікаў. У 1927, пасля сканчэння сямігодкі, паспяхова здаў экзамены ў МБПТ. Тады ж «беларускі Бялінскі» (выраз загінуўшага ў канцлагеры таленавітага празаіка С.Русаковіча) стаў сябрам «Маладняка». Першыя публікацыі С. з'явіліся ў афіцыйным друку ўлетку 1929, калі ён пачаў актыўна выступаць як літаратурны крытык. Аналізаваў творчасць або рэцэнзаваў зборнікі А.Звонака, М.Лынькова, Р.Мурашкі, А.Александровіча, З.Астапенкі, В.Маракова, Т.Кляшторнага, Ю.Таўбіна і інш. У 1930 паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ. З 1931 — член БелАППа, узначальваў яе маладзёжнае крыло (разам з Б.Мікулічам і С.Ліхадзіеўскім). Арыштаваны 3.3.1933 (у Маскве, куды перавёўся вучыцца, спрабуючы схавацца ад НКВД); высланы на тры гады ў Сібір. У жн. 1935 датэрмінова вызвалены. Вярнуўся ў Мінск, але, не атрымаўшы сталічнай прапіскі, паехаў у Гомель, потым у Краснадар (вясна 1936), Растоў. Схаваўшы судзімасць, паступіў у Маскоўскі ун-т. Увесну 1938 хмары зноў пачалі збірацца, і С., не стаўшы чакаць сваёй чаргі на арышт, з'ехаў на Каўказ, потым у Крым. У жн. 1938 С. паехаў у Ленінград, дзе зноў, стаіўшы су-

дзімасць, паступіў у Ленінградскі педагагічны інстытут імя М.Пакроўскага. У 1939 скончыў гэты інстытут і ў 1941 абараніў (у Мінску) кандыдацкую дысертацыю па філалогіі. Працаваў выкладчыкам МВПІ, адначасова старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута педагогікі Наркамасветы БССР. Арыштаваны 22.6.1941. На этапе Мінск—Чэрвень 24.6.1941 уцёк з-пад варты і вярнуўся ў Мінск. У час нямецкай акупацыі рэдагаваў час. «Новы шлях» (Рыга), друкаваўся ў «Беларускай газэце». У 1943 падрыхтаваў да друку кнігі «Беларускае мастацтва», «Жыве Беларусь», «Беларускі тэатр», якія тады не пабачылі свет. Браў удзел у 2-м Усебеларускім кангрэсе. У 1944 пераехаў у Германію, потым — Чэхію; праз некаторы час зноў вярнуўся ў Германію. З 1951 жыў у ЗША. З 1959 узначальваў кафедру сучасных моў і рускай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Рэнсэлерскага політэхнічнага інстытута ў Троі (Troy). Спецыяліст па рускай літаратуры, найперш па творчасці Ф.Дастаеўскага. У канцы 1980-х г. здароўе С. пагоршылася. Перанёс інсульт, пасля якога быў прыкаваны да ложка ўсе апошнія гады жыцця.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Тв.: Смаленшчына — адвечная зямля беларускага народу: Гістарычны нарыс. Берлін, 1944; Достоевсковедение в СССР. Мюнхен, 1955; Dostoyevski in Russian Literary Criticism. 1846—1956. New York, 1957. Second ed. New York,

1969; Доля беларускае культуры пад Саветамі. Мюнхен, 1958; На берагах пад сонцам. Апавяданні і аповесці. Нью-Йорк. 1964; На святой зямлі. Лондан. 1972; Паэта з божай ласкі. Нью-Йорк. 1979; Пад лебядзіным знакам: Аповесць пра Максіма Багдановіча. Трой; Нью-Йорк, 1983; Вялікія дарогі. Грэнд Рэпідз. ЗША. 1997.

Літ.: Жыццяпіс беларускага публіцыстага У.Глыбіннага / Публ. А.Гесь // *Спадчына*. 1997, № 3; *Маракоў Л*. Уладзімір Сядура: шляхі беларускага паломніка // *Полымя*. 2000, № 2.

**СЯНКЕВІЧ Аляксандр Антонавіч** [20.1.1884, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 29.6.1938, Мінск, НКВД], дзяржаўны і паліт. дзеяч, медык, пісьменнік, публіцыст. У 1902 скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Настаўнічаў у вясковых школах. Удзельнік аграрнага руху ў час рэвалюцыі 1905—07. Адзін з арганізатараў нелегальнага настаўніцкага з’езда 9.7.1906 у Мікалаеўшчыне, на якім зрабіў даклад пра паліт. становішча ў Расіі. З’езд быў разагнаны паліцыяй. У канцы 1906 эміграваў у ЗША. Працаваў на розных прадпрыемствах. З 1908 член рускага аддзела Амерыканскай сацыялістычнай партыі. У 1913 скончыў медыцынскі ф-т Мэрылендскага ун-та ў Балтыморы. У 1917 праз Японію трапіў на Далёкі Усход. Займаў там розныя адміністрацыйныя пасады. З 1921 наркам аховы здароўя БССР. У

1924—26 загадчык бел. сектара Камуністычнага ун-та нацыянальных меншасцей Захаду ў Маскве. З 1926 дацэнт БДУ. З 1928 рэктар Камуністычнага ун-та Беларусі. У 1931—32 працаваў у Інстытуце літаратуры і мастацтва БелАН. У публіцыстыцы «грашыў» сацыялагізатарскім, класавым падыходам да творчасці пісьменнікаў. З 1932 дырэктар Інстытута гігіены і санітарыі Наркамата аховы здароўя РСФСР. З 1935 працаваў ва Усесаюзным радыёкамітэце. Арыштаваны 10.1.1938. У чэрв. 1938 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 6.10.1956.

Тв.: Успаміны з рэвалюцыі 1905—1906 гг. // *Полымя*. 1923, № 3—4; Аграрны рух на Меншчыне ў 1905—1906 гг. // *Наш край*. 1925, № 1; Класавая барацьба ў беларускай літаратуры // *Бальшавік Беларусі*. 1930, № 8—9; За ленінскую лінію ў нацыянальнай палітыцы. Мн., 1931; Вандраванне Васіля. Мн., 1932.

Літ.: *Инсаров И.А.* А.А.Сенкевич — врач, видный общественный и политический деятель // *Здравоохранение Белоруссии*. 1972, № 12; *Камароўскі А.* Хроніка аднаго жыцця // *Полымя*. 1973, № 4; *Соломевич И.В.* Родился на Немане // *Белорусский экватор*. Мн., 1981; *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 6-1.

**ТАКАРЧУК Юры** [Георгій Кліменцьевіч; 26.11.1910, Ашмяны Віленскай губ., цяпер Гродзенскай вобл. — 31.7.1942, Табольск ?], журналіст. Быў карэспандэнтам газ. «Комсомольская правда» ў Беларусі. Апошняя пасада — галоўны рэдактар грамадска-паліт. вяшчання Беларускага радыё. Арыштаваны 26.11.1936. Асуджаны 15.11.1937 на 10 гадоў пазбаўлення волі. Загінуў у Табольскай турме. Рэабілітаваны 26.1.1955.

Літ.: *Маракоў Л.* Вынішчэнне, або Пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў // *ЛіМ*. 1999, 10 снеж.

**ТАЛОЧКА Уладзіслаў** [псеўданім: Дрыгавіч; 6(18).2.1887, Гродна — 13.11.1942, Вільня], рыма-каталіцкі святар, гісторык, літаратурны крытык. У 1896—1904 вучыўся ў Гродзенскай гімназіі. З кастр. 1906 — у Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Пасвечаны ў святары ў 1909. У 1909—14 вывучаў тэалогію і філасофію ў Каталіцкім ун-це ў Інсбруку (Аўстрыя). З 1914 у Вільні; праводзіў святарскую дзейнасць у касцёле св. Стафана і ў былым бернардзінскім касцёле. Адным з першых пачаў ужываць бел. мову ў набажэнствах. Супрацоўнічаў з літоўскімі культурніцкімі і рэлігійнымі выданнямі («Draugija», Коўна; «Vadovas», Сейны). Публікаваў матэрыялы гістарычнай тэматыкі ў

віленскім каталіцкім час. «Dwutygodnik Diecezjalny». Падтрымліваў выданне першай бел. каталіцкай газ. «Biełarus». У 1915 адзін з арганізатараў Віленскага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны і бел. дзіцячага прытулку «Золак». У 1916—18 выкладаў рэлігію ў першых бел. школах Вільні, а таксама на курсах для непісьменных і для рабочых. Па пытаннях бел. культуры, гісторыі, рэлігіі шмат друкаваўся ў газ. «Homan» (1916—18). Удзельнік Беларускага з’езда Віленшчыны і Гродзеншчыны (25—27.1.1918). Уваходзіў у склад Літоўскай Тарыбы. З 1917 звязаны з нацыянальна-рэлігійнай арганізацыяй «Хрысціянская дэмакратычная злучнасць»; рэгулярна выступаў у яе друкаваным органе газ. «Krynica». Супрацоўнічаў з нямецкім, італьянскім, літоўскім, украінскім, польскім друкам. За адстойванне ідэй экуменізму быў празваны «Усходнім агенцтвам». Адзін з вядучых аўтараў час. «Przegląd Wileński». З 1920-х г. пераследаваўся польскімі свецкімі і духоўнымі ўладамі. 15.12.1938 загадам віленскага ваяводы выселены з Вільні. Жыў у Беластоку. У Вільню вярнуўся пасля пачатку 2-й сусветнай вайны. Пахаваны на віленскіх могілках Роса.

Тв.: Багушэвіч і Арэшчыха // *Запісы БНТ*. Сш. 1. Вільня, 1938; *Беларуская думка XX ст.* Мн., 1998.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *ЭГБ*, т. 6-1.

**ТАМАШЧЫК Уладзімір Данілавіч** [у царкоўным жыцці Васіль; 15.4.1900, в. Вялікія Азяраны Гродзенскага пав., цяпер Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл. — 9.6.1970, Нью-Йорк], праваслаўны святар, рэлігійны дзеяч, публіцыст. Вучыўся ў школе ў Гродне. З пачаткам 1-й сусветнай вайны сям'я Т. эвакуіравалася ў глыб Расіі. Са снеж. 1915 жыў у Омску, дзе скончыў сярэднюю школу (1920). У 1921 вярнуўся ў Беларусь. Жыў у маёнтку Дубляны пад Вялікай Бераставіцай. У 1920-я г. далучыўся да бел. нацыянальнага руху. Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1927; прыгавораны да 3 гадоў турмы. З 1930 — у Чэхаславакіі. Вучыўся на агранамічным ф-це Пражскага політэхнічнага інстытута, пасля сканчэння якога ў 1934 запрошаны на пасаду асістэнта Пражскага інстытута заалогіі. Быў сакратаром старшыні Рады БНР В.Захаркі. У гады 2-й сусветнай вайны на кароткі час вярнуўся ў Дубляны. Пазней пераехаў у Беласток, дзе працаваў нам. рэдактара бел. газ. «Новыя дарогі», удзельнічаў у нацыянальным падполлі. З 1944 — у эміграцыі. Пасля вайны жыў і працаваў у Мюнхене. Быў абраны старшынёй Цэнтральнага беларускага камітэта ў Германіі. 23.4.1949 у Канстанцы (Германія) пастрыгся ў манахі і прыняў імя Васіль. 19.12.1949 у бел. царкве св. Мікалая ў Розенгайме ўзведзены вышэйшымі духоўнымі ўладамі Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў сан епіскапа. У 1951 скончыў Украінскую багаслоўскую

акадэмію ў эміграцыі. На свяшчэнным Саборы Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў 1951 абраны адміністратарам БАПЦ у ЗША, Канадзе і Еўропе. З 2-й паловы 1951 — у ЗША. Жыў у Нью-Йорку, дзе арганізаваў епіскапальны цэнтр БАПЦ у Паўн. Амерыцы. Некаторы час узначальваў Беларускі інстытут навукі і мастацтва. Выступаў з малітвамі ў Сенаце ЗША у сувязі з угодкамі абвяшчэння БНР. Быў асабіста знаёмы з прэзідэнтамі ЗША Л.Джонсанам і Р.Ніксанам. Садзейнічаў арганізацыі новых прыходаў БАПЦ і школ беларусаведы.

Літ.: *Кіпель В.* Беларусы ў ЗША. Мн., 1993; *Гарбінскі БРД.*

**ТАМІЛЬЧЫК Мітрафан Лукіч** [1896, в. Хадасевічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 5.7.1938, Мінск, НКВД], фізік. У 1928 скончыў БДУ. У 1931—33 аспірант БелАН. З 1936 выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута. Арыштаваны 4.3.1938. 26.5.1938 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 4.2.1958.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

**ТАНК Максім** [сапр.: Скурко Яўген Іванавіч; іншыя псеўданімы: Аўгень Бура; А.Граніт;

4(17).9.1912, в. Пількаўшчына Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 7.8.1995, Мінск], паэт, грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Вілейскай рускай гімназіі і Радашковіцкай беларускай гімназіі, дзе ўступіў у члены падпольнай камсамольскай арганізацыі. За ўдзел у забастоўцы ў пачатку 1929 выключаны з гімназіі. Нейкі час вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, з якой выключаны за непаслушэнства, потым — у Віленскай рускай гімназіі. Разам з аднакласнікам ў 1931 выпусціў рукапісны час. «Пралом», дзе змясціў свае першыя вершы. З 1932 актыўна публікаваўся ў нелегальным друку. Арыштаваны ў сак. 1932; трапіў у віленскую турму Лукішкі. Вызвалены праз месяц. Восенню 1932 нелегальна перайшоў польска-савецкую мяжу. Неўзабаве вярнуўся ў Зах. Беларусь на падпольную работу. Неаднойчы арыштоўваўся. З перапынкамі правёў у турмах каля двух гадоў. У канцы 1933 у Лукішках выдаваў падпольны час. «Краты». З 1936 член КПЗБ. Супрацоўнічаў у легальных выданнях «Poprostu», «Наша доля», «Беларускі летапіс», «Калоссе». Кнігі Т. «На этапах» (1936) і «Нарач» (1937) канфіскоўваліся ўладамі. Стаў вядучым паэтам зах.-бел. літаратуры. Пасля з’яднання Зах. Беларусі з БССР працаваў у газ. «Віленская праўда», вілейскай абл. «Сялянскай газеце». У час вайны працаваў у газ. «За Савецкую Беларусь», у рэдакцыі газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». У 1948—67 галоў-

ны рэдактар час. «Полымя». У 1967—90 — старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Народны паэт Беларусі (1968). Акадэмік АН Беларусі (1972). Імем Т. названы Беларускі дзяржаўны педагагічны ун-т і вуліца ў Мінску.

Тв.: Зб. тв.: У 6 т. Мн., 1978—81.

Літ.: *Калеснік У*. Паэзія змагання: Максім Танк і заходнебеларуская літаратура. Мн., 1959; *Бугаёў Д*. Паэзія Максіма Танка. Мн., 1964; *Рагойша В*. Паэтыка Максіма Танка. Мн., 1968; *Калеснік У*. Максім Танк: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1981; *Арочка М*. Максім Танк: Жыццё ў паэзіі. Мн., 1984; *Верабей А*. Максім Танк і польская літаратура. Мн., 1984; *Мікуліч М*. Паэзія рэчаіснасці: У свеце Максіма Танка. Мн., 2001; *Ліс А*. На разломе эпохі // *Полымя*. 2000, № 9; *БП*, т. 6; *ЭГБ*, т. 6-1.

**ТАПЧЭЎСКІ Фелікс Феліксавіч** [псеўданімы: Хвэлька з Рукшэніц; Юрка (?); каля 1838, фальварак Будзішча (Лёсава) Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Ушацкі р-н Віцебскай вобл. — 17(29).12.1892, в. Ухвішча Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Полацкі р-н Віцебскай вобл.], паэт. У 1849—52 вучыўся ў Лепельскім павятовым вучылішчы. Служыў у канцылярыі Віцебскага земскага суда. У 1861 звольніўся з суда і ўладкаваўся валасным пісарам у мяст. Ула Лепельскага пав. (цяпер Бешанковіцкі р-н). У крас. 1863 звольнены. Жыў у маёнтку сваёй сястры Красны Стаў каля

Веліжа (цяпер Смаленская вобл.). Арыштаваны ў лют. 1864; зняволены ў Віцебскай турме. Т. інкрымінавалася сувязь з паўстанцкім атрадам О.Грабніцкага, які фарміраваўся на Лепельшчыне. Але ўлады не змаглі гэтага даказаць. У апошняй чвэрці XIX ст. валодаў фальваркам Лёсава паблізу Рукшаніц (Рукшэніц). Працаваў кіраўніком спраў у маёнтку Ухвішча памешчыцы А.Сялявы. У гэты перыяд разгарнулася творчая дзейнасць Т. Пісаў ён гумарыстычныя творы, якія шырока разыходзіліся ў рукапісах. Аўтографы не захаваліся. Некаторыя з вершаў трапілі ў рукапісную «Беларускую хрэстаматыю» Б.Эпімах-Шыпілы: «Саўсім не тое, што было», «Грошы і праца», «Ён і яна», «Вечарынка», «Панскае ігрышча» (гэты верш у 1899 быў апублікаваны І.Сіроткам у газ. «Виленский вестник»; твор, вядомы пад псеўданімам Юрка, прыпісваўся іншым аўтарам, асабліва настойліва А.Гурыновічу). З вершам «Панскае ігрышча» спрачаўся Ф.Багушэвіч, які ў 1894 змясціў «Адказ» яго аўтару ў сваім «Смыку беларускім». Пахаваны Т. ў в. Рукшаніцы Полацкага пав., цяпер в. Глыбачка Ушацкага р-на.

Тв.: У кн.: *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя.* 2 выд. Мн., 1988.

Літ.: *Лойка А А.* Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Ч. 1. 2 выд. Мн., 1989; *Кісялёў Г.* Вакол загадкі «Хвэлькі з Рукшэніц» // *Кісялёў Г.* Радаводнае дрэва. Мн., 1994; *БП*, т. 6; *ЭГБ*, т. 6-1.

**ТАРАШКЕВІЧ Браніслаў Адамавіч** [псеўданімы: Адам Навука; «Тарас на Парнасе»; Я.Тарас; Тарас Язычнік; Тарас Навіна (?); Biaiorusin; 8(20).1.1892, засценак Мацюлішкі Віленскага пав. Віленскай губ., цяпер Вільнюскі р-н, Літва — 29.11.1938, Мінск, НКВД], грамадскі і паліт. дзеяч, мовазнавец, перакладчык, публіцыст. У 1911 скончыў 2-ю Віленскую гімназію, у 1916 — гісторыка-філалагічны ф-т Петраградскага ун-та. У бел. друку выступаў з 1913. У 1916—18 на кафедры рускай мовы і славеснасці Петраградскага ун-та. З 1917 адзін з лідэраў БСГ, з 1918 — Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У 1918 Т. выдаў «Беларускую граматыку для школ», якая адыграла значную ролю ў нацыянальнай асвеце. У 1919 выкладчык бел. і грэчаскай моў у МВПІ. У тым жа годзе Т. быў арыштаваны бальшавікамі. У 1920 старшы рэферэнт дэпартамента асветы Сярэдняй Літвы. У 1921—22 дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. Адзін з кіраўнікоў і заснавальнікаў ТБШ. У 1922 абраны дэпутатам польскага сейма, узначаліў у ім Беларускі пасольскі клуб. Актыўна выступаў з трыбуны сейма ў абарону інтарэсаў бел. народа. У 1925 старшыня БСРГ. Арыштаваны 14.12.1927. У маі 1928 на «Працэсе 56-і» асуджаны на 12 гадоў турмы. У 1928 абраны акадэмікам АН Беларусі. У 1930 вызвалены паводле распараджэння прэзідэнта Польшчы. Зноў арыштаваны 5.2.1931. У ліст. 1932 асуджаны на 8 гадоў катарж-

най турмы. Падчас знаходжання ў турме пераклаў на бел. мову паэму А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш». З вер. 1933 па абмене палітвязнямі жыў у СССР. Працаваў у Міжнародным аграрным інстытуце ў Маскве. Арыштаваны НКВД 5.5.1937. 5.1.1938 «двойкай» НКВД і Пракуратуры СССР прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 26.1.1957. Імем Т. названы вуліцы ў Маладзечне і Радашковічах, ліцэй у Бельску (Польшча).

Тв.: Беларуская граматыка для школ. Вільня, 1918; Заходняя Беларусь — плацдарм імперыялістычнай інтэрвенцыі. Мн., 1931; Как живут крестьяне за границей. Л., 1935; Выбр.: Крытыка, публіцыстыка, пераклады. Мн., 1991.

Літ.: *Ліс А.* Браніслаў Тарашкевіч. Мн., 1966; *Бергман А.* Слова пра Браніслава Тарашкевіча: Гістарычны жыццяпіс. Пераклад з польскай. Мн., 1996; *Валахановіч А.І., Міхнюк У.М*. Споведзь у надзеі застацца жывым. Мн., 1999.

**ТАЎБІН Юлій** [Юдаль Абрамавіч; псеўданімы: Андрэй Адхонны; Амсціслаўцы (з А.Куляшовым); Клім Качкін (з З.Астапенкам); Мсціслаўцы (з А.Куляшовым і З.Астапенкам); крыптанімы: У.Х. і Ю.Т. (з У.Хадыкам); Ю.Т. і А.К. (з А.Куляшовым); 2(15).9.1911, Астрагожск Варонежскай губ., цяпер Варонежская вобл., Расія — 30.10.1937, Мінск, НКВД], паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў сям'і аптэкара. У 1921 пераехаў з бацькамі ў Мсціслаў. Вучыўся ў сямігодцы, скончыў Мсціслаўскі педагагічны

тэхнікум (1928). Першыя вершы з’явіліся ў друку ў 1926 на старонках час. «Маладняк КалінінШчыны» (Клімавічы). Увосень 1930 выйшаў першы зборнік вершаў Т. «Агні». Тагачасная крытыка ставілася да Т. насцярожана; яго абвінавачвалі ў рабскіх адносінах да старой буржуазнай літаратуры. У 1931—33 вучыўся на літаратурным ф-це МВПІ. Стаў членам БелАППа. Арыштаваны ў канцы лют. 1933; 10.8.1933 прыгавораны да двух гадоў высылкі. Адбываў яе ў Цюмені. Настойліва вывучаў англійскую мову; многа перакладаў з яе. Перакладаў таксама асобныя творы Г.Гейнэ, У.Маякоўскага. 4.11.1936 паўторна арыштаваны і этапаваны ў Мінск. 29.10.1937 выязная сесія Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР прысудзіла паэта да расстрэлу. Рэабілітаваны 29.8.1956.

Тв.: Каб жыць, спяваць і не старэць…: Вершы. 1928—1930. Мн., 1931; Тры паэмы. Мн., 1931; Мая другая кніга: Вершы. Мн., 1932; Таўрыда: Паэма. Мн., 1932; Выбр. вершы. Мн., 1957; Вершы. Мн., 1969.

Літ.: *Бечык В*. Голас маладосці // *ЛіМ*. 1973, 8 сак.; *Грахоўскі С*. Жыве ў памяці маёй: Успаміны // *Дзень паэзіі — 73*. Мн., 1973; *Азгур З*. Пад небам і пад дахам майстэрні: (Успаміны) // *Полымя*. 1974, № 2; *Бярозкін Р*. Пра Юлія Таўбіна // *Бярозкін Р*. Кніга пра паэзію. Мн., 1974; *Маракоў Л*. Ліст з таго свету // *Голас Радзімы*. 1999, 26 жн.

**ТАЎЛАЙ Валянцін Паўлавіч** [псеўданімы: Усяслаў Барвінец; Бунтар; Янка Бунтар; К.Бунтар-

ны; Былы вучань; Васіль; М.Гарустовіч; Горны; Янка Дванаццаты; Павел Менскі; Мсцівец; Юрка Назубіч; Ілюк Прышчэпа (з Я.Брылём); Паўлюк Сірата; В.Тарскі; Чырвоны звястун; крыптанімы: А.С. і В.Т. (з А.Салагубам); В.Т.; 26.1(8.2).1914, Баранавічы — 27.4.1947, Мінск], паэт, літаратуразнавец. Вучыўся ў Слонімскай настаўніцкай семінарыі; у 1925 выключаны за адмову запісацца палякам. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі; у лют. 1928 за ўдзел у арганізацыі вучнёўскай забастоўкі пад паліцэйскім канвоем адпраўлены да бацькоў. Друкавацца пачаў у 1928, калі з'явіліся публікацыі ў прэсе і выйшла кніга «Непераможная». За падпольную дзейнасць арыштаваны 28.8.1929; знаходзіўся ў зняволенні ў Слонімскай і Гродзенскай турмах. З кастр. 1930 у БССР. У 1930—32 працаваў у газ. «Звязда», вучыўся на газетным аддзяленні літфака БДУ. У снеж. 1932 накіраваны на падпольную работу ў Зах. Беларусь. Адзін з рэдактараў «Беларускай газеты» і яе дадатку «Літаратурная старонка», у снеж. 1933 адзін з арганізатараў Літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў Зах. Беларусі. Арыштаваны 4.1.1934 пры спробе пераходу польска-савецкай мяжы. Асуджаны на 8 гадоў турмы; змешчаны ў Гродзенскі астрог. У 1939—41 працаваў у лідскай раённай газ. «Уперад». Член СП Беларусі з 1941. Па інфармацыі У.Калесніка, у гады вайны быў у партызанах, па заданні якіх у 1943 перабраўся ў

Навагрудак, дзе загадваў аддзелам культуры акруговай управы Беларускай самапомачы. У вер. 1943 арыштаваны СД у Лідзе па дарозе з Вільні. Вызвалены з дапамогай бел. паэтаў, палітычных і вайсковых дзеячоў. У 1955 час. «Баявая ўскалось» (Канада) у № 1 надрукаваў да артыкула «Памяці сябра Паўлюка Сіраты» фотаздымак (датаваны: «1944 г. Менск»), на якім бачым разам «Беларускі Парнас» (так падпісаны фотаздымак), удзельнікаў II Усебеларускага кангрэса: Т., Т.Лебяду, Хв.Іллядэвіча, А.Чэмера (А.Анішчыка), С.Хмару, А.Салаўя, У.Сядуру, М.Сяднёва. З канца лета 1944 Т. адказны сакратар навагрудскай раённай газ. «Звязда». У 1945—47 старшы навуковы супрацоўнік і нам. дырэктара Літаратурнага музея Янкі Купалы. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску.

Тв.: Творы. Мн., 1961; Аўтабіяграфія // *Пра час і пра сябе*. Мн., 1966; Выбр. вершы і паэмы. Мн., 1967; Пілую вершам краты. Мн., 1984.

Літ.: *Калеснік У.* Аповесць пра Таўлая // *Полымя*. 1964, № 10; 1965, № 8—9; *Арочка М.* Валянцін Таўлай. Мн., 1969; *Валянцін Таўлай: Дакументы, успаміны, артыкулы*. Мн., 1984; *БП*, т. 6; *ЭГБ*, т. 6-1.

**ТАЧЫЦКІ Адольф Герасімавіч** [1897, в. Брусы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 4.3.1938, Мінск,

НКВД], педагог. Брат І.Тачыцкага. На момант арышту працаваў выкладчыкам у Мінскім тарфяным тэхнікуме. Арыштаваны 31.10.1937. Прыгавораны 15.2.1938 да расстрэлу.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

**ТАЧЫЦКІ Іван Герасімавіч** [12.8.1895, в. Брусы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 4.3.1938, Мінск, НКВД], глебазнавец. Брат А.Тачыцкага. У 1925 скончыў Горацкі сельскагаспадарчы інстытут. Працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам, кіраўніком аддзела ў Інстытуце аграглебазнаўства і ўгнаенняў БелАН. Арыштаваны 31.10.1937. Прыгавораны 15.2.1938 да расстрэлу. Рэабілітаваны 6.9.1957.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ТРАЕЦКІ Аляксей** [1900 — 23.9.1937, Мінск, НКВД], празаік, драматург, паэт. Пачаў друкавацца ў 1925 (вершы і байкі на вясковыя тэмы). У 1926 яго апавяданні былі змешчаны ў «Маладняку». Да канца 1920-х г. досыць актыўна публікаваў байкі, вершы, апавяданні. У 1930 у трох нумарах «Узвыш-

ша» была надрукавана аповесць Т. «Старасельшчына». Потым яго імя знікла са старонак перыядычнага друку і толькі ў 1935 з’явілася апавяданне «Храбрацы». У 1934 асобным выданнем выйшла камедыя «Нашы Казыры», якая ў 1936 была апублікавана ў Харкаве па-ўкраінску. У сааўтарстве напісаў п’есу «Гонар», якая была пастаўлена ў БДТ-2 9.12.1934. Арыштаваны 6.5.1937. Расстраляны.

Тв.: Нашы Казыры: Камедыя. Мн., 1934.

Літ.: *БП*, т. 6.

**ТРАМПОВІЧ Павел Віктаравіч** [1(13).6.1889, Пскоў — 3.1.1956, Кіеў], медык, грамадскі дзеяч, публіцыст. Нарадзіўся ў сям’і выхадцаў з Беларусі. З 1908 вучыўся ў Псіханеўралагічным інстытуце Пецярбургскага ун-та. Зблізіўся з эсэрамі; браў удзел у паліт. дэманстрацыях, за што неаднаразова затрымліваўся. У 1910 эміграваў у Германію. Вучыўся на медыцынскім ф-це Баварскага ун-та. З-за цяжкіх матэрыяльных умоваў мусіў перапыніць вучобу. У 1912 залічаны ў Кіеўскі ун-т, які скончыў у 1917. У 1918 член Народнага сакратарыята Беларусі, Рады БНР. Жыў у Растове-на-Доне, Харкаве. З 1925 асістэнт, дацэнт, загадчык кафедры медыцынскага ф-та БДУ. Навуковы сакратар медыцынскай секцыі Інбелкульта (1925), нам. старшыні камісіі прыроды і прадук-

цыйных сіл Беларусі Інбелкульта (1928). Публікацыя ў 1925 артыкула Т. «Шляхі беларускай інтэлігенцыі» выклікала рэзкую рэакцыю ЦК КП(б)Б: адбылося пасяджэнне Бюро ЦК; быў зняты з пасады рэдактар «Савецкай Беларусі» І.Шыпіла і абноўлены склад рэдакцыі газеты. 26.10.1925 у «Савецкай Беларусі» надрукаваны артыкул «Далейшыя шляхі беларускай інтэлігенцыі (Адказ рэдакцыі т. Трамповічу)», дзе былі пералічаны памылкі аўтара, падкрэслівалася немагчымасць «яднання на грунце нацыянальнай справы», бо адзіны правільны падыход да ўсіх пытанняў — класавы. Арыштаваны ДПУ БССР 9.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пастановай калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 прыгавораны да 5 гадоў высылкі ў Астрахань. Пасля вызвалення ў 1945—50 працаваў хірургам у Магілёве-Падольскім Вінніцкай вобл., потым у Кіеве. Рэабілітаваны 10.6.1988.

Тв.: Шляхі беларускай інтэлігенцыі // *Савецкая Беларусь*. 1925, 21 кастр. (перадрук: *Спадчына.* 1998, № 3).

Літ.: *Васілеўская Н*. Жыццёвы шлях Паўла Трамповіча // *Спадчына.* 1998, № 3; *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 6-1.

**ТРУСЕВІЧ Станіслаў Станіслававіч** [псеўданім: Казімір Залеўскі; 1870, в. Вераскава Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 25.8.1918, Масква], удзельнік

рэвалюцыйнага руху, публіцыст. Вучыўся ў Варшаўскім ветэрынарным інстытуце, з якога выключаны ў 1889 за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. У 1891—92 вёў агітацыю сярод настаўнікаў і сялян Навагрудскага, Лідскага, Слуцкага пав. Арыштаваны. Жыў у Мінску пад наглядам паліцыі. У 1894 пад яго кіраўніцтвам створана Мінская сацыял-дэмакратычная арганізацыя. Адзін з заснавальнікаў Рабочага саюза Літвы, Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы. У 1900 дэлегат Парыжскага кангрэса 2-га Інтэрнацыянала. Неаднаразова арыштоўваўся і ссылаўся. З 1906 у эміграцыі. У 1911 у зборніку «Общественное движение в России в начале XX в.» (Кн. 7, т. 4, ч. 2) апублікаваў артыкул «Национальное движение», дзе прывёў звесткі пра бел. культуру. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 вярнуўся ў Расію. У 1917—18 загадчык аддзела газ. «Известия ВЦИК», рэдактар час. «Вестник жизни». Публікаваўся ў газ. «Правда». Аўтар брашуры «Искусство и пролетариат» (1918) і артыкулаў, дзе аналізаваў ролю творчай інтэлігенцыі ў рэвалюцыйным руху.

Літ.: *Корнилович Э.А.* Старейший профессионал // *Корнилович Э.А.* Люди революционного подвига. Мн., 1985; *ЭГБ*, т. 6-1.

**ТУМІЛОВІЧ Янка** [Іван Людвігавіч; 6(19).9.1905, в. Сяліба Ігуменскага пав. Мінскай

губ., цяпер Бярэзінскі р-н Мінскай вобл. — 21.1.1938, ГУЛАГ], паэт. Паходзіў з сялянскай сям'і. У 1927 скончыў БДУ. Жыў у Мінску. Працаваў выкладчыкам гісторыі, у рэдакцыях часопісаў. Выступаць з вершамі ў друку пачаў у 1925. Член літаб'яднання «Маладняк». У 1926 разам з Я.Бобрыкам і А.Звонакам выдаў паэтычны зборнік. Публікаваўся ў час. «Маладняк», газ. «Савецкая Беларусь», «Чырвоны сцяг», «Звязда», «Чырвоная змена», «Камунар Магілёўшчыны»; калектыўным зборніку «Дэкламатар» (1928). У пераважнай большасці вершы Т. — гэта ўзоры пралеткультаўскага рамантызму 1920-х г. У 1927 стаў адным з заснавальнікаў «Пралетарска-сялянскай беларускай літаратурнай суполкі» («Пробліск»). З 1930 публікацыі Т. знікаюць са старонак перыядычнага друку. Магчыма, гэта звязана з хваляй рэпрэсій у 1930. У 1930-я г. працаваў выкладчыкам Вышэйшай школы паліт. асветы, у рэдакцыі газ. «Піянер Беларусі». Арыштаваны 11.10.1936; 20.6.1937 Вярхоўным судом СССР прыгавораны да 7 гадоў пазбаўлення волі. Памёр у лагеры каля бухты Нагаева пад Уладзівастокам. Справа спынена 8.1.1940.

Тв.: Пунсовае ранне: Вершы / У сааўтарстве. Мн., 1926; *Полымя*. 1960, № 6; *Анталогія беларускай паэзіі*: У 3 т. Т. 2. Мн., 1961.

Літ.: *Звонак А.* Сціплая песня // *Полымя.* 1960, № 6; *БП*, т. 6; *ЭГБ*, т. 6-1.

**ТУРБОВІЧ Дора Рыгораўна** [? — 20.12.1937, Мінск, НКВД], гісторык. У 1931—33 вучылася ў аспірантуры БелАН. Потым працавала асістэнтам ў Інстытуце аспірантуры БелАН. Арыштавана 2.3.1937. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгаворана да расстрэлу. Рэабілітавана 29.12.1966.

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ТЭЙФ Майсей Саламонавіч** [4(17).9.1904, Мінск — 23.12.1966, Масква], паэт, празаік. Пісаў на ідыш і бел. мовах. Скончыў вячэрнюю школу ў Мінску. У 1923 паступіў у БДУ. З 1924 вучыўся на вячэрнім аддзяленні і працаваў на шпалернай фабрыцы. Першыя вершы Т. датаваны 1920; публікавацца пачаў з 1925. У 1928 паступіў на аддзяленне яўрэйскай мовы і літаратуры. Другога Маскоўскага дзяржаўнага ун-та. Падрабляў начной карэктарскай працай. Пасля сканчэння вучобы ў 1933 вярнуўся ў Мінск. Шмат працаваў; на працягу 1920—30 выдаў 11 кніг; перакладаў на яўрэйскую мову творы бел. і рускіх паэтаў; пісаў драматычныя творы, якія ставіліся на сцэне Яўрэйскага тэатра ў Мінску. Арыштаваны 23.4.1938. Вызвалены перад вайной. У 1941 мабілізаваны; вайну правёў на фронце, старшы сяржант артылерыйскай часці; атрымаў баявыя ўзнагароды. Пасля дэмабілізацыі

ў 1945 жыў у Маскве. Зноў арыштаваны ў 1951. Да 1956 знаходзіўся на спецпасяленні ў Варкуце. Пасля рэабілітацыі ў 1956 вярнуўся ў Маскву. З 1961 да 1964 рэдактар аддзела паэзіі час. «Савеціш Геймланд».

Тв.: Выбр.: Вершы, балады, паэмы. М., 1965 / Яўр.; Вершы; Балады; Паэмы. М., 1985 / Яўр.

Літ.: *Хоцімскі А.* Крыху аб творчасці і біяграфіі М. Тэйфа // *ЛіМ*. 1937, 6 жн.; *БП*, т. 6.

**ТЭРАЎСКІ Уладзімір Васілевіч** [11(23).11.1871, мяст. Раманава Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер в. Леніна Слуцкага р-на Мінскай вобл. — 10.11.1938, Мінск, НКВД], дырыжор, кампазітар, фальклярыст. Скончыў Слуцкае духоўнае вучылішча (1889). У 1892—95 служыў у войску. У другой палове 1890-х г. жыў на Урале, кіраваў аматарскімі харавымі калектывамі. Спяваў у капэле Дз.Агрэнева-Славянскага. Вярнуўся ў Беларусь у пачатку 1900-х г. Узначальваў царкоўны хор Старажоўскай царквы, аматарскі хор Мінскага таварыства цвярозасці; выкладаў спевы ў пачатковых школах. У 1914 стварыў Мінскі беларускі хор, які ў 1917 увайшоў у склад Першага Беларускага таварыства драмы і камедыі. У 1918—19 кіраваў харавой капэлай у Беларускім савецкім тэатры; уваходзіў

у склад Таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва. Улетку 1920 арыштаваны польскімі акупацыйнымі ўладамі ў Асіповічах. Пасля ўтварэння Беларускага дзяржаўнага тэатра ў Мінску (БДТ-1) яго галоўны хормайстар. Арыштаваны ЧК у 1921 разам з У.Фальскім; прыгавораны да расстрэлу, замененага 5-гадовым зняволеннем. У 1923 вызвалены. Кіраваў харавымі калектывамі БДУ, МБПТ, саюза паштавікоў-тэлеграфістаў. Стварыў музыку да спектакляў БДТ-1: «Бязвінная кроў» У.Галубка (1918), «Каваль-ваявода» Е.Міровіча (1925) і інш. Найбольш вядомай стала музыка да спектакля «На Купалле» М.Чарота (1921). Напісаў песні і рамансы на словы Я.Купалы, Я.Коласа, З.Бядулі, М.Чарота і інш. Запісваў і гарманізаваў народныя песні, частка якіх апублікавана ў зборніках «Беларускі спеўнік з нотамі на тры галасы паводле народных мелодый» (1921), «Беларускі лірнік» (1922), «Вайсковы зборнік» (1926). Браў удзел у рабоце музычнай секцыі Інбелкульта. Пасля 1930 звольнены з працы, абвінавачаны ў нацыянал-дэмакратызме. Служыў у царкоўным хоры Старажоўскай царквы Мінска. Арыштаваны 17.8.1938. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957.

Літ.: *Травень М.* Уладзімір Тэраўскі — ахвяра бальшавізму // *Бацькаўшчына*. 1956. № 30; *Гесь А., Ляхоўскі У.* «Калі песня жыве беларуса, будзе жыць беларускі народ!»: Жыццё і творчы шлях Уладзіміра Тэраўскага // *Мастацтва*. 1966, № 12; *ЭГБ*, т. 6-1.

**УЛАСАЎ Аляксандр Мікітавіч** [псеўданімы і крыптанімы: А.Вілейскі; А.Радашкоўскі; А.У.; А.Ў.; А.Ула-ў; 16(28).8.1874, Вілейка Віленскай губ., цяпер Мінскай вобл. — 11.3.1941, ст. Марыінск Новасібірскай, цяпер Кемераўскай вобл.], выдавец, публіцыст, мемуарыст, грамадскі і культурна-асветны дзеяч. Вучыўся ў духоўнай семінарыі і рэальным вучылішчы ў Пінску, рэальных вучылішчах Мінска і Лібавы. Адзін з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады. У 1905 скончыў Політэхнічны інстытут у Рызе. У час рэвалюцыі 1905—07 арганізоўваў забастоўкі ў Радашковічах і Мінску. З 8.12.1906 да 16.5.1914 быў рэдактарам-выдаўцом газ. «Наша ніва». За публіцыстыку прыцягваўся да судовай адказнасці. У 1910 зняволены на 2 месяцы. Адзін з заснавальнікаў бел. выдавецкага таварыства «Наша хата». У 1912 наладзіў у Вільні выданне сельскагаспадарчага час. «Саха»; у 1914 у Мінску — час. «Лучынка». У публіцыстычнай творчасці шмат увагі ўдзяляў праблемам развіцця сельскай гаспадаркі, землеўпарадкавання, стварэння ў Расіі грамадзянскай супольнасці (публікацыі ў газ. «Наша ніва», «Беларускі шлях» і інш.). У 1914—17 служыў у арміі. 12.4.1918 уключаны ў склад Рады БНР. У канцы 1920 вярнуўся ў Зах. Беларусь. За спробу адкрыць у Радашковічах бел. гімназію арыштаваны польскімі ўладамі, зняволены ў лагеры ў Стшалкове. У ліст. 1922 абраны ў польскі сейм як

беспартыйны. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў ТБШ. Пад яго апякунствам ў 1922—29 у Радашковічах дзейнічала Беларуская гімназія імя Ф.Скарыны. Арыштаваны НКВД БССР 16.10.1939; Асобай нарадай НКВД СССР 29.11.1940 прыгавораны да 5 гадоў лагераў. Памёр на этапе. Рэабілітаваны ў 1961.

Тв.: Аб гаспадарцы на хутары і шнурах. Вільня, 1909; Белоруссия и Литва. Мн., 1918; Дні жыцця // *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*. Мн., 1990; Якуб Колас і «Наша ніва» // *Маладосць*. 1992, № 11.

Літ.: *Сачанка Б*. Вызваляў дух народа // *ЛіМ*. 1992, 12 чэрв.; *Астапкевіч Л*. Адзін з піянераў Адраджэння // *ЛіМ*. 1994, 2 вер.; *Ніжанкоўская В*. Мой дзядзька Аляксандр Уласаў // *Рунь*. 1999, 28 чэрв.; *Содаль У*. Праўда праз шэсцьдзесят гадоў… // *ЛіМ*. 1999, 24 вер.; *БП*, т. 6; *ЭГБ*, т. 6-1.

**УЛАШЧЫК Мікалай Мікалаевіч** [1(14).2.1906, в. Віцкаўшчына Мінскага пав., цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл. — 14.11.1986, Масква], гісторык, археограф, празаік, перакладчык, мемуарыст. У 1924—30 працаваў у Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы і Кніжнай палаце БССР. У 1929 скончыў БДУ. Арыштаваны 16.6.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 высланы на 5 гадоў у Налінск Вяцкай вобл. Арыштаваны зноў у ліп. 1932 і 10.6.1933

асуджаны паўторна; этапаваны ў Марыінскі лагер (Новасібірская вобл.); потым у пасёлак Суслава Кемераўскай вобл. Вызвалены вясной 1935 без права вяртання ў Беларусь. Працаваў выкладчыкам гісторыі і геаграфіі ў розных навучальных установах Расіі. З 1939 у Ленінградзе. Арыштаваны 23.6.1941; высланы ў Златавуст Чэлябінскай вобл. Пры садзейнічанні акадэміка Л.Арбелі 28.11.1942 вызвалены. У 1948 выкладаў у Маскоўскім ун-це. У 1949 звольнены з працы. Арыштаваны 23.12.1950; этапаваны ў лагер пры пасёлку Суслава ў Сібіры. Вызвалены 25.3.1955. Вярнуўся ў Маскву. Да 1986 працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН СССР. Пахаваны ў Мінску на Чыжоўскіх могілках. У Старых дарогах У. ўстаноўлены помнік.

Тв.: Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. Мн., 1965; Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985; Была такая вёска: гісторыка-этнаграфічны нарыс. Мн., 1989; Краязнаўства: Нататкі пра бадзянні ў 1924—1929 гг.: З рукапіснай спадчыны. Мн., 1999; Мемуары і дзённікі як крыніцы па гісторыі Беларусі: З рукапіснай спадчыны. Мн., 2000; Выбранае / Уклад. А.Каўка. Мн., 2001.

Літ.: *Буганов В.И.* Н.Н.Улащик — источниковед и археограф // *Источниковедение отечественной истории, 1975.* М., 1976; *Ялугин Э.* Только камни. Мн., 1989; *М.М.Улашчык: Бібліяграфічны паказальнік*. Мн., 1996; *М.М.Улашчык і*

*праблемы беларускай гістарыяграфіі, крыніцазнаўства і археаграфіі: (да 90-х угодкаў вучонага).* Мн., 1997; Казаў Улашчык // *Каўка А.* Будам жыць! Пра тое самае. Мн.; М., 1998; *Станішэўскі В.* Чатыры арышты Міколы Улашчыка // *Спадчына.* 1999, № 4; *Яго ж.* Радавод сям'і Улашчыкаў: Гістарычны нарыс. Мн., 2001; *Міхнюк У.* «Невінаватым ад нас не выйдзеш…» // *Беларуская мінуўшчына.* 1995, № 6; *БП*, т. 6; *ЭГБ*, т. 6.

**УМЯСТОЎСКІ Францішак** [Франц Іванавіч; псеўданімы: Пранук; Д.Пранук; Дзядзька Пранук; Незалежнік; крыптанімы: Ф.У.; Фр.Ум-скі; К.; 29.1(10.2).1882, Вільня — кастр. 1940, мясцовасць Катынь Смаленскай вобл., Расія], празаік, паэт, публіцыст. Паходзіў са шляхецкай сям'і; стрыечны брат Ф.Аляхновіча. Вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце. Падчас вучобы ў 1902—04 уваходзіў у падпольную арганізацыю студэнцкай моладзі «Круг беларускай народнай прасветы і культуры». Першы твор (верш «Вецер») апублікаваў у «Каляднай пісанцы на 1904 год» (Пецярбург, 1903). У 1906 браў удзел у выданні газ. «Наша доля». У 1908 жыў у в. Існаўда Віцебскай губ. На працягу 1908—14 друкаваў апавяданні ў газ. «Наша ніва». Апавяданні «Страх», «У лесе», «Доктар ад каўтуна», «На мужыцкі розум» напісаны пад відавочным уплывам бел. фальклору. Перакладаў творы А.Уайльда і М.Гогаля. У час 1-й

сусветнай вайны мабілізаваны ў армію. Пасля жыў у Вільні. У 1919 напісаў артыкул пра гісторыю выдання газ. «Наша доля». На матэрыялах вайны напісаў апавяданне «Стася» (1921). Выступаў пераважна як публіцыст. У 1927—28 выдаваў газ. «Беларускі дзень» і час. «Беларуская культура». У 1928 адышоў ад грамадскай і культурна-асветніцкай працы. Мабілізаваны ў польскую армію ў 1939. 18.9.1939 трапіў у савецкі палон. Інтэрнаваны ў лагеры ў Казельску. Знішчаны ў Катыні.

Тв.: Стася: Апавяданне. Вільня, [1921]; Аб «Нашай долі» (1906) // *Беларусь*. 1919, 17—18 снеж.; *Зборнік «Беларускіх ведамасцей»*. № 1. Вільня, 1921; *Беларускія ведамасці*. 1921, 23 вер.; У кн.: *Анталогія беларускага апавядання*: У 2 т. Мн., 1967. Т. 1.

Літ.: *Зямкевіч Р.* Воўчы білет самазванцу рэдактару-выдаўцу «Нашай долі» (1906) — яснавяльможнаму «пану графу» Францішку Умястоўскаму // *Думка працы*. 1928, 28 студз.; *БП*, т. 6; *ЭГБ*, т. 6-1.

**УСПЕНСКІ Яўген Канстанцінавіч** [18.10.1891, Вільня — 29.10.1937, Мінск, НКВД], фізік. У 1915 скончыў фізіка-матэматычны ф-т Маскоўскага ун-та. У 1915—20 выкладаў фізіку ў Бабруйскай гімназіі і Бабруйскім палітэхнікуме. З 1923 асістэнт, дацэнт кафедры фізікі педагагічнага ф-та БДУ. З 1929 дэкан фізіка-ма-

тэматычнага ф-та БДУ. У 1931—36 навуковы супрацоўнік Фізіка-тэхнічнага інстытута БелАН. Выключаны з КП(б)Б у кастр. 1935. З 1936 прафесар і загадчык кафедры фізікі Гомельскага педінстытута. Асноўныя працы ў галіне квантавай тэорыі, ядра атама, гісторыі і метадалогіі фізікі. Арыштаваны 20.6.1937. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.10.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 25.7.1957.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ФАЛЬСКІ Усевалад** [1886 або 1887 — ?], дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, акцёр. Адзін з арганізатараў бел. прафесійнага тэатра. Старшыня Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Першы бел. савецкі міністр замежных спраў. Улетку 1919 апынуўся сярод расстрэльных заложнікаў, якіх чэкісты вывезлі ў Смаленск пры адступленні бальшавікоў. У вер. 1921 зноў арыштаваны і прысуджаны да расстрэлу, потым замененага турэмным зняволеннем. Вызвалены ў 1923. Са снеж. 1925 жыў у Кіеве. Далейшы лёс невядомы.

Літ.: *Селяменеў В., Скалабан В.* Тры лісты Усевалада Фальскага // Тэатральная творчасць. 1996. № 6; *Касинская А., Крапивин С.* Визит дамы // *Народная газета.* 1997. 11—13 кастр.; *Стужынская Н.* Беларусь мяцежная. Вільня. 2000. С. 110—112.

**ФАМІН Сяргей Уладзіміравіч** [29.4(12.5).1906, в. Пепелеўка Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Манастыршчынскі р-н Смаленскай вобл., Расія — 4.12.1941, Ярэга, Комі АССР], паэт. Паходзіў з сям'і вясковага настаўніка. Скончыў Мсціслаўскую сямігодку. Яшчэ школьнікам дасылаў карэспандэнцыі ў мясцовыя газеты. У 1925 скончыў Магілёўскі педтэхнікум. Два гады настаўнічаў на Барысаўшчыне, потым паступіў на літа-

ратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ, якое скончыў у 1930. Першы верш Ф. апублікаваны ў 1924 у газ. «Соха и молот». З 1925 пісаў па-беларуску. Тады ж быў прыняты ў «Маладняк». Публікаваўся ў час. «Маладняк», «Полымя», «Маладняк Барысаўшчыны». Пасля расколу «Маладняка» ўваходзіў у «Пралетарска-сялянскую беларускую літаратурную суполку» («Пробліск»; ліп. 1927 — студз. 1928). Перакладаў з украінскай мовы вершы У.Сасюры. Вершы Ф. перакладаліся на ўкраінскую і рускую мовы. У 1927 асобным выданнем выйшла яго паэма «Балота». У 1929 падрыхтаваў да друку кнігу вершаў «Дымнае жыта», якая тады не была апублікавана. З 1930 творчая актыўнасць Ф. рэзка знізілася, ён амаль перастаў пісаць і друкавацца. У друку з’явіліся разгромныя рэцэнзіі на яго паэзію. Выкладаў бел. і рускую мову і літаратуру ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 4.1.1935. У маі 1935 прыгавораны да расстрэлу, замененага 10 гадамі пазбаўлення волі. Накіраваны ва Ухтпячлаг НКВД у Комі АССР. Вывучаў там італьянскую мову, завучваў вершы А.Дантэ ў арыгінале. Працягваў пісаць у зняволенні; некаторыя вершы занатоўваў у лістах да родных. Паўторна арыштаваны ў лагеры; 2.10.1941 прыгавораны да расстрэлу.

Тв.: Балота: Паэма. Мн., 1927; Дымнае жыта: Вершы, паэмы, пераклады. Мн., 1991.

Літ.: *БП*, т. 6.

**ФІЛІСТОВІЧ Янка** [14.1.1926, в. Паняцічы Вілейскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — 1953?, Мінск, МДБ], удзельнік антысавецкага руху, публіцыст. Вясной 1943 мабілізаваны ў 13-ы Беларускі батальён (Вілейка, Мінск). Перад прыходам Чырвонай Арміі выехаў у Германію. Пасля сканчэння вайны перабраўся ў Францыю. Вывучаў гісторыю ў Сарбоне (Парыж) і Лювэнскім ун-це (Бельгія). Выдаваў час. «Моладзь», быў адным з лідэраў Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі (утворана на з'ездзе 26.3.1949). З 11.3.1951 сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, упаўнаважаны прадстаўнік урада БНР. Удзельнічаў у дэсанце, які быў закінуты з дапамогай амерыканцаў 9.9.1951 на Маладзечаншчыну. Праз сваяка П.Куляша Ф. ўдалося наладзіць сувязь з групай С.Мікуліча, якая складалася з 5 чалавек і дзейнічала на тэрыторыі Ільянскага р-на з 1949. Неўзабаве Ф. узначаліў гэтую групу. 5.9.1952 аператыўна-ваенізаванай групай МДБ БССР была праведзена аперацыя па ліквідацыі групы. Ф. ўдалося ўцячы, і ён меркаваў перайсці мяжу з Польшчай, але 9.9.1952 быў схоплены ў выніку здрады. У в. Ярмолічы Маладзечанскага р-на Ф. арыштавала група мясцовай управы МДБ. Прысуджаны ваенным трыбуналам Беларускай вайсковай акругі да смяротнага пакарання. Супраць сваякоў Ф. і тых, хто дапамагаў яму, былі праведзены рэпрэсіі.

Літ.: *Лукашук А.* Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. Мн., 1997; *Валахановіч І.* Барацьба вакол ідэі «беларускай незалежнай дзяржавы» (другая палова 40-х — пачатак 50-х гг.) // *Беларускі гістарычны часопіс*. 1999, № 1; *Думбляўскас Ю*. Янка Філістовіч // *Антысавецкія рухі*.

**ФЯЛІНСКАЯ Ева** [Felińska; 26.12.1793, в. Узнога Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Клецкі р-н Мінскай вобл. — 20.12.1859, Луцкі пав.], пісьменніца, мемуарыстка, удзельніца вызваленчага руху. Атрымала хатнюю адукацыю ў сям'і багатых сваякоў. Аўтар аповесцей «Пляменніца і цётка», «Пан дэпутат» (1834), у якіх каларытна апісала жыццё бел. шляхты. У сярэдзіне 1830-х г. далучылася да тайнай арганізацыі Ш.Канарскага «Садружнасць польскага народа» (узнікла ў 1835), стварыла філіял арганізацыі «Жаночае таварыства». Арыштавана 19.7.1838. Саслана ў Бярозаў (цяпер Цюменская вобл.), дзе знаходзілася на працягу 1839—41, потым у Саратаў (1841—44). Знаходжанне ў ссылцы апісала ў «Дзённіку...» (апублікаваны ў віленскім час. «Athenaeum», 1846). Паводле сведчання крытыкі, «Дзённік...» стаў упрыгожаннем часопіса. Пасля ссылкі актыўна займалася літаратурнай творчасцю; аўтар аповесці «Герсылія» (1849) і «Успамінаў аб жыцці» (1856, 1859—60). «Успаміны...» з'яўляюцца найбольш каштоўным творам па гісторыі нораваў у

Беларусі, Літве, на Валыні канца XVIII — пачатку XIX ст.

Тв.: Wspomnienia z podróży do Syberyi, pobytu w Berezowie i w Saratowie. T. 1—3. Wilno, 1852—53; англ. пераклад К.Ляха Шырмы. L. 1852—54; дацкі пераклад — Капенгаген, 1855.

Літ.: *Мальдзіс А.* Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. С. 188—191; *Грицкевич В.* От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986. С. 185—203, 298; *АЗБ*.

**ХАДЫКА Уладзімір Марцінавіч** [псеўданім: Лухалі (з С.Ліхадзіеўскім і М.Лужаніным); крыптанім: У.Х. і Ю.Т. (з Ю.Таўбіным); 21.12.1904 (3.1.1905), в. Цітва Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 1.7.1940, ст. Ер, Паўночлаг], паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў мнагадзетнай сям'і ўрадніка Марціна Хадыкі. Скончыў на выдатна Дудзіцкую пачатковую школу (на радзіме бацькі); у 1923 — агульнаадукацыйныя курсы ў Мінску. Першыя вершы ў перыядычным друку апублікаваў у 1926; тады ж выйшаў і першы зборнік паэзіі «Суніцы». Член літаб'яднання «Маладняк»; удзельнік 1-га Усебеларускага з'езда «Маладняка» (1925). У 1926—27 служыў у Чырвонай Арміі ў Навазыбкаве (Браншчына). Нейкі час быў сакратаром Дудзіцкага сельсавета. Працаваў настаўнікам пачатковых класаў у в. Асака Дудзіцкага сельсавета. У 1928 спрабаваў паступіць у БДУ, але не быў дапушчаны да экзаменаў, бо не меў поўнай сярэдняй адукацыі. З 1929 працаваў сакратаром час. «Полымя». У 1930-я г. жыў з літаратурнай працы. Друкаваўся ў «Маладняку», «Звяздзе», «Савецкай Беларусі», іншых выданнях. Член СП Беларусі з 1934. Пераклаў на бел. мову раман К.Гарбунова «Ледалом», кнігу выбр. тв. У.Бахмецьева «Людзі і рэчы», драматычныя творы М.Горкага, раман М.Шолахава «Ціхі Дон» і інш. У 1935 апублікаваў зборнік вершаў «Радасны будзень». Ужо ў канцы 1920-х г. стаў абвінавачвацца

крытыкай у страце сацыяльнай пільнасці і ў буржуазным нацыяналізме. Падрыхтаваны ў 1932 да выдання ў Маскве зборнік вершаў на рускай мове не выйшаў з-за адмоўнага водгука Г.Шэнгелі. Арыштаваны 26.11.1936. У 1937 асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Накіраваны ў лагер Нова-Іванаўка Кемераўскай вобл. Працягваў пісаць у зняволенні, запісваючы вершы на паперы для курэння і потым зашываючы рукапісы ў каўнер кажуха. Быў пераведзены на каменаломні ў Новасібірскай вобл. Паводле ўспамінаў сведкаў, расціснуты каменнай глыбай у вапняковым кар’еры.

Тв.: Выбр. вершы. Мн., 1932; Выбр. вершы. Мн., 1959; Вершы. Мн., 1969; На ўзвеях дзён: Вершы. Мн., 1986.

Літ.: *Шушкевіч С.* Уладзімір Хадыка // *Шушкевіч С.* Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2; *Грахоўскі С.* Другому сэрцу перадам // *ЛіМ.* 1980, 4 студз.; *Маракоў Л.* Уладзімір Хадыка // *Роднае слова.* 2002. № 10.

**ХАРЛАМПОВІЧ Павел Васілевіч** [4.2.1884, в. Рагачы Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобл. — ?], нумізмат, музейны работнік. У 1920—25 член Мінскага таварыства гісторыі і старажытнасцяў. У 1920-х г. быў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея. У 1925 адзін з арганізатараў гісторыка-археалагічнай і этнаграфічнай секцый Інбелкульта. Выкладаў у БДУ. У 1929 пазбаўлены працы, арыштаваны. У 1931 сасланы на Поўнач.

Тв.: Справаздача Беларускага дзяржаўнага музея // *Асвета*. 1925, № 3; Праскія грошы ў беларускіх манетных скарбах // *Гіст.-арх. зборнік*. № 1. Мн., 1927; Манетныя скарбы, знойдзеныя ў Беларусі, у зборах Беларускага дзяржаўнага музея // *Тамсама*; Пяцігоддзе Беларускага дзяржаўнага музея // *Наш край*. 1927, № 1.

Літ.: *Вяргей В.С.* Археалагічная навука ў Беларускай ССР 1919—1941 гг. Мн., 1992.

**ХАРУЖАЯ Вера Захараўна** [псеўданімы: Антолька; Вера; Вераніка Карчэўская; Алеся Шыпшына; Падпольнік; Г.С.Корнилова; Польская камсамолка; 14(27).9.1903, Бабруйск — снеж. 1942, Віцебск], дзяячка вызваленчага руху ў Зах. Беларусі, адзін з арганізатараў антыфашысцкага падполля ў Віцебску, публіцыстка. У 1919 скончыла Мазырскую адзіную працоўную школу 2-й ступені. У 1919 настаўнічала на Палессі. У 1920 удзельнічала ў антыпольскім партызанскім руху. Працавала загадчыкам палітаддзела Мазырскага і Бабруйскага павятовых камітэтаў камсамола. У 1922—23 у апараце ЦК КСМБ. Член рэдкалегій газ. «Малады араты», супрацоўніца час. «Полымя», газ. «Чырвоная змена». У 1923 скончыла Цэнтральную савецка-партыйную школу ў Мінску. З лют. 1924 на падпольнай рабоце ў Зах. Беларусі. З чэрв. 1924 сакратар ЦК КСМЗБ, член ЦК КПЗБ. Выступала ў нелегальным друку, на мітынгах, пісала тэксты ўлётак і адозваў. Арганізавала выданне падполь-

най газ. КСМЗБ «Малады камуніст». Арыштавана 15.9.1925. На судовых працэсах, якія праходзілі ў Брэсце (1927) і Беластоку (1928), прыгаворана да 8 гадоў турмы. З катаржнай турмы ў Фардоне (Быдгашчанскае ваяв.) вяла перапіску з паплечнікамі па барацьбе і роднымі. У 1930-х г. частка яе лістоў была сабрана ў кнігу «Лісты на волю» і выдадзена на бел., рускай, польскай мовах. У 1932 у выніку абмену палітвязнямі вярнулася ў Мінск. Для выдавецтва ЦК КПЗБ пісала адозвы, артыкулы, брашуры. Завяршыла пачатыя ў турме публіцыстычныя брашуры «За Чырвоны Кастрычнік на Заходняй Беларусі», «Мы — маладая гвардыя рабочых і сялян», «Увага, школьнікі» (выдадзены ў 1933 на бел., украінскай і польскай мовах). З пачаткам вайны ў атрадзе В.Каржа. З вясны 1942 у апараце ЦК КП(б)Б у Маскве. У вер. 1942 накіравана ў варожы тыл. Арыштавана 13.11.1942. Закатавана нацыстамі. Герой Савецкага Саюза (1960).

Тв.: Письма на волю. М., 1962; *Славная дочь белорусского народа: Письма, статьи В.Хоружей и воспоминания о ней*. 2 изд. Мн., 1962; Статьи и письма о комсомоле. 2 изд. Мн., 1975.

Літ.: *Новиков Г.И.* Вера Хоружая. 2 изд. Мн., 1973; *Булацкий Г.В., Талапина С.В.* Вера Хоружая — революционер, публицист. Мн., 1973; *Жизнь, отданная борьбе*. Мн., 1975.

**ХАРЫК Ізі** [Ісаак Давыдавіч; псеўданім: А.С.Зембін; 6.3.1896, па іншых крыніцах 17.3.1898, мяст. Зембін Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], паэт. У 1919 добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію, удзельнічаў у грамадзянскай вайне ў Расіі. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1920 публікацыямі ў яўрэйскіх газетах. У 1921—23 вучыўся ў Вышэйшым літаратурным інстытуце імя В.Брусава ў Маскве. У 1922 у Мінску выйшла першая кніжка вершаў «Трапятанне». З 1925 друкаваўся ў час. «Штэрн». У 1927 скончыў яўрэйскае аддзяленне педагагічнага ф-та 2-га Маскоўскага дзяржаўнага ун-та. Пераехаў у Мінск, працаваў рэдактарам яўрэйскага час. «Штэрн». У 1931 абраны членам ЦВК БССР. Член СП Беларусі з 1934. Член прэзідыумаў СП БССР і СССР. Да 1936 у Мінску, Маскве і Кіеве выйшла 13 яго кніг на яўрэйскай мове. З 1928 сталі з'яўляцца пераклады яго вершаў на бел. мову. З пачатку 1930-х г. выступаў з артыкуламі і нарысамі таксама ў беларускамоўных выданнях. Вершы «Над Бярозай» і «Хлеб» былі пакладзены на музыку С.Палонскім. Перакладаў на яўрэйскую мову творы Я.Коласа, М.Чарота, З.Рымашэўскага. Член-карэспандэнт БелАН з 1936. Адзін з аўтараў «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну» (1936). Арыштаваны 5.6.1937; Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.10.1937 прыгавораны да расстрэлу. Была

рэпрэсавана і сям’я паэта. Рэабілітаваны 13.6.1956.

Тв.: Адданасць: (Выбр. тв). М., 1970 / Яўр. Пер.: Выбр. тв. Мн., 1958; Выбранае. Мн., 1969.

Літ.: *Лынькоў М.* Таленавіты паэт // *Маладосць*. 1958, № 6; *Броўка П.* Пра паэта і таварыша // *ЛіМ*. 1973, 23 сак.; *Хведаровіч Л.* Сугучнасць часу // *Беларусь*. 1976, № 3; *БП*, т. 6.

**ХАТУЛЁЎ Пятро** [Пётр Фёдаравіч; крыптанімы: П.Х.; П.Х-ў; 29.6.1912, Віцебск — 29.10.1937, Мінск, НКВД], крытык. Пачаў выступаць на старонках бел. перыядычнага друку ў 1932. У 1934 скончыў МВПІ. Працаваў у рэдакцыі газ. «Літаратура і мастацтва». На працягу 1934—36 апублікаваў, пераважна на старонках «Літаратуры і мастацтва», артыкулы, рэцэнзіі, нататкі пра творчасць А.Александровіча, П.Броўкі, Э.Самуйлёнка, Ю.Таўбіна, У.Хадыкі, І.Шапавалава і інш. Выступаў супраць вульгарызатарскага падыходу да літаратуры, заклікаў улічваць асаблівасць гістарычнага часу і не шукаць ворагаў у XIX ст. Арыштаваны 3.10.1936. Расстраляны разам з групай бел. пісьменнікаў. Рэабілітаваны 29.9.1966.

Тв.: «Мая другая кніга» Юлія Таўбіна // *ЛіМ*. 1932, 15 чэрв. / Сааўт. І. Малец; Заўвагі пра творчасць П.Броўкі // *Полымя рэвалюцыі*. 1934, № 4.

Літ.: *Карабан С.* Нарысы гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20—30-х гадоў. Мн., 1971; *Мушынскі М.* Беларуская крытыка і літаратуразнаўства (20—30-я гады). Мн., 1975; *БП*, т. 6.

**ХАЦКЕВІЧ Рыгор Мікітавіч** [27.2.1911, в. Ратуцічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 9.8.1979, в. Дакудава Крупскага р-на Мінскай вобл.], паэт, празаік, педагог. У 1930 скончыў Барысаўскі педтэхнікум; потым завочна вучыўся ў МВПІ. У 1930 настаўнічаў у Чэрвеньскім р-не; у 1931—33 супрацоўнік чэрвеньскай раённай газеты. У 1933—36 настаўнічаў у г.п. Крупкі. Першы верш Х. надрукаваны ў 1930 у газ. «Піянер Беларусі». У 1932 выйшаў першы зборнік. Арыштаваны ў 1936 у г.п. Крупкі. Паўтара года знаходзіўся ў Мінску пад следствам. Асуджаны на 5 гадоў лагераў. Пакаранне адбываў на Поўначы (да 1946). Пасля вайны вярнуўся ў Беларусь. У 1947—50 выкладаў бел. мову і літаратуру ў Нягневіцкай сямігодцы Барысаўскага р-на; у 1950—53 у Крупскім р-не. У 1953 выехаў у Днепрапятроўск (Украіна); працаваў настаўнікам. У 1959 рэабілітаваны; вярнуўся ў Беларусь. Жыў на Барысаўшчыне, у Мінску, у Крупскім р-не; настаўнічаў. У 1960—70-х г. актыўна выступаў у перыядычным друку з вершамі і нарысамі. Пісаў для дзяцей; пера-

кладаў з рускай і ўкраінскай моў. Пахаваны ў в. Дакудава.

Тв.: Налівайся, колас: Вершы. Мн., 1932; Наш пяты клас: Вершы. Мн., 1962; На золку: Аповесць. Мн., 1972; Бяроза на ўзлеску: Вершы і паэма. Мн., 1977; Хмара над лесам: Аповесць. Мн., 1980.

Літ.: *БП*, т. 6.

**ХВЕДАРОВІЧ Мікола** [сапр.: Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч; іншыя псеўданімы: С.Старобінскі; Сабасцян Старобінскі; Себасцян Старобінскі; Н.Федаровіч; 24.3(6.4).1904, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер горад Мінскай вобл. — 20.8.1981, Мінск], паэт, празаік, перакладчык, брат пісьменніка Н.Чарнушэвіча. У 1915—18 жыў у прытулку для дзяцей бежанцаў у Калузе, вучыўся ў гарадскім вучылішчы. Вярнуўшыся з бежанства, вучыўся ў вучылішчы мяст. Цімкавічы, потым у Капыльскай працоўнай школе 2-й ступені. У 1918 уступіў у камсамол. З 1921 у часці асобага прызначэння. У 1923 сакратар камсамольскай ячэйкі ў Цыраўскай воласці і загадчык хаты-чытальні. У 1924 камісар Слуцкага ваенкамата па дапрызыўнай падрыхтоўцы. З артыкуламі ў друку пачаў выступаць у 1924. Першы верш («Ураджайнае») надрукаваў у 1925. У 1929 выйшла першая кніга

(«Настроі»). У 1928 скончыў рабфак у Мінску, у 1931 — БДУ. Паралельна з вучобай працаваў адказным сакратаром час. «Весткі ЦК КП(б)Б», потым у «Партыйным работніку» і «Бальшавіку Беларусі». У 1932—33 рэдактар двухтыднёвіка «Чырвоная Беларусь». Член СП Беларусі з 1934. У 1933—34 загадчык кабінета маладога аўтара СП БССР. У 1934—37 адказны сакратар час. «Полымя рэвалюцыі», сакратар час. «Минск». Быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і БелАПП. Арыштаваны 3.8.1938. Асуджаны (16.7.1940) на 8 гадоў пазбаўлення волі. Знаходзіўся ў зняволенні ў лагерах на Кольскім паўвостраве, удзельнічаў у будаўніцтве Манчагорска, з 1941 ва Усцьвытлагу (пасёлак Ваяжэль Комі АССР). З 1946 працаваў у Каршынах Узбекскай ССР. Паўторна арыштаваны 22.5.1949; сасланы (3.8.1949) у Енісейск Краснаярскага краю. У 1956 вярнуўся ў Беларусь. Займаўся літаратурнаю творчасцю. На бел. мову пераклаў творы А.Пушкіна, паэму «Віцязь у тыгравай шкуры» Ш.Руставелі (з А.Звонакам), п'есы М.Стэгліка, А.Палявога, А.Талбузіна. Рэабілітаваны 28.9.1955.

Тв.: Пасля навальніцы: Выбранае. 1925—1961. Мн., 1965; Выбр. тв: У 2 т. Мн., 1974; Крынічка: Вершы. Мн., 1978; Любістак: Выбранае. Мн., 1984.

Літ.: *Ермаловіч М.* У страі паэзіі // *ЛіМ*. 1958, 12 ліп.; *Александровіч С.* Незабыўнае, блізкае // *ЛіМ*. 1961, 12 мая; *Яго ж*. Яго шчодрае і шчырае сэрца // *ЛіМ*. 1981, 28 жн.; *БП*, т. 6.

**ХВЕЦЬКА Люцыян** [22.11.1889, в. Малышоўка Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Сакольскі пав. Падляшскага ваяводства — 1944, Стоўбцы], рыма-каталіцкі святар, рэдактар, выдавец, публіцыст, педагог. У 1904 скончыў Сакольскае гарадское вучылішча. Здаў экзамен на аптэкарскага вучня ў экзаменацыйнай камісіі Пецярбургскай навучальнай акругі. У 1907—14 вучыўся ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Санкт-Пецярбургу. Працягнуў вучобу ў Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі, якую скончыў у 1915 са ступенню магістра тэалогіі. Падчас вучобы ў акадэміі сябра бел. культурна-асветнага гуртка. Пасвечаны ў святары 31.5.1915 біскупам Я.Цэпляком. Адзін з заснавальнікаў «Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці». Ініцыятар выдання і першы рэдактар-выдавец бел. каталіцкай газ. «Kryniсa». Заснавальнік бел. выдавецкай каталіцкай суполкі. Служыў вікарыем пракафедральнага касцёла ў Петраградзе. Да 1918 прафесар літургікі ў духоўнай каталіцкай семінарыі. Пасля закрыцця бальшавікамі семінарыі прызначаны адміністратарам пракафедральнага касцёла. Арыштаваны ДПУ па справе біскупа Я.Цэпляка 10.3.1923. Быў прапанаваны ў мемарандуме ад 15.3.1923 бел. соймавых паслоў-католікаў Папе рымскаму на пасаду біскупа-суфрагана Віленскай дыяцэзіі. У выніку абмену палітвязнямі 1.2.1925 дэпартаваны ў Польшчу. У 1925—26

выкладаў Закон Божы ў Шыманове пад Варшавай. Пры падтрымцы біскупа Э.Ропа з канца 1920-х г. да 1931 працаваў рэктарам Місіянерскага інстытута ў Любліне. З 1932 пробашч парафіі Шчытнікі Пінскай дыяцэзіі. Прафесар пастаральнай тэалогіі і выкладчык бел. мовы ў Пінскай каталіцкай семінарыі. У 1933—39 скарбнік дыяцэзіяльнай курыі і віцэ-старшыня дыяцэзіяльнай рады. У гады 2-й сусветнай вайны заставаўся на Піншчыне. Памёр у 1944 [?] у Стоўбцах.

Літ.: *Źnič* (Рым). 1965, № 81; *Гарбінскі БРД*.

**ХМАРА [Сіняк] Сяргей** [чэрв. 1905, Пінск — 5.9.1992, Канада], журналіст, паэт, дзеяч бел. эміграцыі. У час польскай акупацыі Заходняй Беларусі працаваў настаўнікам. Арганізаваў тайны клуб маладых пісьменнікаў. Быў арыштаваны дэфензівай і зняволены (1927, 1939). Падчас 2-й сусветнай вайны знаходзіўся ў Слоніме, працаваў у БНС, прымаў удзел у нацыянальным партызанскім руху, кіраўнік падпольнай арганізацыі «Бел. народная грамада» . У канцы вайны апынуўся ў Берліне, дзе заснаваў паліт. групу пад назвай «Двупагоня». Пасля вайны выдаваў сатырычны часопіс у Гамбургу. Адтуль у 1949 пераехаў у Канаду, дзе выдаваў газ. «Беларускі Эмігрант» (пасля «Беларускі Голас»), якую рэдагаваў да канца жыцця. Таксама выдаваў літаратур-

ныя і сатырычныя газ. «Народны Шлях», «Сігналы», «Маланка». Быў ініцыятарам стварэння Канадскага этнічнага клуба журналістаў і пісьменнікаў; ад снеж. 1976 быў яго першым старшынём.

Тв.: Жураўлінparam шляхам. Вільня, 1939.

Літ.: *Чэмер А.* Сяргей Хмара. Вільнюс, 1998; *Ліс А.* Літаратура Заходняй Беларусі // *Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя.* Мн., 1999. Т. 2.

**ХОДЗЬКА Аляксандр** [30.8.1804, мяст. Крывічы Вілейскага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Мядзельскага р-на Мінскай вобл. — 27.12.1891, Парыж], паэт, фалькларыст, славіст, усходазнавец. Сын Яна Ходзькі. Вучыўся ў Віленскай гімназіі. У 1820 паступіў на аддзяленне літаратуры і мастацтваў Віленскага ун-та. Удзельнік Таварыства філарэтаў, за што ў 1823 быў арыштаваны і да 1824 знаходзіўся пад следствам. У 1825 скончыў Віленскі ун-т; кандыдат філасофіі. Прадоўжыў вучобу ў Санкт-Пецярбургу ў Вучэбным аддзяленні жывых моў пры Азіяцкім дэпартаменце Міністэрства замежных спраў. У час вучобы ў Санкт-Пецярбургу зблізіўся з А.Міцкевічам, А.Пушкіным, В.Жукоўскім. У 1829 выдаў зборнік «Паэзія», некаторыя песні і балады якога заснаваны на бел. фальклоры. У зборнік увайшлі таксама пераклады новагрэчаскіх песень. У 1841 вы-

ехаў на адпачынак у Італію і Францыю. З 1842 жыў у Парыжы. У 1857—83 прафесар славянскіх літаратур Калеж дэ Франс. Перакладаў са славянскіх на ўсх. мовы. Запісваў успаміны А.Міцкевіча, дапамагаў яму выдаваць іх. Перапісваўся з А.Кіркорам, К. і Я.Тышкевічамі. Першы з еўрапейцаў прааналізаваў фальклор туркменаў, эпас Кёр-Аглы. Даследаваў іранскі фальклор; напісаў працу, прысвечаную курдскай мове; падрыхтаваў размоўнік турэцкай мовы. Кнігі Х. выходзілі ў Расіі, Францыі, Англіі, Германіі.

Тв.: Дерар, восточная повесть в стихах. СПб., 1839; Specimens of the popular poetry of Persia. London, 1842; Grammaire de la langue persane. Paris, 1883.

Літ.: *Грицкевич В.П.* Вклад воспитанника Вильнюсского университета Александра Ходзько в развитие востоковедения // *Научные труды высших учебных заведений Литовской ССР. История.* Т. 20, вып. 1. Вильнюс, 1980; *Грыцкевіч В.П., Мархель У.І.* Пан Ян са Свіслачы з сынамі // *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мядзельскага р-на.* Мн., 1998. *PSB*; *АЗБ*.

**ХОДЗЬКА Дамінік Цэзары** [1800, маёнтак Яварова Віленскага пав., цяпер Літва — 1863, Вільня], літаратар, фальклярыст, этнограф. Вучыўся ў Віленскім ун-це. Быў членам Таварыства філарэтаў; сябраваў з Я.Чачотам і Т.Занам. Арыштоўваўся ў 1823 па справе філарэтаў. На-

стаўнічаў у Вільні і на Случчыне. Быў членам Віленскай археалагічнай камісіі. Першым распрацаваў біяграфію З.Даленгі-Хадакоўскага, якую надрукаваў у энцыклапедыі Я.Глюксберга, потым у час. «Athenaeum» (1842. Т. 1, 4), «Teka Wileńska» (1857, № 2). Аўтар працы пра рэкі Літвы і Беларусі, рукапіс якой перадаў Віленскай археалагічнай камісіі. У 1845 апублікаваў успаміны пра жыццё і дзейнасць Ю.Крашэўскага, Яна Ходзьку і іншых. Вывучаў гісторыю Віленскага ун-та; у 1862 выйшла ў свет яго праца «Збор некаторых успамінаў… да гісторыі Віленскага ун-та. Віленская акадэмія ў часы езуітаў».

Літ.: *PSB*; *АЗБ*.

**ХОДЗЬКА Язэп** [Юзаф, Іосіф Іванавіч; 6.12.1800, мяст. Крывічы Вілейскага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Мядзельскага р-на Мінскай вобл. — 21.2.1881, Тыфліс, цяпер Тбілісі], геадэзіст, географ. Сын Яна Ходзькі. Вучыўся ў Віленскай універсітэцкай гімназіі і на фізіка-матэматычным ф-це Віленскага ун-та, які скончыў у 1821. Па рэкамендацыі прафесара ун-та Ю.Снядэцкага залічаны ў Корпус ваенных тапографаў. Праводзіў трыянгуляцыйныя работы на захадзе Латвіі, у Літве, у Гродзенскай і

Мінскай губ. Лідэры паўстання 1830—31 меркавалі прызначыць Х. камендантам Вільні. Даведаўшыся пра гэта, расійскія ўлады 15.3.1831 затрымалі Х. і накіравалі яго далей ад Радзімы — на правядзенне тапаграфічных работ на Дунаі і Басфоры. Склаў ваенны агляд румынскіх княстваў Малдавіі і Валахіі. У 1839 накіраваны служыць на Каўказ. У 1845 распачаў Закаўказскую трыянгуляцыю, якая была скончана ў 1853. У 1869 Рускае геаграфічнае таварыства ўзнагародзіла яго вялікім Канстанцінаўскім медалём.

Літ.: *Грыцкевіч В.П., Мархель У.І.* Пан Ян са Свіслачы з сынамі // *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мядзельскага р-на.* Мн., 1998; *Жизнь и деятельность геодезиста и географа генерал-лейтенанта Иосифа Ивановича Ходзько, 1800—1881.* Материалы Международной научной конференции, 21 декабря 2000 г. Мн., 2001.

**ХОДЗЬКА Ян** [Барэйка; псеўданім: Ян са Свіслачы; 24.6.1777, мяст. Крывічы Вілейскага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Мядзельскага р-на Мінскай вобл. — 10.11.1851, Мінск], пісьменнік, драматург, грамадскі дзеяч. Бацька Язэпа Ходзькі. Атрымаў хатнюю адукацыю, вучыўся ў школах Вільні. З 1793 цывільна-вайсковы камісар Ашмянскага пав., з 1795 асэсар суда ў Паставах, з 1798 падсудак, з 1808 падкаморы Вілейскага пав., з 1811 старшыня Галоўнага цывільнага суда ў Мінску. Адзін з арга-

нізатараў масонскіх лож у Мінску і Вільні. Дом Х. ў Мінску стаў асяродкам культуры, дзе арганізоўваліся канцэрты і тэатральныя пастаноўкі. Пасля звальнення з дзяржаўнай службы пераехаў у Вільню, дзе працаваў у Камісіі па спадчыне князёў Радзівілаў. Быў членам таварыстваў дабрачыннасці і шубраўцаў. Захапіўся праблемамі асветы ў краі. У артыкуле ў час. «Dzieje dobroczynności» (1820. № 1) выказаўся за пашырэнне адукацыі сярод народа; ідэю народнай школы і асветы развіў у аповесці «Пан Ян са Свіслачы» (1821). У выніку Х. быў абраны ганаровым членам Віленскага ун-та і прызначаны інспектарам школ Віленскай, Магілёўскай і Віцебскай губ. У 1826 арыштаваны і зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Вярнуўся ў Вільню вясной 1830. Знаходзіўся пад наглядам паліцыі. За ўдзел у паўстанні 1830—31 зноў арыштаваны ў 1830. Сасланы на Урал. Вярнуўшыся ў 1834 з ссылкі, жыў з арандатарства ў Мінскай губ. Пісаў мемуары. Пахаваны ў Заслаўі.

Тв.: *Pisma rozmaite autora «Pana Jana ze Świsłoczy»*. Т. 1—12. Wilno, 1837—42.

Літ.: *Chodźko D*. Jan Chodźko: Obrazek życiorysowy // *Teka Wileńska*. 1858, № 5; *Turska H*. Język Jana Chodźki. Wilno, 1930; *Грыцкевіч В.П., Мархель У.І.* Пан Ян са Свіслачы з сынамі // *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мядзельскага р-на*. Мн., 1998; *PSB*; *АЗБ*.

**ХОМІЧ Павел Сямёнавіч** [17.10.1893, Ваўкавыск — 10.3.1942, Ленінград, НКВД], рымакаталіцкі святар, рэлігійны і грамадскі дзеяч. Паходзіў з сялянскай сям'і, у якой бацька быў праваслаўным, а маці — каталічкай. 22.10.1905 прыняў каталіцкае веравызнанне. У 1907—10 вучыўся ў Ваўкавыскім гарадскім 4-класным вучылішчы. Скончыў у Петраградзе Магілёўскую духоўную каталіцкую семінарыю і Мітрапалітальную духоўную акадэмію. У час вучобы наведваў культурна-асветны гурток бел. студэнтаў-клерыкаў. Пасвечаны ў святары ў 1916. Быў прызначаны вікарыем на станцыі Вырыца Царскасельскай чыгункі. Пазней выконваў святарскія абавязкі на Пскоўшчыне. У пачатку 1920-х г. пробашч парафіі св. Кацярыны ў Ленінградзе. Пазней — у парафіі св. Казіміра. Арыштаваны 2.6.1926. Прыгавораны да 10 гадоў лагераў. Адпраўлены на Салаўкі, дзе заставаўся да ліп. 1933. З 21.7.1932 да 25.4.1933 знаходзіўся ў турме АДПУ у Ленінградзе («на Шпалерцы»). У час допытаў ад яго патрабавалі адмовіцца ад духоўнага сану. Стаў хварэць псіхічна. З 28.6.1938 жыў у ваколіцах Кастрамы. У 1939 нелегальна вярнуўся ў Ленінград. 1.3.1942 прыгавораны Ваенным трыбуналам да расстрэлу.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Dzwonkowski R*. Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998.

**ХОМЧАНКА Васіль Фёдаравіч** [12.1.1919, в. Канічы Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 4.11.1992, Мінск], празаік. Пісаў на бел. і рускай мовах. У 1935 скончыў сямігодку ў мяст. Бялынкавічы Касцюковіцкага р-на. Першы верш надрукаваў у 1934 у газ. «Піянер Беларусі»; першае апавяданне з'явілася ў 1937 у час. «Іскры Ільіча». У 1936 паступіў на рабфак пры БДУ. Арыштаваны НКВД БССР 6.4.1937; прыгавораны да 4 гадоў пазбаўлення волі. Адпраўлены ў Ніжне-Амурскі лагер: будаваў чыгунку, пілаваў лес. Выпадкова вызвалены ў 1941. У вайну на фронце. Вучыўся ў Буйнакскім ваенна-пяхотным вучылішчы (1944); быў камандзірам мінамётнага ўзвода. Вайну скончыў у Аўстрыі. Каб паступіць у Ваенна-юрыдычную акадэмію ў Маскве, утаіў судзімасць. Вучыўся ў акадэміі ў 1947—51. Да літаратурнай творчасці вярнуўся ў 1954, калі апублікаваў ва ўладзімірскім літаратурным альманаху апавяданне «Анісаў бор». Пісаў апавяданні на рускай мове, потым зноў вярнуўся да творчасці па-беларуску. У 1959 выпусціў у Мінску кнігу «Наша вячэра». Член СП Беларусі з 1960. Служыў у арміі да снеж. 1968. Рэабілітаваны ў 1969. У 1972—85 працаваў загадчыкам рэдакцыі прозы выдавецтва «Мастацкая літаратура». З 1985 на творчай рабоце. Напісаў аповесць пра Ф.Багушэвіча. Творы Х. перакладаліся на літоўскую, рускую, украінскую, іншыя мовы. З 1990 член Рады СП

Беларусі; узначальваў Камісію СП па вяртанні спадчыны рэпрэсаваных пісьменнікаў. У апошнія гады жыцця пісаў апавяданні і аповесці, у якіх звярнуўся да падзей перыяду сталінскіх рэпрэсій.

Тв.: Выбранае: (Апавяданні). Мн., 1975; Выбр. тв: У 2 т. Мн., 1979; Пры апазнанні — затрымаць. Мн., 1983.

Літ.: *Голубева Л.* Пра дзяцей і для дзяцей // *Полымя*. 1970, № 4; *Дзюбайла П.* На шляху да сінтэзу // *Полымя*. 1978, № 12; *БП*, т. 6.

**ХУРСІК Сымон Аляксеевіч** [псеўданім: С. Багун; 31.1(13.2).1902, в. Снусцік Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 31.3.1972, Караганда], празаік, перакладчык. У 1925 скончыў у Мінску Белпедтэхнікум. Настаўнічаў у мяст. Валынцы на Полаччыне і ў Полацку; працаваў у рэдакцыі газ. «Чырвоная Полаччына». У 1930 атрымаў дыплом літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага ф-та БДУ. Першае апавяданне апублікаваў у 1924 у газ. «Савецкая Беларусь». Аўтар дзвюх кніжак апавяданняў. У газ. «Чырвоная Полаччына» друкаваў вершы. Пераклаў на бел. мову аповесць А.Серафімовіча «Горад у стэпе» (Мн., 1930), з польскай — апавяданне А.Гараўскага «Алёнка» (Маладняк. 1930, № 6—7). Арыштаваны ДПУ БССР 19.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; прыгавораны 10.4.1931

да 5 гадоў высылкі ў Йашкар-Алу. Працаваў настаўнікам у Марыйскай і Чувашскай АССР, у Казахстане. Ваяваў у гады вайны на 4-м Украінскім і 1-м Беларускім франтах; быў двойчы кантужаны. Пасля вайны вярнуўся да настаўніцкай працы. Зноў арыштаваны 21.6.1947; высланы ў пас. Айдабул Какчэтаўскай вобл. Рэабілітаваны 13.10.1958. З 1964 жыў у Карагандзе. Да творчай працы не вярнуўся.

Тв.: Першы паўстанак: Апавяданні. Мн., 1925; Шляхамі навальніц: Апавяданні. Мн., 1930; Чорны мост: Аповесць // *Маладняк*. 1929, № 11—12; 1930, № 1, 2; Янка з Палесся // *Анталогія беларускага апавядання*: У 2 т. Мн., 1967. Т. 1.

Літ.: *Навумовіч У*. З кагорты маладнякоўцаў // *ЛіМ*. 1972, 10 сак.; *Скрыган Я*. Біяграфія // *Скрыган Я*. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1979; *БП*, т. 6.

**ЦВІКЕВІЧ Аляксандр Іванавіч** [псеўд.: А.Галынец, А.Гвозд; ліп. 1888, Брэст — 30.12.1937, Мінск, НКВД], гісторык, філосаф, публіцыст, юрыст, грамадскі і паліт. дзеяч. Брат Івана Цвікевіча. У 1912 скончыў юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та. Працаваў прысяжным паверaным у Пружанах і Брэсце. У час 1-й сусветнай вайны быў у бежанстве ў Туле, дзе ў 1916 увайшоў у склад Камітэта дапамогі ахвярам вайны. У 1917 у Маскве стаў адным з заснавальнікаў Беларускай народнай грамады. На 1-м Усебеларускім з'ездзе у 1917 рабіў даклад па бежанскім пытанні. Вясною 1918 арганізаваў у Кіеве Беларускую гандлёвую палату і наладзіў выпуск газ. «Белорусское эхо». Там жа выдаў «Кароткі нарыс узнікнення Беларускай Народнай Рэспублікі». Па некаторых звестках, быў арыштаваны. Ва ўрадзе БНР Ковенскага перыяду (1920 — лета 1923) быў міністрам замежных спраў. Апублікаваў шэраг артыкулаў і эсэ ў час. «Беларускі сцяг» (Коўна). У эміграцыі ў Празе (лета 1923—25) прэм'ер-міністр БНР. Пераехаў у Мінск у пачатку снеж. 1925 пасля Берлінскай канферэнцыі беларускіх прадстаўнікоў, якая прыняла рашэнне спыніць дзейнасць урада БНР. Працаваў у Наркамаце фінансаў; сакратаром Інбелкульта; вучоным старшынёй Камісіі Інбелкульта па вывучэнні адукацыі ў Беларусі; з 1929 у Інстытуце гісторыі БелАН. Вывучаў праблемы фарміравання грамадска-паліт. думкі ў Беларусі, станаў-

ленне бел. ідэі. Аўтар прац «Беларусь: Палітычны нарыс» (1919; 2-е выд. 1990), «Адраджэнне Беларусі і Польшча» (1921), «Погляд П.Бяссонава на беларускую справу» (1922). Найбольш вядомая яго праца — «Западно-руссизм» (1929). Арыштаваны 14.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Па пастанове Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 высланы ў Перм тэрмінам на 5 гадоў. Зноў арыштаваны 17.12.1937 у Сарапуле, дастаўлены ў Мінск; прыгавораны да расстрэлу. Па першым прыгаворы рэабілітаваны 10.6.1988, па другім — 31.5.1989.

Тв.: *Галынец А.* Вялікае апрашчэнне ці вялікае ўдасканаленне. Рыга, 1926; «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. 2-е выд. Мн., 1993.

**ЦВІКЕВІЧ Іван Іванавіч** [псеўданімы: І.Трызна, І.Яцьвяг; ліст. 1891, Брэст — 1.7.1938, Алтайскі край ?], медык, публіцыст, рэдактар. Брат Аляксандра Цвікевіча. У 1914 скончыў Варшаўскі ун-т. У 1-ю сусветную вайну служыў у царскай арміі. У 1917—21 у Чырвонай Арміі — дывізіённы ўрач. У 1920 дывізія, у якой служыў Ц., была інтэрнавана ў Германіі. У 1921—23 працаваў у пасольстве РСФСР у Германіі. У 1924 пераехаў у Мінск. Працаваў загадчыкам аддзела ў Белдзяржвыдавецтве. Займаўся перакладамі мастацкіх твораў. Член калегіі Наркамата аховы здароўя БССР і старшыня Медыцын-

скай секцыі Інбелкульта. Арыштаваны 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны (10.4.1931) на 5 гадоў лагераў. Пакаранне адбываў у Нарыме, з'яўляўся начальнікам санчасці Нарымлага. Затым пасяліўся ва Усць-Каменску (Алтайскі край). Паўторна арыштаваны 22.8.1937; прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1960.

Тв.: *Трызна І.* Канстанцін Каліноўскі // *Беларускі сцяг*. 1922, № 2; *Яцьвяг І.* Заданьні чарговай нарады: пытаньні беларускай нацыянальнай культуры // *Тамсама*.

Літ.: *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000.

**ЦВЯТКОЎ Леў** [? — ?], мовазнавец. Выкладаў у БДУ. У рэзалюцыі Камісіі па інтэлігенцыі «Аб праверцы работнікаў навуковых установ, вышэйшых вучэбных установ, тэхнікумаў, асветніцкіх арганізацый на аснове пастановы сакавіцкага (1926) пленума ЦК КП(б)Б» у 1926 абвінавачаны ў нацдэмаўскім ухіле. Рэпрэсаваны.

Тв.: Мова філаматаў і філарэтаў // *Запіскі аддзела гуманітарных навук*. Працы клясы філялогіі. Мн., 1928. Т. 1; Некаторыя рысы іншаславянскай фанэтыкі ў беларускай мове // *Тамсама*.

Літ.: *Платонов Р.* Перед крутым поворотом: Тенденции в политической и духовной жизни Беларуси (1925—1928): Отражение времени в архивных документах. Мн., 2001.

**ЦВЯЧКОЎСКІ Антон Станіслававіч** [псеўданім: А.Кумша; в. Шальчыны Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 16.4.1974, Вільня], бел. рэлігійны дзеяч, пісьменнік, педагог. Выхаванец бел. айцоў марыянаў з Друйскага кляштару. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі, адкуль быў выключаны за бел. патрыятызм. Высланы з Вільні ў этнічную Польшчу. Друкаваўся ў час. «Шлях моладзі», газ. «Крыніца». У 1939 вярнуўся на Бацькаўшчыну. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам у Вільні, служыў перакладчыкам, працаваў у бел. адміністрацыі ў Паставах. Да лета 1944 быў у складзе рэдакцыі час. «Беларус на варце». Выехаў у Германію, жыў у Кёнігсбергу. Праўдападобна, што арыштаваны бальшавікамі ў 1945. Асуджаны на 20 гадоў зняволення, быў на Калыме. На Радзіму вярнуўся ў сярэдзіне 1950-х г.

Літ.: *Ерш С.* Адысэя Антона Цвячкоўскага // *Наша ніва*, 2002, 27 вер.

**ЦЕРАХ (ЦЕРАХАЎ) Адам Адамавіч** [8.9.1882, в. Кабылье Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 7.7.1938, Мінск, НКВД], драматург. На момант арышту працаваў кіраўніком драмгуртка швейнай

фабрыкі «Октябрь». Арыштаваны і 25.5.1938 прысуджаны да расстрэлу. Рэабілітаваны 24.7.1989.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

**ЦЕХАНОЎСКІ Ян** [30.3.1888, в. Якімаўка на Гомельшчыне — 5.10.1938, Ашмяны], педагог. Скончыў Мінскую настаўніцкую семінарыю, Політэхнічны інстытут у Санкт-Пецярбургу (1914). Выкладаў у камерцыйных школах. З 1.8.1918 да 1921 дырэктар рэальнай школы ў Ракаве. У 1921 за бел. дзейнасць арыштаваны польскімі ўладамі. Пасля вызвалення пераехаў у Навагрудак, дзе 1.9.1921 стаў дырэктарам Навагрудскай беларускай гімназіі (абраны бацькамі). З-за пераследу польскімі ўладамі вымушаны быў эміграваць у Францыю. Вярнуўся ў Зах. Беларусь у 1927. Пераведзены ўладамі ў Ашмяны. Там працягваўся ціск на Ц. Пасля нападу нацкаваных хуліганаў знявечаны. Памёр ад інфаркту. Пахаваны ў Вільні на Ліпаўскіх могілках.

Літ.: *Чэмер А.* [Анішчык А.] Наваградская Беларуская Гімназія. Вільнюс, 1997.

**ЦІКОТА Андрэй Феліксавіч** [5.12.1891, Дуброўская воласць Свянцянскага пав. Віленскай губ. —

21.2.1952 (паводле іншых звестак 11.2.1952), Усх. Сібір, ГУЛАГ], грэка-каталіцкі святар, законнік-марыянін, місіянер, архімандрыт, генерал Ордэна марыянаў, рэлігійны і грамадскі дзеяч, педагог. У маі 1909 вытрымаў экзамен на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Віленскай навучальнай акругі. З вер. 1909 вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. У час вучобы належаў да бел. культурна-асветнага гуртка. У ліку лепшых студэнтаў пасланы вучыцца за казённы кошт у Санкт-Пецярбург, дзе ў 1912 быў прыняты ў Мітрапалітальную духоўную каталіцкую акадэмію. Пасвечаны ў святары ў 1914. Удзельнік 1-га з'езда бел. каталіцкага духавенства (Мінск, 24—25.5.1917). Член саюза ксяндзоў-беларусаў. У 1917—18 святар у Маладзечне. У 1918 абраны членам Рады БНР. У вер. 1919 увайшоў у склад Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску. Прафесар Мінскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Арыштаваны бальшавіцкімі ўладамі ў 1920, але неўзабаве вызвалены. На пачатку 1920-х г. уступіў у навіцыят Ордэна марыянаў у мяст. Друя. Займаўся місіянерскай дзейнасцю ў ЗША. Пасля 1923 жыў у Друйскім кляштары марыянаў. Арганізаваў гімназію. Выступаў за шырокае ўвядзенне бел. мовы ў жыццё касцёла. Прадстаўляў бел. грэка-католікаў на 5-м Уніяцкім кангрэсе ў Велеградзе (Чэхаславакія, 20—24.7.1927). У 1933—39 двойчы абраны генералам

Ордэна марыянаў у Рыме. Праследаваўся польскімі свецкімі і духоўнымі ўладамі. У 1934 накіраваны адміністратарам Усх. місіі ў Харбін (Маньчжурыя). У снеж. 1948 з групай бел. святароў арыштаваны кітайскімі ўладамі; перададзены МДБ СССР. Прыгавораны да 25 гадоў лагераў.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Dzwonkowski R*. Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998; *Stankiewicz A*. Rodnaja mowa u swiatyniach. Wilnia, 1929; *Stankievič A*. Biełaruski chryścijanski ruch. Vilnia, 1939.

**ЦУЛУКІДЗЕ Тамара Рыгораўна** [6(19).12.1903, Тбілісі — 9.2.1991, Мінск], празаік, драматург, крытык, перакладчык. У 1921—24 вучылася ў Тэатральным інстытуце ў Тбілісі. Працавала ў тэатры імя Ш.Руставелі. Заслужаная артыстка Грузінскай ССР (1934). Літаратурнай дзейнасцю пачала займацца ў 1933. Выступала ў грузінскім друку з артыкуламі па тэатральных праблемах, з рэцэнзіямі на спектаклі. Пасля таго, як быў арыштаваны і расстраляны яе муж С.Ахметэлі, вымушана была пакінуць тэатр. Арыштавана ў 1936 як жонка ворага народа. У 1937—46 знаходзілася ў турмах, лагерах, на лесапавале, на земляных работах. Працавала санітаркай, медсястрой у Краснаярскім краі. З 1943 знаходзілася ў Комі АССР; арганізавала там тэатр лялек. Вызвале-

на датэрмінова ў 1946, засталася ў Комі АССР (Сыктыўкар; да 1948). Пераехала ў Курск, дзе ў 1949—50 працавала рэжысёрам абл. тэатра лялек. Зноў арыштавана ў 1950, выслана ў Красналярскі край. Уладкавалася ў калгас у пасёлку Абан (1950—55). У ссылцы пазнаёмілася з бел. пісьменнікам А.Пальчэўскім, які таксама быў рэпрэсаваны і ў 1948—55 знаходзіўся ў Краснаярскім краі. Узялі шлюб. Рэабілітавана ў 1956. Запрошана ў тэатр імя Ш.Руставелі; выконвала там вядучыя ролі. З 1959 на пенсіі; пераехала ў Мінск. У бел. друку выступала з 1959. Прапагандавала ў Грузіі бел. мастацтва, а ў Беларусі — грузінскае; перакладала з грузінскай на бел. мову і наадварот. Член СП Беларусі з 1967. Пахавана ў Тбілісі.

Тв.: Когда поднимается занавес: Беседы о театре. Мн., 1963; Голубой факел: Очерки. Мн., 1965; 2 изд., доп. Мн., 1970; К детям пришел вожатый. Мн., 1967; Твое честное слово: Одноактные пьесы для школьной самодеятельности. Мн., 1973; Всего одна жизнь. Тбилиси, 1983.

Літ.: *Канэ Ю*. «Я пражыла тры жыцці…» // *ЛіМ*. 1974, 24 лют.; *Мімрык А*. Шчырасць душы // *ЛіМ*. 1978, 15 снеж.; *БП*, т. 6.

**ЧАБАТАРЭВІЧ Віктар** [1906, мяст. Новы Свержань Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 7.10.1963, Нью-Йорк, ЗША], бел. паліт. і вайсковы дзеяч, педагог. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам у літоўскай вёсцы на поўначы Віленшчыны, пасля — у польскай школе ў зах. Польшчы. Дасылаў свае карэспандэнцыі ў віленскія выданні «Беларуская крыніца» і «Шлях моладзі». Летам 1941 па польскім даносе арыштоўваўся немцамі. Пазней працаваў у Генеральным школьным інспектарацэ. Разам з Вінцэнтам Гадлеўскім арганізоўвае антынямецкае падполле. У 1944 — капітан Беларускай Краёвай Абароны, камандзір афіцэрскай школы БКА ў Мінску. На эміграцыі — актыўны дзеяч прабэцээраўскага кірунку, жыў у ЗША. Супрацоўнічаў з газ. «Беларуская трыбуна». Рэпрэзентаваў бел. эміграцыю ў сусветных антыкамуністычных арганізацыях.

Літ.: *М.Ш.* [Мікола Шчорс]. Над святою магілаю // *Беларуская думка*. 1964, № 6; *Вяртаньне БНП*.

**ЧАБОР Янка** [сапр.: Патаповіч Іван Сцяпанавіч; 29.6(11.7).1911, в. Рачканы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Ляхавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 1943 ?, ГУЛАГ], паэт, публіцыст, удзельнік на-

цыянальна-вызваленчай барацьбы ў Зах. Беларусі. У 1931 скончыў Віленскую беларускую гімназію; вучыўся ў Віленскім ун-це. Першыя свае вершы змясціў у 1928 у рукапісным часопісе падпольнай камсамольскай групы Віленскай беларускай гімназіі «Васілёк» (№ 1). У 1931 апублікаваў «Адкрыты ліст» з заклікам да зах.-бел. пісьменнікаў аб'яднацца ў адзіную пісьменніцкую арганізацыю. Адзін са стваральнікаў Літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў Зах. Беларусі. 10.12.1933 на з'ездзе пісьменнікаў абраны рэдактарам-выдаўцом час. «Літаратурная старонка», які стаў друкаваным органам Літаратурнага фронту. Першы нумар часопіса выйшаў з друку 25.1.1934 і адразу быў канфіскаваны ўладамі. Ч. быў асуджаны на 5 гадоў пазбаўлення волі. Выйшаў з турмы ў вер. 1936 па амністыі. Заняўся арганізацыяй кааператываў у вёсках сваёй ваколіцы. У 1939 браў удзел у арганізацыі работы першых савецкіх устаноў у Зах. Беларусі. Арыштаваны ў 1939 [?]. Мяркуецца, што загінуў у лагеры.

Тв.: Заклік; Гэй, арлiная мая сiла: [Вершы] // *Літаратурная старонка*. 1934, 25 студз.; Заклік; «Гэй, арлiная мая сiла…»: [Вершы] // *Сцягі і паходні*. Мн., 1965.

Літ.: Палітычны працэс «Беларускай газеты» і «Асвы» // *Наша воля*. 1936, 12 крас.; *Міско Я.* Хлопец з вёскі Рачканы // *Міско Я.* Маё маўклівае сэрца. Мн., 1983; *БП*, т. 6.

**ЧАРВЯКОЎ Аляксандр Рыгоравіч** [8.3.1892, мяст. Дукора Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер вёска Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 16.6.1937, Мінск], паліт. дзеяч, публіцыст. У 1915 скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут. Мабілізаваны ў армію. У 1917 адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Удзельнік 1-га Усебеларускага з'езда 1917. У лют. — маі 1918 камісар Беларускага нацыянальнага камісарыята. 1.1.1919 як член Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада быў у ліку тых, хто падпісаў Маніфест пра абвяшчэнне БССР. У 1919 камісар асветы БССР, нам. наркама асветы Літоўска-Беларускай ССР. У 1920 начальнік аддзела РВС Зах. фронту, старшыня Мінскага губернскага ВРК, ВРК БССР. У 1920—24 старшыня ЦВК і СНК БССР, з 1922 адзін са старшыняў ЦВК СССР, з 1924 старшыня ЦВК БССР. Член ЦБ у 1920—24 і ЦК КП(б)Б з 1924, член ЦВК БССР у 1919 і 1920—37. Быў абвінавачаны ў антысавецкай дзейнасці. У час работы XVI з'езда КП(б)Б скончыў жыццё самагубствам. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: За Савецкую Беларусь. Мн., 1927; …Я ніколі не быў ворагам: Выбраныя артыкулы і прамовы; Успаміны сучаснікаў. Мн., 1992.

Літ.: *Якутов В.* А.Г.Червяков: Страницы биографии. Мн., 1978; *Яго ж*. Александр Червяков: Документальная повесть. Мн., 1986.

**ЧАРЖЫНСКІ Уладзіслаў Вікенцьевіч** [псеўданімы: Уладзіслаў Дзяржынскі; Улідзе; май 1897, в. Старакаменная Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 2.4.1974, Казань], крытык, літаратуразнавец. Вучыўся ў Гродзенскай гімназіі, пасля яе эвакуацыі перавёўся ў Мінскую гімназію, якую скончыў у 1918. У 1918—19 даваў прыватныя ўрокі ў мяст. Крайск і Пасадзец на Лагойшчыне. У 1925 скончыў этнолага-лінгвістычнае аддзяленне БДУ. Вучобу сумяшчаў з выкладчыцкай дзейнасцю на рабфаку (1922—24). З 1922 пачаў выступаць з крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі ў бел. друку. У 1925 супрацоўнік час. «Полымя». Працаваў у Інбелкульце і БелАН; адначасова выкладаў у Камуністычным ун-це Беларусі. Арыштаваны ДПУ БССР 28.6.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Па пастанове Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 высланы ў Казань тэрмінам на 5 гадоў. Застаўся жыць у Казані. Працаваў там выкладчыкам у розных ВНУ. Пасля арышту і высылкі адышоў ад літаратурнай дзейнасці. Рэабілітаваны 10.6.1988.

Тв.: Выпісы з беларускае літаратуры XIX і XX ст. з далучэннем уводных і крытычных артыкулаў... Мн., 1926; Да пытання аб псіхалагічным стылі нашаніўскай паэзіі. Мн., 1928; Янка Купала ў крытыцы нашаніўскіх сучаснікаў // *Янка Купала ў літаратурнай крытыцы*. Мн., 1928.

Літ.: *Возвращенные имена*; *БП*, т. 2.

**ЧАРНЕНКАЎ Антон Іванавіч** [1902, в. Іоны Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 4.2.1943], біёлаг. Кандыдат біялагічных навук. З 1931 працаваў старшым навуковым супрацоўнікам у Батанічным садзе БелАН. Арыштаваны 31.7.1938. Пастановай Асобай нарады пры НКВД СССР ад 9.2.1940 прыгавораны да 3 гадоў лагераў. Вызвалены 11.7.1942. Мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Загінуў на фронце. Рэабілітаваны 2.4.1957.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**ЧАРНЕЦКІ Мікола Антонавіч** [22.5.1899, в. Малыя Азяраны Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл. — 19.1.1944, Беласточчына], публіцыст, педагог, паліт. дзеяч. Паходзіў з сялянскай сям'і. У 1918 скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Да 1921 знаходзіўся ў бежанстве ў Расіі, дзе загінула ўся яго сям'я. З 1923 вучыўся ў Празе, скончыў Пражскі ун-т са ступенню доктара філасофіі (1929). Член Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, у 1923—29 уваходзіў у Замежнае бюро БПСР у Празе. У 1929 вярнуўся ў Зах. Беларусь, працаваў настаўнікам бел. гімназіяў у Радашковічах і Клецку. У 1939 сав. улады прызначылі яго дырэктарам школы ў в.Крынкі, з 1940 —

кіраўніком асветы Крынскага р-на. Арыштаваны НКВД, уцёк з-пад арышту. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце ў Беластоку. Удзельнік бел. нацыянальнага падполля. Па-зверску забіты польскімі тэрарыстамі.

Літ.: *Ёрш С.* Мучанік за беларускую ідэю // *Ніва*. 1996, 10 сак.; Choruży W. Mikolaj Charniecki (1899—1944)// Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1998, №9.

**ЧАРНУШЭВІЧ Дзмітрый Сільгч** [13.11.1882, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Мінскай вобл. — 28.6.1938, Мінск, НКВД], мовазнавец, дзяржаўны дзеяч. З 1917 член РКП(б); працаваў у Слуцкім павятовым выканкаме. У лют. — чэрв. 1918 на падпольнай рабоце на акупаванай тэрыторыі Беларусі. З кастр. 1918 у Маскве, працаваў у Белнацкаме і бел. секцыі РКП(б). У студз. — лют. 1919 член Часовага ўрада ССРБ, народны камісар сацыяльнага забеспячэння. У 1919 член ЦВК Літоўска-Беларускай ССР, член ЦВК БССР. З крас. 1919 на савецкай і партыйнай рабоце ў Мінскім і Смаленскім губкамах. У 1921—31 член ЦВК БССР, у 1924—27 член яго Прэзідыума. З сак. 1924 наркам унутраных спраў БССР, з вер. — сакратар ЦВК БССР. З 1927 старшыня Упраўлення дзяржаўнага страхавання БССР. У пачатку 1930-х г. — нам. дырэктара Інстытута літаратуры, мас-

тацтва і мовы БелАН. У час кампаніі чыстак пазбаўлены адказных пасад; працаваў картатэчнікам Мінскага аддзялення Беларускага ўпраўлення сельскагаспадарчага забеспячэння. Арыштаваны 25.1.1938. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда ў чэрв. 1938 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 2.12.1958.

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ЧАРНУШЭВІЧ Нічыпар Тодаравіч** [Фёдаравіч, Хведаравіч; 1(14).11.1900, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Мінскай вобл. — 18.2.1967, Мінск], паэт, перакладчык, драматург. Паходзіў з сялянскай сям'і; брат пісьменніка М.Хведаровіча. Падчас 1-й сусветнай вайны ў бежанстве ў Калузе. У 1917 вярнуўся на Радзіму; у 1917—20 настаўнічаў у Траянаўскім народным вучылішчы на Капыльшчыне. У 1922—28 вучыўся на сацыяльна-гістарычным аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ. Адначасова працаваў у школе малодшага каманднага і паліт. саставу 4-й Смаленскай дывізіі (1922—23), загадчыкам аддзела газ. «Савецкая Беларусь» (1924—29). Першыя вершы апублікаваў у 1923 у час. «Полымя»; публікаваўся ў час. «Маладняк», газ. «Савецкая Беларусь». Член літаб'яднання «Маладняк». У 1926 разам з М.Мо-

дэлем быў рэдактарам друкаванага органа бел. студэнцтва «Голас студэнта». З 1929 слухач Вышэйшых навукова-педагагічных курсаў пры 2-м Маскоўскім ун-це. Арыштаваны ДПУ БССР 27.3.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 прыгавораны да 5 гадоў ссылкі ў Вятку. У 1931—35 супрацоўнік газ. «Вятская правда» (пазней «Кировская правда»). У жн. 1935 абвінавачанні зняты (канчаткова рэабілітаваны ў 1960). У 1935—41 выкладчык гісторыі ў школах Масквы. У кастр. 1941 эвакуіраваўся ў Цюмень, дзе працаваў загадчыкам аддзела ў рэдакцыі газ. «Тюменская правда» (публікаваў там свае нарысы, вершы, сатыру). У 1947 вярнуўся ў Мінск. Працаваў начальнікам планавага аддзела Белсельгасзабеспячэння, з 1949 — выкладчык гісторыі Мінскай афіцэрскай школы, з 1952 старшы інжынер трэста папяровай прамысловасці. У розныя гады працаваў у Белдзяржвыдавецтве, на Беларускім радыё. Член СП Беларусі з 1957. Перакладаў на бел. мову творы рускіх, украінскіх, яўрэйскіх паэтаў. Пахаваны на Усх. могілках у Мінску.

Тв.: Дзіва: Вершы. Мн.,1927; Нясу надзею. Мн., 1962; Гаворка дум: Вершы. Мн., 1966; Выбраныя вершы. Мн., 1975.

Літ.: *Гарбук В.* Некалькі сустрэч з паэтам // *Полымя*. 1970, № 11; *Грахоўскі С.* Паэзіі радавы // *ЛіМ*. 1970, 13 ліст.; *БП*, т. 6.

**ЧАРНЫШЭВІЧ Аркадзь Дзмітрыевіч** [26.7(8.8).1912, в. Кулакі Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл. — 18.1.1967, Мінск], празаік, педагог. У 1926 скончыў Старобінскую сямігодку. Першы верш надрукаваў у 1926; першае апавяданне — у 1927 у час. «Чырвоны сейбіт». Падрыхтаваў і адаслаў у Белдзяржвыдавецтва зборнік апавяданняў «Хаты ажываюць», які не быў прыняты да друку. У 1928—30 працаваў на бацькавай гаспадарцы. У 1930 сям'я Ч. была раскулачана; бацьку адправілі на будаўніцтва Беламорканала, а сям'ю выслалі ў в. Зайцава Качоўскага р-на Комі-Пярмяцкай акругі. Ч. працаваў на лесараспрацоўках, загадчыкам мясцовай крамы, настаўнічаў. У 1934—49 — дырэктар Янчэрскай пачатковай школы. У 1934 ажаніўся з пярмячкай, мясцовай настаўніцай, за што яе на нейкі час пазбавілі працы. У 1940 скончыў Кудымкарскае педагагічнае вучылішча. Творчую работу не пакідаў: пісаў вершы, прозу, дасылаў рукапісы ў Мінск. Летам 1940 быў удзельнікам курсаў-канферэнцыі маладых аўтараў у Мінску. У 1950 пераехаў з сям'ёй на сталае жыхарства ў Беларусь. У 1950—54 быў дырэктарам Насовіцкай пачатковай школы Свірскага (цяпер Мядзельскага) р-на. Член СП Беларусі з 1954. З 1957 жыў у г. п. Радашковічы, друкаваўся ў раённай газ. «Сцяг Ільіча». Потым пераехаў у Мінск. Апошнія гады жыцця былі асабліва творча актыў-

ныя. Пахаваны на Усх. могілках. Яго імем названа вуліца ў Радашковічах; на доме, дзе Ч. жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

Тв.: Світанне: Раман. Мн., 1957; Выбр. тв: У 2 т. Мн., 1979; Засценак Малінаўка: Раман-хроніка. Ч. 1—2. Мн., 1964—1965 (У 2 ч. Мн., 1982).

Літ.: *Бугаёў Д*. Трапным вокам мастака // *Бугаёў Д*. Шматграннасць. Мн., 1970; *Шкраба Р*. Медны пятак і золата праўды // *Полымя*. 1971, № 7; *Куляшоў Ф*. Шлях да майстэрства // *Полымя*. 1972, № 8; *Шыловіч А*. Жаданая сустрэча // *Полымя*. 1980, № 7; *БП*, т. 6.

**ЧАРОТ Міхась** [сапр.: Кудзелька Міхась Сымонавіч; іншыя псеўданімы: Максім Бяднейшы; Юрка Куртаты; В.Чарот; крыптанімы: М.К.; М.К-ка; Ч.М.; М.Ч.; М.Ч-т; Ч-т; 7.11.1896, мяст. Рудзенск Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], паэт, драматург, празаік, рэдактар, грамадскі дзеяч. У 1917 скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Мабілізаваны ў армію; служыў афіцэрам запаснога палка ў Кузнецку. Вясной 1918 вярнуўся ў Мінск; пачаў настаўнічаць у бел. школе; паступіў у МВПІ. Спяваў у хоры Тэраўскага пры «Беларускай хатцы», быў старшынёй тэатральнай суполкі «Маладзік». Друкавацца пачаў у 1918. У 1919 член Белнацкама і створанай пры ім Вайсковай

Рады. Быў адным з арганізатараў Беларускай камуністычнай арганізацыі, якая ў студз. 1920 утварылася з членаў «Маладой Беларусі». З 1920 супрацоўнік, у 1925—29 рэдактар газ. «Савецкая Беларусь». У 1922 апублікаваў першы зборнік вершаў «Завіруха». У 1923 удзельнічаў у стварэнні літаб'яднання «Маладняк», з якога выйшаў у канцы 1927. Некаторы час быў членам літаб'яднання «Полымя», потым уступіў у БелАПП. У 1922—24 кандыдат у члены, у 1924—31 член ЦВК БССР. У 1924 вучыўся ў Маскве ў Дзяржаўным інстытуце журналістыкі. У 1930-я г. працаваў загадчыкам літаратурнага сектара Дзяржаўнага выдавецтва БССР, кансультантам у кабінеце маладога аўтара СП БССР. Арыштаваны 24.1.1937; прыгавораны 28.10.1937 да расстрэлу. Апошні верш «Прысяга» (пра асабістую невінаватасць) запісаў на сцяне мінскай унутранай турмы НКВД, дзе яго ўбачыў і захаваў у памяці М.Хведаровіч. Рэабілітаваны ў 1956. Імем Ч. названы вуліцы ў Маладзечне і Рудзенску.

Тв.: Творы: У 3 т. Мн., 1932—1936; Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1958; Выбраныя вершы і паэма «Босыя на вогнішчы». Мн., 1967; Выбранае. Мн., 1982.

Літ.: *Ярош М.* Міхась Чарот: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1963; *Яго ж.* Міхась Чарот. Мн., 1966; *Песняр революционной романтики.* Мн., 1983; *БП*, т. 6.

**ЧАТЫРКА Міхал** [1883, мяст. Любча Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — пасля 1939, Краснаярскі край, ГУЛАГ], педагог. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, Віленскі педагагічны інстытут (матэматычны ф-т). Настаўнічаў на Навагрудчыне (в. Сенна, мяст. Мір, Навагрудак). З 1924 працаваў у Навагрудскай настаўніцкай гімназіі. У яго хаце хаваліся тыя, каго шукала паліцыя, — пераважна камсамольцы. Ч. праводзіў іх праз мяжу на савецкі бок. Пасля закрыцця польскімі ўладамі ў 1934 гімназіі пераведзены ў Зах. Польшчу (Цеханув). Пасля вер. 1939 вярнуўся ў Любчу. Арыштаваны НКВД. Загінуў у лагеры.

Літ.: *Чэмер А.* [Анішчык А.] Наваградская Беларуская Гімназія. Вільнюс, 1997.

**ЧАЧОТ Ян Антоні** [псеўданім: Tłumacz Piosnek wieśniaczych z nad Niemna i Dźwiny; крыптанімы: Jan Cz…t; Jan Cz…tt; F. Kol…; 24.6.1796, в. Малюшычы Навагрудскага пав. Слонімскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 11.8.1847, Друскенікі], паэт, фалькларыст, мовазнавец. У 1809 паступіў у павятовую школу дамініканаў у Навагрудку, дзе пазнаёміўся і пасябраваў з А.Міцкевічам. Восенню 1816 паступіў на аддзяленне маральных і паліт. навук Віленскага ун-та. З-за ма-

тэрыяльных праблем пакінуў вучобу і ўладкаваўся на працу ў віленскае бюро па ўпарадкаванні архіваў Радзівілаў. Часта выязджаў у Мінск, Навагрудак, Варшаву. У 1818 быў прыняты ў Таварыства філаматаў. На паэтычным турніры філаматаў, які адбыўся 21.12.1818 у Вільні, быў прызнаны трэцім (пасля А.Міцкевіча і Т.Зана) паэтам. З 1820 узначаліў Блакітны (літаратурны) аддзел у складзе Таварыства філарэтаў. Арыштаваны 10.10.1823 у час выкрыцця тайных студэнцкіх згуртаванняў пры Віленскім ун-це. Зняволены ў базыльянскіх мурах да 22.10.1824. У зняволенні склаў рукапісны зборнік «Песенкі і іншыя вершы», які ўдалося перадаць на волю. Сасланы спачатку ў крэпасць Кізіл, у маі 1825 адпраўлены ва Уфу. У 1828 паступіў там на дзяржаўную службу. З 1830 жыў у Цверы. З 1833 пасяліўся ў Лепелі, дзе працаваў у кіраўніцтве Бярэзінскага канала. У 1841 атрымаў дазвол пераехаць на Навагрудчыну, працаваў у Шчорсаўскай бібліятэцы да смерці яе ўладальніка А.Храптовіча (1844). Вясной 1847 выехаў на лячэнне ў Друскенікі, дзе і памёр. Пахаваны ў в. Ротніца, цяпер Літва.

Тв.: Наваградскі замак: Творы. Мн., 1989; Выбр. тв. Мн., 1996.

Літ.: *Windakiewicz S.* Jan Czeczot. Kraków, 1934; *McMillin A.* Jan Czeczot in Byelorussian and Polish literature // *Journal of Byelorussian Studies*. 1969, № 1; *Каханоўскі Г.* Уральская ссылка Яна Чачота // *Каханоўскі Г.* Адчыніся, таямніца часу. Мн., 1984; *БП*, т. 6; *АЗБ*.

*Леанід Маракоў*

**ЧОРНЫ Кузьма** [сапр.: Раманоўскі Мікалай Карлавіч; іншыя псеўданімы: Максім Алешнік; М.Біруля; Ігнат Булава з-пад Турава; Вясёлы; М.Сідарэўскі; Сусед-вясёлы; Раман Талапіла; Арцём Чамярыца; Сымон Чарпакевіч; А.Чорны; крыптанімы: Р.М.; М.Р-скі; К.Ч.; 11(24).6.1900, маёнтак Лапацічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер в. Борка-Бялевічы Капыльскага р-на Мінскай вобл. — 22.11.1944, Мінск], празаік, драматург, публіцыст. Скончыў Цімкавіцкае народнае вучылішча, у 1916 паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Скончыць семінарыю не ўдалося, бо ў 1919 польскія ўлады яе зачынілі. Першыя артыкулы і вершы апублікаваў у 1920. У 1923 паступіў на літаратурнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ, дзе правучыўся два курсы. З 1923 член літаб'яднання «Маладняк». Яшчэ студэнтам у 1924 пачаў працаваць у газ. «Беларуская вёска». У 1925 выйшлі першыя кнігі — «Апавяданні» і «Срэбра жыцця». У 1926—31 быў старшынёй літаб'яднання «Узвышша». У 1932—37 — галоўны літкансультант кабінета маладога аўтара пры СП БССР. Член СП Беларусі з 1934. Арыштаваны 14.10.1938. Прасядзеў у Мінскай турме 8 месяцаў, з іх 6 — у камеры-адзіночцы. Быў катаваны. Вызвалены 8.6.1939. У 1941—44 знаходзіўся ў эвакуацыі (пераважна ў Маскве). Удзельнічаў у выданні газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Летам 1944 вярнуўся ў Мінск, працаваў у рэдакцыі час. «Бела-

русь». Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску. У 2000 на Капыльшчыне адкрыты два мемарыяльныя знакі.

Тв.: Зб. тв.: У 6 т. Мн., 1954—1955; Зб. тв.: У 8 т. Мн., 1972—1975; Зб. тв.: У 6 т. Мн., 1988—1990.

Літ.: *Ватацы Н.* Кузьма Чорны. 1900—1944. Бібліяграфічны даведнік. Мн., 1954; *Адамовіч А.* Маштабнасць прозы: Урокі творчасці К.Чорнага. Мн., 1972; *Булацкі Р., Саčанка І.* Кузьма Чорны — публіцыст. Мн., 1972; *Казека Я.* Кузьма Чорны. Мн., 1980; *Пяткевіч А.* Сюжэт. Кампазіцыя. Характар: Аб прозе Кузьмы Чорнага. Мн., 1981; *Навуменка І.* Ранні Кузьма Чорны. Мн., 2000; *БП*, т. 6.

**ЧЫЖЫК Мельхіёр** [Czyżyk Melchior; 21.10.1835, Мінск — 1900 ?, Якуція], паўстанец, вайсковец, паэт. Вучыўся ў Канстанцінаўскім кадэцкім корпусе ў Полацку. У 1856 атрымаў чын падпаручніка, служыў у Маскоўскім грэнадзёрскім палку. Калі пачалося паўстанне 1863, полк атрымаў загад накіравацца ў Варшаву. Не жадаючы ваяваць супраць суайчыннікаў, Ч. падаў у адстаўку, потым сімуляваў хваробу. Пасля неэфектыўнасці такіх захадаў спрабаваў перавесціся ў Маскоўскі корпус дзяжурных афіцэраў. Калі і гэта не ўдалося, паехаў да сваякоў у Мінскую губ. і ў пачатку мая 1863 уступіў у паўстанцкі атрад Барысаўскага пав., які злучыўся з атрадам Вілейскага пав. Пасля гібелі камандзі-

ра аб’яднанага атрада В.Козела Ч. прыняў камандаванне. У жн. атрад аб’яднаўся з паўстанцамі Ігуменскага пав.; камандзірам новага аб’яднанага атрада быў С.Ляскоўскі. Восенню 1863 С.Ляскоўскі распусціў атрад. Ч. прапаноўвалі выехаць за мяжу, але ён вырашыў накіравацца ў Пецярбург і прасіць там амністыі. Пешшу дайшоў да Віцебска, пасля даехаў на конях да Смаленска, адкуль павярнуў на Ельню. Знясілены фізічна і духоўна 2.12.1863 здаўся паліцыі. Следства адбывалася 16—28.1.1864 у Мінску. Ваенны трыбунал 3.3.1864 у Мінску прыгаварыў яго да смяротнага пакарання, замененага пажыццёвай катаргай. Генерал-губернатар Мураўёў зменшыў тэрмін да 20 гадоў. У 1878 цар Аляксандр II вызваліў Ч. ад паліцэйскага нагляду і дазволіў выбраць месца жыхарства, апроч сталіц і зах. губерняў, з забаронай дзяржаўнай службы. Застаўся жыць у Якуціі. Пісаў вершы.

Літ.: *Zieliński St.* Bitwy i potyczki 1863—1864. Rapperswill, 1913; *PSB*, z. 16.

**ЧЭРСКІ Іван Дзяменцевіч** [15.5.1845, фальварак Свольна Дрысенскага пав. Віцебскай губ., цяпер вёска Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. — 7(19).7.1892, пас. Калымскі, Якуція], гео-

лаг, палеантолаг, географ, публіцыст. У 1857—59 вучыўся ў гімназіі, у 1859—63 — у Віленскім шляхецкім інстытуце. За ўдзел у паўстанні 1863—64 арыштаваны; аддадзены ў салдаты і адпраўлены ў Омск. Там пачаў займацца геалагічнымі і палеанталагічнымі даследаваннямі. У 1869 вызвалены ад вайсковай службы. Да 1883 — паліт. ссыльны. Праводзіў даследаванне ваколіц Омска, вывучаў берагі возера Байкал (склаў першую геалагічную карту яго ўзбярэжжа), даследаваў басейн рэк Селенга і Ніжняя Тунгуска. Амніставаны ў 1885 і па запрашэнні Пецярбургскай АН пераехаў у Пецярбург. Узнагароджаны 3 залатымі медалямі Рускага геаграфічнага таварыства. У 1891—92 даследаваў басейн рэк Калыма і Індыгірка (Якуція). Памёр у экспедыцыі. Пахаваны ў пас. Калымскі каля вусця ракі Амалон. Яго імем названа сістэма горных хрыбтоў у Якуціі, Магаданскай вобл., хрыбет у Забайкаллі.

Тв.: Неопубликованные статьи, письма и дневники // *Статьи о И.Д.Черском и А.И.Черском*. Иркутск, 1956.

Літ.: *Алдан-Семенов А. И.*Черский. М., 1962 (Жизнь замечательных людей); *Грицкевич В.П.* Путешествия наших земляков. Мн., 1968. С. 187—205; *Ламакин В.* Героика одной жизни // *Неман.* 1970, № 12; *АЗБ.*

**ШАЛАЙ Макар** [сапр.: Шалаеў Макар Ксенафонтавіч; 17.2.1906, в. Цельцы Расонскага р-на Віцебскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], крытык. Скончыў партшколу ў Віцебску. У 1925—26 працаваў сакратаром Народнага дома пры выканкаме Расонаў. Член «Беларускай літаратурна-мастацкай камуны» (1927—28). Друкаваўся ў час. «Росквіт». Працаваў у газ. «Чырвонаармейская праўда». Выступаў з рэцэнзіямі на творы П.Броўкі, А.Александровіча, Я.Скрыгана, Г.Брэскай і інш. У 1928 паступіў у БДУ (пры дапамозе наркама асветы А.Баліцкага і П.Шукайлы). Восенню 1928 стаў членам «Маладняка», потым БелАППа. Арыштаваны 15.3.1933 па справе «Беларускай народнай Грамады». Пасля катаванняў быў вызвалены з дыягназам шызафрэнія, справа спынена 11.7.1933. У сярэдзіне 1930-х г. выкладаў літаратуру ў Расонскай СШ. Зноў арыштаваны 17.11.1936. Вярхоўным судом СССР 28.10.1937 прыгавораны да расстрэлу.

Літ.: *Маракоў Л.* «Ён не мысліў сябе без спрэчак…» // *ЛіМ*. 1999, 26 лют.; *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000.

**ШАНТЫР Фабіян Гіляравіч** [псеўданімы: Н.Светлов; А.Хмара; крыптанімы: Ф.Ш.; Ф.Ш-р; Фабіян Шан-р; Ш.Ф.; 23.1(4.2).1887, Слуцк —

29.5.1920, Навазыбкаў], публіцыст, празаік, паэт, перакладчык, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. За ўдзел у рэвалюцыйных падзеях зняволены ў Слуцкай турме (1905—07). У 1909 жыў у Слуцку; з 1910 у Капылі. Працаваў мулярам, адвакатам, настаўнікам. Друкавацца пачаў у газ. «Наша ніва», дзе ў 1909—12 змяшчаў празаічныя абразкі-імпрэсіі; там жа апублікаваў некалькі паэтычных твораў. У 1914 мабілізаваны ў войска, служыў наглядчыкам палявога шпіталя ў Бабруйску. У 1916—17 удзельнічаў у рабоце клуба «Беларуская хатка», куды прыязджаў з Бабруйска. У 1917 стаў адным з лідэраў левага крыла Беларускай сацыялістычнай грамады. На З'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый (Мінск, 25—27.3.1917) абраны ў БНК; у ліп. 1917 — у Цэнтральную раду бел. арганізацый і партый. Удзельнічаў у 1-м Усебеларускім з'ездзе (снеж. 1917). У 1918 супрацоўнік Слуцкага павятовага ваеннага камісарыята, загадчык Смаленскага аддзялення Белнацкама. Адзін з аўтараў зб. «Зажынкі» (М., 1918). У тым жа годзе арыштаваны. У пачатку 1919 камісар па нацыянальных справах Часовага ўрада БССР. Пасля — супрацоўнік Мінскага губернскага ваеннага камісарыята і Асобай харчовай камісіі Зах. фронту. Удзельнічаў у выданні газ. «Савецкая Беларусь». У лют. 1920 мабілізаваны ў Чырвоную Армію. 17.4.1920 арыштаваны і расстраляны.

Тв.: Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусаў і самаадзначэння народу. Слуцк, 1918; У час барацьбы: [Верш у прозе] // *Крыніца*. 1988, № 11.

Літ.: *Казбярук У*. Рамантычны пошук. Мн., 1983; *Гарэцкі М*. Шантыр Фабіян // *Гарэцкі М*. Гісторыя беларускай літаратуры. Мн., 1992; *Мяснікоў А*. Наццэмы: Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага і Язэпа Лёсіка. Мн., 1993; *Черепко С*. Капкан. Загадка смерти наркома Фабияна Шантыра // *Советская Белоруссия*. 2000. 26 августа; *БП*, т. 6.

**ШАСТАКОЎ Павел Пятровіч** [1899, Мсціслаўскі пав. Магілёўскай губ. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], рэдактар, журналіст. З 1905 працаваў настаўнікам школы граматы ў в. Шэнькаўка Мсціслаўскага пав. У 1907 паступіў у Полацкую настаўніцкую семінарыю. З 1912 настаўнічаў у Мсціславе. У жн. 1913 быў залічаны ў Віцебскі настаўніцкі інстытут. З пачаткам 1-й сусветнай вайны мабілізаваны ў войска. У 1916 стаў прапаршчыкам. Ваяваў на Румынскім фронце. У 1917 пераведзены ў Маскву. У пачатку 1918 вярнуўся ў Мсціслаў. Удзельнічаў у падрыхтоўцы першага павятовага з’езда Саветаў. Працаваў загадчыкам аддзела народнай асветы. Зімой 1920 прызначаны ваенным камісарам пав. Потым стаў рэдактарам павятовай газ. «Думы бедняка», у якой публікаваў свае артыкулы і вершы. У 1920 пераехаў у

Мінск. Служыў начальнікам палітасветы губваенкамата. З-за хваробы пакінуў армію. З 1921 працаваў у Мсціславе загадчыкам павятовага зямельнага аддзела. Потым быў прызначаны загадчыкам аддзела народнай асветы Магілёўскага акруговага выканкама. Пісаў нарысы і артыкулы па-беларуску і па-руску, публікаваўся ў мясцовай прэсе, у газ. «Савецкая Беларусь». Восенню 1926 пераведзены ў Маскву, прызначаны загадчыкам бел. сектара Камуністычнага ун-та нацыянальных меншасцей Захаду імя Ю.Мархлеўскага, дзе таксама выкладаў бел. мову і літаратуру. Арганізаваў у Маскве святкаванне 20-годдзя літаратурнай дзейнасці Якуба Коласа. Быў адным з укладальнікаў зборніка артыкулаў «Літаратурная творчасць К.М.Міцкевіча (Якуба Коласа)» (М., 1928), аўтар уступнага артыкула ў зборніку. Удзельнічаў у стварэнні Цэнтральнага беларускага клуба ў Маскве (лют. 1928), член праўлення клуба. З восені 1928 у Мінску, нам. наркама асветы БССР. Сябраваў з Я.Купалам. З чэрв. 1929 рэдактар газ. «Рабочий». У вер. 1929 прызначаны рэдактарам газ. «Савецкая Беларусь», дзе публікаваў свае нарысы і артыкулы. У апошнім нумары газеты выступіў з крытыкай бюракратычных парадкаў (артыкул «Лісты знізу»). 22.3.1933 газета была закрыта. У маі 1933 прызначаны рэдактарам газ. «Калгаснік Беларусі». З малавядомай зрабіў гэтую газету папулярнай сярод чытачоў і аўтараў. У жн. 1935 газета закры-

та. Ш. прызначаны дырэктарам Белдзяржвыдавецтва. Арыштаваны ў пачатку 1937. Прыгавораны да расстрэлу.

Тв.: Да новых перамог на культурным фронце // *Савецкая Беларусь*. 1928, 14 кастр.; Лісты знізу // *Тамсама*. 1933, 21 сак.

Літ.: *Карніловіч Э.* Сябра Янкі Купалы // *Маладосць*. 1995, № 10.

**ШАПРАН Усевалад** [?, Дзісеншчына — 1941, Мінск, НКВД], паэт. Па прафесіі медык. У 1930-я г. друкаваўся ў час. «Шлях моладзі». Расстраляны пры адступленні Чырвонай Арміі з Мінска.

**ШАТЭРНІК Мікалай Васілевіч** [11.9.1890, в. Старына Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. — 2.12.1934], мовазнавец, краязнавец, педагог. У 1914 скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам на Міншчыне (1914—29). У 1933 скончыў МВПІ. У 1933—34 выкладаў бел. мову і літаратуру ў Аршанскім педтэхнікуме. Выступаў у друку з артыкуламі на педагагічныя і метадычныя тэмы. Займаўся краязнаўчай работай, збіраў прыклады народнай дыялекталагічнай лексікі на тэрыторыі былога Ігу-

менскага пав., уклаў адпаведны слоўнік (каля 9 тыс. слоў). Арыштаваны ў 1934.

Тв.: Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны. Мн., 1929.

Літ.: *Германовіч І.К.* Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця і навуковай дзейнасці. Мн., 1985; *Беларуская мова.*

**ШАШАЛЕВІЧ Васіль Антонавіч** [9.1.1897, паводле іншых звестак 1.1.1897, в. Мхінічы Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі р-н Магілёўскай вобл. — 23.10.1941, ГУЛАГ], драматург, паэт. Брат празаіка А.Мрыя. Вучыўся ў духоўным вучылішчы, у Магілёўскай духоўнай семінарыі (1910—14), Яраслаўскім юрыдычным ліцэі (1915—16). З-за матэрыяльных праблем скончыць ліцэй не здолеў. З 1917 настаўнічаў у в. Ясенцы і ў мяст. Краснаполлі на Магілёўшчыне, у Мінску. У 1918 разам з братам і сёстрамі стварыў народны тэатр у Краснаполлі, пісаў для яго аднаактоўкі. На прафесійнай сцэне яго першая драма «Апраметная» (другая назва «Зруйнаваная цемра») пастаўлена 16.5.1925 Беларускай тэатральнай студыяй у Маскве. У 1926—27 «Апраметная» ішла на сцэне БДТ-2, створанага на аснове Беларускай тэатральнай студыі ў Маскве. Наступная п’еса «Змрок» была пастаўлена БДТ-1 у Мінску 30.1.1927; драма «Сімфонія гневу» пастаўлена БДТ-1 3.3.1935. Першы верш «Сож» апублікаваў у 1927 у час. «Узвышша». У дру-

гой палове 1920-х г. працаваў сцэнарыстам на кінафабрыцы. Арыштаваны ДПУ БССР у ліп. 1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; знаходзіўся пад следствам да лют. 1931. Паўторна арыштаваны 28.10.1936; прыгавораны да 10 гадоў лагераў. У Томасінглагу для аматарскага тэатра напісаў п'есу на тэму лагернага жыцця. Змест п'есы не спадабаўся лагернаму кіраўніцтву. Ш. быў адпраўлены на лесапавал, дзе трагічна загінуў.

Тв.: Рой: [П'еса] // *Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі*. Мн., 1975. Т. 2; Сімфонія гневу: [П'еса] // *Тэатральная Беларусь*. 1992, № 4.

Літ.: *Хведаровіч М.* Мой шчыры, сціплы таварыш // *ЛіМ*. 1977, 7 студз.; *Грахоўскі С.* Аўтар «Сімфоніі гневу» // *Грахоўскі С.* Так і было. Мн., 1986; *Азгур З.* Гаварыў ён шчыра… Згадка пра Васіля Шашалевіча ў ягонае 90-годдзе // *ЛіМ*. 1987, 9 студз.; *Грахоўскі С.* Два лёсы — дзве трагедыі // *Маладосць*. 1988, № 1; *БП*, т. 6.

**ШКІЛЬТЭР Карл Юр'евіч** [14.6.1891, Латвія — 4.2.1941, ГУЛАГ], гісторык, бібліёграф. Працаваў у латышскім сектары БелАН. Быў дырэктарам Дзяржаўнай бібліятэкі БССР. Арыштаваны 3.12.1937. Паводле пастановы Асобай нарады НКВД ад 10.9.1940 асуджаны на 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў ва Ухта-Іжэмскім лагеры, дзе і загінуў. Рэабілітаваны 24.6.1957.

Кр.: *НАРБ, ІКР*.

**ШКЯЛЁНАК Мікалай Мікалаевіч** [1899, Дзісенскі пав. Віленскай губ. — 1947, НКВД], юрыст, гісторык. Скончыў юрыдычны ф-т Віленскага ун-та. Кіраваў бел. студэнцкай арганізацыяй. У 1936 далучыўся да бел. нацыяналістычнага руху, у 1940 пасяліўся ў Берліне, супрацоўнічаў з газ. «Раніца», потым быў яе рэдактарам. У 1942 накіраваны ў Мінск на работу ў Генеральны камісарыят. У 1943 увайшоў у склад БЦР, першы віцэ-прэзідэнт БЦР. Адзін з арганізатараў 2-га Усебеларускага кангрэса, на якім выступіў з асноўным дакладам. Выехаў у Берлін, дзе ўзначаліў калегію Рады БЦР. У 1946 арыштаваны ў Польшчы і прывезены ў Мінск. Расстраляны.

Тв.: У трохсотыя ўгодкі сьмерці Вялікага Канцлера Льва Сапегі // *Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства*. Вільня. 1933. Кн. 1; асобнае выд. — Вільня, 1933; перавыданне — *Спадчына*. 1991, № 1.

Літ.: *Соловьев А.* Белорусская Центральная рада. Создание, деятельность, крах. Мн., 1995. С. 174; *Вяртаньне БНП.*

**ШЛОСБЕРГ Яфім Паўлавіч** [6.12.1906, Вільня — 1970, Мінск], гісторык. У 1928 скончыў БДУ. У 1937—41 загадчык кафедры гісторыі МВПІ, адначасова працаваў у Інстытуце гісторыі БелАН. Удзельнік 2-й сусветнай вайны. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Арыштаваны ў час кам-

паніі «барацьбы з касмапалітамі» 6.11.1948. Асобай нарадай пры МДБ БССР 23.4.1949 прыгавораны да 10 гадоў лагераў. Пакаранне адбываў у Тайшэтлагу (Іркуцкая вобл.). 3.10.1955 Судзебнай калегіяй Вярхоўнага суда БССР тэрмін пакарання быў зменшаны да 7 гадоў. Вызвалены. Рэабілітаваны Прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 9.5.1956. У 1956—64 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ШЛЮБСКІ Аляксандр Ануфрыевіч** [псеўданімы: Алеся Гаротная; Звястун; А.Зніч; Казальнік; Этнограф; крыптанімы: А.; А.Г.; А.Ш.; Ал.Ш.; Ал.Ш-скі; 4(16).6.1897, в. Межава Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Расонскі р-н Віцебскай вобл. — 1941 ?, ГУЛАГ], літаратуразнавец, этнограф, фалькларыст, бібліёграф. Паходзіў з мяшчанскага саслоўя. З 1919 распачаў этнаграфічныя і фалькларыстычныя даследаванні. У 1922 скончыў Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута. У 1918—23 удзельнічаў у арганізацыі архіўнай справы ў Віцебску, Полацку, Веліжы, Оршы. З 1923 навуковы супрацоўнік Інбелкульта; у 1929—30 — Інстытута гісторыі БелАН. Супрацоўнічаў з

многімі часопісамі як краязнаўчага накірунку («Наш край»), так і літаратурнага («Полымя», «Узвышша», «Маладняк», «Радавая рунь»). Вынікі даследаванняў Ш. былі выдадзены Інбелкультам у 1927 і 1928 (2 часткі) пад назвай: «Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны». У 1927 выйшлі з друку «Матэрыялы да беларускай бібліяграфіі». Арыштаваны ДПУ БССР 3.4.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; паводле пастановы Калегіі АДПУ ад 10.4.1931 высланы тэрмінам на 5 гадоў у Ніжні Ноўгарад (па гэтай справе рэабілітаваны 19.9.1960). Паўторна арыштаваны ў чэрв. 1935 УНКВД па Ленінградскай вобл. Асобай нарадай пры НКВД СССР 16.11.1935 прыгавораны да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. У 1990 пракуратура Ленінграда адмовіла ў рэабілітацыі па гэтай справе.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Тв.: Сведения по собиранию устного народного творчества в Белоруссии. Велиж, 1919; Паны і сяляне ў першай палове XIX стагоддзя. Мн., 1924; Бядуля як этнограф. Мн., 1925; Матэрыялы да крыўскай гісторапісі: Доля кнігасховаў і архіваў зямель крыўскіх і былога Вялікага княства Літоўскага. Коўна, 1925; Крашаніна (набіванка). Віцебск, 1925; Гісторыка-этнаграфічныя нататкі. Мн., 1928; Набойка. Мн., 1928; Этнаграфічная дзейнасць Е.Р.Раманава. Мн., 1928.

Літ.: *Возвращенные имена*; *БП*, т. 6.

**ШПЕНЦЭР Барыс Маркавіч** [1890, Херсон — 3.4.1938, НКВД], хімік. Скончыў Новарасійскі ун-т (Адэса), Маскоўскі тэхналагічны інстытут і 2 курсы Інстытута чырвонай прафесуры. У час грамадзянскай вайны працаваў у савецкіх і партыйных органах Украіны. У 1924—27 у Хімічным інстытуце імя Л.Я.Карпава (Масква). У 1932—34 член Прэзідыума і вучоны сакратар Камітэта па хімізацыі СССР. У 1935—37 старшыня Савета па вывучэнні вытворчых сіл БССР і кіраўнік сектара хімічнай тэхналогіі Інстытута хіміі БелАН. Член-карэспандэнт БелАН (1936), доктар хімічных навук, прафесар. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.4.1938 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 28.11.1956.

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ШУКАЙЛА Паўлюк** [Павел Захаравіч; псеўданім: Паўлюк Заходні; крыптанім: П.З-ні; 1904, в. Лапенеўцы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — 14.4.1939, Мінск, НКВД], паэт, крытык, празаік. У першай палове 1920-х г. удзельнічаў у падпольным рэвалюцыйным руху ў Зах. Беларусі; прыкладна ў 1923 стаў членам КПЗБ. У канцы 1924 або пачатку 1925 перайшоў польска-савецкую мяжу. Далучыўся да дзейнасці літаб'яднання «Маладняк». У

1925 выехаў у Слуцк, дзе арганізаваў філію «Маладняка», быў рэдактарам акруговай газеты, спрыяў выпуску літаратурнага альманаха. Неўзабаве перабраўся ў Расоны, працаваў сакратаром райкама партыі, удзельнічаў у рабоце Полацкай філіі «Маладняка». Адначасова з'яўляўся старшынёй камісіі па праверцы ходу беларусізацыі ў раёне. У 1926 прыехаў у Мінск, паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ. Стаў ініцыятарам стварэння новага літаб'яднання «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна». У крытычных артыкулах быў досыць непрымірымы да сваіх літаратурных апанентаў. У 1928 адкамандзіраваны на вучобу ў Камуністычную акадэмію ў Маскве. У 1930 скончыў пры ёй Інстытут чырвонай прафесуры. У 1930—31 працаваў загадчыкам кафедры метадалогіі мастацтва ў Інстытуце кінематаграфіі. Да 1931 кіраўнік Беларускай секцыі Маскоўскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Быў рэдактарам газ. «Кино» (Масква), дырэктарам Цэнтральнага тэхнікума тэатральнага мастацтва. Арыштаваны АДПУ СССР у вер. 1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Яму ўдалося адвесці ад сябе абвінавачанні, справа была спынена. З 1932 у Ленінградзе, віцэ-прэзідэнт Дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Прафесар (1933). З 1936 зноў у Маскве. Паўторна арыштаваны 1.11.1938. Вінаватым сябе не прызнаў. Прыгавораны да расстрэлу 13.4.1939. Рэабілітаваны 14.4.1959.

Тв.: Акрываўленая зямля: Паэзія. Мн., 1930.

Літ.: *Скрыган Я.* Госці з Мінска // *Скрыган Я.* Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1979; *Багдановіч І.Э.* Авангард і трацыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння. Мн., 2001. С. 364—368; *БП*, т. 6.

**ШУКЕВІЧ-ТРАЦЦЯКОЎ Радыён Канстанцінавіч** [23.11.1893, в. Навіны, цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — 10.2.1942, Паўночлаг], журналіст, дзяржаўны і паліт. дзеяч. З 1918 на савецкай рабоце ў Слуцку і Смаленску. У 1919—21 служыў у Чырвонай Арміі. У 1922—24 у Галоўным упраўленні палітыка-асветнай работы, старшыня Галоўнага ўпраўлення па справах літаратуры і мастацтва Наркамасветы БССР, сакратар Мінскага павятовага камітэта КП(б)Б. З 1924 рэдактар газ. «Беларуская вёска». У 1931—36 навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі, загадчык масавага сектара БелАН. У час чысткі ў кастр. 1935 выключаны з КП(б)Б; у 1936 пазбаўлены работы ў БелАН. Працаваў метадыстам у шахматным клубе. Арыштаваны 18.8.1938. Па пастанове Асобай нарады НКВД ад 9.2.1940 прыгавораны да 5 гадоў лагераў. Быў накіраваны ў Паўночлаг, дзе і памёр. Рэабілітаваны 2.2.1956.

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ШУТОВІЧ Віктар** [27.10.1890, в. Шутавічы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 1.3.1960, Барысаў], рыма-каталіцкі святар, педагог, публіцыст. Вучыўся ў Ашмянскай гарадской школе. З 1909 — клірык Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. У час вучобы далучыўся да бел. культурна-асветнага руху. Пасвечаны ў святары 16.6.1913 у Вільні. Прадоўжыў вучобу за свой кошт ў Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі ў Санкт-Пецярбургу. Пасля прыходу да ўлады бальшавікоў вымушаны быў спыніць вучобу. Пачаў службу вікарыем у парафіі Барадзенічы Браслаўскага пав. Распаўсюджваў сярод вернікаў бел. рэлігійныя і свецкія выданні, перыёдыку. Арганізаваў некалькі бел. школ. За сваю дзейнасць праследаваўся польскімі царкоўнымі і свецкімі ўладамі, падвяргаўся нападкам на старонках польскай «эндэцкай» прэсы. З 1925 некалькі разоў праводзілася следства па яго дзейнасці. Нейкі час быў пазбаўлены права самастойна кіраваць парафіяй. З 1927 служыў вікарыем у польскай парафіі Тшцяне. У 1929 выехаў у ЗША, дзе знаходзіўся да жн. 1932. Пасля вяртання прызначаны вікарыем у мясцовасць Харошча (пад Беластокам). Супрацоўнічаў з бел. свецкімі і рэлігійнымі перыядычнымі выданнямі. Напісаў драму «950 гадоў хрысціянства на Беларусі». Да 1943 заставаўся ў Харошчы. Пасля адступлення немцаў пераехаў у Мінск,

дзе стаў пробашчам кафедральнага касцёла. Арыштаваны 26.1.1945. Да 1956 знаходзіўся ў лагерах Комі АССР. Вярнуўся ў Беларусь. Апошнія гады быў пробашчам у Барысаве. Пахаваны на мясцовых каталіцкіх могілках.

Тв.: Маёвая чытанка. Вільня, 1940.

Літ.: *Гарбінскі БРД*.

**ШУТОВІЧ Янка** [Іван Іосіфавіч; псеўданімы: Іван Дубневіч; Ян Дубневіч; Я.Сцяблінскі; крыптанімы: І.Ш.; Я.Ш.; Я.Ш-ч і інш.; 11(24).1.1904, в. Шутавічы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 9.12.1973, Вільня], літаратуразнавец, выдавец, грамадскі і культурны дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Першыя публікацыі ў зах.-бел. друку з'явіліся ў 1927. У 1934 скончыў юрыдычны ф-т Віленскага ун-та; магістр права. Належаў да партыі хрысціянскіх дэмакратаў. Працаваў карэктарам у бел. друкарні імя Ф.Скарыны. Член Беларускага студэнцкага саюза і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Вільні. У 1935—39 быў выдаўцом і рэдактарам літаратурна-навуковага час. «Калоссе». Апублікаваў артыкулы пра творчасць М.Машары, Я.Драздовіча. Кіраваў міжарганізацыйным сакратарыятам па справах бел. школ. У пачатку 1939

арыштаваны польскімі ўладамі і зняволены ў лагеры Бяроза Картузская, адкуль вызвалены савецкімі войскамі. З лют. 1941 да ліст. 1944 быў супрацоўнікам, загадчыкам Беларускага музея ў Вільні; ратаваў матэрыялы музея падчас акупацыі. Арыштаваны органамі НКДБ у ліст. 1944. Рашэннем Асобай нарады пры НКДБ прыгавораны да 10 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў ва Унжлагу Горкаўскай вобл. і Пясчанлагу Карагандзінскай вобл. Вызвалены з лагера 28.8.1954. Да 10.4.1956 знаходзіўся ў ссылцы ў Карагандзе і Сарані Карагандзінскай вобл. Пасля ссылкі вярнуўся ў Вільню. З 1957 працаваў пажарнікам у Віленскім дзяржаўным мастацкім музеі. Рэабілітаваны 25.4.1958. Разам з жонкай, літоўскай паэтэсай Онай Міцютэ, займаўся перакладамі твораў літоўскіх і бел. пісьменнікаў. Адшукаў у архіве рукапіс рамана-хронікі М.Гарэцкага «Віленскія камунары». Рукапісны фонд Ш. знаходзіцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я.Коласа НАНБ.

Тв.: Мастак Пётр Сергіевіч // *Беларусь*. 1957, № 9; Гурыновіч Адам: (Паводле старых і новых архіўных матэрыялаў) // *Полымя*. 1966, № 11.

Літ.: *Вабішчэвіч А.* Захавальнік спадчыны: Янка Шутовіч // *Куфэрак Віленшчыны*. 2001, № 1; *Чэмер А.* [Анішчык А.]. Партрэты. Вільнюс, 2001.

**ШУШКЕВІЧ Станіслаў Пятровіч** [псеўданімы: Янка Бор; Саўка Койданаўскі; Вільгельм Эрнест; крыптанімы: С.Ш.; Стах Ш.; С.Ш. и В.М. (з В.Мараковым); С.Ш-ч; Шуш; В.Э.; Э—ст; В.Эрн; 6(19).2.1908, в. Бакінава Мінскага пав., цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл. — 1.2.1991, Мінск], паэт, празаік. Першы верш апублікаваў у студз. 1924 у газ. «Чырвоная змена». У 1924—26 вучыўся ў 11-й сямігадовай школе Мінска. У 1926 паступіў у МБПТ; стаў членам літаб'яднання «Маладняк». У 1928—30 працаваў у Кніжнай палаце і Дзяржаўнай бібліятэцы БССР; у 1930—31 загадваў бібліятэкай Навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі; у 1934—35 працаваў у рэдакцыі газ. «Літаратура і мастацтва», у 1935—36 — газ. «Звязда». Адначасова вучыўся на літаратурным ф-це МВПІ, які скончыў у 1934. Член СП Беларусі з 1934. У 1934 апублікаваў першую кніжку вершаў. Арыштаваны 15.11.1936; прыгавораны да 8 гадоў пазбаўлення волі. У 1937—46 знаходзіўся ў лагеры і ссылцы ў Кемераўскай вобл. У 1946 вярнуўся на Радзіму; працаваў настаўнікам СШ у Данілавічах Дзяржынскага р-на Мінскай вобл. Паўторна арыштаваны 22.8.1949. Высланы на спецпасяленне ў Краснаярскі край. Вярнуўся ў Мінск у 1956. У 1956—58 працаваў у газ. «Мінская праўда», у 1958—70 быў загадчыкам аддзела пісем газ. «Літаратура і мастацтва». З 1970 на пенсіі. Канчаткова рэабілітаваны па абедзвюх справах

26.9.1975. Пісаў таксама для дзяцей. Многія яго вершы пакладзены на музыку. Аўтар шматлікіх успамінаў пра бел. пісьменнікаў («Вяртанне ў маладосць: Успаміны і нататкі». Мн., 1968). Пахаваны ў в. Шчытомірычы Мінскага р-на.

Тв.: Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978; Дарога ў залатую восень: Вершы. Мн., 1983; Выбранае: Вершы. Мн., 1988.

Літ.: *Гніламёдаў У.* Будні і святы дзіцячай паэзіі // *Полымя.* 1974, № 7; *Барадулін Р.* І светлай раніцы падаў руку // *ЛіМ.* 1985, 18 лют.; *БП*, т. 6.

**ШЧАКАЦІХІН Мікола** [Мікалай Мікалаевіч; 1(13).10.1896, Масква — 1.4.1940, Белебей Башкірскай АССР], мастацтвазнавец, гісторык і тэарэтык мастацтва, педагог. У 1914—18 вучыўся ў Маскоўскім ун-це. З 1922 у Мінску. У 1922—24 працаваў у БДУ, дацэнт; у 1925—28 — у Інбелкульце (стварыў пры Інбелкульце Камісію па гісторыі мастацтва), у 1929—30 — у БелАН. Адзін з заснавальнікаў бел. мастацтвазнаўства; вывучаў старажытныя фрэскі, абразы, манументальнае дойлідства XI—XVIII ст., гравюры Ф.Скарыны, творчасць мастакоў В.Вашчанкі, М.Філіповіча, В.Волкава, А.Грубэ, І.Ахрэмчыка, У.Кудрэвіча. Упершыню ў бел. мастацтвазнаўстве выпрацаваў навуковую канцэпцыю гісторыі бел. мастацтва, зрабіў яго перыядызацыю. У 1928 выдаў т. 1 сваёй галоўнай

працы «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва». Прадоўжыць гэтае выданне не здолеў, бо 18.7.1930 быў арыштаваны ДПУ БССР па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Па пастанове Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 высланы ў Белебей Башкірскай АССР тэрмінам на 5 гадоў. Працаваў статыстыкам, планавіком у кааперацыі, выкладаў у сярэдніх навучальных установах. Нейкі час жыў у в. Колтаўцы (30 км ад Белебея). Працягваў займацца навуковай дзейнасцю, аб выніках якой пісаў у лістах да акадэміка У.Пічэты. Але на навуковыя пасады яму не дазволілі вярнуцца. Рэгулярна перад рэвалюцыйнымі святамі Ш. ў «прафілактычных» мэтах арыштоўвалі. У турмах захварэў на туберкулёз, ад якога і памёр. Рэабілітаваны 30.1.1956.

Тв.: Феликс Валлотон. М., 1918; Фрэскі Полацкага Барысаглебскага манастыра // *Наш край*. 1925, № 1; Васіль Вашчанка — магілёўскі гравёр канца XVI — пачатку XVIII стагоддзя. Мн., 1925; Матар’ялы да гісторыі беларускага малярства XVIII ст. // *Віцебшчына*. Т. 1. 1925; Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1928; факсімільнае выд.: Мн., 1993; Новы Менск // *Чырвоная Беларусь*. 1930, № 1.

Літ.: *Ліс А.* Мікола Шчакаціхін. Мн., 1968; *Возвращенные имена.*

**ШЧАРБАКОЎ Васіль Карпавіч** [27.2.1898, в. Дуброўка Аршанскага пав. Магілёўскай губ.,

цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — 29.6.1938, Мінск, НКВД], гісторык. У 1918 скончыў Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю. У 1918 уступіў у РКП(б). Удзельнічаў у падпольнай барацьбе супраць нямецкіх акупантаў (1918). Потым ваяваў на Усх. і Паўдн. франтах. Прадоўжыў вучобу ў Харкаўскай вышэйшай партыйнай школе, якую скончыў у 1923. Пасля на партыйнай, педагагічнай, навуковай рабоце. З 1930 загадчык секцыі навукі і асветы ЦК КП(б)Б. Акадэмік БелАН (1931), доктар гістарычных навук. У 1931—35 віцэ-прэзідэнт, у 1935—37 — неадменны сакратар БелАН. З 1931 да 1936 нам. дырэктара, у 1936—37 дырэктар Інстытута гісторыі БелАН. Адначасова ў 1931—36 прафесар Вышэйшай камуністычнай сельскагаспадарчай школы Беларусі, МВПІ і БДУ. Галоўная праца Ш. — «Нарыс гісторыі Беларусі» (паспеў выдаць толькі частку 1). Гэтая праца выклікала дыскусію і крытычныя заўвагі У.Пічэты. Падчас кампаніі чысткі ў жн. 1936 выключаны з шэрагаў КП(б)Б. Арыштаваны 21.6.1937. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР у чэрв. 1938 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 25.7.1957.

Тв.: Нарыс гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мн., 1934.

Літ.: *Копысский З.Ю., Чепко В.В.* Историография БССР. Эпоха феодализма. Мн., 1986; *Возвращенные имена.*

**ШЫДЛОЎСКІ Усевалад Аляксандравіч** [1910, мяст. Смілавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. — чэрв. 1992], журналіст, дзіцячы пісьменнік. Арыштаваны ў 1936 (?). Адбыў 10 гадоў на Калыме.

Літ.: *Маракоў Л.* Вынішчэнне, або Пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў // *ЛіМ*. 1999, 10 снеж.

**ШЫРМА Рыгор Раманавіч** [псеўданімы: Р. Баравы; Вучыцель; крыптанімы: В.М.; В.-ч; Г.Ш.; Р.Ш.; 8(20).1.1892, в. Шакуны Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 23.3.1978, Мінск], харавы дырыжор, фалькларыст, грамадскі і музычны дзеяч, публіцыст, літаратуразнавец. У 1911—12 быў слухачом двухгадовых настаўніцкіх курсаў у Свянцянах. Паступіў у Седлецкі настаўніцкі інстытут (скончыў у 1918). У канцы 1-й сусветнай вайны мабілізаваны ў армію. У 1924 арганізаваў хор у Пружанах. З 1926 выкладчык Віленскай беларускай гімназіі. Стваральнік харавых калектываў, у тым ліку хору Беларускага саюза студэнтаў у Вільні. У 1926—37 быў сакратаром Галоўнай управы Таварыства беларускай школы. Арыштоўваўся польскімі ўладамі ў 1930 і 1933. Быў звольнены з пасады настаўніка гімназіі. З літаратуразнаўчымі артыку-

ламі і рэцэнзіямі пачаў выступаць у друку з 1933. У 1933 разам з Ф.Стацкевічам пачаў выдаваць час. «Летапіс ТБШ» (пазней «Беларускі летапіс»). Наладжваў бел. музычныя перадачы на польскім радыё, супрацоўнічаў са спеваком М.Забэйдам-Суміцкім. У сярэдзіне 1930-х г. адзін з першых дзеячаў культуры падтрымаў праграму Народнага фронту, актыўна супрацоўнічаў як публіцыст у народнафронтаўскай газ. «Наша воля». Выдаў для школьных і самадзейных хораў зборнікі «Беларускія народныя песні» (1929) і «Наша песня» (1938). У 1940 арганізаваў і ўзначаліў (да 1970) Дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу БССР (з 1978 яго імя). Арыштаваны ў 1941, сядзеў на Лубянцы. Вызвалены па хадайніцтве Я.Коласа перад П.Панамарэнкам. Сабраў больш за 2 тыс. бел. народных песень. У 1966—78 старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР і сакратар праўлення Саюза кампазітараў СССР. Народны артыст СССР (1955), Герой Сацыялістычнай Працы (1977), заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1946). Пахаваны ў Мінску на Усх. могілках.

Тв.: Песня — душа народа: Публіцыстыка; Фальклор; Музыка; Літаратура: 1929—1939; 1944—1974 гг. Мн., 1976; Песня — душа народа: З літаратурнай спадчыны. Мн., 1993.

Літ.: *Нисневич И.Г.* Г.Р.Ширма: Очерк жизни и творчества. 2 изд. Л., 1971; *Песня на ўсё жыццё: Успаміны пра Р.Р.Шырму*. Мн., 1983; *Рыгор Шырма*: (Фотаальбом) / Аўтар-склад. В.Ліцвінка. Мн., 1990; *БП*, т. 6.

**ШЭМЕШ Адам** [1808, Слуцкі пав. Мінскай губ. — 1864, Вільня], жывапісец-партрэтыст, мастацтвазнавец, мемуарыст. Мастацкую адукацыю атрымаў у Віленскай мастацкай школе пры Віленскім ун-це ў Я.Рустэма (1826—31). Пасля сканчэння ун-та жыў у Мінску, дзе актыўна займаўся творчай працай і грамадскай дзейнасцю. У гэтыя гады напісаў партрэты У.Сыракомлі і С.Манюшкі, стварыў гістарычныя, рэлігійныя і бытавыя кампазіцыі. Зрабіў ілюстрацыі да паэмы А.Міцкевіча «Конрад Валенрод». З ім кансультаваўся У.Сыракомля, калі складаў апісанне помнікаў выяўленчага мастацтва Мінска. За вальнадумства ў 1842 высланы ў цэнтральныя губерні Расіі. У ссылцы не спыняў публіцыстычную і мастацкую дзейнасць, дасылаў свае артыкулы ў газеты і часопісы. Вярнуўся ў Мінск у 1846. Тут намаляваў адзін з лепшых сваіх партрэтаў — Е.Фялінскай. З 1852 жыў у Вільні. Аўтар «Успамінаў пра Віленскую мастацкую школу», «Успамінаў пра Дамеля» і інш., апублікаваных у 1840-я г. ў віленскім час. «Athenaeum». Пакінуў гістарычна дакладнае апісанне мастацкага жыцця Беларусі і Літвы 1-й паловы XIX ст.

Тв.: Wspomnienia o Damelu // *Athenaeum*. T. II. 1842; Wspomnienia o Wileńskiej szkole malarskiej // *Athenaeum*. T. VI. 1844.

Літ.: *Дробов Л.Н.* Живопись Белоруссии XIX — начала XX в. Мн., 1974; *Гісторыя беларускага мастацтва*. Т. 3. Мн., 1989; *АЗБ*.

**ЭПІМАХ-ШЫПІЛА Браніслаў Ігнатавіч** [крыптанім: Б.Э.-Ш.; 4(16).9.1859, фальварак Судзіловічы Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер в. Будзькаўшчына Полацкага р-на Віцебскай вобл. — 6.6.1934, Ленінград], мовазнавец, літаратуразнавец, фалькларыст, выдавец. У 1871—80 вучыўся ў Аляксандраўскай гімназіі ў Рызе. У 1880—86 на гісторыка-філалагічным ф-це Пецярбургскага ун-та; кандыдат філалогіі. Зарабляў прыватнымі ўрокамі, працаваў памочнікам рэдактара «Журнала Министерства путей сообщения». З 1891 памочнік бібліятэкара, потым бібліятэкар у бібліятэцы Пецярбургскага ун-та. Быў сапраўдным членам Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. На пачатку XX ст. стаў на чале бел. культурнага руху ў Пецярбургу. Яго дом быў асяродкам і месцам збору нацыянальна арыентаванай бел. моладзі. У 1906 стварыў бел. выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца». У 1913 пачаў друкавацца ў бел. выданнях. У 1916 удзельнічаў у падрыхтоўцы «Меморыі прадстаўнікоў Беларусі на III канферэнцыі народаў» (Лазана). Склаў першую хрэстаматыю бел. літаратуры. У 1924 абраны правадзейным членам Інбелкульта. Пераехаў у Мінск у 1925. Працаваў рэдактарам, з 1927 старшынёй камісіі Інбелкульта па складанні слоўніка жывой бел. мовы. У 1929 перадаў у БелАН асабістую бібліятэку з 5 тыс. тамоў. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе

«Саюза вызвалення Беларусі»; на яго кватэры праведзены вобыск. Знаходзіўся ў зняволенні да 12.9.1930. Вымушаны пакінуць Мінск; выехаў у Ленінград, дзе і памёр.

Тв.: Дзесяць боскіх прыказанняў: [Верш] // *Беларус*. 1913, 8 жн.; Беларуская мова ў гімназіі // *Вольная Беларусь*. 1917, 30 кастр.

Літ.: *Станкевіч А*. Прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла: З яго жыцця і працы. Вільня, 1935; *Семашкевіч Р*. Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Мн., 1968; *Яго ж*. Янка Купала і Эпімах-Шыпіла // *Выпрабаванне любоўю*. Мн., 1982; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 6; *АЗБ;* Браніслаў Эпімах-Шыпіла: чытанні [у Ветрына], прысвечаныя 140-годдзю з дня нараджэння... [Тэксты дакладаў] // *На шляхах да ўзаемаразумення*. Мн., 2000. С. 253—255.

**ЮДЭЛЬСОН Арон Ісакавіч** [17.7.1907, Рыга — 29.10.1937, Мінск, НКВД], паэт, нарысіст. Паходзіў з настаўніцкай сям'і. Пачаў публікавацца ў 1923 у нелегальным друку Латвіі. Да 1928 жыў у Латгаліі, потым пераехаў у Беларусь. З 1929 выступаў у яўрэйскім друку Беларусі. У 1930 паступіў у МВПІ; пакінуў вучобу на 4 курсе. У 1931 выйшла ў свет першая кніга Ю. («Камбінат: Паэма» М.; Харкаў; Мн., 1931 / Ідыш). У 1934 у Мінску выдаў 3 кнігі вершаў і прозы на ідыш [«Межы: Проза і вершы»; «У нашай сталіцы: (Нарысы)»; «Чырвонасцяжны калгас «Колас» / Суаўт. Х.Шынклер]. Найбольшы лірызм і мастакоўскую чуйнасць паэт выявіў у ранні, латгальскі, перыяд сваёй творчасці, калі натуральныя пачуцці яшчэ не былі дэфармаваны класавай ідэалогіяй. Працаваў у рэдакцыі яўрэйскай газ. «Октобэр», на радыё. Да 1935 часта публікаваўся ў час. «Штэрн». Член СП Беларусі з 1934. У 1935 быў сакратаром яўрэйскай секцыі СП. Арыштаваны 11.9.1937. Прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Бел. пер.: Прывітанне: Вершы. Мн., 1961.

Літ.: *Базарэвіч М*. Прывітанне светламу дню // *ЛіМ*. 1961, 29 жн.; *Хведаровіч М*. Ён быў у нашым страі // *ЛіМ*. 1967, 18 ліп.; *БП*, т. 6.

**ЮРГЕЛЕВІЧ Пётр Якаўлевіч** [14.12.1894, мяст. Трабы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер вёска Іўеўскага р-на Гродзенскай вобл. — 17.4.1973, Магілёў], мовазнавец, педагог. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў. У 1925 скончыў ф-т грамадскіх навук БДУ. У 1926—27 працаваў адказным рэдактарам газ. «Наш працаўнік» у Клімавічах; у 1927—28 стыльрэдактарам у Белдзяржвыдавецтве ў Мінску. У 1930—35 вучоны сакратар Інстытута мовазнаўства БелАН. Разам з П.Бузуком і Я.Мацюкевічам падрыхтаваў «Анкету для збірання матэрыялаў па беларускай мове» (1931); браў удзел у падрыхтоўцы «Вайсковага руска-беларускага слоўніка» (1933), падручніка «Беларуская граматыка: Марфалогія» (1936). Арыштаваны 2.11.1935. Спецыяльнай судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР асуджаны на 5 гадоў лагераў. Да 1940 знаходзіўся ў Вяцкіх лагерах НКВД. У 1944—69 загадчык кафедры бел. мовы, дацэнт Магілёўскага педагагічнага інстытута. Цалкам рэабілітаваны 8.12.1960. Найбольш плённа працаваў у 1950—70-я г. Даследаваў пытанні сучаснай бел. літаратурнай мовы, бел. народныя гаворкі (Особенности говоров Могилевской области // *Уч. зап. Могилевского гос. пед. ин-та.* 1955. Вып.1). Выступаў у друку з рэцэнзіямі на школьныя падручнікі па бел. мове. Напісаў «Праграму па гістарычнай граматыцы беларускай мовы: Для філалагічных

і гісторыка-філалагічных факультэтаў» (1964). Шмат зрабіў у галіне стварэння вучэбных дапаможнікаў па бел. мове.

Тв.: Нарысы сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі: Фанетыка, арфаэпія, графіка і правапіс, лексіка і фразеалогія. 2-е выд. Мн., 1961; Курс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі. Мн., 1974; Аб граматыцы беларускай мовы // *Савецкая школа*. 1949, № 3.

Кр.: *НАРБ, ІКР*.

Літ.: *Возвращенные имена*; *Беларуская мова*.

**ЮХНЕВІЧ Канстанцін Аляксандравіч** [15.12.1896, в. Пушкарышкі Новааляксандраўскага пав. Ковенскай губ., цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл. — 14.8.1971, Браслаў], бел. паліт. дзеяч, публіцыст. Скончыў гарадскую школу ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс, Латвія), вучыўся ў сельскагаспадарчай школе ў Шаўлях (цяпер Шаўляй, Літва). Ваяваў у складзе рускай арміі ў 1-ю сусветную вайну. У 1917 вярнуўся на Браслаўшчыну, займаўся бел. асветнай працай сярод насельніцтва, арганізацыяй кааперацыі. У 1920-я г. ўваходзіў у кіраўніцтва Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, які дзейнічаў у Зах. Беларусі. З 1926 у кіраўніцтве партыі «Беларускі сялянскі саюз». Супрацоўні-

чаў з газ. «Сялянская ніва», выступаў на яе старонках як публіцыст. У 1928 за бел. патрыятычную дзейнасць арыштаваны польскімі ўладамі, два месяцы правёў у Лукішскай турме ў Вільні. Вызвалены пасля таго, як быў абраны паслом у польскі сейм і атрымаў дэпутацкую недатыкальнасць. Паліт. дзейнасць не спыняў да канца 1930-х г. Публікаваўся на старонках час. «Новы шлях». Рэпрэсаваны савецкімі ўладамі. Пасля вяртання з канцлагераў жыў у Браславе. Загінуў у аўтамабільнай катастрофе.

Літ.: *Новы шлях.* (Вільня). 1937. № 2.

**ЯДВІГІН Ш.** [сапр.: Лявіцкі Антон Іванавіч; крыптанім: Я.Ш.; 4.1.1869, маёнтак Добасня Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер в. Добасна Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. — 24.2.1922, Вільня], празаік, драматург, паэт. У 1877—78 быў аддадзены бацькам на вучобу ў Люцінку да адной з дачок В.Дуніна-Марцінкевіча. У 1880-я г. скончыў Мінскую гімназію і вучыўся на медыцынскім ф-це Маскоўскага ун-та. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях у 1890 выключаны з ун-та, арыштаваны, некалькі месяцаў правёў у зняволенні ў Бутырскай турме. У турме адбылася яго першая спроба пяра — пераклаў на бел. мову папулярнае ў той час апавяданне У.Гаршына «Сігнал». Вярнуўся на Радзіму, стажыраваўся ў адной з аптэк Мінска, каб здаць экзамен на памочніка аптэкара. Працаваў у мяст. Радашковічы аптэкарам, потым у краме-кааперацыі. У гэты час напісаў драму «Злодзей», якую ў 1892 спрабаваў паставіць самадзейны радашковіцкі гурток. Але п'еса была забаронена паліцыяй. З 1904 пачаў выступаць у расійскім, польскім, а потым і ў бел. друку. Першым друкаваным мастацкім творам на бел. мове было апавяданне «Суд», змешчанае ў газ. «Наша доля» ў вер. 1906. У 1909—10 жыў у Вільні, працаваў сакратаром, загадчыкам літаратурнага аддзела «Нашай нівы». У 1910 здзейсніў сваю даўнюю мару — павандраваць пешшу па Беларусі. Прайшоўшы больш за 500 км, у некалькіх нумарах «Нашай

нівы» апублікаваў падарожныя нататкі — «Лісты з дарогі» (1910), якія сталі значным укладам у станаўленне бел. публіцыстыкі. У 1912 апублікаваў зборнік апавяданняў «Бярозка», у 1914 — «Васількі», якія прынеслі яму шырокую вядомасць. Пяру Я. належыць няскончаны раман «Золата». У 1913—15 працаваў у газ. «Беларус», тэхнічным рэдактарам час. «Саха» ў Мінску. Памёр у Вільні ў шпіталі. Пахаваны на могілках Роса.

Тв.: Выбр. тв. Мн., 1976.

Літ.: *Ільяшэвіч Х.* Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі): Жыццё і літаратурная творчасць. Вільня, 1933; *БП*, т. 6.

**ЯЖОЎСКІ Юзаф** [1798–1855], філосаф, удзельнік вызваленчага руху. Дакладных звестак пра паходжанне і месца нараджэння не выяўлена. Вучыўся ў Віленскім ун-це, вывучаў філасофію. Адзін з заснавальнікаў (1.10.1817) і на працягу 6 гадоў прэзідэнт Таварыства філаматаў. На сходзе членаў-заснавальнікаў быў зацверджаны варыянт статута, прапанаванага Я., які быў арыентаваны на стварэнне закрытага, нешматлікага таварыства (іншы праект, распрацаваны Т.Занам і А.Міцкевічам, пашыраў сферу дзейнасці таварыства і пераўтвараў яго ў арганізацыю, якая аб'ядноўвала б шырокія колы моладзі). Лісты Я. (у прыватнасці, да А.Міцкевіча) — каштоўная крыніца як для вы-

святлення філасофскай арыентацыі аўтара, так і для характарыстыкі настрою думак у Вільні ў канцы 1810 — пачатку 1820-х г. У 1823 Таварыства філаматаў было раскрыта ўладамі, Я. арыштавалі.

Літ.: *Мохнач Н.Н.* От Просвещения к революционному демократизму. Мн., 1976; *Яе ж*. Общественно-политическая и эстетическая мысль Белоруссии начала XIX в. Мн., 1985; *АЗБ*.

**ЯКУБЧЫК Сямён Міхайлавіч** [26.8.1892, в. Калантаі Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл. — 31.5.1938, Мінск, НКВД], гісторык, публіцыст. Скончыў БДУ і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры БелАН; кандыдат гістарычных навук. На пачатку 1930-х г. працаваў у Інстытуце гісторыі БелАН, потым дырэктарам Гістарычнага музея ў Мінску. Арыштаваны 15.9.1937. Прыгавораны 14.10.1937 да расстрэлу. Рэабілітаваны 28.11.1957.

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ЯКШЭВІЧ (ЯКШЭВІЧУС) Аляксандр Іванавіч** [2.1.1886, Шаўлі, цяпер Шаўляй, Літва — пасля 1967, Вільнюс], публіцыст. Адзін са стваральнікаў Камуністычнай партыі Літвы. Працаваў у чыгуначных майстэрнях Гомеля, настаўнічаў у

Мінску. Наркам шляхоў зносін у Літбеле. У 1931—32 рэдактар газ. «Raudonasis artojas» у Мінску. Пераклаў на літоўскую мову «ТВТ» Я.Маўра. На момант арышту (26.11.1936) працаваў настаўнікам у СШ № 1 Мінска. 5.10.1937 асуджаны на 10 гадоў лагераў. Пакаранне адбываў разам з паэтам С.Шушкевічам. Пасля вайны жыў у Вільнюсе. Рэабілітаваны 29.12.1954.

Літ.: *Шармайтис Л.* Ветеран революционного движения в Литве // *Советская Литва.* 1966, 14 янв.; *Маракоў Л.* Вынішчэнне, або Пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў // *ЛіМ*. 1999, 10 снеж.

**ЯЛЕНСКІ Іосіф Міхайлавіч** [у манастве Аляксей; 1756 — 23.3.1813, Суздаль], публіцыст, рэвалюцыянер. Прадаў фамільны маёнтак Малыя Прудкі ў Мазырскім пав. Служыў у Гродне ў падскарбія ВКЛ Антонія Тызенгаўза. Працаваў каморнікам на Полаччыне. Адтуль выехаў у Пецярбург, куды прыбыў 5.10.1792. Арыштаваны па даносе вясной 1794. Падчас вобыску ў яго знайшлі тры рукапісы, напісаныя па-польску. У першым, створаным у форме маніфеста караля Рэчы Паспалітай, абвяшчалася ліквідацыя прыгоннага права і саслоўных шляхецкіх прывілеяў. Маніфест дапаўняўся «Прысягай караля», быццам бы зацверджанай самім народам, дзе загадвалася «спаліць у агні

паперы», якія замацоўвалі юрыдычныя правы на зямлю паноў. Сярод канфіскаваных папераў была незакончаная «Адозва да народа — агульных сабрацціяў нашых», дзе намалявана жудасная карціна жыцця паднявольнага сялянства. Аўтар заклікаў сялян аб'яднацца з дробнай шляхтай і разам змагацца супраць магнатаў. Кацярына II пазнаёмілася з рукапісамі і знайшла ў іх «французскую заразу». Спрабуючы ўратаваць сваё жыццё, у маі 1794 Я. папрасіў перахрысціць яго ў праваслаўе і саслаць у манастыр. Атрымаў новае імя Аляксей і 26.9.1794 прыбыў на Салаўкі. У ссылцы стаў блізкі да стараабрадства. Пасля смерці Кацярыны II і ўступлення на трон Паўла I Я. 26.6.1797 перадаў салавецкаму архімандрыту Іоне сшытак на пяці старонках пад назвай «Благовесть к Исраилю Российскому», быццам бы атрыманым ад нейкага камердынера. У тэксце, напісаным у выглядзе гістарычнага нарыса развіцця Расіі, аўтар бічаваў прыгонны лад, апісваў бяспраўнае становішча сялян у імперыі. Я. распрацаваў тэкст «Царскай прысягі», у якой цар адмяняў усе дваранскія званні. Пра тэкст Я. паведамілі Паўлу I. Вызвалены з ссылкі ў сак. 1801 пры ўступленні на трон Аляксандра I. Пасля вандраванняў па прыбалтыйскіх губ. змешчаны ў Аляксандра-Неўскую лаўру ў Пецярбургу. Далучыўся да секты скапцоў. За гэта 24.8.1804 высланы ў Суздальскі Спаса-Еўфіміеў манастыр, дзе і памёр.

Літ.: *Пругавин А.* В казематах. СПб., 1909. С. 206; *Фруменков Г.* Из истории ссылки в Соловецкий монастырь в XVIII в. Архангельск, 1963. С. 72—80; *Мальдзіс, На скрыжаванні...* С. 299—303.

**ЯНУШКЕВІЧ Адольф Міхал Валяр'ян Юліян** [9.6.1803, Нясвіж — 6(18).6.1857, маёнтак Дзягільня Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Дзягільна Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.], падарожнік, пісьменнік. Пісаў на польскай мове. Вучыўся ў дамініканскай школе ў Нясвіжы. У 1823 скончыў філалагічны ф-т Віленскага ун-та. Быў членам Таварыства блакітных, блізкага да філарэтаў. У студэнцкія гады пісаў па-польску вершы ў сентыментальнай стылістыцы (дума «Мелітон і Эвеліна», 1821). У 1823—26 жыў у Камянцы, быў дэпутатам цывільнай палаты ў Галоўным судзе. Шмат падарожнічаў па Еўропе; сустракаўся з А.Міцкевічам, Ю.Славацкім, І.Гётэ. Вярнуўся на Радзіму ў 1830. Узяў удзел у паўстанні 1830—31; быў адным з кіраўнікоў паўстанцкага легіёна. Арыштаваны ў сак. 1831. У 1832 сасланы ў Сібір. У ссылцы пераклаў «Гісторыю заваявання Англіі нарманамі» А.Цьера. Падарожнічаў па Сібіры, Казахстане, Кіргізіі. Вярнуўся ў Беларусь у 1856; пасяліўся ў родавым маёнтку Дзягільня. Яго падарожныя нататкі сабраў брат Яўстафій, апублікаваў Ф.Вратноўскі пад назвай «Жыццё Адольфа Януш-

кевіча і яго лісты з кіргізскіх стэпаў» (Парыж. 1861. Кн. 1—2). Паслужыў прататыпам рэвалюцыянера Адольфа ў паэме А.Міцкевіча «Дзяды».

Тв.: Рус. пер.: Дневники и письма из путешествия по казахским степям. Алма-Ата, 1966.

Літ.: *Мальдзіс А.* Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969; *АЗБ.*

**ЯРАШЭВІЧ Ніканор** [1887 ? – 1937, НКВД], навуковец, грамадскі дзеяч. Арыштаваны ў 1921 ў Мінску. Высланы з Беларусі, жыў у Ташкенце. Паўторна арыштаваны ў 1937.

Літ.: *Гесь А.* «Выслаць за межы Беларусі…» // *Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX ст.* Мн., 1998. С. 28; *Міцкевіч Д*. Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа. Мн., 2000. С. 109.

**ЯРАШЧУК Еўдакім Лявонцевіч** [1898, в. Трышын Брэст-Літоўскага пав. Гродзенскай губ., цяпер у межах Брэста — ?], аграном. У 1921—24 вучыўся ў Ціміразеўскай сельгасакадэміі. Пасля яе сканчэння працаваў у Белсельгасбанку, затым з лют. 1927 па дзень арышту вучоным спецыялістам у Беларускім навуковадаследчым інстытуце сельскай гаспадаркі.

Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 асуджаны на 5 гадоў высылкі і этапаваны ў Астрахань. 9.12.1935 вызвалены. Рэабілітаваны 15.11.1957. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

**ЯРЭМІЧ Фабіян** [20.1.1891, в. Дулеўцы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл. — 26.6.1958, Вільня], паліт. дзеяч, рэдактар. Удзельнік 1-га Усебеларускага з'езда ў снеж. 1917 у Мінску. У 1922—28 быў дэпутатам польскага сейма. Належаў да правага крыла нацыянальна-вызваленчага руху Зах. Беларусі. Разам з В.Рагулем стварыў у Вільні партыю «Беларускі сялянскі саюз» (1925—28), быў членам БНК, рэдагаваў газ. «Сялянская ніва». За паліт. дзейнасць праследаваўся польскімі ўладамі, арыштоўваўся. У гады 2-й сусветнай вайны знаходзіўся на акупаванай немцамі тэрыторыі, працаваў у грамадзянскай адміністрацыі Мінска і Барысава. Удзельнічаў у II Усебеларускім кангрэсе (1944). У другой палове 1940-х — першай палове 1950-х г. знаходзіўся ў папраўча-працоўным лагеры.

Тв.: *Прамовы дэпутатаў беларускага пасольскага клюбу ў Польскім сойме*. Вільня, 1924.

Літ.: *Платонаў Р.* Перед крутым поворотом: Тенденции в политической и духовной жизни Беларуси (1925—1928): Отражение времени в архивных документах. Мн., 2001; Ёрш С. «Дзядзька Ярэміч»: 10 гадоў ГУЛАГу за патрыятызм// Наша слова, 1995, 19 крас.

**ЯСТРЖЭМБСКІ Ян Фердынанд** [Jastrzębski; Іван Львовіч; 1814, Рэчыцкі пав. Мінскай губ. — пасля 1883, Рэчыцкі пав. Магілёўскай губ.], эканаміст, рэвалюцыянер-петрашэвец, мемуарыст. Вучыўся ў базыльянскай школе ў Оўручы (Украіна), потым у Віленскай гімназіі. Стаў студэнтам Віленскага ун-та, быў арыштаваны (23.4.1839); у 1841 скончыў Харкаўскі ун-т. У 1843 пасяліўся ў Санкт-Пецярбургу. Выкладаў палітэканомію і статыстыку ў Інстытуце корпуса інжынераў шляхоў зносін і ў Тэхналагічным інстытуце. З восені 1848 удзельнік гуртка петрашэўцаў — групы маладых утапічных сацыялістаў, якія імкнуліся да перабудовы самаўладнай і прыгонніцкай Расіі. На сходах гуртка чытаў лекцыі па палітэканоміі. Не прымаў сістэму камунізму, якая адмаўляла ўсякую ўласнасць. Арыштаваны 2.5.1848; зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці. 3.1.1850 прыгавораны да смяротнай кары, але ў той жа дзень паводле царскай канфірмацыі на Сямёнаўскім пляцы пакаранне заменена на 6 гадоў катаргі. Сасланы ў Табольскую губ. У 1857 атрымаў дазвол вяр-

нуцца на Радзіму. Да 1872 знаходзіўся пад наглядам паліцыі. У канцы 1850-х г. як інжынер удзельнічаў у будаўніцтве шашы Масква — Варшава на тэрыторыі Магілёўскай губ. Пакінуў мемуары.

Тв.: Мемуары петрашевца // *Минувшие годы*. 1908, № 1.

Літ.: *Бусько В.Н.* Экономическая мысль Белоруссии середины XIX — начала XX в.: Очерки. Мн., 1990; *PSB*, z. 48; *АЗБ*.

**ЯТАЎТ Максіміліян** [Jatowt Maksymilian; псеўданім: Якуб Гардон / Jakub Gordon; паміж 1823 і 1827 — 27.11.1895, Львоў], падарожнік, мемуарыст. Паходзіў з дробнай бел.-літоўскай шляхты. Скончыў рэальную гімназію ў Варшаве. Член канспіратыўнага «Саюза польскага народа», за ўдзел у якім у 1845 арыштаваны. Прыгавораны да салдацкай службы ў глыбіні Расіі. У Дубне збег з-пад канвоя ў Галіцыю, адтуль у Сілезію. У вер. 1845 спаткаўся з Ц.Норвідам, які дапамог яму з пашпартам і грашыма. У 1846—47 падарожнічаў па Германіі, Альпах, Італіі. З 1847 у Парыжы, дзе працаваў у канцылярыі А.Чартарыйскага. Пасля пачатку ў лют. 1848 рэвалюцыі ў Парыжы выехаў у Кракаў. Па дарозе неабачліва пераехаў мяжу Каралеўства Польскага (у складзе Расійскай імперыі). Арыштаваны; зняволены ў Варшаўскай цытадэлі. Высланы салдатам на Урал. Служыў ва Уральску і

ў Арэнбургу, дзе ў 1855 арганізаваў кампанію скаргаў супраць губернатара. У 1855 атрымаў царскую амністыю, вызвалены з штрафнога батальёна, накіраваны ў рэгулярную армію на крымскі фронт. Па дарозе сфальсіфікаваў дакументы і збег спачатку ў Германію, потым у ЗША. Тут змяніў прозвішча на Гардон, якім паслугоўваўся да канца жыцця. Прыгоды ў Расіі і Амерыцы натхнілі яго напісаць мемуары і падарожныя нататкі. Першую кнігу «Масква» апублікаваў па-польску і па-французску ў 1861. Адначасова пачаў пісаць у часопісы ЗША і Еўропы. Вярнуўся ў Еўропу ў 1861; падарожнічаў па Зах. і Паўдн. Еўропе, збіраў матэрыял для наступных твораў, завязваў кантакты з выдаўцамі ў Германіі, Швейцарыі і ў той частцы Польшчы, якая апынулася пад уладай Прусіі. Пасяліўся ў Аўстра-Венгрыі. У Саноку у 1868—69 рэдагаваў двухтыднёвік «Reforma», у 1871 у Кракаве тыднёвік «Zagroda. Tygodnik dla ludu». Адначасова публікаваўся ў час. «Sobótka», «Przegląd Polski», «Dziennik Litewski», «Strzechę». Выдаў яшчэ 4 кнігі ўспамінаў і падарожных нататак; пісаў таксама раманы. Нядобразычлівая крытыка адштурхоўвала ад літаратурнай творчасці, якую спыніў у 1875. Жыў у Львове. З 1872 працаваў архівістам аддзела рахункаў Галіцыйскай краёвай адміністрацыі. Але яго ўспаміны, асабліва з часоў побыту ў Расіі, былі папулярнымі і выходзілі ў нямецкіх, французскіх і чэшскіх перакладах, у польскіх перавыданнях.

Тв.: Moskwa. Pamiętniki polaka z Korony, obywatela Stanów Zjednoczonych. Lipsk, 1861 (франц. выд. Mes prisons en Russe. Paris, 1861); Przechadzki po Ameryce. Berlin — Paryż, 1866; Podróż do Nowego Orleana. Lipsk, 1867; Obrazki galicyjskie. Lwów, 1869; Gdy się było młodym. Lipsk, 1871; Grzechy Krystyny, królowej hiszpańskiej. Lwów, 1870; Szkice i ramotki. Lwów, 1870; Turysta z musu. Lwów, 1873.

Літ.: *Janik M.* Dzieje polaków na Syberii. Kraków, 1928; *PSB*, z. 43.

**Маракоў Леанід Уладзіміравіч**

**Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794—1991.**

***Энцыклапедычны даведнік***
***Том 2***
***Лавіцкі—Ятаўт***

Том I:

Прадмова, біяграфіі і пералік асноўных твораў (калі адшуканы) рэпрэсаваных літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, а таксама літаратура ці іншыя крыніцы інфармацыі пра лёс пакутнікаў (персаналіі на літары А – К).

Том II:

Біяграфіі і пералік асноўных твораў рэпрэсаваных літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, а таксама літаратура ці іншыя крыніцы інфармацыі пра лёс пакутнікаў (персаналіі на літары Л – Я).

Том III:

Біяграфіі рэпрэсаваных беларускіх літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, звесткі і факты пра якіх на час выхаду першых двух тамоў не былі ўдакладнены і сістэматызаваны, або наогул адшуканы ў самы апошні момант, а таксама папраўкі і ўдакладненні да персаналіяў I і II тамоў.

*Карэктары:*
*Алег Гардзіенка (беларуская і руская мовы),*
*Уладзімір Свяжынскі (літоўская мова),*
*Васіль Сёмуха (польская мова),*
*Аксана Спрынчан (беларуская і руская мовы)*

*Камп’ютэрная вёрстка: Вінцэсь Ліпскі*

Фармат 62х94 1/8.
Папера афсетная. Гарнітура Century Schoolbook.
Ум. друк. арк. 16. Ул.-выд. арк. 20.

